Dy jak nie skladać pra was zdrawicy-pieśni,
bary sancakosyja, chwojnyja huszczy,
Moj kraju lubimy... Maloje Paleśsie,
maja niepaŭtornaja Krupszczyna.



# малое палесьсе *PatriaSuperOmnia*

КРАЯЗНАЎЧЫ АЛЬМАНАХ ДРУЦКА-БЯРЭЗІНСКАГА КРАЮ/2010

*Старажытнасці ў басейне ракі Бобр/ Далей Бабра – няма дабра/ Уніяцкія цэрквы Крупшчыны ў 1682 г./ Царква ў Грыцкавічах: учора й сёння/ Успаміны местачковага хлапчука/ Аэрадром у Дакудава/ Сабрана на Крупшчыне/ Алесь Пушкін – аўтапартрэт праз творчасць*



**«Сьвяты Вацлаў».** *Пра творчасьць Алеся Пушкіна чытайце на старонцы 200.*

Гісторыка-краязнаўчы альманах **МАЛОЕ ПАЛЕСЬСЕ** Друцка-Бярэзінскага Краю

**Прадмова**

ЗНОЎ ВІТАЕМ ЦЯБЕ, ДАРАГІ ЧЫТАЧ! На сяньня мы маем тры штагадовікі краязнаўчага альмаху "Малое Палесьсе" (2003, 2004 і 2009гг). Мы – гэта Харугва Скаўтаў Малога Палесься, што на Крупшчыне. Як і раней, сфэра нашага зацікаўленьня – рэгіён Малога Палесься, у які акрамя Крупскага раёну ўваходзяць землі, што ляжаць паміж рэкамі Бярэзіна і Друць – Барысаўскі, Лепельскі, Чашніцкі, Талачынскі, Круглянскі, Бялыныцкі і Бярэзінскі раёны (іншымі словамі – Друцка-Бярэзінскі Край). Адпаведна, матэрыялы, змешчаныя ў нумары адлюстроўваюць розныя старонкі гісторыі й культуры нашага рэгіёну.

Гэты год прынёс нам новыя знаёмствы, дзякуючы якім мы маем магчымасьць выпусьціць у свет наступны, чацьверты нумар нашага выданьня.

Лічым прынцыповым заўважыць, што альманах "Малое Палесьсе" ўважае родную мову ва ўсіх формах яе бытаваньня нацыянальнай каштоўнасьцю і помнікам культуры нашага народа. Гісторыка-культурная скіраванасьць выданьня абавязвае нас зьберагаць правапісныя, графічныя і лексіка-граматычныя асаблівасьці мовы публікаваных матэрыялаў.

Выказваем шчыры дзякуй ўсім добрым людзям, што спрычыніліся да выданьня гэтага нумара.

Рэдакцыя




**Крупкі 2010**

# МАЛОЕ ПАЛЕСЬСЕ/2010 Patria Super Omnia Patria S

**Гісторыка-краязнаўчы альманах Друцка-Бярэзінскага Краю**

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР / Андрэй Аляхновіч
РЭДКАЛЕГІЯ / Міхал Баравуля, Яніна Дэмух, Васіль Лапацін.
МАСТАЦКАЕ АФАРМЛЕНЬНЕ, МАКЕТ, ВЁРСТКА / Марцін Койдан

Пры передруку спасылка на альманах "Малое Палесьсе" абавязковая.
Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасьць прыведзенай інфармацыі.



**Адрас рэдакцыі: skaut63@gmail.com**







## ЗЬМЕСТ

# Старажытнасці зямлі ў басейне ракі Бобр

**АРХЕАЛЁГІЯ** / РАССАДЗІН С.Я., БАРАВУЛЯ М.А.

*Можна сцвярджаць, што ў басейне ракі Бобр (прыток Бярэзіны), таксама, як і ў басейне ракі Друць, прадстаўлены ўсе археалагічныя эпохі. Не з'яўляецца выключэннем і каменны век. У прыватнасці знаходкі з Крупшчыны адзначаны ў фундаментальнай працы аднаго з пачаальнікаў вывучэння каменнага веку графа А.С.Уварава. Апрача маскоўскіх даследчыкаў старажытнасці наваколля Крупак і Бабра прыцягвалі ўвагу і мясцовых энтузіястаў вывучэння гісторыі бацькаўшчыны. Вядома, напрыклад, што ў 1836г. каля в.Стары Бобр адзін з курганоў раскапаў К.П.Тышкевіч. Захаваліся звесткі аб наяўнасці ў гэтым кургане некалькіх пахаванняў, падобных да славутых раннесярэднявечных курганоў з наваколля Чарнігава. У былым Сенненскім павеце, паўднёвай часткай якога з'яўляліся сённяшнія Крупшчына і Талачыншчына, пачынаў даследаванні беларускі навуковец-эцыклапедыст Е.Р.Раманаў. У 1886г. ён, тады штатны наглядчык Сенненскага павятовага вучылішча, паведамляў Маскоўскаму археалагічнаму таварыству, што ім складзены першы варыянт археалагічнай карты гэтага павета. Пазней даследчык ажыццявіў і раскопкі курганоў у шэрагу пунктаў былога Сенненскага павета – каля Лукомля, Талачына, Чарэі. У савецкі час доследы Е.Р.Раманава атрымалі працяг у працах А.Дз.Кавалені. У 1930-ыя гады ён абследаваў помнікі Друцка, а таксама помнікі ў яго наваколлі, у прыватнасці курганныя могільнікі на беразе возера Сялява.*



Г.В.Штыхаў у 1968г. адкрыў буйны курганны могільнік з 37 насыпаў ля пасёлка Лянок у Нацкім сельсавеце (Крупскі раён). Разведкі шурфоўкай асобных помнікаў праводзілі таксама Л.Д.Побаль, Е.Г.Калечыц, Э.М.Зайкоўскі, В.Л.Насевіч. У наваколлі Крупшчыны і Талачыншчыны раскопвалася шмат помнікаў і былі выяўлены матэрыялы, што добра ілюструюць развіццё культуры ў цэнтральнай частцы Беларусі з V па XIIIст.н.э.

Гарадзішчы Крупшчыны не даследаваліся, таму дакладна ўявіць іх канструкцыю цяжка. Але ўжо знешні выгляд абарончых збудаванняў сведчыць аб тым, што яны былі добра ўмацаваныя. На некаторых гарадзішчах (Вялікае Горад-

на, Клішана) даследчыкамі адзначалася наяўнасць фрагментаў гладкай і штрыхаванай керамікі. Доследы А.Р. Мітрафанава на гарадзішчы Навасёлкі Барысаўскага раёна выявілі, што самыя раннія пласты тут утрымлівалі кавалкі посуду без штрыхоўкі. Яна з'явілася пазьней; яшчэ пазней, недзе каля I ст. да н.э., распаўсюджваецца посуд, формы якога і з'яўляюцца тыповымі для культуры штрыхаванай керамікі.

Каля сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н.э. адбыліся змены, якія дазваляюць даследчыкам гаварыць аб трансфармацыі культуры штрыхаванай керамікі ў новую, банцараўскую культуру. Банцараўскія матэрыялы выяўлены на гарадзішчах у Крупскім раёне (вёскі Вялікае Горадна, Клішана, Кіявец). Ці былі адзначаныя змены вынікам унутранага развіцця, ці іх выклікалі ўплывы звонку, пакуль што канчаткова не вырашана. Але адрозненні ад папярэдняй эпохі відавочныя. Не толькі знікла штрыхоўка на посудзе, але і апрача "доўгіх" дамоў з'явіўся другі тып жытлаў.

Выклікае цікавасць назва мясцовасці каля в.Маляўка (на мяжы сучасных Талачынскага і Крупскага раёнаў), дзе знойдзены 4 курганныя насыпы. Тая мясцовасць называецца "капішча" г.зн. месца правядзення язычніцкіх абрадаў у славян, язычніцкі храм. Такім чынам на Крупшчыне "мова зямлі" тапанімія захавала звесткі аб сапраўдным узросце курганоў – X-XIII стст. У межах Крупскага раёна курганы не даследаваліся, калі не лічыць згаданага выпадку раскопак К.П.Тышкевічам. Дакументацыя ад тых раскопак не захавалася. Абрад трупаспалення ў кургане каля в.Стары Бобр сведчыць, што ён належаў яшчэ да ранняга курганнага перыяду. Пасля хрышчэння Русі пры Ўладзіміру Святаславічу трупаспаленне паступова змяняецца трупапалажэннем, потым распаўсюджваюцца падкурганныя ямы і ўрэшце знікае сам звычай насыпаць курганы. Пад 1092г. Лаўрэнцьеўскі летапіс гаворыць пра дзівосны выпадак збівання палачан прывідамі, там падкрэсліваецца: "Се же знаменье поча быті от Дрютьска". Палачане-крывічы, атрымоўваецца, рассяляліся ажно за Друцк.

Да нашага часу на тэрыторыі Крупскага, Барысаўскага і на поўначы Бярэзінскага раёнаў захаваліся старажытныя могільнікі, якія з'яўляюцца памяццю аб Друцкім княстве і яго славутых князях і людзях.

Асноўная частка навукоўцаў сцвярджае, што каменныя магілы – яцвяжскія пахаванні, а краязнаўцы лічаць, што ў гэтых магілах пахаваны продкі мясцовых жыхароў ("Каб ваўкі ды лісы не выцягвалі памерлых, старыя людзі абкладвалі магілы камнем").

На нашу думку, рацыю маюць і тыя, і другія. Справа ўся ў тым, што наяўнасць каменных магіл на тэрыторыі былога Друцкага княства (Барысаўскае староства) з'яўляецца яскравым пацверджаннем паведамлення вядомага расійскага гісторыка В.М.Тацішчава аб паходзе ў 1102г. аднаго з першых друцкіх князёў (у той час ён толькі "сеў" на Полацкі стол) Барыса Усяславіча на яцвягаў і засяленні захопленнымі палоннымі горада Барысаў і залежных ад яго зямель. З цягам часу гэтае балцкае насельніцтва было асімілявана і поўнасцю страціла свае нацыянальныя асаблівасці, але памяць аб ім засталася дзякуючы археалагічным помнікам, якія яны пакінулі пасля сябе, – каменным магілам.

Дарэчы, на поўначы Крупшчыны ў раёне возера Сялява жылі прадстаўнікі яшчэ аднаго балцкага племені – селаў, якія і далі назву аднайменнаму возеру (селы – Сялява). На такую думку наводзіць характар "аздаблення" курганных могільнікаў каля в.Дакучына: паўс-



**Каменная магіла ва ўрочышчы "Руддзё" ля в.Старая Слабада**



**Яцвяг. Рэканструкцыя па матэрыялах XII ст .**

ферычныя курганы, якія сваёй формай вельмі нагадваюць дрыгавіцкія, па перыметры падножжа акуратна абкладзены поясам з камянёў. Археалагічныя раскопкі гэтага курганнага могільніка сведчаць, што тагачаснае насельніцтва ўжо паступова пераходзіла ў хрысціянства, бо ў курганах і іх наваколлі сутракаюцца шматлікія каменныя крыжы. Гэта можа толькі пацвердзіць вышэйвыказаную гіпотэзу.

Наогул, тапонімы і мікратапонімы сведчаць, што на тэрыторыі Друцкога княства побач са славянамі, літвой (вёскі Літоўск, Літвінка), селамі і яцвягамі жылі і угра-фіны (курганны могільнік Чудніца на р.Можа), і прусы (в.Прусаўшчына Ухвальскага с/савета), латгалы (в.Латыголь) і, магчыма, голядзь (в.Галяшычы) і нават велеты (в.Вяляцічы). Насельніцтва, як бы мы цяпер сказалі, было шматнацыянальным, бо яно пастаянна папаўнялася як за кошт міграцыі, так і за кошт захопленных у іншых землях палонных. Пра гэта сведчаць і раскопкі гарадзішча старажытнага Барысава, дзе былі знойдзены 2 бронзавыя фібулы ў выглядзе падковы ўсходне-балтыйскіх тыпаў і фіна-угорскае ўпрыгожанне з серабра – пустая зоамарфічная прывеска, залатая завушніца з трыма пацеркамі кіеўскага тыпу.

Славянізацыя гэтых шматлікіх плямён адбылася ў часы Друцкога княства пад уздзеяннем больш высокай культуры і хрысціянскай рэлігіі славян, якія паступова сталі пануючым этнасам на тэрыторыі ў міжрэччы Дняпра і Бярэзіны, у тым ліку ў басейне р.Бобр.

*Перадрук з кнігі "Друцк і Барысаў. Да юбілеяў старажытных гарадоў." Мн., "Беларусь" 2002.*

**_Пачынаючы з гэтага нумара мы будзем імкнуцца штагод даваць такую "фотасправаздачу" аб нашым удзеле ў археалягічных раскопках гарадзішча на Высьпе. У гэтым годзе мы ўжо адзінаццаты раз займаліся гэтай цікавай справай – шукалі сляды нашых продкаў._**

Упербшыню раскопкі былі арганізаваныя ў 1999-м – кіраўнік – загадчык кафэдры жалезнага веку Інстытута Гісторыі Акадэміі Навук Рэспублікі Беларусь, Шадыра Вадзім Язэпавіч. За гэтыя гады праз наш летнік і раскопкі прайшло больш за 2000 школьнікаў, студэнтаў і іх бацькоў, пакінуўшы ў сваім сэрцы яркія, незабыўныя ўспаміны і . . . сум па Сяляве. Дзякуючы іх актыўнаму ўдзелу гістарычная навука нашай краіны ўзбагацілася новымі каштоўнымі высновамі, а Крупскі раённы музэй – зьмястоўнай экспазіцыяй па археалёгіі Крупшчыны.

Мы зноў разьехаліся ў свае "русіфікаваныя месцы" – гарады й мястэчкі Беларусі, з вялікай надзеяй, што "Сялява-Лясь" ніколі не прыдзе, а мы абавязкова сустрэнемся на "Высьпе-2011"!

P.S. Усе назвы пададзены нашай ліцьвінскай лацінкай ў знак павагі да продкаў й аднаўленьня сапраўднай гісторыі нашай краіны.






| Кірыліца | Лацінка "Багушэвіча" | Готыка |
|---|---|---|
| а | a | 𝔞 |
| б | b | 𝔟 |
| в | w | 𝔴 |
| г | h | 𝔥 |
| ґ | g | 𝔤 |
| д | d | 𝔡 |
| е | je | 𝔧𝔢 |
| ё | jo | 𝔧𝔬 |
| ж | ż | 𝔷 |
| з | z | 𝔷 |
| і | i | 𝔦 |
| й | j | 𝔧 |
| к | k | 𝔨 |
| л | ł | 𝔩 |
| м | m | 𝔪 |
| н | n | 𝔫 |
| о | o | 𝔬 |
| п | p | 𝔭 |
| р | r | 𝔯 |
| с | s | 𝔰 |
| т | t | 𝔱 |
| у | u | 𝔲 |
| ў | ú | 𝔲 |
| ф | f | 𝔣 |
| х | ch | 𝔠𝔥 |
| ц | c | 𝔠 |
| ч | cz | 𝔠𝔷 |
| ш | sz | 𝔰𝔷 |
| э | e | 𝔢 |
| ю | ju | 𝔧𝔲 |
| я | ja | 𝔧𝔞 |
| сь | ś | 𝔰 |
| ль | l | 𝔩 |
| нь | ń | 𝔫 |
| зь | ź | 𝔷 |
| дзь | dź | 𝔡𝔷 |
| дж | dż | 𝔡𝔷 |

*Аўтары фотаздымкаў: Андрэй Аляхновіч, Вольга Шатунова, Сяргей Скокаў, Вера Клімава, Іван Машукоў, Ганна Гузьнева, Васіль Явід ды інш.*

# Выпраўленьне памылкі

**АРХІВАРЫУС/**
Андрэй АЛЯХНОВІЧ

*Некалькі год таму, мы шукалі дату першага ўпаміну нашага мястэчка Крупкі ў пісьмовых крыніцах. Да гэтага асноўнай крыніцай зьяўлялася знакамітая мапа Вялікага Княства Літоўскага ў выкананьні Тамаша Макоўскага, якая ўпершыню была надрукавана ў 1603 і перавыдадзена ў 1613 годзе на сродкі магната пана Мікалая Крыштафора Радзівіла Сіроткі, князя Сьвяшчэннай Рымскай імпэрыі, на Альцы і Нясьвіжы, графа на Шыдлаўцы і Міры. Створана ж мапа была ў 1590-х гадах. На ёй мы знаходзім 6-ць населеных пунктаў з тэрыторыі сучаснага Крупскага раёна: 1. Абчуга (Красны Стан), 2.Бобр, 3.Ігрушка, 4.Крупкі, 5.Нача (Радзівілава Воля?), 6.Худава. З гэтых шасьці паселішчаў толькі Крупкі узгадваюцца на мапе ўпершыню, астатнія ўжо сустракаюцца ў пісьмовых крыніцах раней.*


А 259/56

ПОСОЛЬСТВО

Іоанна Кобенцеля

въ МОСКВУ

въ 1575—1576 гг.

ИСТОРИЧЕСКІЙ ОЧЕРКЪ

Ѳедора Вержбовскаго.

ВАРШАВА.

ТИПОГРАФІЯ ВАРШАВСКАГО УЧЕБНАГО ОКРУГА.
Краковское Предмѣстье № 5.

1896.

**На фота: вокладка кнігі Федара Вяржбоўскага**

Гартаючы кнігу В.Грыцкевіча й А.Мальдзіса “Шляхі вялі праз Беларусь” (Мн., 1980), на старонцы 36 чытаем, што: “”Звычайны” ж шлях з Вільні на Маскву пралягаў праз Каменны Лог, Ашмяны, Крэва, Лебедзева, Маладзечна, Краснае сяло, Радашковічы, Гайну, Лагойск, Юр’ева, Барысаў, Начу, ***Круп-***

***кі,*** Бобр, Слявяны, Оршу, Дуброўна, а адтуль на Смаленск. …Гэты ж шлях выкарыстоўвалі Г.Кабенцль ***(1575),*** С.Хейс (1593), Г.Тэктандэр (1602), І.Бамбах (1603).” Пачуцьцям не было межаў – адшукалі новую, больш ранейшую дату першага ўпаміну нашага мястэчка! На радасьцях, не праверыўшы гэтую інфармацыю пра пасольства Ганса Кабенцаля ў першакрыніцах і іншай літаратуры, мы пачалі распаўсюджваць новую дату. Так яна патрапіла ў некалькі друкаваных выданьняў рэгіянальнага значэньня і на афіцыйны сайт Крупскага райвыканкаму.

Такім чынам памылка пайшла гуляць у інфармацыйнай прасторы. За што просім прабачэньня ў шаноўнага грамадцтва.

Летась, працуючы ў архівах, мы адшукалі кнігу-першакрыніцу: “Посольство Иоанна Кобенцеля в Москву в 1575-1576гг., исторический очерк Федора Вержбовского, Варшава 1896” (гл. фота). З трымценьнем ў руках перагортвалі старонкі ў пошуках доказу новае даты, але на старонцы 51 прачыталі наступнае апісаньне шляху пасольства ў лістападзе 1575 году: ”**23.** Borissono (Борысовъ)5a. Nakhia ain wasser in ainem Wald 8 m. **24.** Pober 4 a. Nov. Heslinick 4 m. **25.** Podweresi 4 a. **26.27.28.29** Orsa (Орша) 6 m.” Такім чынам мы даведаліся, што выехаўшы 23 лістапада з г.Барысава Ганс Кабенцль пераначаваўшы у нашым Бабры (Pober) 24 лістапада паехаў далей на Падбярэзьзе й Воршу, дзе прабыў 4 дні. І ні слова пра Крупкі….

Такім чынам цяпер мы дакладна ведаем, што Ганс Кабенцль у 1575 годзе калі й праехаў праз нашы Крупкі, то не палічыў важным пакінуць аб гэтым запіс. Магчыма тады на гэтым месцы, сярод вялікага лесу было некалькі хат, а мо ён проста спаў ў гэты час? А што паселішча ўжо было, і значна раней, мы можам сьцвярджаць абапіраючыся на археалягічныя знаходкі зробленыя скаўтамі-краязнаўцамі Харугвы “Малое Палесьсе” у 1990-х гадох. Кераміка й жалезныя прылады працы, знойдзеныя ў горадзе скаўтамі Андрэем Жаўранкам, Генадзем Кульгавым, Анатолем Кавалеўскім, Валерыям Зянько, Юрасём Целешам, Арцёмам Пракапцом, Рыгорам і Янам Гліньнікамі, Юрасём Макарэвічам, Сяржуком Ласянком, Андрэем Баркоўскім і іншымі яскрава сведчаць пра існаваньне на месцы сучаснага горада Крупкі паселішча ў часы жалезнага веку (VIII-VII стст. да н.э. – IV-V стст. н.э.). Але археалягічныя знаходкі не могуць дам нам дакладную дату заснаваньня горада.

Калі ж прасачыць па першакрыніцах наступных вандроўнікаў, што ехалі ў 16 і пачатку 17 стагоддзя праз Крупшчыну, мы даведаемся, што сябра пасольства Сьвяшчэннай Рымскай імпэрыі Стэфан Хейс у 1593 годзе праехаў праз Начу і Бобр (Крупкі таксама не ўзгадваюцца), а вось сакратар пасольства Ганзы Ёган Брамбах, 26 сакавіка 1603 году пакінуў наступны запіс ў сваім дзёньніку: “…Закусвалі ў мястэчку Лошніца (4 мілі) і затым, пераехаў раку Начу, прыбылі ў ***сяло Крупкі*** (5 міль) і там заначавалі. 27-га перапраўіўшыся праз раку Бобр палуднавалі ў Славенях, а адтуль прыбыў у Талачын (2 мілі), засталіся на начоўку.”

Такім чынам, на сёньняшні дзень мы маем дзьве аднолькавыя даты першага ўпаміну горада Крупкі ў пісьмовых крыніцах. Першая – 1603 год - першы раз надрукавана славутая мапа Вялікага Княства Літоўскага; і другая – 26 сакавіка 1603 год – з дзёньніка вышэйзгаданага Ёгана Брамбаха. Зразумела, што гэта не канчатковая дата, і нас чакаюць новыя адкрыцьці. Але праз тры гады, у 2013 годзе мы можам адзначыць 410 год нашаму гораду. У якім гэта адбудзецца фармаце – залежыць ад усіх крупчан.

# Далей Бабра – няма дабра

*Нарыс аб гісторыі мястэчка ў 16-17 стагоддзях*



**У ЧАСЫ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА** / Алена і Валянціна РЖЭУЦКІЯ

## ПЕРАДГІСТОРЫЯ

***…І няма ў людзей больш простага способу ўдасканальвацца, як праз веданне дзеяў мінулых.***
*Палібій.*

*Тэрыторыя Крупшчыны ўмоўна падзелена вучонымі-археолагамі на раёны (родакомплексы). Месца, дзе знаходзіцца зараз гарадскі паселак Бобр, адносіцца да сярэднябобрскага родаабшчыннага археалагічнага комплекса-5, умоўна выдзеленага ў басейне сярэднега цячэння ракі Бобр і яе левага і правага прытокаў (цэнтральная частка Крупскага раёна). На жаль, тут вядома адносна мала старажытных помнікаў. Родавы цэнтр – старажытнае гарадзішча каля вескі Замкі – разбураны. Таксама вядома гарадзішча каля чыгуначнай станцыі Бобр (2 км ад г.п.Бобр), але там раскопкі не праводзіліся.*

**Герб Бабра 1762 г. (мастак Алесь Пушкін)**

Звесткі аб гарадзішчы ля вёскі Замкі вядомы з гістарычных дакументаў 1882г. У 1856г. археолаг К.П.Тышкевіч каля вескі Стары Бобр даследаваў адзін курган, які адносіцца да перыяду язычніцтва: "…Насып высокі, камянямі раздзелены 3 гарызонты, нябожчык быў крэміраваны па індаеўрапейскаму звычаю". Група з 27 курганоў выяўлена ва ўрочышчы "Царковішча" за 1,5 км на поўдзень ад вескі Стары Бобр.

Курганны комплекс каля в.Красноўка выяўлены Л.Д.Побалем у 1989г. Ен займае тэрыторыю памерамі каля 150х100м, змяшчае 53 насыпы дыяметрам 5-8м, вышыней 0,4-1,5м; многія пашкоджаны скарбашукальнікамі.

Каменная шліфаваная клінападобная сякера ў 1983г. выяўлена паміж вескамі Чарняўка і Восава Бобрскага пассавета, на беразе р.Еленка за 8км на поўдзень ад гарадзішча Бобр. Не выключана, што тут існавала адпаведнае паселішча

## ДАЛЕЙ БАБРА – НЯМА ДАБРА




**Крупшчына на мапе ВКЛ 1613г.**

бронзавага веку. Усяго вядома 86 насыпаў у 4 курганных могільніках.

Таксама вядомы 2 капішчы з часоў язычніцтва. Першае знаходзіцца каля в.Зароўе і другое каля "Кацярынінскага шляха". Абодва ў непасрэднай прыналежнасці да гарадзішча на станцыі Бобр.

Узнікненне гарадзішчаў і належачых да іх паселішчаў на перакрыжаванні шляхоў зносін і гандлю (шлях "з вараг у грэкі": Дзвіна-Ула-Лукамка-воз.Сялява-Бобр-Бярэзіна-Днепр(-па Е.Р.Раманаву)) і перадумовіла гістарычны шлях мястэчка Бобр, а таксама паўплывала на лёс і характар яго жыхароў.

З 10 стагоддзя паўночная частка Міншчыны з тэрыторыяй сучаснага Крупскага раена ўваходзіла ў Полацкае княства, потым Друцкае, потым у ВКЛ.

Менавіта пра часы існавання Бабра ў складзе Вялікага Княства Літоўскага (Аршанскі павет, Бобрская воласць (16-20 ст.ст.)) мы распавядзем падрабязней. >

## АБ БАБРЫ Ў XVI СТАГОДДЗІ І ЯГО ЎЛАДАРАХ

***Яскрава успыхнуць у сполахах ночы***
***Лукомля пажары і Друцка асады,***
***Старого Усяслава прарочыя вочы,***
***Пагоні Святой баявыя атрады.***
***Храптовіч, Сапега, Агінскі, Сангушка,***
***Лукомскія, Друцкія і Радзівілы***
***Выводзяць харугвы з баброўскіх пушчаў***
***Насустрач навальнай бязлітаснай сіле.***

*Міхаіл Бяроза*

Тэрыторыя сучаснай Міншчыны ў склад Вялікага Княства Літоўскага ўвайшла ў 1-й чвэрці 14 стагоддзя.

Звестак, якія б тычыліся ў гэты час непасрэдна сучаснай Крупшчыны, у летапісах няма. Можна толькі меркаваць, што большая частка яе тэрыторыі ўвайшла ў склад Друцкага княства. Цэнтрам яго быў старажытны горад Друцк (зараз вёска ў Талачынскім раёне), які ўзнік недалёка ад волаку паміж рэкамі Друццю і Усвейкай. Магчыма, Друцкія князі кантралявалі і заходні Бярэзінскі шлях.

Іншым гарадскім цэнтрам паблізу Крупшчыны быў Лукомль (зараз вёска ў Чашніцкім раёне). Гэта быў вельмі старажытны і, паводле археалагічных звестак, квітнеючы ў 11-13 стагоддзях горад, але ў летапісах няма звестак пра асобнае Лукомльскае княства. Можа, яно і існавала тады, але не было упамянутае, а магчыма, што Лукомль уваходзіў у Полацкае княства, у складзе якога быў цэнтрам асобнай акругі. Яна павінна была ахопліваць басейны рэк Усвейкі, Лукомкі, Улы. Мяжа Друцкай і Лукомскай валасцей, напэўна, праходзіла недзе ў паўночнай частцы сённяшняга Крупскага раёна, перасякаючы, альбо абмінаючы з поўначы возера Сялява (Вячаслаў Насевіч, “Час курганоў і забытых паданняў”, с. 3-4).



**Герб рода Друцкіх**

У 13-14 стагоддзях у Друцкім княстве, верагодна правіла мясцовая дынастыя, якая ў першай палове 14 стагоддзя трапіла ў васальную залежнасць ад Гедзіміна і Альгерда.

Прыкладна, у сярэдзіне 14 стагоддзя жыў князь Васіль Міхайлавіч Друцкі, з якім звязана першае непасрэднае ўпамінанне Крупшчыны у гісторыі. Гэты князь разам з жонкай Васілісай падараваў Друцкай царкве пэўную маёмасць, аб чым зрабіў запіс на старонцы Евангелля.

У ліку гэтага дару вызначана “на Худове полулуконье” - гэта значыць, даніна мёдам у памеры паловы лукна (лукно -старажытная мера аб’ёма, вялікі кош прыкладна ў 25 кг), якую выплачвалі жыхары паселішча Худава (веска на шляху “з вараг у грэкі” на возеры Сялява) (В.Насевіч. “Крупшчына ў складзе ВКЛ”).

Род Друцкіх ужо ў канцы 14 стагоддзя быў даволі разгалінаваным, але не ўсе яго прадстаўнікі пакінулі нашчадкаў. Паводле звычаю, які




**Герб Яна Караля Хадкевіча**

дзейнічаў у той час, феадальныя вотчыны разглядаліся не як прыватная, а як родавая маёмасць. Уладальнік мог вольна распараджацца толькі трэцяй часткай такіх маёнткаў, астатнія павінны былі адысці ў спадчыну родзічам, што і адбывалася ў вышэйзгаданых выпадках. Гэты звычай быў скасаваны толькі Статутам ВКЛ 1566 года.

Тую трэць вотчыны, якой князь Іван Васільевіч Друцкі-Красны (апошні раз прыгадваецца ў хроніцы Яна Длугаша ў 1448 годзе) мог распараджацца без абмежаванняў, склалі сёлы Бобр, Сакалавічы і загадкавае Недахудава (магчыма, нейкая частка таго ж Худава) у 1516 годзе ён завяшчаў сваей жонцы Марыне Іванаўне з роду князёў Заслаўскіх, з якой ён ажаніўся за некалькі год да таго, пасля смерці першай жонкі.

Такім чынам, 1516 год лічыцца часам першай згадкі Бабра ў гістарычных дакументах.

**ДАЛЕЙ БАБРА – НЯМА ДАБРА**

Наш краязнавец Андрэй Аляхновіч нядаўна адшукаў документ, які дае падставы 1514 год лічыць пачаткам нашай пісьмовай гісторыі (Літоўская метрыка 1518-1523. Кніга запісаў 11. Вільня 1997., с.87-88). У гэтым дакуменце пералічваюцца рускія палонныя, якія трапілі у розныя замкі ВКЛ пасля “Великое битвы” пад Воршай 8 верасня 1514 году. Сярод іншых, там ідзе пералік “вязьнеи московских”, якіх ўзялі ў палон перад бітвай (значыць у жніўні 1514 году!) “на Бобре и Малявицы”. Гэта значыць, па словах Андрэя Аляхновіча, што паланілі іх у нашым Бабры і суседняй вёсцы Маляўцы (зараз у Талачынскім раёне).

Род Васіля Краснага спыніўся ў 1516 годзе на яго адзіным сыне Іване, які перажыў свайго адзінага сына Дзмітрыя.

З канца 15 стагоддзя ў выніку згасання некаторых галін роду князёў Друцкіх, іх долі ў Друцкім княстве пераходзяць да іншых феадальных родаў, і, магчыма, што Бобр перайшоў да Гаштольдаў.

( Пасля адміністрацыйнай рэформы ВКЛ 1565-66 гг. яго тэрыторыя цалкам уключана ў Аршанскі павет (“Энцыклапедыя Гісторыі Беларусі”, Мн. 1996. т.3, с.300).

Альбрэхт Гаштольд (? - 1539) напярэдадні 1495 года атрымаў ад бабулі Марыны, удавы князя Івана Друцкага і потым князя С.Гальшанскага-Трабскага і дачкі князя Дзмітрыя Друцкага- Сякіры, вялізную спадчыну апошняга (“Энцыклапедыя Гісторыі Беларусі”. Мн. 1994. т 2. с 500).

На пачатку 16 стагоддзя са складу вотчын князёў Друцкіх у чужыя рукі адышоў Бобр – у 1559 годзе паселішча прыгадваецца, як належачае да маёнтка Шклоў паноў Хадкевічаў.

Уладальнікам маёнтка Бобр стаў Еранім Хадкевіч. Ён у 1559 годзе атрымаў ад Вялікага Князя Літоўскага Жыгімонта Аўгуста прывілей: "Чиним знаменито сим нашим местам... з ласки нашое господарское на просьбу пана... Ходкевича... на реце Бобре, в селе Забобровью, во властном кгрунте его мілости место садити и в нем корчмы и торг мети ему даем", бо, маўляў, "тое де место и торг там не будеть на жадной шкоде и переказе местом и корчмам нашим, бо одаль от всих мест наших".

Жыхары Бабра мелі права займацца не толькі сельскай гаспадаркай, але і гандлёва-рамесніцкай дзейнасцю. Уладальнік маёнтка атрымаў права прымаць і асаджаць у новазакладзеным мястэчку прышлых людзей -- вольных сялян і мяшчан.

Пасля смерці Ераніма (1561г.) Баброўскі маёнтак адышоў да яго сына Яна Ераніма. Аднак у Ераніма было яшчэ шэсць дачок, якім Ян Еранім, атрымаўшы спадчыну, павінен быў выплаціць пасаг. Напэўна, маючы недахоп у грашовых сродках, Ян Еранім у студзені 1573 года аддаў маёнтак Бобр у заклад адной са сваіх сясцёр, Крысціне, і яе мужу Станіславу Пацу. Адсюль і быў складзены інвентар 16 студзеня 1573 года.

Пац трымаў маёнтак у закладзе да сваей смерці (1588г.). За гэты час Ян Еранім Хадкевіч памёр (1579г.), а яго маёнткі атрымаў сын Аляксандр. Апошні прадаў закладное права на Бобр на суму ў 2400 коп грошаў (у 1550 годзе 1 руб. літоўскі=1,67 капы літоўскай=4,5 талера=37,5 залатых) канцлеру ВКЛ Льву Сапегу, які быў сынам Івана Сапегі і Багданы Канстанцінаўны Друцкай-Сакалінскай (Каноплі), з'яўляючыся, такім чынам, нашчадкам князёў Друцкіх па жаночай лініі. Менавіта таму і ў яго гербе (змешчаным, дарэчы, на тытульным аркушу Статута ВКЛ 1588 года), прысутнічае




**Герб Льва Сапегі**

герб яго маці – старажытны герб "Друцк".

Леў Сапега ў сваю чаргу перадае закладное права на Бобр свайму слузе – Станіславу Галінскаму (1604г.), які заснаваў побач з Бабром вёску Прудзінская Слабада (сучасная веска Прудзіны).

Ёсць меркаванне, што тое, што ў Бабры не склалася родавай дынастыі ўладароў, выхоўвала ў местачкоўцаў недысцыплінаванасць, беспакаранасць. А калі ўлічваць, што насельніцтва было прышлым, плынным, якім застаецца й на сённяшні дзень, то гэтая асаблівасць паўплывала на фарміраванне ментальнасці жыхароў, у прыватнасці такіх рысаў, як прадпрыймальніцтва, непакорлівасць, вольналюбства, задзірлівасць, ганарлівасць (Яніна Пушкіна. "Гістарычны нарыс мястэчка Бобр", краязнаўчы альманах "Малое Палессе", Крупкі. 2003, с. 22-23).

## ПАДАТКІ БАБРОЎСКІХ СЯЛЯН (згодна інвентару 1559 г.)

**ДАЛЕЙ БАБРА – НЯМА ДАБРА**

Сяляне апрацоўвалі: 39 валок 80 моргаў 74 пруты зямлі, што складала прыкладна 854,4 гектара.

Але ж плацілі падаткі (чынш) толькі з 15 валок 37 моргаў 15 прутоў апрацаванай зямлі, што складала на той час прыкладна 980 грошаў.

Акрамя гэтага давалі пану 7 пудоў ¾ бязмена меда (128 кг).

Браў пан з іх яшчэ наступныя падаткі:

чынш з аседлай валокі (які складаў 50 коп). Такім чынам уладар мястэчка атрымоўваў яшчэ 2000 коп. грошаў.

Бірчае – 5 коп з чалавека (па перапісу іх было 67), такім чынам, яшчэ 335 коп грошаў.

Недаатрымліваў пан падаткаў толькі з 16 валок, 111 моргаў, 93 прутоў пустой зямлі, якія чакалі сваіх гаспадароў-сялян, што складала прыкладна 363 га, а ў грашовым эквіваленце 979 коп грошаў, што было значнай лічбай.

Такім чынам, Еранім Хадкевіч у ,,чыстым" выглядзе атрымліваў ад Бабра даволі значны па тым часам прыбытак у 3314 коп грошаў, што падцвярджае і закладная Льву Сапеге, якая складала першапачаткова 2400 коп грошаў, а потым была даведзена Аляксандрам Хадкевічам да 4000 грошаў на пачатку 17 стагоддзя.

У прыбытак жа сялян ішлі недададзеныя падаткі з прыкладна 24 валок апрацоўваемай зямлі, што складала 1468,8 коп грошаў, і ў перакладзе на колькасць тагачасных жыхароў (67) складала прыбытак у 30 грошаў на чалавека ў год. Для параўнання – конь, на той час, каштаваў 150 грошаў.

## РАЗБОР ЖЫХАРОЎ МЯСТЭЧКА ПА ІМЁНАХ (згодна інвентару 1559 года)

Выклікаюць цікавасць прозвішчы баброўскіх мяшчан. Яны дазваляюць прасачыць, з якіх мясцін набіралі Хадкевічы насельнікаў новага мястэчка. Сярод іх былі выхадцы з Польшчы (ШЧАСНЫ ЛЯХ), з Расіі (ІВАН МАСКАЛЕНАК), ураджэнцы Лукамля (ІВАН,ГРЫН і ПАРФЕН ЛУКАМЛЯНІНЫ), Полацка (АТРОШКА ПАЛАЧАНІН ), а таксама, верагодна, з недалекага Худава ( СУПРУН ХУДАВЕЦ, ГРЫЧКА ХОДАВЕЦ), Шыйкі (МІТКА ШЫЧЭНІН, ГРЫЦКА і ІСАК ШЫЧЫНІЧЫ). Прозвішча АКУЛЫ ГАПОНАВІЧА, магчыма, указвае на сяло Гапонавічы (В.Насевіч Перыяд "залатога веку", с.33).

Сярод спісу ў сотню іменаў амаль не сустракаюцца імёны сучасных жыхароў. Хіба толькі, можна меркаваць, што ШЧАСНЫ ЛЯХ даў пачатак роду Ляшковых, прозвішча, якіх вельмі распаўсюджана сярод сучасных местачкоўцаў—лічыць наш краязнаўца Я.А.Пушкіна. І, яшчэ за савецкім часам жылі ў Бабры Маскалёвы і Гапановічы.

## ЭКАНАМІЧНАЕ СТАНОВІШЧА БАБРА Ў XVIСТ.

Бурны рост шляхецкага землеўладання прывеў да запрыгоньвання сялянства -- забароны пераходу сялян з аднаго маентка ў другі. Пакуль асноўнымі ўласнікамі былі князі і дзяржаўная ўлада, якім належалі сотні і тысячы сялянскіх сямей, выхад падданых з аднаго маентка ў другі кампенсаваўся прыходам іншых, і інтарэсам гаспадароў гэтая




На фота: млын на рацэ Бобр у пач. XX ст.

міграцыя не пагражала. Калі ж масавымі сталі невялікія маенткі, дзе колькасць падданых вымяралася дзесяткамі сямей ці ўвогуле асобнымі сем'ямі, выхад адразу некалькіх сялян ў маентак суседа мог стаць для ўладальнікаў вельмі балючай з'явай. Да таго ж права на пераход перашкаджала панам павялічваць памеры падаткаў, бо гэты працэс не мог ісці аднолькава ва ўсіх маентках. Той пан, у якога павіннасці былі менш жорсткія (а такое мог сабе дазволіць звычайна больш багаты гаспадар), набываў магчымасць пераманьваць сялян з іншых маенткаў. Таму ў інтарэсах пераважна дробнага шляхетства свабода сялянскіх пераходаў паступова змяншалася. Былі забаронены пераходы з дзяржаўных маенткаў у прыватныя і наадварот.Таксама спецыфічны сэнс набыў традыцыйны для маемасных угод прынцып дзесяцігадовай даўнасці для ўзаемных прэтэнзій: селянін, які прыйшоў у нейкі маентак і пражыў там 10 год, лічыўся "заседзеўшым волю" і не мог ужо пакінуць гаспадара без яго дазволу.

Абапіраючыся на шляхецтва, вялікакняжацкая ўлада ў сярэдзіне 16 ст. распачала пэўныя захады для выйсця з крызіса. У дзяржаўных маентках ("староствах") цэнтральнай часткі ВКЛ адбылася аграрная рэформа, у выніку якой рэшткі ўнутрыабшчыннага размеркавання падаткаў і павіннасцей скасоўваліся. Уся ворыўная зямля перамяралася на стандартныя кавалкі-валокі (плошчай у 21,36 га), якія падзяляліся на 30 моргаў ці 9000 прутоў (прут-0,0025 га.). Памеры сядзіб ваганіся ад 3 да 28 прутоў, у сярэднем -7. З кожнай валокі ў залежнасці ад якасці глебы вызначаўся стандартны памер павіннасцей. Сялянская сям'я, у залежнасці ад колькасці працаздольных і рабочай скаціны, магла ўзяць цэлую валоку ці яе частку (1/3, 1/2, 2/3), адпаведна вызначаліся і яе павіннасці. Найбольш тыповым стаў надзел у паўвалокі, хаця індывідуальныя ваганні былі вельмі вялікімі. Па ўзору дзяржаўнай улады валокі ўводзілі і некаторыя паны.
На Крупшчыне, дзе традыцыі спадчынасці сялянскіх надзелаў захаваліся лепей і вялікай

была доля неземляробчых заняткаў (бортніцтва і лясных промыслаў), валочная памера адбылася пазней і больш павольна (В.Насевіч"Крупшчына ў складзе ВКЛ, 16-ты – 1-я палова 17 ст. стр.29).
Пры заснаванні мястэчка Бобр, усе яго насельнікі атрымалі слабаду – вызваленне ад падаткаў на першы, самы складаны і цяжкі перыяд жыцця на новым месцы.
У восень 1572 года, на дзень Святога Міхаіла, тэрмін слабады выйшаў, і з гэтага моманту мяшчане павінны былі плаціць пэўную суму з кожнага зямельнага надзела-пляца. Вызначаць памеры платы належала ўжо новаму гаспадару (В.Насевіч "Перыяд "залатога веку-""с.32-33).

**ДАЛЕЙ БАБРА – НЯМА ДАБРА**

Памер падаткаў у Бабры пасля правядзення валочнай памеры складаў: 1 валока–61 грош і 2 пенязі, а таксама дзякло (аўсом, жытам, льном, медам). Збожжа вымяралі так званымі салянкамі–дзежкамі емкасцю каля 100 літраў (В.Насевіч. Там жа).

## ЗЕМЛЯРОБСТВА

З 1569 па 1587 год – камендантам Віцебска, служыў італьянец Аляксандр Гван'іні (1538-1614). Ен шмат вандраваў па ўсходу Беларусі і пакінуў цікавае апісанне земляробства ў нашым краі: "Поле пад ворыва рыхтуюць пераважна такім спосабам: летам, каля свята Св.Пятра і Паўла, і да самага свята ўзнясення Марыі, звычайна высякаюць лес і кусты. Гэту высечку лесу па-народнаму называюць – ляда. Калі лес густы, дык падсцілаюць саломай і ў такім стане пакідаюць на зіму. Калі ж наступіць затым вясна і, пасля велікодных свят, на працягу некалькіх дзен настане спякотнае сонечнае надвор'е, то названы павал дрэў падпальваюць, паклаўшы з бакоў і зверху салому, і спальваюць на попел. Дзе ж зямля была не выпалена, там амаль нічога не родзіць. Таму туды збіраюць неспаленыя дрэвы і, склаўшы іх у вогнішчы, зноў падпальваюць.
Па гэтай выпаленай і неапрацаванай зямлі пасля таго, як толькі прыбрана вуголле і лішнія галавешкі, найперш сеюць пшаніцу іаруць зверху плугам, у які запрэжаны адзін конь, і барануюць.
Такім жа чынам засяваюць, жнуць і збіраюць ячмень, хіба толькі што для ячменю высякаюцца яшчэ больш густыя пушчы, таму што ен патрабуе больш тлустай глебы, чым пшаніца.
На такім полі звычайна сеюць на працягу 6-8 год, не падкладаючы гною і ўгнаенняў.
...Затым, калі зняты ячмень ці пшаніца, на апрацаваным полі, пакінутым пад пар, сеюць азімае жыта. Для жыта трэба араць двойчы."
Практыкаваўся і другі спосаб:
"З дзвума часткамі ячменю змешвалі частку жыта і высявалі вясной. У першае лета жалі толькі ячмень.Жыта ж буйна кусцілася і пакідалася на зіму. На наступны год яно разрасталася так густа, што з яго "ледзь відневўся чалавек, які сядзеў на кані". З аднаго зернейка вырастала 30 высокіх каласоў."
Пра тое, як адбывалася сушка збожжа, даволі падрабязна расказаў дацкі пасланнік Ю.Юль:
"Звезшы збожжа з поля, мясцовыя сяляне адразу сушаць яго, выкарыстоўваючы тое, што у іх пад рукой багата драўніны. Сушка адбываецца так: снапы кладуць у свірнах радамі, а ўнізе пад імі разводзяць моцны

агонь, потым дзверы свірна зачыняюць да той пары, пакуль ад той гарачыні дастаткова не высахне зерне.Выссушанае так збожжа можа зберагацца на працягу многіх год, зусім не псуючыся. І малацiць яго легка, бо яно паволі само высыпаецца з калосся, і мелецца легка, і мука з яго, і хлеб лепей зберагаюцца-"(В.Грыцкевіч, А.Мальдзіс там жа, с.61-64).

## ГАНДАЛЬ

Рускі дзяк Т.Карабейнікаў (1593) наведаў і апісаў "таржкі" у Бабры, Начы, Барысаве і Слуцку. Асноўным таварам на іх былі "…звярыныя шкуры і мяса, вылаўленая ў рэках і возерах рыба, лішкі збожжа, мед, пянька… . Іншаземцы прывозілі соль, спецыі, посуд." Карабейнікаў адзначае, што: "…кірмашы ў Бабры паводле каралеўскіх прывілеяў праводзіліся рэгулярна: 9 мая,14 верасня і 6 снежня" (В.Грыцкевіч, А.Мальдзіс. Там жа стр. 65).

## АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ ПАДЗЕЛ

Пасол Свяшчэннай Рымскай імперыі Сігізмунд Герберштэйн, які неаднаразова (1516-1517, 1526-1527гг.) праязджаў праз Бобр, адзначае, што "Бобр з'яўляецца мястэчкам – населеным пунктам з некаторымі прыкметамі горада"( Сигизмунд Герберштейн "Записки аб Московии", М., 1988.).

У мястэчках той пары звычайна знаходзіліся цэнтры валасцей. Насельніцтва ў асноўным займалася земляробствам. Там жа меліся лаўкі, крамы, школы, збіраліся кірмашы. Само слова "мешчанін" было процілегласцю такім паняццям як "селянін, зямянін" і гучала ганарліва, як грамадзянін месца, горада.

Інвентар, складзены для пана кашталяна Іераніма Хадкевіча 1 мая 1559 года, таксама сведчыць, што ў Бабры на той час быў:"…дом гасцінны ўяздны, дамоў, дзе жылі людзі–67, пустых–26... Воласць, якая прыслухоўвае да Бабра" складалася з сяла "Забаброўя, служб Селіхонавіч, Шавялевіч, Зубовіч, Барысавіч, Грыцкава, Ананьіна, Шапецькава".

## МЯСТЭЧКА БОБР У XVII СТАГОДДЗІ

Па сведчанью навукоўцаў у Вялікім Княстве Літоўскім за перыяд з XVI па першую палову XVII стагоддзя ўзнікла 414 мястэчак. Адным з іх, з лёгкай рукі пана Ераніма Хадкевіча, і стаў наш Бобр.

Ішлі гады, дзесяцігоддзі..

Калі ў 1573 годзе інвентар сведчыў нам аб 67 жыхарах (у тыя часы ўлічваліся толькі мужчыны і жанчыны-ўдовы, вядучыя самастойную гаспадарку), то ўжо згодна інвентару 1614 года (праз усяго 55 год!) ў Бабры налічваецца прыкладна 210 дамоў і каля 400 чалавек (без уліку жаноцкага полу).

Не пашчасціла Бабру з пастаянным гаспадарлівым уладаром: "Пасля смерці Ераніма (1561) маёнтак перайшоў ў спадчыну да яго адзінага сына Яна Ераніма. Той аддаў яго ў заклад грашовага пасага сваей сястрэ Крысціне і яе мужу Станіславу Пацу. Станіслаў Пац трымаў Бобр у закладзе да сваей смерці ў 1588 годзе. За гэты час Ян Еранім памёр (1579), а спадчыннае права на мястэчка перайшло да

**На фота: від на мястэчка Бобр з боку панскай купальні ў пачатку XX-га ст.**

**ДАЛЕЙ БАБРА – НЯМА ДАБРА**



аднаго з яго сыноў - Аляксандра. Апошні перадаў заклад канцлеру Льву Сапеге. Спачатку за 2400 коп грошаў, потым, пазычыўшы яшчэ 1600 коп, давёў заклад да 4000 коп. Леў Сапега ў сваю чаргу перазаклаў Бабёр за тую ж суму свайму слузе Станіславу Галінскаму. Але і Галінскі чамусьці не пажадаў сам карыстацца маёнткам, зноў перазаклаў яго шляхціцу Крыштафу Ераніму Камару (Насевіч В., "Перыяд "залатога веку", с. 33-34).

Вось з гэтым уладальнікам і сустрэў Бобр XVII стагоддзе. Яму ж ён належаў увесь гэты век.

Характэрна, што інвентар 1614 года быў складзены па-польску. Калі ж яго, па жаданню Аляксандра Хадкевіча, упісалі у актавую кнігу Аршанскага Гродскага суда, то прэамбула, паводле патрабаванняў Статута, была напісана на "рускай" (чытай: старалітвінскай, альбо старабеларускай) мове, а далей ішоў без перакладу польскі тэкст дакумента. Такая практыка ("рускі" загаловак і польскі тэкст) была тыповай для актавых кніг XVII стагоддзя і сведчыла пра марнасць намаганняў спыніць паланізацыю шляхты.

Крыштаф Камар быў уладальнікам Бабра да сваей смерці ў 1636 г. За гэты час яго імя некалькі разоў трапіла на старонкі дакументаў, што дашлі да нас.

У 1624 годзе ён вымушаны быў трымаць у аршанскім земскім судзе адказ за ўчынак сваіх баброўскіх падданых, якія збілі і абрабавалі праезджага яўрэя-гандляра з Магілёва Арона Якубовіча. За гэтае злачынства на маёнтак Камара быў накладзены штраф у памеры 300 коп і 10 грошаў (1капа=60 грошаў) на карысць пацярпеўшага. Не пагадзіўшыся з гэтым рашэннем, Камар звярнуўся ў вышэйшую судовую інстанцыю – Галоўны Літоўскі Трыбунал. Але апошні пакінуў прыгавор у сіле, а Камара за "няслушную апеляцыю" абклаў дадатковым паборам у памеры 12 коп грошаў, палова з якіх павінна была ісці суду, палова – Якубовічу.

Такім чынам, можна меркаваць, што Камар

быў на баку сваіх баброўскіх падданых і лічыў, што іх учынак бараніць варта.

У канцы жыцця Крыштафа Камара пачаўся памежны канфлікт паміж яго падданымі і жыхарамі суседніх вёсак Шырневічы і Мачулішча, што адносіліся да маёнтка Варанцэвічы (апошні належаў аршанскаму старасце Аляксандру Багдану Сапегу, а затым дзвюм яго дочкам, і кіраваўся ўраднікам Грыгорыем Мілашэвічам.

Як часам бывае, адносіны паміж жыхарамі суседніх вёсак, належачых розным панам, сталі даволі напружанымі. У канцы снежня 1632 года ля Шырневічаў было знойдзена цела забітага жыхара гэтай вёскі, бортніка Захарыя Гапановіча. Па нейкіх прыкметах аднавяскоўцы вызначылі, што след забойцаў вядзе ў бок Бабра.

Паводле заканадаўства ВКЛ, піша Вячаслаў Насевіч: "...крымінальныя справы, якія тычыліся жыхароў сумежных маёнткаў, павінен быў разглядаць так званы копны суд альбо капа. На яго сходзіліся найбольш аўтарытэтныя сяляне з зацікаўленых і сумежных з імі вёсак, а таксама прадстаўнік адміністрацыі ці дзяржаўнай улады. Кожны суд меў паўнамоцтвы на правядзенне аператыўнага следства і допыт падазроных асоб, нават з катаваннем".

У адпаведнасці з гэтым правам, ураднік Варанцэвіцкага маёнтка Грыгорый Мілашэвіч сабраў капу, на якую былі дастаўлены западозраныя ў забойстве мяшчанін з Бабра Цярэшка Грышкавіч, талачынскі баярын Яська Сямёнавіч (баяры ў гэтыя часы складалі сацыяльную групу, якая выконвала кар'ерскую і іншую службу ў маёнтках) і падданы маёнтка Зембін (што каля Барысава) Яська Станіслававіч. Было праведзена следства але, Мілашэвіч перавысіў свае паўнамоцтвы: не даказаўшы віну падазраваных, ён аддаў двух з іх на катаванне, у выніку чаго абодва былі закатаваны да смерці, так ні ў чым і не прызнаўшыся.

У адказ Камар распачаў судовы працэс супраць Мілашэвіча. Працэс цягнуўся некалькі год. Рашэнне на карысць Камара аршанскі земскі суд вынес ў студзені 1636 года (праз 4 гады пасля падзеі). Мілашэвіч падаў апеляцыю ў Галоўны Трыбунал, і канец справы настаў толькі ў лістападзе 1637 г., ужо пасля смерці Камара. Трыбунал пацвердзіў прыгавор земскага суда: на Мілашэвіча быў накладзены штраф за забойства ("галаўшчына") ў памеры 170 коп грошаў, а таксама 12 коп за няслушную апеляцыю. Палову гэтай сумы павінны былі атрымаць удава Крыштафа Камара – Ягнешка і яе дзеці Яраш (Еранім), Уладзіслаў і Ганна.

Гэтыя выпадкі сведчаць пра свавольны, неўтаймаваны характар баброўскіх жыхароў, які часам адгукаецца і да сёння.

У 1636г. Крыштаф Камар памёр. След Бабра губляецца на некалькі дзесяцігоддзяў.

Напэўна, гэта звязана з "невядомай вайной" 1654-1667 гг., якую развязала Масковія супраць Рэчы Паспалітай. Гэтая вайна з 213 дамоў, што былі ў Бабры, пакінула 95; звыш паловы насельніцтва загінула ці разбеглася (Пушкіна Я. Там жа).

Любімым заняткам нашых продкаў было паляванне на зуброў, ласёў, аленяў, ваўкоў, мядзведзяў. Яно давала людзям сытную страву і цеплае адзенне, прывучала да трапнасці ў стральбе.

" У тыя далекія часы ў Беларусі вадзілася шмат мядзведзяў… і паміж Бабром і Цяцерыным слугі князя Агінскага, запэўнілі Корба ( Ёган Георг Корб, 1698-1699, сакратар пасольства Свяшчэннай Рымскай імперы), што ў гэтай мясцовасці яны зацкавалі сабакамі каля 50 мядзведзяў"

(В.Грыцкевіч, А Мальдзіс там жа с.65).

А ў інвентары ад 16 студзеня 1573 года занатавана, што "...уся воласць Баброўская...мае тыя вольнасці, што на ягамосць пана баброў з усіх гонаў баброўскіх не гоняць, адзінае толькі самі падданыя гоняць.... Затым жа лістом ягамосці панскім вепраў даваць не павінны, але калі б ліст ад ягамосці для ўласнай патрэбы ягамосці на тое быў выдадзены, ў той час павінны даць іх."

Яшчэ адну акалічнасць адзначае сакратар пасольства Свяшчэннай Рымскай імперыі Ёган Корб, які ў 1699 годзе ехаў праз нашы мясціны ў Барысаў: "Вялікае няшчасце напаткала тады яго жыхароў (маецца на ўвазе наш край). На гэтых бедакоў самым жорсткім чынам накінуліся партыі Сапегі і Агінскага. Грошы вымагаліся самымі жудаснымі спосабамі; гэта было тым больш нязносна, таму што рабілася сваімі ж суайчыннікамі. З тых хто не хацеў, або не меў магчымасці аддаць грошы, некаторых збівалі, а большасць жа пераважна прыбівалі за язык да сцяны" (Грыцкевіч В. Мальдзіс А. Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980, с. 59-60).

**ДАЛЕЙ БАБРА – НЯМА ДАБРА**

## СПРОБА АНАЛІЗУ ІНВЕНТАРА 1614 ГОДА

Што ж сабой уяўляў панскі двор і маёнтак, якія належалі Крыштафу Комару? "Забудовы дваровыя: дом высокі на падрубе, г.зн. святліца з каморай і сенямі таксама з каморай, перад сенямі ганак. Другі домік - святлічка з каморай і сенямі. Насупраць - чорная пякарня. Свірны на падрубах, два з засекамі для засыпкі збожжа; трэці свіран маленькі. Стайні дзве пад адным дахам. Старая кухня. Склеп новы (пограб). Вароты, агароджаны вакол плотам двор.

На рынку - дом гасцінны, карчма для гасцей і да таго ж прытым жа мястэчку на рацэ Бабры млын з двума коламі і мост; карчма, млын і гандлёвая арэнда дае на год 220 (коп грошаў).

У Бабры існавала царква, святару якой, айцу Фёдару, належалі пляц і валока зямлі, вольныя ад усіх падаткаў. Усяго ў мястэчку налічваецца 5 вуліц:

1. да Славень (зараз вул. Талачынская) - 60 дымоў (140 чал. мужчынскага полу);
2. каля царквы (зараз вул. Магілёўская) - 43 дымы (83 муж.);
3. ад млыну (пачатак вул.Талачынскай ?) - 12 дымоў (29 муж.);
4. за ракой (зараз вул.Зарэчная) - 33 дымы (73 муж.);
5. да Старога Бабра (зараз вул.Пушкіна) - 24 дымы (35 муж.); і Слабада за ракой (зараз вул.Казаноўка) - 8 дымоў (14 муж.). Характар сялянскіх павіннасцяў істотна не змяніўся: калі ў 1573г. з валокі плацілі 61 грош і 2 пенязі, то ў 1614г. - 75 грошаў у Бабры, і 74 - у Старым Бабры і Сакалавічах.

Памер апрацоўваемых валокаў у залежнасці ад колькасці чалавек у сям'і хістаецца ад 3 да 24-28. У сярэднім жа прыкладна 5-7 валокаў на сям'ю.

Сялянскія зямельныя надзелы, лічыць Вячаслаў Насевіч, ў баброўскім маёнтку былі даволі значнымі - большасць сямей мела па поўнай валоцы, толькі зрэдку валоку трымалі дзве сям'і.

Праўда, сем'і былі вялікімі, звычайна ў іх уваходзілі бацька з дарослымі сынамі, часам - некалькі братоў ці дзядзька з пляменнікамі. Разам з дарослымі і дзецьмі ў такіх сем'ях

было ў сярэднім па 7-8 чалавек. Гэта была тыповая з'ява на Літве таго часу, якая практычна без змен захавалася да пачатку XX стагоддзя (В.Насевіч там жа).

Акрамя ж таго астатнія павіннасці складалі:

- медніц меду - 20 (емкасць 1 медніцы = 15-20 літраў)
- дзякло жытам - з 1 валокі па 1 кракаўцы (150 літраў)
- дзякло аўсом - з 1 валокі па 1 катку альбо 8 грошаў
- дзякло з пляца па 1 курыцы ("какошы")
- гвалт да млыну на засыпанне грэблі - з 1 валокі па тыдню.




**Цэнтральная частка мястэчка Бобр згодна інвентару 1614г. (мастак – Алесь Пушкін).**

ДАЛЕЙ БАБРА – НЯМА ДАБРА


На фота: Панскі маёнтак у Бабры. 1918г.

А з сяла Сакалавічы яшчэ да гэтага:
- гвалт дровамі да двара - з 1 валокі па 10 вазоў - падвод.
Таксама ўсе сяляне плацілі з кожнага прута (0,0025 га) сядзібнай і агароднай зямлі - па 1 грошу.
Каб ацаніць памеры павіннасцей, што выконвалі баброўскія падданыя, піша Насевіч: "...трэба ўлічваць, што пры надзеле на 1 валоку яравым ці азімым збожжам штогод засявалася 20 моргаў (каля 14 га) зямлі. Высявалася звычайна па 150-літровай дзежцы на морг (блізка да 1,5 ц/га.). З валокі можна было сабраць блізка да 60-80 ц., з якіх, з вылікам насення заставалася каля 40-60 ц. На харчаванне сям'і з 8 чалавек патрабавалася не менш паловы гэтай колькасці."
Статут 1588г. (раздзел 13, артыкул 9) вызначае кошт 1 бочкі (напэўна, віленскай, альбо так званай кадзі, у якую ўваходзіла блізка да 2,5-3 ц. жыта) ў 24 грошы.
Такім чынам, чысты даход сялянскай гаспадаркі ў добры год толькі за кошт збожжа мог дасягаць парадку 170-280 грошаў. Для параўнання ў той час каштавалі:
- конь- 120 грошаў
- карова - 100
- аднагадовы парсюк - 60
- баран - 20
- авечка- 15
- курыца - 3
- кажух - 60-70
- сермяга - 20
- сякера - 6
- каса - 6
- серп - 2
- калёсы - 6
- сані - 2 грошы.
На гэтым фоне чынш у памеры 75 грошаў не выглядае празмерным.
Трэба дадаць, што "...ў Бабры не было фальварка з панскім ворывам і сяляне не ведалі паншчыны" (В.Насевіч там жа).
Такім чынам, калі браць памеры падаткаў ся-

лян, згодна інвентару, то местачкоўцы плацілі пану, акрамя натуральнага падатку і адработак (гвалтаў) - 123 капы 51 грош і 11 пенязяў. А ў 1635 годзе 1,67 капы літоўскай каштавалі 1 рубель літоўскі = 10,4 залатых.

Такім чынам, у "чыстым выглядзе" прыбытак ягамосці Крыштафа Камара складаў прыкладна каля 1000 залатых толькі з мястэчка Бобр.

## РАЗБОР ІМЁНАЎ ЗГОДНА ІНВЕНТАРУ 1614 г.

У інвентары мы сустракаем старыя імёны жыхароў (што ёсць у інвентары 1573г.), а таксама шмат новых - "набрыдняў", як кажуць местачкоўцы, ці "прышлых" як сведчыць перапіс. Засталіся Друцкія -Амяльян, Макар і Арцём, Лукамлянін Антон, Літвіны - Арцём і Сцяпан, былыя жыхары вёскі Сакол - Васька Сакавец, Грышка Сакалянін, Іван Саканавіч. Прыйшлі новыя: мабыць з Украіны - Яська Гайдук, са Смаргоні - Сіла Смарчэнін, з Шырневіч - Сцяпан Шэрневіч, з Масковіі – Якаў Маскаль, з Чудава (Худава) - Амяльян Чудовіч, з Хацюхова - Сямён Хацюховіч, з Дзянісавіч-Якім Дзянісавіч.

Але ж асноўным адрозненнем былі заняткі: Барыс Кілбасёнак, Сцяпан Калбаса, Шпількі, Кандрат Кашэль, Атрошка Чабатар, Саўка Кравец, Багдан Вазьнічка, Карп Ганчар, Ілля Дойлід, Кузьма Півавар, Савасцей Пастух, Ходар Люстровіч, Кандрат Аладзя, Івашка Вадавоз, Хадор Селядзёўка, Арцём Пачтыла, Павел Рэзькін, Яска Пруднік, Івашка Цягай, Яска Кажамячын, Хама Трапач, Ілля Калеснік, Пятрок Дзешка, Цішка Калеснік, Іван Дзягцяр, Дакон Жыжа (каваль), Іван Каваль.

Трэба заўважыць, што да сярэдзіны XX стагоддзя жыхарамі Бабра былі прадстаўнікі роду Шпілек, пакуль адзін з іх у 1923 годзе не вызначыў сябе ўдзелам у нападзе атрада Юркі Моніча на кур'ерскі дыпламатычны цягнік Парыж-Варшава-Менск-Масква, і тым самым не супрацьпаставіў сябе савецкай уладзе.

Нельга абмінуць прозвішча роду Букаў, якія згодна інвентару 1614 года жылі на вуліцы, якая ішла ад рынку да Славень (зараз вул.Талачынская) і якія зараз жывуць там жа – "на карані"!

Да сяго часу засталіся і жывуць ў Бабры нашчадкі Гайдукоў, Краўцоў, Кавалёў, Восіпавых, Якубовічаў, Багданавых, Ігнатовічаў, Семяновічаў, Грышкевічаў, Жданавых, Міцкевічаў, Казюкаў, Казловых, Конанавых, Левановічаў і інш.

Аказала ўплыў на лёс местачкоўцаў і Берасцейская царкоўная унія (1596 г.). Так, акрамя жыхароў праваслаўнай прыналежнасці (сведчанне імёнаў), а таксама існавання царквы і айца Фёдара, азначаны Апанас Палупоп, Яска Паповіч з чатырма сынамі.

Але ж самае цікавае: прозвішчы - Васіль Папяжанак і Косьцюк Касьцёл, які, дарэчы, карыстаўся пляцам зямлі на слабадзе вуліцы каля царквы, а таксама - Кшыштафа Матвейовіча, Канона Кахановіча, Барталамея Шмяконіча і шмат іншых прозвішч, на -іч (Апімаховіч, Марціновіч, Сцепановіч, Анісовіч, Пятровіч, Левановіч, Шэрневіч і інш.). Мы лічым, што іх з'яўленне ў агульнай колькасці "праваслаўных" імёнаў сведчыць аб існаванні уніяцкага веравызнання, што ў сваю чаргу павінна сведчыць аб існаванні уніяцкай царквы.

Дарэчы ў інвентары 1614 года нідзе не сказана якая гэта царква -- праваслаўная, ці уніяцкая. Але ўжо пад 1682 годам маем апісанне




**На фота: жыхары мястэчка Бобр ў пач. ХХст.**

уніяцкіх: царквы Святога Мікалая і капліцы Святой Параскевы ў мястэчку Бобр "у якіх вялебным айцом Стэфан Акуловіч застаецца"(зборнік "Візіты уніяцкіх цэркваў Мінскага і Навагрудскага car бораў 1680-1682гг." Мн., 2009 с.77). Таксама вядома, што і напрыканцы XVIII ст., узгадваецца менавіта уніяцкая царква: "Помянутая речка Бобровка имеет местами крутые песчанные берега, подобно как река Немень, а особливо близ городка Бобра, находящагося на дороге между Крупками и Малявкою. На ней построена пыльная мельница для пыления лесу. Бобр есть городок весьма простой с деревянными строеньями и Унеятской церковью. Жителы здесь суть Поляки, и множество Жидов, отправляющих разные торги..."("Малое Палессе-2009", краязнаўчы альманах. Крупкі 2009 с.34).

## НА ЗАКАНЧЭННЕ

Вялікае княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае... Вялізная дзяржава палёў і лугоў, балот, рэк і азёр. Гарады, мястэчкі, вёсачкі вырасталі на іх маляўнічых берагах... Багатая яго прырода, якая спрадвеку здзіўляла падарожнікаў сваей разнастайнасцю, зменлівасцю і непаўторнасцю. І кожнае яго паселішча з сваей непаўторнай гісторыяй, непадобнай да іншых. Кожная вёсачка альбо мястэчка - гэта каштоўнасць, якая іскруе сваей мінуўшчынай, сваім шляхам у гісторыі дзяржавы. У сваей працы, мы распавялі пра месца, якое

нам вельмі дарага - мястэчка Бобр. Мястэчка, якое існавала як паселішча да 1558 года, у якім кароль дараваў Хадкевічу прывілей, дзе гаварылася, што можна зрабіць з простай мясцінкі – мястэчка, цэнтр воласці. Мястэчка, якое потым пераходзіла ад аднаго старажытнага шляхецкага роду да другога. Мястэчка шумлівае і непакорнае ў тыя часы, а зараз больш ціхае і пакладзістае, хаця й задзірыстае... Маленькая і ўтульная радзіма маіх бабраўчан. Адсюль родам шмат знакамітых людзей - мастакоў, урачоў, паэтаў, пісьменнікаў, настаўнікаў, вайскоўцаў і г.д.

Прыгожыя, маляўнічыя берагі ракі Бобр, на якіх раскінулася мае паселішча, немагчыма забыць...

Пры падрыхтоўцы гэтай працы значную дапамогу нам аказаў А.П.Аляхновіч, які захоўвае Архіў Харугвы Скаўтаў Малога Палесся (далей: АХСМП). У гэтым архіве знаходзіцца копія інвентара маёнтка БОБР 1614 года, машынапісы прац В.Л.Насевіча “Час курганоў 9-13 стст.”, “Крупшчына ў складзе ВКЛ (14-1-я пал.16 ст)”, “Перыяд “залатога веку (2-я пал.16-1-я пал.17 ст.)”. А таксама кнігі: “Старонкі гісторыіі Беларусі”, “Памяць: Крупскі раён”, “Этнаграфічная спадчына” В.С.Цітова, Паўла Урбана “Старажытныя літвіны: мова, паходжанне, этнічная прыналежнасць”. Працуючы, мы таксама выкарыстоўвалі матэрыялы працы А.Цітова “Гарадская геральдыка Беларусі” і В.Грыцкевіча, А.Мальдзіса “Шляхі вялі праз Беларусь” і шасцітомнік “Энцыклапедыя Гісторыі Беларусі”.

Вялікую працу прарабілі і вельмі дапамаглі нам спадары Пушкіны – Алесь Мікалаевіч і Яніна Аляксандраўна – зрабіўшы малюнак плана Бабра 17ст. згодна інвентара 1614 года і зрабіўшы яго пераклад са старапольскай мовы. За гэта ім вялікі дзякуй.

## ДАДАТКІ

### ІНВЕНТАР МЯСТЭЧКА БОБР 1614 ГОДА

Інвентар вопісу Баброўскай маёмасці , як самога мястэчка, так і ўсіх вёсак, якія Бабру належаць ад году 1614 месяца чэрвеня пятага дня паданы ягамосці Пану Крыштафу Камару пры прадажным лісце запісе на валоданне.

Найперш забудовы дваровыя: Дом высокі на подрубе, гэта значыць святліца з каморай і сенямі таксама з каморай, перад сенямі ганак. Другі домік - святлічка з каморай і сенямі. Насупраць - чорная пякарня. Свірны на подрубах, два з засекамі для засыпкі збожжа; трэці свіран маленькі. Стайні дзьве пад адным дахам. Старая кухня. Склеп новы (пограб). Вароты, агароджаны вакол плотам двор.

### МЯСТЭЧКА БОБР

Першая вуліца, якая ідзе з рынку да Славень.
Мяшчанскія пляцы з правага боку:
1) Амяльян Друцкі, ён не мае сына (3)
2) Сіла Пачуйка з сынам Іванам (3)
3) Яска Каскевіч , два сыны: Філіп і Іван (5)
4) Хадор Учмель, не мае сыноў (4)
5) Барыс Кілбасёнак (8)
6) Максім Бадак, два сыны: Ясай і Міна (8)
7) Міхалка Асута з двума сынамі : Андрэем і Ясем (8)
8) Хадор Леванавіч з сынам Харытонам (8)
9) Марыя Шэлячова з сынам Сахонам (12)
10) Сямён Анішковіч, дзеці: Васька, Сідар і два сыны Хама і Грышка (6)
11) Якаў Шпілька, двое сыноў: Юрка і Цішка (11)

12) Амяльян Кахановіч, двое сыноў : Логвін і Сцепан (12)
13) Антон Суднічонак з сынам Маісеем (12)
14) Кандрат Васькаў, сыноў двое: Іван і Максім (12)
15) Івашка Анісовіч з сынам Маісеем (11)
16) Сцяпан Яскавіч (11)
17) Дар'я Сітна, удава, з сынам Багданам (6)
18) Лаўрын Койлід, тры сыны: Косцік, Грышка і Грышко (6)
19) Лешка Усячонак, два сыны: Раман і Хама (13)
20) Астабка Бука, два сыны: Івашка і Матвей (13)
21) Настасься Мураўчыны, два сыны: Рацка і Купрэй (10)
22) Максім Шпілька з сынам Аніскам (8)
23) Яська Гайдук, двое сыноў: Яска і Іван (10)
24) Васька Сакалавец, двое сыноў: Макар і Грыцька (5)
25) Кандрат Кашэль, сын Мікалай (14)
26) Іван Росцік, мае двое сыноў: Марціна і Івана (10)
27) Федзька Сярко (12)
Тая ж вуліца з правага боку.
1) Пётр Марціновіч з сынам Філонам (7)
2) Карніла Апімаховіч, сыноў чатыры: Церах, Грыдзько, Марцін і Крыштаф (7)
3) Мікіта Марціновіч, два сыны: Марцін і Сямён (7)
4) Мікіта Чмід з сынам Сямёнам (8 1\2)
5) Гурын Сцепановіч з сынам Ахрэмам і Сямён (8 1\2)
6) Сьцяпан Калбаса з сынам Іванам (8)
7) Сямён Гурыновіч (8)
8) Івашка Карапай, мае двое сыноў: Сьцяпан і Фёдар (8)
9) Лук'ян Шпак, тры сыны: Мацей, Сьцяпан і Сымон (8)
10) Рацкова Саўкавічова з сынам Сямёнам (8)
11) Іван Васілёў, два сыны: Матвей і Гарасім (8)
12) Атрошка Чабатар (6)
13) Макар Варапаёнак з сынам Міхалкам (5 1/2)
14) Аніска Амельяновіч з сынам Васькам (5 ½)
15) Хама Шванскі (10)
16) Саўка Кравец (5)
17) Хвядося Трапачова (5)
18) Барталамей Шмяконак (10)
19) Сіла Аніскові, два сыны: Наум і Осіп (10)
20) Аляксей Панкратавіч, мае двух сыноў: Несцера і Арцёма (10)
21) Мацей Нядбальскі (10)
22) Сідар Прыстамовіч з братам Яськам (12)
23) Сіла Смаршчэнін (10)
24) Хацькова удава, пяць сыноў: Даніла, Ціхан, Павел, Васька і Марцін (18)
25) Петр Аніскові, мае двух сыноў: Івашку і Карнея (10)
26) Івашка Тарчыла, мае двух сыноў: Ахрэма і Парфена (14)
27) Іван Сакаловіч (14)
28) Багдан Вазьнічка з сынам Тарасам і Сямёнам (13)
29) Іван Якубовіч (8)
30) Карп Ганчар (24)
31) Сьцяпан Шэрневіч з сынам Піліпам (14)
32) Якаў Маскаль з сынам Яскам (11)
33) Сава Пятровіч мае сыноў двох: Радзка і Гурына (28)

**ДАЛЕЙ БАБРА – НЯМА ДАБРА**

ВУЛІЦА КАЛЯ ЦАРКВЫ
1) Міцька Малушонак з сынам Сьцяпанам (8)
2) Сьцяпан Шчарбіна мае двух сыноў : Якіма і Мікіту (8)
3) Дмітра (8)
4) Ільля Дойлід (8)
5) Марыя Осіпава (6)
6) Сава Гапейёвіч, Станіслаў Пшэсмыцкі мае двух сыноў: Ваську і Юрку (4)
7) Грыцка Шаплявы (4)
8) Юрка Помыс (4)
9) Сямёнава удава (5)
10) Кузьма Півавар з сынам Іванам (3)
11) Савасцей пастух (3)
12) Хадор Люстровіч з сынам Грышкам (7)
13) Канон Кахановіч з сынам Ярмолем (4)
14) Хіма Багданава, удава, мае чатырох сыноў: Сьцяпана, Пятра, Лук'яна, Грышку (3)
15) Грыцка Багданавіч (3)

16) Аніска Міхновіч (6)
17) Мікалай Надзеры з сынам Піліпам (6)
18) Антон Лукамлянін мае сыноў: Ахрэма, Рамана, Ісака, Мірона (10)
19) Гапон Ігнатовіч (5)
20) Поп на царкве – пляц вольны
21) Ісак Козел (5) 57
22) Арцем Літвін мае 3 сыноў: Паўлюка, Грышку і Нікіпара (5)
23) Макар Друцкі мае 2 сыноў: Осіпа і Івана (12)
24) Хадор Кааскевіч мае 3 сыноў: Юрку, Івашку і Грышку (17)
25) Арцём Друцкі мае 3 сыноў: Ярмола, Цімоха і Івана (7)
26) Кшыштаф Матвейовіч, ганчар (10)
27) Ахрэм Хадаровіч (10)
28) Яска Ахрэм (10)
29) Мітка Ігнатовіч (10)
30) Івашка Семяновіч (10)
31) Паўлюк Васькавіч мае 4 сыноў: Астапа, Ваську, Рамана і Піліпа (5)
32) Сьцяпан Панькавіч мае 5 сыноў: Сяргея, Івана, Іллю, Івашку, Яску (5)
33) Кандрат Аледзя (4)
34) Андрэй Палазынскі мае 2 сыноў: Тэдара і Мікіту (3)
35) Івашка вадавоз з сынам Івашкам -

ТАЯ Ж ВУЛІЦА КАЛЯ ЦАРКВЫ З АБОДВУХ КАНЦОЎ ПЛЯЦА СВАБОДНАЯ. НА ПАЧАТКУ ТОЙ ВУЛІЦЫ:

1)Клішка Піліповіч, 2)Ілля Варапейовіч, 3)Хадор Селядзеўка, 4) Арцём Пачтыла, 5)Павал рэзьнік
Другі канец той жа вуліцы–слабада:
1)Іван Крывапуск, 2) Апанас Палупоп, 3)Косьцюк Касьцел.

ВУЛІЦА АД ПАНСКАГА ДВАРА ДА МЛЫНУ: (левы бок)
1) Прося Малахава, удава, мае 2 сыноў: Філона і Лявона (4)
2) Станіслаў Лапіцкі (5)
3) Яска Пановіч, мае 4 сыноў: двух Іванаў, Цераха і Ігната (5)
4) Івашка Цягай (4)
5) Дзмітр Стасевіч (3 ½)
6) Яска Пруднік, мае 3 сыноў: Асташку, Івана і Сямёна (7)
7) Аўдоцця Саёнава (7)

ТАЯ Ж ВУЛІЦА З ПРАВАГА БОКУ:
1) Хведзя Буркова, удава (3)
2) Іван Балвер (5)
3) Цімошка, вадавоз мае 2 сыноў: Карнея і Левашку (5)
4) Яска Кажамячын, мае 2 сыноў: Лук’яна і Карнея (5)
5) Іван Марціновіч, арандатар, мае 4 сыноў: Гапона, Наума, Фёдара і Хадора (5)

ВУЛІЦА ЗА РАКОЙ (левы бок)
1) Мікіта Тарса (8)
2) Гаўрыла Барышка (4)
3) Васька Барышка (4)
4) Міхей з сынам Ярашам (5)
5) Амяльян Чудовіч (7)
6) Кандрат Гарасімовіч з братам, сыноў мае 2: Асташка і Хведзька (5)
7) Хама, Трапач, мае 2 сыноў: Ваську і Апанаса (7)
8) Мікіта і Раман Акуленкі, Мікіта мае 1 сына Івана, а Раман – Мануіла (10)
9) Ілля, калеснік (4 ½)
10) Мікіта, калеснік, мае 2 сыноў : Лук’яна і Юрку (4 ½)
11) Міхал Козел, мае 2 сыноў: Андрэя і Гапона (6)
12) Малах Насовіч мае 2 сыноў: Гаўрылу і Яраша (6)
13) Лукаш Счамровец (7)
14) Барыс Шаплявы (9)
15) Сямён Хацюховіч (7)
16) Сазон Цішковіч (7)

ТАЯ Ж ВУЛІЦА З ПРАВАГА БОКУ
1) Іван Вялічка мае 2 сыноў: Юрку і Аляксея (9)
2) Станіслаў Лапіцкі (5)
3) Сямён Грышковіч, півавар (5)
4) Фёдар Тарса (5)
5) Гапон Арышт з сынам Васькам (5)
6) Марка Казловіч (5)
7) Турава, удава , з сынам Яскам (5)
8) Барыс з Мошна мае 3 сыноў: Хаму, Хадора і Сымона (6)
9) Карп Міхайлавіч з братамі Азарам і Талонам; той Карп мае 3 сыноў: Цімоха, Нікіпара і Андрэя; Мазінец з братам Цішкам (7)

10) Грышка Шунька мае 2 сыноў: Ваську і Петрака (7)
11) Сямён Казёл мае 2 сыноў: Івана і Паўла (7)
12) Пятрок Дзешка з сынам Андрэем і Іванам (8)
13) Аммон(?) Лойка, мае сыноў Лявона і Івана (8)
14) Пётр Талыка (8)
15) Васіль Папяжанак з сынам Барысам (8)
16) Цішка Калеснік, мае двух сыноў (8)
17) Іван Бурышка з Сынам Якубам (8)

ВУЛІЦА, ШТО ІДЗЕ ДА СТАРОГА БАБРА ( левы бок)
1) Хоцька Курапатка, мае 2 сыноў: Атрошку і Якава (4)
2) Сьцяпан Сясіль з сынам Фёдарам (4)
3) Грышка Сакалянін (4)
4) Несьцер Карапатва з сынам Іванам (4)
5) Васька Цімаховіч, прыхожы (4)
6) Кузьма Штазкевіч з сынам (4)
7) Васька Сітоша (6)
8) Максей Дункевіч, мае 2 сыноў: Іва і Юшку (6)
9) Іван, дзягцяр (6)
10) Дакон Жыжа, каваль (6)
11) Пучына (5)
12) Равел Туровіч (5)
13) Івашка Кравец (5)
14) Меска Кравец, мае 1 сына Юрку (5)
15) Якуб Дшчанін, прыхожы, мае сына Гаўрылу (5)
16) Данілава Макарава, мае сына Хвеську (10)
17) Грышка і Ілля (5)
ТАЯ Ж ВУЛІЦА
З ПРАВАГА БОКУ
1) Іван Каваль (3)
2) Іван Шпілька (3)
3) Кузьма Луй (3)
4) Дузукова (4)
5) Новік Лявон (4)
6) Іван Казека (3)
7) Прося Мурашкіна, удава

СЛАБАДА ЗА РАКОЙ
1) Зданка Пруднік з сынам Іванам (10)
2) Лаўрын Новік Бугаёвай муж, тры сыны (10)
3) Арцём Канавалёнак (5)
4) Міхал Віцік (5)
5) Антон Сухімка, 2 сыны: Ісак і Марка (10)
6) Давыд Сушчэнін, прыхожы (10)
7) Сьцяпан Літвін, прыхожы (10)
8) Якім Дзянісовіч

Усіх гэтых мяшчанскіх prectow(?), акрамя паповага вольнага пляцу, 1291. З кожнага precta(?) пляца па 1 грошу – усяго коп. 21,31 грошы, 5 пенёнзы.
У гэтым жа мястэчку Бабры на рынку- дом гасьцінны, карчма для гасьцей і да таго ж пры тым жа мястэчку на рацэ Бабры млын з двума коламі і мост; карчма, млын і гандлёвая арэнда дае на год 220.

**ДАЛЕЙ БАБРА – НЯМА ДАБРА**

ВАЛОКІ МЯШЧАНСКІЯ З АДНАГО БОКУ РАКІ АД СЛАВЕНЬ
1) Яська Кажамякін (1)
2) Павал, рэзнік. З двума сябрамі (1)
3) Яшка Паповіч (1)
4) Гурын Сьцепанавіч (1)
5) Хадор Ласкевіч (1)
6) Астапка Бука з сябрамі (1)
7) Сямён Кахановіч з сябрам (1)
8) Сьцяпан Шчарбіна (1)
9) Яцька Манэровіч з братам (1)
10) Якаў Шпілька (1)
11) Асота Янісковіч (1)
12) Сідар Прыстрон (1)
13) Яцька Казловец (1)
14) Восіпава з Мікалаем (1)
15) Грышка Шапялявы (1)
16) Амяльян Казановіч (1)
17) Іван Васілёў (1)
18) Лешка Ашачонак (1)
19) Аніска Амелановіч з Максімам Бадаком, Івашка Верапай з братам Макарам (1)
20) Багданка і Марцін Шпілька (1)
21) Хама Шванскі (1)
22) Мікіта Дземідовіч і Васька Тарчыла (1)
23) Сямён Гурыновіч Аніскаёвым , удава
24) Сьцяпан Панковіч (1)
25) Барыс Калбашына і Іванова (1)
26) Ігнат Міцковіч і Антон

Лукаранін (1)
27) Іван Якубовіч і Хадор Зенка (1)
28) Яцька Пруднік і Кандрат Аладзя (1)
29) Фёдар, сьвятар, 1 вольная
30) Кандрат Васілёў і Васька Сілін (1)
31) Канон Качановіч (1)
32) Сіла Анішковіч (1)
33) Хадор Левановіч (1) 34) Рахава (1)
35) Мішка Шапавал (10)
36) Андрэй Палажынскі (1)
37) Анішка Міцінковіч (1)
38) Васька Сягло (1)
39) Сьцяпан Келбаса (1)
40) Лаўрэн Хадаровіч і Макар Драніца (1)
41) Кандрат Казёл (1)
42) Паўлюк Васковіч і Ісак Казёл (1)
43) Іван Марціновіч (1)
44) Хадор Юхновіч (1)
45) Хадор Каскевіч (1)
46) Кандрат Аладзя (1)
Гэтых усіх валок 43, зь якіх адна –на папа, бо Баброўскай царкве вольная. Плата з валок - 42, з кожнай валокі па грошу семдзесят пяць, лічы 52 капы, 30 грошы, 1 пенёндз.

ВАЛОКІ ТАГО Ж МЯСТЭЧКА БАБРА ЗА РАКОЙ
1) Мацьвей Янковіч і Васька Цімаховіч (1)
2) Малах Насовіч і Васька Буры (1)
3) Кузьма Шташковіч (1)
4) Івашка Кравец і Якуб Шычэнін (1)
5) Раман Акула і Раман Мачаніковіч (1)
6) Грышка Рудзько і Сямён Казёл (1)
7) Карп Мечабёнак (1)
8) Мікіта Торса і Сямён Казёл (1)
9) Якім Дзянісавіч і Нікіпар Сітовіч (1)
10) Кандрат Гарасімовіч (1)
11) Гапон Арыстовіч (1)
12) Міска Кравец і Лук’ян Сазановіч (1) 13) Іван Шунько і Давыд Шычыніч (1)
14) Петрык Сечка і Васька сірата (1)
15) Лявон Лойка і Сямён Хацюховіч (1) 16) Міхал Казёл (1)
17) Мікіта, калеснік (1)
18) Амяльян Маскаль і Мікіта Кажановіч з Хадорам (1)
19) Пётр Талыка і Павал Матусовіч (1)
20) Фёдар Тарса (1)
21) Жданко, пруднік (1)
22) Міхей Кавалёнак, Андрэй Лук’яновіч, Аляксей Канановіч (1)
23) Барыс Машна (1)
24) Сямён Грышкевіч і Сьцяпан Літвін (1)
25) Іван Вялічка (1)
26) Барыс Шаплаў са Сьцяпанам Літвіном (1)
27) Ісак і Цімох Хавіновічы (1)
28) Лукаш Чаўровіч (1)
29) Мікіта Акула (1)
30) Гаўрыла Бурышка і Іван Дзягцяр (1)
31) Хама Трапач і Анані Матвіёвіч (1)
Гэтых зарэцкіх валок 32, плаціць з кожнай валокі дзьве па 80 грошы, лічы 42 капы, 40 грошаў.
Павіннасьць гэтых местачкоўцаў Баброўскіх - гвалт на засыпанне грэблі ля млына як з коньмі так і пешшу.. езьдзіць туды, куды загадаюць.

МОРГІ МЯСТЭЧКА БАБРА
1) Кандрат Аладзя (1)
2) Яцька Кажамяка (9)
3) Несьцер Шэмет (1)
4) Сьцяпан Келбаса (2)
5) Сьцяпан Панко (2)
6) Хадор Каскевіч (2)
7) Лаўрын Сьцепановіч (2)
8) Іван Цішкевіч, каваль (3)
9) Яцька Гайдук (2) 10) Аніска (2)
11) Мацьвей Цыбуля (1)
12)Грышка Прыстрон (1)
13) Лаўрапай (2)
Пры гэтых моргах–два засьценкі, якія трымаюць за плату Якаў Шпілька і Мікіта Марціновіч, местачкоўцы, за 28 грошай. З гэтых моргаў 31 ½ павінны плаціць плату па тры грошы з кожнага моргу, усяго 1 капа, 34 грошы, 5 пенёндзаў, а асабліва 32 зарэцкіх моргаў, яны ў пустцы ляжаць. Пры гэтых

моргах удава Турава трымае засьценак за 10 грошай.

СЬПІС ВАЛОК У БАБРОЎСКАЙ ВОЛАСЦІ Сяло Стары Бобр
1) Ігнат Сафановіч (1)
2) Грышка Лук'яновіч, 3 сыноў мае: Дмітр, Маісей і Сьцяпан (1)
3) Кузьма Анімаховіч з Хролем (1)
4) Андрэй Бачкаронак з сынам Грышкам: у гэтага Грышкі-сын Трухан (1)
5) Сава Марціновіч, 3 сыны : Логвен, Даніла і Сямён (1)
6) Міхал Церах і Грышка Карніевічы і 2 сыны: Купрэй і Міхалка (1)
7) Равел Шавялёнак, сын Філіп Барыс (1)
8) Васька Асіповіч з братанезамі: Філіпам, Нуклам, Янкам і Петрусём (1)
9) Цішка Журавічонак з братамі Арцюхом і Петрусём (1)
10) Майсей Крашко, сын Хадор (1)
11) Амяльян Зараўчонак і Даніла Лойка; у гэтага Данілы сын Іван (10)
12) Савасьцей Асіповіч мае 4 сыноў: Васіля, Косьціка, Яраша і Андрэя; Фёдар і Карп Бачкаронак, мае 4 сыноў: Акіма, Лазара, Івашку, Ахратэя (1)
13) Піліп Лук'яновіч, 2 сыны: Арцём і Паўлюк (1)

ЗА РАКОЙ БАБРОМ
14) Дзяніс Крывачынец, 2 сыны: Андрэй і Ціт (1)
15) Мацей і Абросі Дземідовіч, Амброса сын Астапка і Апанас (1)
16) Міхал Сапрановіч з Міхалкам Рызовічам, сын Івашка (1)
17) Сямён Супрановіч, 2 сыны: Грышка, Андрэй (1)
18) Грышка Супрановіч, сын Юрка (1)
19) Лапава, вольная (1)
Пустых у гэтым жа сяле Старым Бабры - 28.
Гэтых усіх валок у сяле Бабры 48, з якіх адна - вольная;
пустых валок - 28;
плата - 19 з кожнай валокі;
плаціць па 75 грошай - усяго 23 злотых.
Павіннасьць гэтага сяла Бабра: маюць даваць кожны год мёду даніннага медніц 20; збожжа дзяклавага жыта з валокі па кракаўцы, аўса з валокі па паўтара кракаўкі, льну па катку, альбо 8 грошаў, па какошы; да млыну на гвалт на засыпаньне грэблі, падводы kolejo drew(?) з валокі 10 вазоў, да двара і на варту з валокі па тыдню.
За гэтым сялом Старым Бабром у мілі маленькае сяло Слабада Прудзенская, якую залажыў пан Станіслаў Галінскі; у ей як пляцаў так і валок вымераных не маем, з якіх і павіннасьці да некалькіх дзесяткаў год у скарб не будзе.

**ДАЛЕЙ БАБРА – НЯМА ДАБРА**

СЯЛО САКАЛАВІЧЫ
1) Ісак Грышковіч, 3 сына: Амяльян, Гаўрыла і Васька (1)
2) Сьцяпан і Мікіта Гарбачонкі, сыны: Цімох, Аляксей (1)
3) Іван Арцімонкаў, 1 сын Мікіта (1)
4) Анан Раковіч з Аксінтам, у гэтага Аксінты 4 сыны: Лявон, Кузьма, Хадор і Сьцяпан (2)
5) Юда Жыверчыч з братамі, у гэтага Юды 3 сыны: Максім, Ігнат і Хведар (1)
6) Кузьма Раковіч, мае сына Якіма (1)
7) Сапроў Жыверчыч, 3 сыны: Кузьма, Грышка і Хведзька (1)
8) Астапка Дзьмітровіч (1)
9) Аксінка Ракітовіч трымае трэцюю частку валокі, а ў пустцы дзьве трэці валокі (1)
Гэтых сакалавіцкіх валок 12, з якіх адной валокі дзьве часткі ў пушчы(?), а на плачэньне плата 11 валок і 1/3, плаціць з кожнай валокі па 74 грошы, усяго 13 коп, 38 грошай.
Павіннасьць гэтага сяла Сакалавічы: маюць даваць мёду даніннага 7 медніц, збожжа дзяклавага жыта з валокі па 1 кракаўцы, аўса па паўтары кракаўкі, льну з валокі па коку, альбо па 8

грошай; па 1 какошы; падвода collejo(?), таксама да млыну на гвалты для засыпаньня грэблі; дроў з валокі па 10, да двара падводы colloo(?) ; nastrar (?) да двора з валокі па тыдню.

СЯЛО МАНАСТЫРЫ
1) Адсьцянка ў пушчы (?) (1)
2) Лявон Барысавіч зь Якімам, 4 сыны: Ян, Андрэй, Апімах і Сьцяпан (1)
3) Кузьма Блесікавіч з Сямёнам прыхожым у пушчы (1)
4) Лявон Пастайковіч, 2 сыны: Самушка і Сяргей (палова валокі)
5) Грышка Астроўчыч з Івашкам сябрам прыхожым (1 у пушчы)
6) Харытон Касазевіч з Лявонам сябрам, у яго 2 сыны: Сьцяпан і Максім (1)
7) Кузьма Кудлай, 3 сыны: Дмітр, Пётр, Івашка; Андрэй Карагод, 2 сыны: Сяргей і Платон; гэты Карагод-адна (2)
8) Янка Марцюшонак з Лявонам Барысовічам. Янка прыхожы (1)
9) Іван Дземідовіч, 4 сыны: Васька, Сідор, Матвей і Аліпа адзін; гэты ж Іван Дземідовіч адзін, Іван Логвін Бварашка і Грышка сын - адна (3)
10) Конаш Хвічовіч з Арэстам Юрковічам і ў Конаша сыны тыя ж Апанас, Арэст, Максім і Якаў адзін. Арэхва Аляшковіч, 3 сына: Апанас, Грышка, Івашка адна. (2)
11) Якім Пляшковіч з братам Кузьмой (1)
12) Яраш Пляшковіч, 3 сыны: Якім, Фёдар і Астапка (1)
13) Сьцяпан, Гаўрыла і Атрошка Пастайковічы (1)
14) Сямён Казімір, старая з сынам Тарасам (1)
15) Майсей Івашэвіч (1)
16) Карней і Мірон Юрковічы і Міноў сын Гарадзей (1)
17) сянная валока, у пушчы ляжыць (1)
Пры гэтым жа сяле пляцы, на якіх падданы ў пушчы: у гэтым жа сяле Манастырах ляжыць адзін пляц у пушчы. Кузьма Пляшковіч з сябрам-адна; Лявон Пастайковіч-адна; Сьцяпан і Атрошка Пастайковічы-адна; Якаў Барысовіч-адна Іван Дземідовіч-адна, Сямён Старац-адна, Харытон Скалішэвіч, Андрэй Карагоддзьве; Кузьма і Андрэй-у пушчы адна; Янка Марцішонак-адна; у гэтым жа сяле Манастырах усіх валок 26, з каторых у пушчы-5; плата за валокі 21. Плаціць з валокі па 74 грошы, усяго 25 коп, 30 грошай; а пляцаў у гэтым сяле 15, з якіх у пушчы-2, а на плату-13 пляцаў, з 10 пляцаў па 20 грошай, з чатырох пляцаў-па 16 грошай, усяго 4 капы, Б грошай.
Павіннасьць гэтага сяла Манастыра: маюць даваць збожжа дзякельнага: жыта в валокі па 1 кракаўцы, аўса з валокі па кракаўцы і па палове салянкі; па 1 какошы, льну па коку альбо па 8 грошай гасіпа (?) па два патройных да млына на гвалты для засыпаньня грэблі, дарожныя падводы, на варту ў двор па тыдні.

СЯЛО ПАНКАВІЧЫ
1) Ціт Андрыёвіч, 2 сыны: Андрэй і Акула (1)
2) Яська Літвін з Андрэем Дзяхрэм (1)
3) Фёдар Валковіч з Панцелеем, 3 сыны: Максім, Ахором і Марка (1)
4) Савасьцей Тарасавіч з Андрэем Дайлідовічам, сын Якаў (1)
5) Сідар Шабанёнак, 2 сыны: Іван і Піліп (10)
6) Гаўрыла Тарасёнак з сынам Сямёнам і Грышка сябар (1)
7) Купрэй Шарабанёнак з сябрам Андрэем (1)
8) Марцін Шавялёнак з братам (1)
9) Сямён Алексіевіч, сын Грышка (1)
10) Васька Сямяновіч (1)
11) Матвей Алексіевіч, 2 сыны: Марка і Сідар (1)
12) Сьцяпан Скуратовіч з сябрам (1)
13) Яцка Маціевіч (1)

14) Іван Ледмінец, сыны два: Курыла і Філон (1)
15) Сазон Грышковіч з Ігнатам Магуцкевічам (1)
16) Сазон Пляцковіч, 4 сыны: Аляксей, Яраш, Хілька і Якаў у пушчы (1)
17) Осіп Хадаровіч з Стаськам Патопкам (адна на слабадзе ў пушчы ) (2)
Гэтых валок у Панкавічах 20, з якіх у пушчы-3, на слабадзе-1, для плачэння платы-16 валок; плаціць з валокі па 74 грошы, 12 коп, 24 грошы.
Павіннасьць гэтага сяла такая ж, як і сяла Манастыры.
Засьценак Лапацінскі, які ляжыць паміж уладаннямі (gkuntami?) князёў Горскіх і Сурыноўскіх. Гэты трымае баярын Павел Лапата на немяжованай (?) слабадзе.
Na com(?) даў яго мосьці пану Крыштофу Камару і гэты інвентар маёмасьці маёй Баброўскай сьпісаны пад пячаткай і з подпісам рукі маёй уласнай. Пісаны ў Шклове.

**ДАЛЕЙ БАБРА – НЯМА ДАБРА**

## ЛІТАРАТУРА І КРЫНІЦЫ


1.Архіў Харугвы Скаўтаў Малога Палесься (АХСМП) г.Крупкі, захавальнік А.П.Аляхновіч.
2.Бяроза М. (М.А.Баравуля). Малітва за Беларусь. Крупкі 2003.
3.Грыцкевіч В., Мальдзіс А.Шляхі вялі праз Беларусь. Мн.,1980.
4.Леўчык А., Нячай А.Геральдычнае сузор'е. Мн.,2004.
5.Насевіч В.Л.Час курганоў 9-13стст., машынапіс, (АХСМП).
6.Насевіч В.Л. Перыяд "залатога веку"( Ускладзе Рэчы Паспалітай), машынапіс, (АХСМП).
7.Насевіч В.Л. Род князёў Друцкіх у гісторыі ВКЛ. Артыкул ў зборніку "Старонкі гісторыіі Беларусі" Мн., 1992.
8.Гісторыка-дакументальная хроніка: "Памяць Крупскі раён", Мн.,1999.
9.Урбан П.Старажытныя ліцвіны: мова, паходжанне, этнічная прыналежнасць. Мн., 2000.
10.Цітоў А. Гарадская геральдыка Беларусі. Мн., 1989.
11.6-цітомнік "Энцыклапедыя Гісторыі Беларусі", Мн., 1993-2003.
12."Малое Палессе-2003", краязнаўчы альманах. Крупкі 2003.
13."Малое Палессе-2009", краязнаўчы альманах. Крупкі 2009.
14. Сигизмунд Герберштейн "Записки аб Московии", М., 1988.

# Уніяцкія цэрквы Крупшчыны ў 1682 годзе



**ПЕРАКЛАДЫ** / Алесь СТРАЛЬЦОЎ, Андрэй АЛЯХНОВІЧ

*У 2009 годзе пабачыла сьвет кніга Д.В.Лісейчыкава "Візіты уніяцкіх цэркваў Мінскага і Навагрудскага бораў 1680-1682гг.". Укладальнік зрабіў велізарную працу, адкрыўшы нам цікавейшую старонку мінулага. З трымценьнем у рукох прачыталі мы раздзел кнігі, што тычыцца Крупшчыны. Здаецца, за сухім радком дакумэнта, перад намі ажылі людзі й падзеі больш як 300-гадовай даўніны.*

Нам дакладна стала вядома, што ў тагачасным мястэчку Нача існавала дзьве уніяцкіх царквы: царква Сьвятога Кузьмы і Дзямьяна і царква Сьвятой Троіцы. А ў самаго мястэчка было на тэй час два ўладары: "яго міласьці пан Служка, стараста Рэчыцкі" і "вяльможны яго міласьці пан Ян Казімір Сапега стараста жмудзкі, гетман польны Вялікага Княства Літоўскага".
А самы багаты цудатворны абраз на імя Сьвятой Праскоўі знаходзіўся ў царкве Сьвятой і Вялікай Мучаніцы Параскоўі ў вёсцы Падліпье (зараз Восава Бобрскага с/с). З тэксту вынікае, што ў вёсцы была царква й капліца ў гонар гэтай сьвятой.
Між іншым, дзякуючы гэтаму выданьню, мы даведаліся новыя даты першага упаміну некаторых нашых вёсак у пісьмовых крыніцах. Так, у 2012-м, сваё 330-годдзе змогуць адзначыць вёскі Вялікая Слабада, Дакудава, Куты, Маслёнка і Падліпа (зараз Васава Бобрскага с/с).
А усіх паселішчаў на Крупшчыне, што ўзгадваюцца ў візітацыі 1682 года налічваецца – 31, вось яны па размяшчэньню ў тэксце: Жаберычы, Дакудава, Радзіца, Нача, Ігрышча, Клён, Выдрыца, Горадна, Малое Горадна, Шырневічы, Крупкі, Падліпа (зараз Восава Бобрскага с/с), Бобр, Сакалавічы, Стары Бобр, Пліса, Куты, Прудзіны, Ігрушка, Шэйка, Вялікая Слабада, Панскае (зараз Майск), Масьлёнка, Шарнева, Ганішава (?), Ухвала, Стары Сакол, Пышачы, Старыя Дзянісавічы, Скакоўка, Сомры.
На вялікі жаль ні аднай царквы ці каплічкі не захавалася да нашага часу. Толькі

фота Сьвятамікалаеўскай царквы ў Бабры (гл. ніжэй) можа нам дапамагчы прыблізна ўявіць, як выглядалі нашыя уніяцкія сьвятыні.
Ніжэй пададзены: выбраныя фрагмэнты з ўводзінаў да кнігі паважанага аўтара Д.В.Лісейчыкава; далей – выбраны пераклад разьдзела кнігі, што тычыцца Крупшчыны; завяршаецца публікацыя пералікам зносак.

## УВОДЗІНЫ, ВЫБРАНЫЯ ФРАГМЭНТЫ (старонкі 4-30):

...Візіты складзены на польскай мове з невялікім працэнтам царкоўнаславянскіх словаў і беларусізмаў.
...Асобай, што ініцыявала правядзенне візітацыі, з'яўляецца мітрапаліт Цыпрыян Жахоўскі.
...Ва ўказе Ц.Жахоўскага называюцца асобы, што павінны праводзіць візітацыю цэркваў Мінскага сабору 1682г. Гэта слонімскі і парэцкі пратапоп марцыян Пятровіч, генеральны візітатар і святар царквы ў в.Пагарэлае Мінскага пав. Самуэль Загорскі, памочнік і, хутчэй за ўсё, - пісар.
...Храналогія правядзення візітацыі па пратапопіях выглядае наступным чынам:
...Барысаўская – не раней за сакавік 1682г.
...Нават цэрквы з цудатворнымі абразамі мелі невялікую колькасць вытывы.
...Для захавання запасных Святых Дароў канонамі была прадугледжана спецыяльная ёмістасць – дараносіца з золата альбо срэбра. На практыцы ж у большасці выпадкаў для гэтых мэтаў служылі дараносіцы валавяныя.
...У некаторых бедных цэрквах у якасці дараносіц выкарыстоўваліся тыя ж самыя паціры (келіхі), з якіх адбывалася прычашчэнне вернікаў, альбо нават сталовыя ёмістасці для солі – сальнічкі. Так было ў г.Барысаве, м.Крупкі... .
...Багатым убранствам вылучаліся тыя нешматлікія храмы, якія не былі абрабаваны (альбо ўвогуле разбураны ці спалены) маскоўскімі і казацкімі войскамі ў 1654-1667гг.
...Многія цэрквы начыння не мелі ўвогуле.
...У вёсцы Ігрушка Аршанскага пав. царкоўнае начынне схаваў і не дазволіў апісываць сам святар Дзяніс Акаловіч. Матывацыю такога ўчынка патлумачыць цяжка. Магчыма, айцец Дзяніс, як і многія іншыя святары, падчас падзеяў 1654-1667гг. пакінуў унію і нават



**Партрэт мітрапаліта Цыпрыяна Жахоўскага 1681г.,(невядомы мастак).**

у 1682г. не пажадаў падпарадкоўвацца уніяцкаму кіраўніцтву.

…Згодна з тэкстам візітаў, фундушы давалі святарам права на тры асноўныя крыніцы дабрабыту: зямельныя ўладанні (амаль у кожнай царквы паўтары-дзве валокі), пляцы, на якіх будавалася плябанія альбо "садзіліся" агароднікі і прыгонныя сяляне.

…Працэнт цэркваў, пры якіх меліся ўласныя прыгонныя альбо агароднікі, быў даволі вялікім. Як вынікае з тэкста візітаў з 212 цэгкваў прыгонныя былі ў 45 (альбо 21,2% ад агульнай колькасці). Усяго ў тэксце ўзгадваюцца 123 прыгонныя дымы. Іх размеркаванне па пратапопіях выглядае наступным чынам:

…Барысаўская – 16;

… Адной з самых цікавых асаблівасцей візітацыі 1680-1682гг. з'яўляецца наяўнасць т. зв. "маскоўскага следу". Часцей за ўсё Масковія ўзгадваецца ў негатыўным сэнсе, у такіх словазлучэннях, як "маскоўскае нашэсце" альбо "маскоўская навала". Як правіла гэтыя словаспалучэнні ўжываліся пры апісанні прычынаў занядбанага стану цагкоўных будынкаў.

…Аднак часы т. зв. Маскоўшчыны пакінулі і пэўны станоўчы след ва уніяцкіх храмах. Многія цэркви займелі сярод свайго начыння рэчы "маскоўскага" паходжання (так, у в.Падліпье (зараз Восава Бобрскага с/с) знаходзіўся "абразок маскоўскі, аправы ў срэбра з каменьнямі насаджаны" – гл. ніжэй-рэд.)

…для азначэння праваслаўя ў візітах выкарыстоўваецца дакладны тэрмін: "схізма" альбо схізматыкі". Абразы ж увогуле не маюць яскравай кафесійнай прыналежнасці. Так што т. зв. Маскоўскія рэчы былі альбо прывезены з маскоўскай дзяржавы калятарамі альбо, што мала верагодна былі падараваны прадстаўнікамі новых уладаў у часе вайны. Ускосным чынам наяўнасць маскоўскага следу можа свед'дчыць аб тым, што ў часе вайны 1654-1667гг. храм перайшоў пад праваслаўную юрысдыкцыю.

…вайна 1654-1667гг. паставіла перад уніяцкай царквой новыя пытанні і прымусіла падлядзець на феномен уніі па-новаму. Уніят цяпер успрымаўся як чалавек грэцкай рэлігіі, што захаваў вернасць найперш Рэчы Паспалітай, а пасля ўжо Апостальскай Сталіцы.

…Многія святары і вернікі пакінулі ідэю еднасці цэркваў і вярнуліся да праваслаўя. Асаблівага размаху гэты пераход набыў на ўсходнебеларускіх землях. Дакладны маштаб суадносін "унія/дызунія" у новых, пасляваенных, умовах быў невядомы.

…З дзесяці пратапопій Мінскага сабору, толькі шэсць здолелі захаваць сваю даваенную структуру. …Барысаўская, хоць і здолела захаваць структуру, страціла шмат прыхаджанаў – на 18 цэркваў пратапопііпналічвалася ўсяго 1585 душ. У самім Барысаве (разам з навакольнымі вёскамі) засталося толькі 50 уніятаў. "Горад Барысаў – амаль усе схізматыкі" – гаварылася ў візіце.

…Вяртанне парафіянаў да праваслаўя мела месца яшчэ і таму, што ва уніяцкіх цэрквах часта не хапала святароў. Калі побач дзейнічаў праваслаўны прыход – сяляне звярталіся з духоўнымі патрэбамі да праваслаўнага айца. Але з цягам часу сітуацыя для уніятаў палепшылася.

…Адзінства заходняй і Ўсходняй цэркваў ставілася ў многіх выпадках на першае месца.

## ВЫБРАНЫ ПЕРАКЛАД (СТАРОНКІ 72-80):

### МІНСКІ САБОР БАРЫСАЎСКАЯ ПРАТАПОПІЯ

**Царква і капліца ў г.Барысаў і капліца ў м.Радзіца Аршанскага павету.**

У Барысаве, месце Яго Каралеўскай Міласьці, дзяржавы вельможнага яго міласьці пана

Яна Казіміра Сапегі гетмана польнага старасты жмудцкага.

Царква закладаньня Перамяненьня Пана пры якой вялебны айцец Марка Клемантовіч застаецца. У якой венерабіле[1] ў саленічцы цыновай на алтары. Тувален[2] дзьве, трэці абрус[3].

Літонаў[4] два, антымінс[5] самаго яго міласьці, келіх[6] цыновы (валавянны-рэд.) з патэнай[7] звязьдзіцай[8] і лыжачкай[8a]. Ваздушкаў[9] – тры, малых два, трэці вялікі. Аператаў[10] два, адзін кітайчаны[10a], блакітны, другі пулсайковы з нарукаўнікамі[11] і са стулай[12]. Альба[13] ткацкая, на абразах павешаных туваліны тры, харугвачак[14] дзьве. Кнігі ўсе вялебнага айца, званоў два на званніцы, да падпісаньня – адзін. Фундуш[14a] пры вялебным айцы: грунт каля царквы 8 валокаў[15], падданых 10 асобаў, пляцаў[16] – 4, плябанія на пляцах места, будынкі: пякарня, сені, свіран, аборы, гумно, піўніца (бровар-рэд.). Парафія: Барысаў места альбо ўсе схізматыкі, вёскі Дымкі, Ухалода, Млехаў, Жаберычы, Дакудава. Душаў 50.

У гэтым месцы Барысаве места на якім царква Мікалая Сьвятога стала. Другое месца на якім Троіца Сьвятая. Трэцяе места на якім Нараджэньня Найсьвяцейшай Марыі Панны. Загадаў паставіць крыж.

Чацьвёртае Сьвятога Юрыя.

Гэты ж вялебны айцец, пратапоп барысаўскі трымае цэркву ў мястэчку Радзіца Сьвятога Ільлі Прарока. Да гэтай царквы грунту валока, пляцаў два, звон адзін. Апэрата ніякага, а ні келіха няма. З гатовым аперамэнтам вялебны айцец пратапоп выязжае.

**Царква Сьвятога Кузьмы і Дзямьяна у м.Нача Аршанскага пав.**

У Начы, маёмасьці яго міласьці пана Служкі, старасты Рэчыцкага. Царква Кузьмы і Дзямьяна, пры якой вялебны айцец Ян Федаровіч застаецца. У якой венерабіле знаходзіцца ў пушцы[16a] цыновай. На алтары вялікім тувалінаў тры, літон адзін, антымінс яго міласьці ксяндза Селявы. Келіх цыновы з патэнай, звяздзіца і лыжачка. Ваздушкаў малых два, трэці вялікі. Аператаў два, адзін бурацікавы[17], другі кітайчаны. Стула адна кітайчаная чырвоная. Нарукаўнікі кітайчаныя чырвоныя. Альба простага палатна. Ліхтароў два медных. Кадзільніца медная. Кнігі: Евангельле пісанае, Апостал друкаваны[18], Актоіх друкаваны[19]. Іншыя кнігі вялебнага айца. Харугвачка адна. Свечаў брацкіх чатыры. Званоў на званніцы два, да падпісаньня адзін. Фундуш у вялебнага айца. Грунту да гэтай царквы тры валокі. Пляцаў восем. Плябанія вялебнага айца: ізба белая, пякарня, сені, гумно, аборы. Парафія: мястэчка Нача. Душ 60.

**УНІЯЦКІЯ ЦЭРКВЫ КРУПШЧЫНЫ Ў 1682 ГОДЗЕ**

**Царква Сьвятой Троіцы ў м.Нача Аршанскага пав.**

У мястэчку Начы, маёмасьці вяльможнага яго міласьці пана Яна Казіміра Сапегі старасты жмудзкага, гетмана польнага Вялікага Княства Літоўскага.

Царква Сьвятой Троіцы, пры якой вялебны айцец Міленты Багдановіч застаецца. У якой венерабіле ў пушцы цыновай. На алтары пяць тувалінаў. Літонаў два. Келіх з патэнай, звязьдзіца цыновая. Ваздушкаў два (зверху дапісана: чатыры) і вэлюм адзін саёвы[20]. Аператаў две, адна кітайчоная селезьнёвага[21] колеру, а другая чорная, напоўаксамітная зусім. Альбаў дзве, адна вышываная едвабам, другая простага палатна. Тувалін на абразах дзесяць. Харугвы дзьве, харусовыя[22], зялёныя. Абразоў намесных шэсьць. Дэісус поў-



**На фота: бобрская царква Сьвятога Мікалая ў пач. XXст.**

ны[22a]. Свечаў брацкіх дзесяць. Ліхтароў медных пяць. Кадзільніцы дзьве, адна срэбная, а другая медная. Кнігі: наперад Евангельле напрэстольнае, Апостал царкоўны і Псалтыр[23] Ірмалойчык[24]. Іншыя кнігі вялебнага айца. Званоў на званніцы чатыры, адзін да падпісаньня. На абразе Найсьвяцейшай Панны таблічак[25] пяць, карона адна срэбная, шнурэк караляў з капеяк. Грунту 2 валокі. Пляцаў два, на якіх плябанія вялебнага айца. Будынкі: пекарня з сенямі, гумно, свіран адзін, асець, аборы. Парафія: мястэчка Нача, вёскі Выдрыца, Горадна, Горадна меньшае, Шырневічы ў гетмана. Падданых 6. Душ 200.

**Царква і капліца**
**ў м.Крупкі Аршанскага пав.**

У мястэчку Крупцы, маёмасьці яснаасьвечанага князя яго міласьці пана Сангушкі.

Царква Перамяненьня Збавіцеля Нашага, пры якой вялебны айцец Ёзаф Акуловіч застаецца. Венерабіле ў саленіцы цыновай не так як належыць капланам мець. Келіх цыновы з патэнай і з усімі прыналежнасьцямі да яго. На прастоле і на абразах туалін 10. Аперат шкарлатны цэгласты (ярка-чырвоны) і патрахіль[26] з паруччам[27]. Абразы старыя. Харугвы дзьве. Званоў два. Грунты да гэтай царквы належачыя паводле фундацыі наданыя валокаў дзьве. Пляцаў у мястэчку Крупцы два. Парафія: адно мястэчка Крупка у якой пражывае. Там таксама другая царква (капліца) Ражаства Прасьвятой Багародзіцы.

**Царква і капліца**
**ў м.Бобр Аршанскага пав.**

Пад Ліпай, за местам Бабром у маёмасьці вяльможнага яго міласьці пана Гераніма Комара, судзьдзі земскага аршанскага.

Царква Сьвятой і Вялікай Мучаніцы Параскоўі, у якой вялебны айцец Стэфан Акуловіч застаецца. На Алтары Вялікім абраз Панны Найсьвяцейшай апраўлены ў срэбра залацістым. Там са Сьвятога Антонія рамы апраўныя. На гэтым абразе таблічак пяць (паверх дапісана – 7) срэбраных, крыжыкаў два, абразоў чатыры, таблічак цыновых шэсьць, туалінаў шэсьць.



**УНІЯЦКІЯ ЦЭРКВЫ КРУПШЧЫНЫ Ў 1682 ГОДЗЕ**

**Сучасны выгляд царквы Сьвятога Юрыя ў в.Шыйка (2008г).**

У другой капліцы, дзе абраз самой Сьвятой Праскоўі. На гэтым абразе таблічак срэбных 36, таксама таблічак медных чатыры, мастацкім золатам пазалачоныя. У гэтай жа каплічцы абразоў і тувалінаў восем. Ліхтароў медных 4. Лямп вісячых, бляшаных 3. Сьвяча брацкая адна. Завушніцаў чатыры. Крыжыкаў 3. Там жа абразок маскоўскі, аправы ў срэбра з каменьнямі насаджаны. Аперат рымскі поўнасьцю, са стулай і маніпулярыем[28]. Евангельле апраўнае. А пры гэтай капліцы звон другі да падпісаньня.

У месцы самім Бабры называным, тагож фундатара вельможнага яго міласьці пана судзьдзі земскага аршанскага, у якой вялебны айцец вышэйназваны застаецца. Царква Сьвятога Мікалая. У алтары венерабіле ў пушцы цыновай стаяць. У гэтай царкве абразоў намесных 4, а пяты на алтары Панны Найсьвяцейшай. Антэпэдыум[29] зялёная кітайчоная. Дэісус добра выстаўлены. Царскія вароты залацістыя чаканай работы. Аперата да гэтай царквы належачыя. Келіх срэбны пазалачоны з патэнай і звязьдзіцай срэбнай. Крыж срэбны адзін. Рызы чатыры, адна кітайчоная, другая саёвая, трэцьцяя палатняная, чацьвертая паўаксамітная з усімі неабходнымі рэчамі. Працэссы дзьве, адна бледнабелая, другая харусова-чырвоная. Тувалін 12. Альбаў дзьве. Званоў два. Кнігі: Евангельле напрэстольнае, кніга Златавуснага выданая[30], кніга Трэфалой пісаны[31], Апостал, Псалтыр, Часаслоў[32]. Фундушу валокаў 2. Пляцаў 2. Плебанія, будынкі ў ёй: ізба белая, пекарня, свіран, гумно, асець, аборы. Парафія: мястэчка Бобр, вёскі Сакалавічы, Бобр Стары, Пліса, Куты, Прудзіны. Душаў 120.

**Царква ў в.Ігрушка Аршанскага пав.**

У Грушцы, маёмасьці найсьвяцейшага князя яго міласьці Сангушкі.

Царква Кузьмы і Дзямьяна пры якой вялебны айцец Дзяніс Акаловіч застаецца. У якой венерабіле ў пенагіце[33]. Тувалінаў на алтары два, на абразах тры. Келіх з патэнай, звязьдзіца і лыжачка цынова. Вэздушкаў тры. Харугвачак дзьве. Звон на званніцы. Апарамэнт увесь вялебны айцец схаваў, не пазволіў візітаваць.

**Царква ў в.Шэйка Аршанскага пав.**

У Шыйцэ, маёмасьці найсьвяцейшага князя яго міласьці Сангушкі.

Царква Сьвятога Юрыя, пры якой вялебны айцец Геранім Тышкоўскі застаецца. У якой венерабіле ў скрынцы цыновай стаяць. Літонаў два. Келіх цыновы з патэнай, звязьдзіца і лыжачка срэбна. Вадзушкаў тры. Тувален на абразах чатыры. Харугвачак чатыры. Кнігі: Евангеліе, Апостал, Празьнейка[34], Актоіх, Псалтыр. Аперат бураціковы, стула, нарукаўнікі чырвоныя. Свечаў брацкіх тры. Антымінсу няма. Звон на званніцы адзін, дзеля падпісаньня малы. Грунту валокаў дзьве. Плебанія: пекарня, сені, обора. Парафія: Шыйка, Слабада, Панскае, Масьлёнка, Шарнева, Ганішэва. Душаў 130.

**Царква ў м.Ухвала і капліца ў в.Сакол Аршанскага пав.**

Мястэчка Ухвала яго міласьці пана Сапегі, гетмана польнага.

Царква Пакрава Найсьвяцейшай Панны, пры якой вялебны айцец Леонцій матвіевіч застаецца. У якой венерабіле ў скрынцы цыновай. Літон адзін. Вадзушкаў малых два, трэцьці вялікі. Антымінсу няма. Келіх цыновы з патэнай, з звязьдзіцай і лыжачкай. Аперат бураціковы з стулай і нарукаўнікамі. Альба простага палатна. Абрус адзін. Усіх тувалін 13. Абразоў намесных чатыры. Харугвы дзьве. Сьвеч брацкіх чатыры. Кадзільніца медная. Звон на званніцы, да падпісаньня другі. Кнігі: Евангельле напрэстольнае, астатнія кнігі вялебнага айца. Грунту валокаў дзьве. Пляца два. На тых пляцах плябанія вялебнага айца будынкі: ізба белая з каморай, пякарня, сені, свіран, гумно, аборы, асець. Парафія: мястэчка Ухвала, вёскі Сакол, Пышачы, Дзянісавічы, Скакоўка. Душаў 34.

Тэй жа вялебны айцец трымае царкву ў вёсцы Сакол залажонай Найсьвяцейшай Панны Пакрова. Ніводнай фундацыі не мае. У гэтай царкве дэісус новы з усімі абразамі намеснымі. Звон на званьніцы. Да адпраўленьня сваім апарамэнтам прыязджае вялебны айцец.

Трэцьцюю каплічку тэй жа вялебны айцец трымае. У якой няма ніц. Са сваім апарамэнтам прыязджае вялебны айцец. Залажоная Сьвятога Мікалая.

**Царква ў в.Дзмітравічы і капліца ў в.Гібайлавічы Аршанскага пав.**

У Дмітравічах, маёмасьці яснавяльможнага яго міласьці пана Яна Казіміра Сапегі, гетмана польнага.

Царква Сьвятога Ільлі, пры якой вялебны айцец Сімеон Стэфановіч застаецца. У якой венерабіле з цымборыем[35] у скрынцы цыновай. Літонаў два. Тувалінаў усіх шаснаццаць. Келіх цыновы з патэнай, звязьдзіца і лыжачка. Вадзушкаў тры бураціковых. Аперат бураціковы, стула, нарукаўнікі атласавыя. Альба простага палатна. Антымінс самога яго міласьці. Кнігі: Евангельле, Апостал, Актоіх, Празьнейка, Псалтыр, Ірмалой. Харугвачак дзьве. Званоў два на званніцы, да падпісаньня адзін. Фундушу няма. Парафія: Арэшкавічы, Шырневічы, Міхеевічы, Белавічы, Харчычы, Сомры. Душаў 90. Грунту да тэй царквы валокаў дзьве. Пляцу ніводнага няма.

Гэты ж вялебны айцец ў вёсцы Гібайлавічы трымае царкву Пакрова Найсьвяцейшай Панны, да якой ніякага апарамэнта не мае, ані грунту, ані фундушу.

ЗНОСКІ:

[1] **венерабіле** (лацінск. Venerabilae) – Сьвятая Еўхарыстыя, Найсьвяцейшыя Таямніцы, Сьвятыя Дары. У традыцыях Усходняй царквы – дражжавы хлеб (прасфоры) і віно, якія падчас літургіі ператвараюцца ў Цела і Кроў Хрыста.

[2] **тувальня** – рушнік. Часам так называлі шырокія італійскія рушнікі для адрозьненьня ад звычайных.

[3] **абрус**. Абрусы на прастоле сімвалізуюць вопратку Хрыста. Верхні абрус у форме белай хусткі мае грэцкую назву "ілітон" (у традыцыях Заходняй царквы ***korporal***) і сімвалізуе тканіну, якой была абвіта галава Хрыста ў момант, калі яго клалі ў труну.

[4] **літон** – гл. абрус.

[5] **антымінс** – палотнішча з зашытымі рэліквіямі, на якім можна адпраўляць набажэнства. Можа замяняць прастол. На палотнішчы зьмяшчаецца выява палажэньня Хрыста ў труну. Спачатку рабіліся ўручную, пасьля зьявіліся А. друкаваныя. Бываюць двох тыпаў: рухомыя й нерухомыя. Рухомыя А. знаходзяцца ў непастаянных цэрквах (з надпісам "для адпраўленьня набажэнства на любым месцы"). Нерухомыя А. захоўваюцца ў цэрквах з моманту асьвячэньня. Падлягаюць замене ў выпадку зьмены тытула храма, пры апаганеньні царквы і ў сувязі са зношваньнем матэрыялу.

[6] **келіх** – пацір. Посуд для еўхарыстыйнага віна, выкарыстоўваемы падчас прычашчэньня вернікаў. Паводле канонаў павінны быць залатым, срэбным албо пазалочаным.

[7] **патэна** – дыскас. Посуд у форме талеркі (на падстаўцы ў выглядзе кнігі) для еўхарыстыйнага хлеба. На ім падчас літургіі адбываецца ператварэньне хлеба ў Цела Хрыста.

[8] **звязьдзіца**. Дзьве перакрыжаваныя палоскі металу альбо тканіны, замацаваныя крыжыкам, каб пазьбегнуць перамешваньня складзеных на дыскасе часьцін ў час іх накрываньня пакроўцамі.

[8a] **лыжачка.** Выкарыстоўваецца падчас літургіі для падачы вернікам Сьвятой Еўхарыстыі.

[9] **ваздушкі** – воздух. Вялікая тканіна, якой накрываюцца пацір і дыскас разам.

[10] **апарат,** аперат, аперамэнт. Царкоўныя прадметы і вопратка. У вузкім сэнсе толькі царкоўная вопратка. Тэрмін пераважна выкарыстоўваўся ў традыцыі Заходняй царквы. Запазычаны уніятамі ў другой палове XVIIст. Магчымы адпаведнік – рызы. Пад апаратам разумелі найперш фелонь (у традыцыі Заходняй царквы – ornate).

[10a] **кітайчаны,** кітайка. Тонкая шаўковая альбо баваўняная тканіна.

[11] **нарукаўнікі,** поручы. Элемент вопраткі святара і дыякана. Кароткія рукавы, якія апранаюцца толькі на запясьце.

[12] **стула.** Пояс святара заходняга абраду. У дадзеных тэкстах ужываецца як адпаведнік грэцкага тэрміна епітрахіль.

[13] **альба.** Доўгая сподняя літургічная вопратка з тканіны белага колеру.

[14] **харугва,** харугвачка. Царкоўны сьцяг з выявай Хрыста альбо сьвятых, што мацуецца вертыкальна на доўгім дрэўку з дапамогай гарызантальнай перакладзіны. Носяць у час хрэснага ходу.

[14а] **фундуш.** 1) ворыва, зямельная ўласнсьць 2) фундацыя, заснаваньне чаго-небудзь, нерухомая маёмасьць альбо прыбытак зь яе.

[15] **валока.** Адзінка вымярэння плошчы ў ВКЛ. Адпавядае 21,36 га. Складалася з 30 моргаў альбо 900 прутоў.

[16] **пляц.** Надзел зямлі пад паселішча, сядзібу.

[16а] **пушка**=Дараносіца. Спецыяльны сасуд для Сьвятых Дароў, якую выкарыстоўваюць для перанясеньня запасных Сьвятых Дароў, каб зьдзейсьніць Сакрамант сабараваньня цяжкахворым.

[17] **бурацікавы.** Пашыты з шаўковай узорыстай тканіны.

[18] **Апостал друкаваны** = Апостал: уніфікаваная назва кнігі, у якой +зьмяшчаюцца дзеі і лісты апосталаў, а часам таксама Адкрыцьцё Св. Яна (Апакаліпсіс). Бытаваў часьцей у рукапісным выглядзе. Друкам быў выдадзены ў Вільні – Ф.Скарынам (1525), к. і Л.Мамонічамі (1591), С.Собалем у Куцейне і Магілёве ў 1630-х гг. (абодва разы – з азначэньнем: "Кіеў, 1630").

[19] **Актоіх друкаваны** (славянскі варыянт назвы Асмагласьнік): уніфікаваная назва кнігі, у якой зьмешчаны сьпевы на кожны дзень тыдня (стыхіры і каноны), разьмеркаваныя паводле васьмі напеваў альбо галасоў. Шырока бытаваў у рукапісным выглядзе, але пачынаючы з канца XVIст. Неаднаразова выходзіў друкам: у Вільні (1582), Магілёве (па 1638г.), Куцейне (1646).

[20] **сая**. Від тонкай і лёгкай італійскай тканіны.

[21] **селезьнёвы.** Зменлівы, з пераліvамі колер.

[22] **харус.** Тонкая тканіна з воўны.

[22а] **Дэісус поўны**. Шэраг абразоў, разьмешчаных у пэўнай пасьлядоўнасьці, з абавязковай прысутнасьцю трох постацей: Ісуса Хрыста, Панны Марыі і Св. Яна Хрысьціцеля альбо адзін абраз, які зьмяшчае ўсе тры гэтыя постаці. У дадзеных тэкстах пад Д. разумееца ўвесь іканастас.

[23] **Псалтыр:** уніфікаваная назва адной з кніг Св. Пісьма, якая зьмяшчала псальмы. Дапасаваны да малітвы П. меў падзел на кафізмы і сядальны. Разам з Часасловам быў найчасьцей выдаваемай кнігай. Неаднаразова выходзіў як асобным выданьнем (упершыню выдаў Ф.Скарына ў Празе ў 1517г.), так і ў складзе іншых кніг – напр. разам з Новым Запаветам: у Вільні (1596, 1623), Еўі (1611) і Куцейне (1652).

[24] **Ірмалойчык,** Ірмалой: уніфікаваная назва кнігі, у якой зьмешчаны ірмасы, сьпяваныя ў час набажэнства. Можна таксама зьмяшчаць натацыю мелодыі для сьпеваў – лінейную ці кутовую. Да канца XVIIст. Найчасьцей бытаваў у рукапісным выглядзе.

[25] **таблічкі**=воты. Ахвяра паводле абету 9звычайна – невялікія срэбныя вырабы, якія мацуюцца на абраз: крыжыкі, ланцужкі, ножкі, ручкі, сардэчкі і інш.).

[26] **патрахіль**=Епімрахіль. Адзін з важнейшых элементаў сьвятарскай вопраткі ў вы-

глядзе доўгага фартуха з крыжамі. Апранаўся на шыю і спадаў паўз грудзі ўніз. Сімвал духоўнай ўлады сьвятара. Без яго парох не меў права адпраўляць сьвяшчэннадзеяньне.

[27] гл. вышэй: **нарукаўнікі, поручы.**

[28] **маніпулярый.** Элемент вопраткі сьвятара заходняга абраду. Від рушніка, які надзяваўся сьвятаром у часе набажэнства на левую руку.

[29] **Антэпэдыум.**Пярэдняя заслона алтара.

[30] **Златавуснага выданая**="Златоуст". Зборнік казаньняў Яна Златавуснага, які нярэдка ўжываўся пры нядзельным навучаньні ў царкве.

[31] **Трэфалой пісаны**=Трыфалагіён=Мінея: уніфікаваная назва кнігі, у якой змешчаны службы на асобныя дні гадавога цыклу. М. бываюць: 1) службовыя – на кожны з 12 месяцаў; 2) сьвяточныя (Празьнейка) – скарочаныя, са службамі на нядзелі й сьвяты (Гасподнія, Багародзічныя і Сьвятых); 3) агульныя – якія зьмяшчаюць фармуляры службаў сьвятым; 4) чэцці – якія зьмяшчалі, у прыватнасьці, жыцьці сьвятых і былі прызначаны для чытаньня. Да канца XVIIст. У ВКЛ друкам найчасьцей выдаваліся сьвяточныя Мінеі пад назвай Трыфалагіён альбо Анфалагіён (Еўе, 1613; Куцейна, 1647), астатнія віды бытавалі ў рукапісным выглядзе альбо ў замежных (перадусім, маскоўскіх) выданьнях.

[32] **Часаслоў:** уніфікаваная назва кнігі, у якой зьмешчаны нязьменныя часткі штадзённых царкоўных службаў. Ч. нярэдка дапаўняўся і зьменнымі, але часта паўтараемымі на працягу дня тэкстамі, напр. трапарамі, кандакамі і інш. Склад тэкстаў Ч. мог зьмяняцца ў залежнасьці ад задач, якія ставіліся перад тым ці іншым выданьнем альбо манускрыптам. У ВКЛ Ч. упершыню быў выдадзены П.Мсьціслаўцам у 1574-1576гг., неаднаразова друкаваўся і пазьней.

[33] **пенагіца**=Панагія. Невялікі аздоблены абразок Панны Марыі.

[34] **Празьнейка** – гл. вышэй: Трэфалой пісаны.

[35] **цымборыум** (ад лацінск. cibus – ежа. ). Даразахавальніца. Драўляная альбо металічная скрынка пасярэдзіне прастолу, у якой захоўваецца дараносіца (гл. вышэй: Пушка) з запаснымі Сьвятымі Дарамі.

# Царква ў вёсцы Грыцкавічы – учора і сёння



**ПЕРШАЯ ПУБЛІКАЦЫЯ** / Натальля КАЧАН і Бабачонак МАРЫНА



## УСТУП

*Надзвычай важнай праблемай нашага грамадства з'яўляецца фарміраванне ў моладзі нацыянальнай самасвядомасці, паважлівых адносін да культуры і традыцый беларускага народа. З самага малку важна выхоўваць у чалавека пачуццё Радзімы – зямлі, на якой ён нарадзіўся, якая перадала яму ўсё тое, што назапашана было продкамі, павагу да якіх ён павінен набыць праз любоў і клопаты да сваіх бацькоў, да сям'і і роду, да сваёй малой радзімы – вёскі, гораду, краю.*

Духоўная спадчына – важнейшая частка нашай гісторыі, якая спрыяла і спрыяе фарміраванню нацыянальнай самасвядомасці. Духоўная спадчына – гэта той агеньчык, які асвятляе нашы душы, прымушае зазірнуць у далёкае мінулае и дапамагае даведацца пра нашы карані.

Галоўная мэта нашай працы – прасачыць гісторыю Спаса-Праабражэнскай царквы в.Грыцкавічы Крупскага раёна ў суадносінах з тымі падзеямі, якія былі характэрныя для гісторыі Беларусі на працягу апошніх чатырох стагоддзяў. Давесці факты, якія сведчаць аб больш старажытнейшым яе паходжанні, чым тыя, якія існуюць у сучасных крыніцах.

Для дасягнення пастаўленай мэты неабходна вырашыць наступныя задачы:

вывучыць гісторыю ўзнікнення царквы;

даць апісанне стылю яе пабудовы, унутранага афармлення;

супаставіць існуючыя факты заснавання царквы з больш старажытнымі гістарычнымі ўмовамі яе ўзнікнення.

Мы выкарысталі наступныя дакуманты: “Историко-статистическое описание девяти уездов Минской губернии”, Мн. 1870г.; Минские епархиальные ведомости, 1878-1879гг.; “Описание церквей и приходов Минской епархии” ч.2, Мн. 1879г.; “Памятная книжка Минской епархии”, 1901г.; “Клировая ведомость



На фота: Спаса-Праабражэнская царква ў в.Грыцкавічы, 2007г.

Грицковичской церкви Холопенического района Минской области за 1944г."; "Русская православная церковь и Великая Отечественная война. Сборник церковных документов", московская патриархия, 1943г., і інш.

Дапамог нам матэрыял з кніг: "Памяць" Крупскі раён, Мн. 1999г.; "Гісторыя Беларусі ў дзвюх частках", Мн. 2006г.; Т.В.Габрусь "Помнікі манументальнага дойлідства Міншчыны", Мн. 1991г.; матэрыялы Архіва Харугвы Скаутаў Малога Палесся (АХСМП) г.Крупкі.

Акрамя таго, у мэтах дэталёвага вывучэння сучаснага стану царквы былі: наладжаны дзве экспедыцыі; арганізаваны сустрэчы з мясцовымі жыхарамі, якія з'яўляліся сведкамі многіх падзей у дачыненні да гісторыі царквы; даследаваны мясцовыя могілкі.

Словы шчырай падзякі выказваем святару Спаса-Праабражэнскай царквы в.Грыцкавічы Іаану Белацаркоўскаму, а таксама кіраўніку харугвы скаўтаў "Малога Палесся" і захавальніку архіва (АХСМП) Андрэю Аляхновічу.

## СПАСА-ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА Ў В.ГРЫЦКАВІЧЫ - СТАРАЖЫТНЫ ПОМНІК ДОЙЛІДСТВА БЕЛАРУСІ

"Творам народна-этнаграфічнага драўлянага дойлідства з'яўляецца Свята-Спаса - Праабражэнская царква ў в.Грыцкавічы. Размешчана на высокім пагорку паўднёва-заходняй ўскраіны вёскі. Пабудавана каля 1850г., была прыпісана да Халопеніцкай Свята-Успенскай царквы. Царква ўяўляе сабой кампактны чатырохсценны зруб на бутавым падмурку пад вальмавым дахам (гонтавы перакрыты



**На фота: від з хораў на іканастас (2008г.). Слупавая званіца пастаўлена асобна ад царквы. Каля царквы захаваўся старажытны каменны крыж."[1].**

бляхай у 1979 г.), які пераходзіць у гранёнае пакрыццё над 5-граннай апсідай з нізкімі бакавымі рызніцамі. Вільчык даху па цэнтры завершаны 8-гранным шатравым барабанам з партатыўнай макаўкай на вузкай шыі і крыжам мастацкай коўкі. Уваход афармлены 2-слуповым ганкам пад 2-схільнай навіссю. Вертыкальна выцянутыя прапорцыі будынка падкрэслены вертыкальнай шалёўкай сцен, брусамі-сцяжкамі ў прасценках абапал прамавугольных вокнаў. Адзіным элементам дэкору з'яўляецца падкарнізны аркатурны пояс. Малітоўная зала асвятляецца двумя бакавымі вокнамі, лучковым акном апсіды і акном хораў.

Такія звесткі аб Спаса-Праабражэнскай царкве в.Грыцкавічы ўтрымліваюцца ў кнізе "Памяць" Крупскага раёна. Аднак, прыведзеную ў ёй дату пабудовы царквы нельга лічыць як дату яе фундацыі і заснавання.

Ёсць падставы, якія сведчаць аб больш ранім перыядзе ўзнікнення царквы і аб больш старажытнай яе гісторыі, якая была звязана з тымі супярэчлівымі падзеямі, якія былі характэрны для гісторыі Вялікага Княства Літоўскага (Беларусі) ў XVI-XVIIIстст.

Несумненна, можна меркаваць аб тым, што за перыяд свайго існавання Спаса-Праабражэнская царква магла неаднаразова перабудоўвацца, так як будавалася з дрэва. Дрэва ў той час з'яўлялася самым даступным і танным матэрыялам будаўніцтва грамадскіх будынкаў, асабліва мясцовага значэння, якім з'яўлялася Спаса-Праабражэнская царква.

## ЦАРКВА Ў ВЁСЦЫ ГРЫЦКАВІЧЫ – УЧОРА І СЁННЯ

У кнізе Т.Габрусь "Помнікі монументальнага дойлідства Міншчыны" узгадваецца дата заснавання драўлянай царквы ў в.Грыцкавічы - 1622 г.(!): "Будынак нагадвае звычайную сялянскую хату з вальмавым дахам. Адрозненне складае толькі пяцігранная алтарная частка. Асноўны аб'ём амаль квадратны ў плане, а гэта сведчыць аб тым, што ён зрублены ў даўжыню аднаго бервяна. У той час, калі яшчэ не ўмелі злучаць бярвянні ў адной плоскасці. Для беларускага драўлянага дойлідства характэрнай была рубка гарызантальнымі вянцамі, але сцены грамадскіх будынкаў XVII-XVIIIст. звычайна амаляваны вертыкальна пастаўленымі дошкамі, стыкі паміж якімі прыкрывалі нашчыльнікі, як і ў Грыцкавіцкай царкве.



**На фота: каваны крыж XVII стагоддзя і павялічаны фрагмент з літарамі (на паўмесяцы чытаюцца прабітыя літары "F" і "S").**



**На фота: вакно хораў, сучасны выгляд (2008г.)**

Кампаноўка аб'ёмаў збудавання, кампазіцыя дахаў, цяслярная аздоба, тэхналогія рубкі і шалёўкі – вось тыя крытэрыі, па якіх спецыялісты датуюць помнікі драўлянага дойліцтва, калі няма дакладнай даты пабудовы ці перабудовы".2

Такім чынам, можна меркаваць, што царква, калі і перабудоўвалася, то захоўвала свае ранейшыя формы, якія адпавядаюць архітэктурнаму стылю барока, распаўсюджанаму ў XVII-XVIIIст. Яшчэ адным доказам будаўніцтва царквы ў в.Грыцкавічы ў азначаны перыяд з'яўляецца тое, што яна належыць да аднаапсіднага тыпу храма, які быў характэрны для ранняга этапа беларускага барока. Унутры царквы пра гэты ж стыль нагадвае месца для хораў, якое захавалася да нашых дзён.

**Але самай каштоўнай крыніцай, якая сведчыць аб тым, што царква была пабудавана ў перыяд XVII-XVIII ст., з'яўляецца металічны крыж з лацінскімі літарамі "F" і "S".**

Па тэхналогіі коўкі крыж адносіцца да перыяду XVII-XVIIIстст. Выкананы тэхнікай нахлёсту некалькіх раскалёных частак. Работа ручная і вельмі карпатлівая. На думку мясцовага каваля Сямёна Мазаніка: "гэтаму крыжу год 300". Тэхніка апрацоўкі металу дастаткова грубая. Крыжы, каваныя ў XIX-XX ст., маюць больш гладкую паверхню. Тым больш, зараз заўважаецца працэс паступовага распаду крыжа, што сведчыць пра яго архаічнасць.

Ёсць некалькі гіпотэз, якія могуць раскрыць сэнс высечаных на крыжы літар: першая – гэта пачатковыя літары імя і прозвішча майстра, які каваў крыж; другая – гэта маглі быць ініцыялы нейкага магната, які будаваў царкву; трэцяя – абравіятура святога, у гонар якога будавалася царква.



**ЦАРКВА Ў ВЁСЦЫ ГРЫЦКАВІЧЫ – УЧОРА І СЁННЯ**

**На фота: каменны крыж на уніяцкіх могілках в.Грыцкавічы, 2008г.**

У дадзеным выпадку абравіятура ”F” і ”S” можа азначаць ”Фундатар Сапега”. Існавала такая традыцыя – крыж царкве дараваў непасрэдна яе фундатар. Хаця сама царква магла будавацца за кошт вернікаў.

Трэба звярнуць увагу на той факт, што калі ідзе гаворка пра перабудову царквы, гэта не азначае, што яна будавалася першапачаткова. Маецца на ўвазе частковае абнаўленне, рэстаўрацыя, так як царква была зроблена з дрэва.

Па сведчанні сучаснага святара Іаана Белацаркоўскага: “наша царква пабудавана без выкарыстання мху”. Гэта дазваляе драўлянаму будынку стаяць стагоддзямі.

## БЕРАСЦЕЙСКАЯ ЦАРКОЎНАЯ УНІЯ І ЯЕ ЎПЛЫЎ НА ГРАМАДСКАЕ ЖЫЦЦЁ

Пасля заключэння ў 1596 годзе Берасцейскай царкоўнай уніі, якая аб’ядноўвала каталіцкую і праваслаўную канфесіі пад эгідай Папы рымскага, пачаўся перыяд пераводу насельніцтва ВКЛ ва ўніяцкую веру. На Крупшчыне былі пабудаваны альбо пераведзены ва ўніяцкія: Крупская, Бобрская, Худаўская, Халопеніцкая, Нацкая, Шчаўроўская, Ігрушкаўская, Радзіцкая, Гібайлавічаўская, Шыйкаўская, Восаўская, Ухвальская, Старасакольская і іншыя царквы.

У гэты час актывізаваў сваю дзейнасць ордэн езуітаў, які павёў барацьбу за чысціню каталіцкай веры. Менавіта з дзейнасцю уніятаў і езуітаў звязваецца далейшая гісторыя канфесійных адносін на Крупшчыне.

Напярэданні уніі бацька Льва Сапегі, Іван Іванавіч Сапега, набыў у Лукомльскіх князей маёнтак Пачаевічы, асноўны абшар якога знаходзіўся ў Чашніцкім раёне. Да гэтага маёнтка належыў ізаляваны дадатак, у які ўваходзіла частка сяла Грыцкавічы непадалёку ад Халопеніч і Галькоў.

Пры падзеле спадчыны ў 1591г. гэты маёнтак атрымаў брат Льва Сапегі, аршанскі стараста Андрэй. Пазней ён належыў сыну Льва Сапегі, Казіміру Леану Сапегу. У складзе гэтага ма-



**На фота: надмагільны камень з выявай уніяцкага крыжа (перакуленага "Ефрасіньеўскага") на старых могілках в.Грыцкавічы, 2009г.**

ёнтка Грыцкавічы згадваюцца ў 1649 г.3

Як вядома, Берасцейская царкойная унія выклікала раскол грамадства на яе праціўнікаў і прыхільнікаў. Менавіта да апошніх адносіўся канцлер Вялікага Княства Літоўскага – Леў Сапега.

Да пачатку 20-х гадоў XVIIст. адбывалася актыўнае распаўсюджанне уніяцтва на тэрыторыі Беларусі. Леў Сапега падтрымліваў гэту палітыку, дапамагаючы полацкаму арцыбіскупу Іясафату Кунцэвічу. Лагічна, што і ў сваіх уладаннях Сапега садзейнічаў будаўніцтву уніяцкіх цэркваў, адной з якіх з'яўлялася царква ў в.Грыцкавічы.

Існуе думка, што пасля Віцебскага бунту 1623, у час якога быў забіты Іясафат Кунцэвіч, Берасцейская царкоўная унія ўяўляла сабой срodак паступовага незаўважнага акаталічвання праваслаўнага насельніцтва ВКЛ (Беларусі). У мэтах удзелу ў вялікай палітыцы і захавання шляхецкіх правоў, беларуская шляхта пераходзіла ў каталіцызм, а вернікамі уніяцкай царквы сталі сяляне і гарадскія нізы Вялікага Княства. І ўжо ў сярэдзіне XVII-га стагоддзя можна было казаць, што уніяцкая вера стала сваёй для большасці беларускага народа.

Па могілках вёскі Грыцкавічы можна вывучаць гісторыю нашай краіны за апошнія 400, нават болей, гадоў. Іх можна ўмоўна падзяліць на тры часткі: "старыя", "новыя" і так званыя "пераходныя" могілкі.

На "старых" могілках, якія ўжо зараслі хмызняком, захавалася вялікая колькасць каменных крыжоў і камянёў з высечанымі на іх выявамі крыжоў каталіцкага і уніяцкага ўзору. Пры даследванні яскрава бачна, што тут доўгі час не хавалі памерлых, таму што пасля інкарпарацыі беларускіх зямель Расійскай імперыяй і распаўсюджвання русскага праваслаўя, па словах мясцовых старажылаў былі асвечаны "новыя" праваслаўныя могілкі. На "старых" жа новым папом было забаронена "класціся" пад пагрозай анафемы.

Але на "старых" кладах дзе-нідзе ёсць пахаванні перыяду вайны 1941-1945-га і пачатку 50-х гг., калі ва ўяўленнях людзей ужо не існавала розніцы, дзе - "праваслаўная", а дзе - "уніяцкая" часткі; альбо яшчэ хтосьці памятаў, дзе пахаваны іх продкі і завяшчалі быць пахаванымі побач.

У ходзе вайны з Масквой у 1654-1667гг. тэрыторыя ВКЛ (Беларусі) падверглася страшэнным разбурэнням. Пасля гэтай вайны ордэн езуітаў стаў актыўна аднаўляць свае разграбленыя маёнткі і пryступіў да набыцця новых зямель.

Яшчэ ў 1655 годзе езуіты набылі ў Сапегаў

с.Грыцкавічы, у 1665 г. – маёнтак Нача, а крыху пазней фальварак Шамкі і сяло Струга (усе на Крупшчыне). Пасля гэтых падзей з большай сілай стаў адчувацца каталіцкі ўплыў на насельніцтва Крупшчыны.
Але наступныя гістарычныя падзеі перапынілі гэты працэс.

## СПАСА-ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА Ў XIX–ПАЧАТАКУ XX СТ.

У канцы XVIIIст., у выніку трох разбораў Рэчы Паспалітай беларускія землі адышлі да Расійскай імперыі. Згодна з указам Кацярыны II ад 22 красавіка 1794г. усім уніятам было прапанавана перайсці альбо ў праваслаўе, або ў каталіцызм.
Працэдура агітацыі пераходу з уніяцкай царквы ў праваслаўную выглядзела так: ”Ко всякой церкви собирали прихожан и – учредительно через земского исправника, дабы по приезде не тратить времени, при каждой церкви читали им повеления, предписания, спрашивали о свободном расположении их к перемене веры или, лучше сказать, одного только переименования веры. Увещевали их через духовного депутата и не обрели ни единой души, желающей отстать от униятской и пристать к Грекороссийской церкви.”4
Але ж былі і прымусовыя метады пераводу: ”Иной доносит: обратил церковь, две, три. И, лишь только губернское правление получит такое донесения, как вдруг с противной стороны получает другие – от униятского духовенства, от прихожан, а побочными дорогами и от помещиков – что унияты принуждены побоями, что церковь отбита насильно и прочее, и прочее...”5
Рускі акадэмік Васіль Севяргін, які ў 1802г. наведаў наш край, у сваіх “Запісках...”, пакінуў такія сведчанні: ”Я должен приметить здесь, что и по сей также дороге (маецца на ўвазе Орша - Мінск) во всех сёлах и малых городах были многие Унеяты и Унеятския церкви”.6
Пасля смерці Кацярыны II на прастол уступіў яе сын Павел І, які адмяніў шмат яе рашэнняў і ў тым ліку наконт поўнай асіміляцыі беларускага насельніцтва. У 1797г. па яго ўказу была адноўлена ўнія. Нягледзячы на працяг палітыкі паступовага пераводу жыхароў Беларусі ў праваслаўную веру, на пэўнай частцы тэрыторыі некаторы час дазвалялася дзейнасць уніяцкіх цэркваў. Канчатковая ліквідацыя уніяцтва адбылася ў 1839 годзе.
Мы ж звернемся да гісторыі Спаса–Праабражэнскай царквы:
**”I.Местность.** Село Грицковичи, борисовского уезда, второго благочинного округа, расположенного не в далёком расстоянии от реки Иссы; от губернского города отстоит в 140, от уездного в 60, а от почтовой и железно-дорожной станции в 30 верстах.
**II. Церковь.** Приходная Преображенская церковь, расположенная в самом селении, зданием деревянная на каменном фундаменте, устроена продолговатым прямоугольником, с тремя глухими куполами, с одним рядом окон, одной дверью и гонтовой крышею. По своему состоянию церковное здание находится в чрезвычайно ветхом состоянии и от ветхости грозить разрушением. Внутренняя площадь вместительности заключает в себе около 20 квадратных сажен, пол в алтаре деревянный, а на самой церкви кирпичный, холодная. Совершенно простой одноярусный, без всякой позолоты, иконостас, состоит из четырёх икон. Из утварных вещей недостаёт только водосвятного сосуда и антидорного блюда; к ценным относятся два серебряных

потира. Облачений священнических, устроенных большей частью из мишурной парчи, имеется семь приборов, но годных к употреблению только три, в том числе одно плисовое траурное. Евангелий богослужебных два, оба в переплётах обложенных бархатом и металлическими украшениями; из прочих богослужебных книг недостаёт только месячных миней. В архиве церковном метрические книги хранятся с 1822, - есть также несколько визитных записей. В колокольне, устроенной отдельно от церкви, имеется четыре колокола, из которых самый большой весит не более трёх пудов; погост церковный обнесён частоколом; кладбищ в приходе семь, а кладбищенских и приписанных церквей нет.

**III. Приход.** В состав прихода входят следующие селения: Грицковичи, Волосачи, Красновка, Дубники, Струга, Калеченка и Флоровка,– самая отдалённая деревня находится в 9 верстах. Прихожан числится мужского пола 444, а женского 434 души; все прихожане крестьянского сословия; занимаются только земледелием; религиозно-нравственное состояние прихожан можно признать удовлетворительным.

**IV. Причт.** Причт при сей церкви положен одноклирный, состоящий из помощника настоятеля (Настоятель при Холопеницкой церкви) и псаломщика. Помощник настоятеля – священник – Василий Лисицкий, из окончивших полный курс семинарского воспитания, священствует с 1874 года. Исполняющий дела псаломщика – Фёдор Чайковский в должности с 1843 года – стихарный.

**V. Владения церкви и причта.** Церковного дохода поступает не более 30 рублей в год. Причт, кроме штатного жалования, пользуется церковною землёю и помещением. Церковной землёй по документам считается 79 десятин, но в действительности во владении причта находится 37 десятин, остальное количество, по неимению межевых знаков, разновременно отторгнуто крестьянами деревень Грицкович и Слободки, а также Холопеничской экономией; плана на эту землю и в настоящее время нет. Кроме этой земли, составляющей фундуш собственно Грицковичской церкви, имеется ещё 20 десятин земли от упраздненного Калеченского прихода, - план на эту последнюю землю имеется. Усадьба причта расположена при церкви, а остальная земля в разных местах и участках. Все причтовые постройки до того ветхи, что помещаться в них нет никакой возможности, так что прихожане для причта нанимают помещение в м.Холопеничах, размещённым в 6 верстах от приходской церкви. По произведённому учрежденною комиссией осмотру причтовых строений составляет проект о возведении новых.

**VI.Церковные и приходские учреждения.** При церкви существует церковно-приходское попечительство и церковно–приходская школа; впрочем процент грамотности между прихожанами очень незначителен. Богадельни в приходе нет.7

Аналізуючы гэты дакумент можна зрабіць некалькі высноваў.

Па–першае, у ім упамінаецца адна з важных дат – 1822г., дата пачатку метрычных кніг архіва. Па дадзеных Беларускай епархіі – гэта дата названа і як дата заснавання праваслаўнай царквы ў в.Грыцкавічы.

Але мы думаем інакш, – хутчэй за ўсё ў 1822г. была пачата метрыфікацыя мясцовага насельніцтва па новаму праваслаўнаму ўзору. Дату пачатку метрычных кніг нельга лічыць датай заснавання царквы, і вось чаму: у АХСМП захоўваецца копія дакумента з На-

цыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў г.Мінску “Метрические книги православных церквей Борисовского уезда Минской губернии”8:

| Приход/ Церковь | Годы | Фонд/Опись |
|---|---|---|
| Грицко-вичский(с. Грицковичи) | 1776 - 1821 | 136/13 |

Значыць у гэтых кнігах з 1776 па 1821гг. запісваліся акты хрышчэння, вянчання па-уніяцкаму абраду, а потым, з 1822г. – па-праваслаўнаму, што дазволіла лічыць гэту падзею датай заснавання праваслаўнай царквы ў в.Грыцкавічы.

Па–другое, вышэй мы прачыталі падрабязнае апісанне стану царквы ў 1879 годзе. Яна была ″в чрезвычайно ветхом состоянии″ і “от ветхости грозить разрушением″.

У кнізе ж ″Памяць″ Крупскага раёна сцвярджаецца, што Спаса–Праабражэнская царква ў в.Грыцкавічы была пабудавана ў 1850 г.

Узнікае пытаньне – нават, калі яна была пабудавана на месцы былой царквы, то чаму ў апісаннях 1879г. царква ўжо мела такі кепскі выгляд? Хутчэй за ўсё ў 1850г. яна падверглася частковаму рамонту, але не поўнай перабудове. Па сведчаннях мясцовых старажылаў, самую вялікую суму грошай на гэту справу ўнёс селянін вёскі Грыцкавічы Нікіфар Казак.

Па-трэцяе, Грыцкавіцкі царкоўны прыход быў даволі бедны. Яго гадавы даход складваў не больш за 30 рублёў у год. Гэта даказвае тое, што яго наведвалі выключна сяляне. Акрамя таго, слабае забеспячэнне царквы сведчыць аб тым, што уніяцкае царкоўнае начынне і абразы былі забаронены і іх, у час ліквідацыі уніяцтва сяляне і святары, не прыняўшыя праваслаўя, разнеслі па сваіх хатах. На набыццё ж новага не хапала сродкаў.



Па-чацвёртае, Грыцкавіцкая царква з’яўлася “прыпісной” да Халопеніцкай. Вядома, што настаяцелямі царквы служылі па сумяшчэнню настаяцелі Халопеніцкага храма.

У XIX стагоддзі прычт Грыцкавіцкай царквы складваўся з настаяцеля храма, яго памочніка і псаломшчыка. Архівы захавалі для нас некалькі імёнаў тагачасных свяшчэннаслужыцелей. Так, у 1873 годзе епіскапам Мінскім і Тураўскім Аляксандрам Дабрыніным быў рукапаложаны ў іерэя святар Васілій Васюковіч, які ў 1869 годзе скончыў Мінскую духоўную семінарыю.9 А ў 1878-м: “…священник Василий Перепеча перемещён к Грицковичской церкви борисовского уезда в качестве помощника настоятеля Холопеничской церкви с 1 декабря. Псаломщик 1 разряда Фёдор Чайковский.”10

У 1879 годзе: “Помощником настоятеля состоит священник Василий Лисицкий. Исполняющий дела псаломщика Фёдор Чайковский”11

Пад 1880 годам чытаем: ″Псаломщик Шипянской церкви Владимир Ржецкий 2 февраля рукоположен во священника и назначен к Грицковичской церкви Борисовского уезда, с именованием помощника настоятеля Холопеничской церкви″.12

Праз два гады: ″Помощником настоятеля Халопеничско-Грицковичской церкви, борисовского уезда, Владимир Ржецкий, согласно прошению, перемещён на настоятельское место к Дричинской церкви, игулинского уезда, с 1 июля.″13 І далей: ″Помощник настоятеля Мильчанской церкви, борисовского уезда, Иоанн Оберман, согласно прошению,

перемещён помощником настоятеля Халопеничско-Грицковичской церкви с 1 июля".14

Пры царкве існавала царкоўна-прыхадская школа, якая таксама была беднай і вучыла закону Божаму сялянскіх дзяцей. Вядома, што ў 1879 годзе "количество предложенного с каждой церкви 16% сбора на учебные потребности духовного ведомства" па Грыцкавіцкай царкве складала – "5 р. 69 коп."15

Аб дастаткова нізкім рэйтынгу Грыцкавіцкай царквы сведчыць і "Количество забранных церквями минского училищного округа свечь из окружного склада. За 1878 г. … 5 фунтов. Горнянская и Грицковичская".16

Для параўнання: "Холопеницкая от ¼ до 1 пуда."17 Такая ж ведамасць за наступны год: "Холопеницкая от 2 1/3 до 2 пудов."18 А "Грицковичская: 1 фунт."19

У уніятаў не было звычая ставіць свечы перад іконай, таму і даходы ад продажу былі малыя і пастаўлялася свеч у цэрквы таксама мала. Выкараніць уніяцкую веру немагчыма было так хутка, як хацелася расійскаму ўраду. Уніяцкія святары тайком, хаваючыся, працягвалі адпраўляць абрады па-старому: у хатах, у свірнах і г.д., за што падвяргаліся суду. На працягу многіх дзесяцігоддзяў большая частка сялянства адпраўляла рэлігійныя абрады, мінаючы царкву і захоўваючы былыя традыцыі. Ніжэй мы змяшчаем фрагменты фальклорных запісаў (АХСМП), зробленых у вёсцы Слабада Крупскага раёна (суседняя з Грыцкавічамі), якія сведчаць аб праявах уніяцкай веры яшчэ ў 1970-1980-х гадах: "Старыя людзі ў сваёй большасці не хадзілі ў царкву ў Грыцкавічы (працавала за савецкім часам-рэд.), а маліліся дома. Мелі абразы, захоўвалі старыя, дзедаўскія – казалі: "У мяне дома свой іканастас, там я і малюся!", "Як тата з мамай маліліся – гэтак і мы молімся!" успамінаў Асташка Аляксандр Іванавіч, (н. ў 1902). І далей ён жа, на пытанне святара Грыцкавіцкай праваслаўнай царквы Паіса (1970-я гг.), чаму ён не ходзіць у царкву, адказваў: "Мой бацька не хадзіў і я не пайду. У мяне ў хаце свой Бог, і яму я малюся!".

А Ева Ярмалаеўна Асінская (1883–4.9.1980) мела ў хаце стары вуняцкі абраз і кожную малітву пачынала словамі: "Свенты Езус! Найсвентша Матка!" і далей "Ойце наш!...". У размове казала "Матка Бозка!, Матка Бозка Вострабрамска!", "Пекна будзе"."

Вядома імя аднаго з мастакоў, які пісаў абразы для Грыцкавіцкай царквы ў XIX стагоддзі – гэта мастак Янутка Папкоў. Па дакументах ён значыцца як Іван Папкоў. Па сведчанню беларускага этнографа і фалькларыста Адама Багдановіча, які сам быў родам з Халопеніч, Янутка Папкоў "закончил рисовательные классы при Академии Художеств в Петербурге."20 Ёсць меркаванне, што ён мог закончыць і Акадэмію Мастацтваў, калі ўлічваць той час на працягу якога ён знаходзіўся ў Пецярбурзе. Вярнуўшыся ў Халопенічы, на пачатку 60-хх гадоў Янутка прывёз з сабой не толькі талент мастака, але і схільнасць да п'янства, што і з'явілася яго асабістай трагедыяй. "Заказов было мало и почти исключительно на иконы. Оплачивалось это плохо. Хороших красок не было: приходилось довольствоваться тем, что есть. Я знаю, что писал он иконы для Холопеничской церкви, Грицковичской, Лошницкой и Борисовской".21

Цікавыя і больш праўдападобныя звесткі аб гісторыі Грыцкавіцкай царквы ўтрымлівае дакумент выдадзены ў 1901г.: "с.Грицковичи. Церковь Спасо-Преображенская деревянная, **преобразована из былого костёла.** Состав прихода: с Грицковичи и 3 деревни; прихожан 422 м.п., 402 ж.п. Церковной земли 79 деся-

тин, а в действительности владении причта 37 десятин 336 квадратных сажен. Причтовые постройки: деревянные, ветхие. Причт: священник Стефан Кашников, ок. к. Витебской д.с., священник с 1898 г.; исполняющий дела псаломщик, учитель Алексей Симонович."22

Гэты дакумент яшчэ раз даказвае, што Грыцкавіцкая царква з'яўляецца адным з ранніх помнікаў драўлянага дойліцтва Беларусі, і, што яна была ўсё ж такі "преобразована из былого костёла" (такая назва уніяцкай царквы звычайная для тагачаснай расійскай літаратуры), а не пабудавана ў 1850 годзе.

У 1913г. у в.Грыцкавічы адбыўся страшэнны пажар, у выніку якога была знічтожана ўся вёска. Пра гэту падзею пісала першая беларуская газета "Наша ніва": "У весцы Грацкавічы, Барысаўскага павету, узняўся пажар, які змёў каля 150 будоў, усё, увесь дабытак. Людзі засталіся без куска хлеба, пад голым небам."23 На радасць усім, царква, якая была размешчана на ўзгорку, крыху за вёскай, ацалела.

Удалося знайсці імя святара Грыцкавіцкага прыходу ў 1915 годзе – гэта Мікалай Кендзельскі.24

## СПАС-ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА Ў 1917г. – ПАЧАТАКУ ХХ СТ.

У 1917г. у выніку Кастрычніцкага перавароту партыя бальшавікоў прыступіла да практычнага здзяйснення сваёй праграмы пабудовы сацыялістычнага грамадства.

Дасягненне гэтай мэты было немагчыма без выкаранення былога менталітэту грамадства, без ломкі тагачаснага светапогляду на жыццё і сістэму каштоўнасцей.

Марксісцка–ленінская ідэалогія павінна была сфарміраваць у людзей зусім іншыя каштоўнасці, заснаваныя на веры ў адзіную партыю, лідэра, які паступова набываў вобраз усеагульнага пакланення. Царква з'яўлялася для бальшавікоў галоўным ідэялагічным ворагам, які стаў на шляху распаўсюджання сацыялізму.

Барацьба з рэлігіяй пачалася з першых дзён. Сярод дакументаў, прынятых новай уладай быў і дакрэт "Об отделении церкви от государства и школы от церкви." І пайшла кіпець работа, накіраваная на фізічнае і маральнае знішчэнне святароў, рабунак цэркваў і іх поўнае закрыццё.

Тагачасны кіраўнік Рускай Праваслаўнай Царквы патрыярх Ціхан (Белавін) паклаў анафему на Савецкую ўладу, за што быў падвергнуты жосткім ганенням.

Масавыя расстрэлы, арышты, пагрозы ў адносінах да святароў і вераючых сталі звыклай з'явай для носьбітаў ідэі сацыялізму.

Асабліва трагічным быў 1922 год, калі ў краіне наступіў голад, выкліканы засухай і наступствамі грамадзянскай вайны. Для ліквідацыі голаду Ленін направіў сакрэтнае пісьмо членам Палітбюро ў якім прызываў: "Именно теперь и только теперь...мы можем (и поэтому должны) провести изъятие церковных ценностей с самой бешеной и беспощадной энергией, не останавливаясь перед подавлением какого угодно сопротивления".25

Улады не толькі аграбілі ўсе храмы, але і вынішчылі вялікую колькасць святароў. "В Беларуси был уничтожен 201 священнослужитель, при том что было зафиксировано только одно выступление против властей".25

У наступны перыяд праца ў барацьбе супраць рэлігіі праводзілася праз антырэлігійную агітацыю ў часопісах і газетах, грамадскіх арганізацых, клубах, школах, новастораных гуртках бязбожнікаў.

З 1921-га стала выходзіць газета "Бязбожнік", якая вяла "асветніцкую" работу ў масах. Яе прыхільнікі стварылі "Общество друзей газеты "Бязбожнік", якое ў 1925г. правяло з'езд, прыняўшы рашэнне аб стварэнні "Союза безбожников" – масавай антырэлігійнай арганізацыі ў межах СССР. Аднак, на тэрыторыі Беларусі гэта арганізацыя не знайшла шырокай падтрымкі як і новыя рэвалюцыйныя святы: "Комсомольское Рождество", "Комсомольская пасха" і г.д. Шмат людзей па-ранейшаму тайна ажыццяўлялі абрады хрышчэння і вянчання і не прызнавалі грамадзянскай рэгістрацыі.

Летам 1928г. кіраўнікі Савецкай дзяржавы вымушаны былі прызнаць, што не змаглі справіцца з распаўсюджаннем антырэлігійнага настрою сярод грамадства.

У 20-30-х гадах, у сувязі з правядзеннем палітыкі індустрыялізацыі і калектывізацыі, ўзмацнілася антысавецкая дзейнасць прадстаўнікоў духавенства ўсіх канфесій. Яны прызывалі людзей да выступленняў супраць Савецкай улады, вялі агітацыю супраць уступлення ў калгасы.

Лагічна, узмацнілася і антыцаркоўная дзейнасць прадстаўнікоў улады. Пачаўся новы перыяд рэпрэсій і закрыцця храмаў.

Што тычыцца гісторыі Грыцкавіцкай Свята–Праабражэнскай царквы, то, на жаль, нам не ўдалося вызначыць імёны тых святароў, якія маглі служыць ў ёй ў першыя гады кастрычніцкіх падзей.

У гутарцы з мясцовай жыхаркай, Казак Надзеяй Васільеўнай, мы даведаліся, што з сярэдзіны 20-х гг. да 1934-га царква працавала.

Надзея Васільеўна назвала прозвішча служыцеля, які адпраўляў трэбы ў царкве ў 1934годзе – святар Пшонка. Па даносу кагосьці з бедных сялян ён быў арыштаваны за антысавецкую дзейнасць, за навучэнне дзяцей закону Божаму без дазволу ўлад, за агітацыю сялян супраць уступлення ў калгасы, і вывезены ў г.Барысаў на допыт. Назад святар не вярнуўся і далейшы яго лёс невядомы.

Царква ж была зачынена і ператворана ў амбар, дзе захоўвалася збожжа. Усе 8 званоў былі знятыя са званіцы і пераплаўленыя пасля закрыцця царквы. Перад арыштам, абразы былі раздадзены святаром па хатах вернікаў.

Рэпрэсіям таксама падвергся і Русецкі Павел Сцяпанавіч, уражэнец в.Грыцкавічы (н у 1889г.). Ён паходзіў з сям'і Сцяпана Русецкага, які служыў псаломшчыкам у Грыцкавіцкай царкве ў 80-е гг. XIXст. Русецкі Павел Сцяпанавіч скончыў Мінскую духоўную семінарыю ў 1912г. У 1913г. быў прызначаны настаўнікам Успенскага храма ў мястэчку Азарычы Бабруйскага павета. Арыштаваны ў 1930г. і асуджаны на 5 гадоў. Паўторна арыштаваны быў у 1938-м і, 21 верасня 1938г., прыгаворany да кары смерцю за ўдзел "у шпіёнска– паўстанцкай арганізацыі".27

Трагічны лёс напаткаў Мікалая Васюковіча, сына святара Васілія Васюковіча, які служыў у Грыцкавіцкай царкве ў 70-е гг. XIXст. Пасля сканчэння Мінскага духоўнага вучылішча Мікалай працаваў настаўнікам у народных школах горада. Затым служыў псаломшчыкам у в.Ліцвяны Мінскага павета. У 1930г. мясцовыя камуністы спалілі царкву. Назаўтра Мікалай публічна заявіў: "Хіба гэта ўлада, калі пры ўладзе бальшавікі? Гэта не людзі, а банда прайдзісветаў, якія здзекваюцца над праваслаўным народам". У 1936г. адказаўся набываць аблігацыі дзяржаўнага займу. "Падпісвацца не буду, няма патрэбы ўмацоўваць гэтую ўладу". Быў арыштаваны і, 16 верасня 1937г. асуджаны да страты на смерць. У

1999г. Беларускім экзархатам быў прылічаны да ліку святых новапакутнікаў.28

Аднак, нягледзячы на забарону рэлігіі і рэпрэсіі ў адносінах да святароў, рэлігійныя абрады па-ранейшаму былі вельмі важнымі ў жыцці людзей. Тайна іх выконвалі нават некаторыя партыйныя работнікі, якім была даверена антырэлігійная кампанія.

Бязлітасная ж барацьба Савецкай ўлады супраць царквы працягвалася да 1941 года. Вынікам такой палітыкі стала тое, што ва Ўсходняй Беларусі былі зачынены ўсе цэрквы. Але самай вялікай стратай стала знішчэнне духавенства, недахоп якога стаў востра адчувацца ў наступны перыяд.

22 чэрвеня 1941-га фашысцкая Германія напала на СССР. Пачалася вайна…

Менавіта ў гэты час адбыліся рэзкія змены Крамля ў адносінах да царквы і рэлігіі. Яны сталі як раз тымі сродкамі, якія павінны былі згуртаваць людзей у барацьбе супраць фашызму.

У першы ж дзень вайны мітрапаліт Маскоўскі і Каломенскі Сергій выступіў са зваротам да ўсіх праваслаўных, у якім благаслаўляў іх на абарону межаў краіны.

”Не первый раз приходится русскому народу выдерживать такие испытания…Наши предки не падали духом и при худшем положении, потому что помнили не о личных опасностях и выгодах, а о священном своём долге перед Родиной и верой, и выходили победителями. Не посрамим же их славного имени и мы – православные, родные их и по плоти, по вере.

Отечество защищается оружием и общим народным подвигом, общей готовностью послужить отечеству в тяжкий час испытания, всем, чем каждый может… Всякий может и должен внести в общий подвиг свою долю труда, заботы и искусства”.29

Гэты зварот быў разасланы па ўсіх праваслаўных прыходах.

## ЦАРКВА Ў ВЁСЦЫ ГРЫЦКАВІЧЫ – УЧОРА І СЁННЯ

У студзені 1942г. мітрапаліт Сергій звярнуўся з пасланнем к праваслаўнаму насельніцтву часова акупіраваных тэрыторый з заклікам, каб яны ”находясь в плену у врага…сознательно или по недомыслию, не оказались предателями своей Родины.”30

Такім чынам, значная частка праваслаўнага духавенства з першых дзён акупацыі ўключылася ў барацьбу супраць фашыстаў. Святары заклікалі насельніцтва ў час набажэнстваў да супраціўлення, расказвалі аб становішчы на фронце, станавіліся сувязнымі, разведчыкамі і ўсяляк дапамагалі партызанам.

Сабраныя прыхажанамі ахвяраванні накіроўваліся на выпуск зброі, стварэнне танкавых калон, на ”дело скорейшего окончания войны”.31

У сваю чаргу нямецкія акупанты, каб знайсці падтрымку сярод насельніцтва, дазволілі дзейнасць праваслаўных цэркваў і каталіцкіх касцёлаў на тэрыторыі Беларусі.

У гады вайны Грыцкавіцкая царква не дзейнічала. Бліжэйшай царквой, якую наведвалі жыхары навакольных вёсак была Халопеніцкая Свята-Успенская царква, якую немцы адчынілі восенню 41-га.

У час вызвалення Крупскага раёна ад фашысцкіх захопнікаў, Халопеніцкі храм быў разбіты прыцэльным пападаннем савецкага снарада. Таму ўлады дазволілі адчыніць царкву ў Грыцкавічах, аб чым сведчыць наступны дакумент:

”Клировая ведомость

Грицковичской церкви Холопеничского района Минской области за 1944 г.

Часть I. О церкви.



**Іерэй Паісій Гінко**

1. Грицковичская церковь построена неизвестно когда и кем, деревянная, покрыта гонтом, ветхая. Освящена во имя Преображения Господня.
2. До освобождения от оккупации Холопеничского района была приписной к Холопеничской церкви. При отступлении Холопеничская церковь спалена немцами (паспрабаваў бы святар напісаць праўду…-рэд.), в настоящее время за неимением помещения в Холопеничах, с 1 ноября 1944 г. пришлось перенести служение а Грицковичскую церковь.
3. Церковь мало снабжена церковной утварью, имеются из книг 1 евангелие, 1 апостол, 1 псалом, 1 часослов, все остальные богослужительные предметы и книги, преобретены на личные средства священником.
4. Ближайшая приходская церковь к Грицковичской (Рубежская) в 8-ми км.

Часть II. О причте.
5. Священник Паисий Павлович Гинко, рождённый 1907г. июня 19 дня. Образование 7 гр. общецерковное самообразование любительское с малолетсва от отца Павла, а также служба псаломщиком с 1923 по 1930 год.
6. С 1930 по 1941г. – колхозник-земледелец.
7. 1943г. 12 апреля, по представлению благочинного Борисовского округа о. Иоанна Строка рукоположен в сан диакона епископом Стефаном Смоленским и Брянским в Смоленском Кафедральном соборе.
1944г. 3 февраля рукоположен во иерея в Борисовском соборе епископом Стефаном.
8. Исполняющий дела псаломщика Грицковичского посёлка культурщик Губтор Константин Фёдоров.
9. Староста церкви гр. с.Грицкович – Казак Иван Харлампиев."32

Як бачым, у часы вайны і пасля яе востра стаяла праблема недахопу святароў, асабліва на тэрыторыі Ўсходней Беларусі. Многіх былых псаломшчыкаў або выхадцаў з сем'яў святароў, якія мелі недастатковы ўзровень духоўнай адукацыі, паспешна пасвячалі ў царкоўны сан.

Святар у трэццім пакаленні, Паісій Гінко сумленна праслужыў у Грыцкавіцкай царкве 44 гады!, і выйшаў за штат толькі ў 1987 годзе, у 80-гадовым узросце. У г.Крупкі зараз жывуць яго дзеці, унукі й праўнукі. Вялікая колькасць жыхароў Крупшчыны, прыняўшая ў свой час ад яго хрост, успамінаюць айца Паіса са словамі сардэчнай ўдзячнасці й павагі.

Цікавыя звесткі аб айцу Паісію і Канстанціну Губтару находзім у рассакрэчанай "докладной записки уполномоченного Совета по делам Русской православной церкви при Совете Министров СССР по Минской области В.А.Ермоловича секретарю Минского обкома КП(б)Б




**1952г. Святар Паісій Гінко адпраўляе абрад пахавання ў в.Лісічына Крупскага р-на.**

К.Т.Мазурову, председателю Совета по делам Русской православной церкви при Совете Министров СССР Г.Г.Карпову о положении и деятельности церкви в области в период 1945 – 1950гг." датаванай 28 чэрвеня 1951г.:

"...в связи с падением интереса местного населения к церкви... настоятель Грицковичского прихода Холопеничского района с 1949г. работает в колхозе на полевых работах. В церкви служит... только по большим праздникам и периодически по воскресным дням.

... Большинство священников выезжают для совершения религиозныз обрядов на дому у верующих по приглашению последних редко в радиусе 5-10 кмлометров, но имеется небольшая группа, как, например, настоятель Божинской церкви Березинского района Гуторевич, Рубежской церкви Холопеничского района Гуптор, ..., которые разъезжают в радиусе до 30 километров, как по приглашению, так и без приглашения. После того как они через епархиальное управление были предупреждены о их незаконных действиях, то в начале они сократили разъезды, а, по полученым данным, в последнее время опять начали усиленно разъезжать.33

У 50-е гг. XX ст. пачынаецца новая хваля барацьбы супраць рэлігіі.

Дзяржава ўстанавіла поўны кантроль над дзейнасцю святароў і даходамі цэркваў. Пры кожнай царкве заводзілася кніга запісу даходаў. Духавенства павінна было кожны дзень уносіць свае даходы і распісвацца ў атрыманых сумах.

"Книга должна вестись без всяких помарок, чисто и аккуратно, чтобы могла служить до-


О. Настоятелю Грицковичской церкви.
В г. Новогрудке Барановичской области
находится древнейшая святыня - храм во
имя свв. Бориса и Глеба. В течении последних
лет производилась его реставрация на сред-
ства прихожан и на пособия от Епархиаль-
ного Управления.
В настоящее время все средства приход-
ские окончательно исчерпаны, а работы
по реставрации этого храма ещё не
доведены. Посему Его Высокопреосвя-
щенство Архиепископ Питирим сделал
распоряжение /циркуляр от 12/VI с.г. №966/,
чтобы во всех церквах Минской и Гродней-
ской Епархии в праздник свв. Первоверхов-
ных Апостолов Петра и Павла был произ-
веден, предварённый соответствующим

**На фота: першы аркуш ліста благачыннага Ф.Шаркаўца да грыцкавіцкага святара ў 1952г.**

кументом, свидетельствующим доходность духовенства... За правильность показаний в книге духовенство будет нести ответственность не только перед гражданской властью, но и перед духовным начальством.34

У 1958-м быў уведзены закон "Аб свечным падатку", які быў накіраваны на зніжэнне даходаў цэркваў ад продажу свеч.

З 1962 года ўсе праваслаўныя святары пераводзіліся на цвёрдыя аклады. Даходы ад абрадаў сталі паступаць у выканаўчыя органы царкоўнай улады, мінуючы святароў. Па хатах адпраўленне абрадаў забаранялася і каралася законам.

Аднак, як паведаміў былы стараста Грыцкавіцкай царквы В.М.Кланюк, калі б святары тайком не адпраўлялі абрады, то ім не было б за што жыць і карміць сем'і, так як даходы былі вельмі мізэрныя.

Акрамя таго, Савецкая ўлада стала на шлях разбурэння старажытных храмаў Беларусі.

Так у 50-60-я гг. былі ўзарваны Мікалаеўскі сабор і Благавешчанская царква (XIIст.) ў Віцебску. Многія ж цэрквы самі разбураліся і патрабавалі рамонту. Але ж дзяржава не выдзяляла сродкаў на іх рэстаўрацыю. Аднавіць іх можна было толькі за кошт сродкаў, сабраных з другіх цэркваў.

Такая гісторыя атрымалася і з старажытнай царквой Святога Барыса і Глеба ў Навагрудку ("царква Вітаўта"), на выратаванне якой накіроўваліся сродкі цэркваў усёй Беларусі. Не засталіся ўбаку і вернікі Грыцкавіч.35(гл. фота дакумента).



словом Настоятеля сбор на окончани…
ремонта означенного храма и собран-
ные деньги с актом должны быть
представлены благочинному, а
последний — Минскому Епархиаль-
ному Управлению.
О чем к исполнению сообщаю
Вашему Преподобию.

Благочинный Протоиерей
Ф.Шаркавец

30/VI–1952 г.
№76.

**На фота: другі аркуш ліста благачыннага Ф.Шаркаўца да грыцкавіцкага святара ў 1952г.**

Што тычыцца Грыцкавіцкай царквы, дык толькі ў 70-х гг. яе дах быў перакрыты і крыху адрамантаваны купал. На сур'ёзны рамонт сродкаў ніколі не хапала.

Як і раней Грыцкавіцкі прыход быў бедны. Яго наведвалі толькі глыбока вераючыя людзі, якія, не ўзіраючы на забарону ўладаў, рэгулярна наведвалі царкву.

Моладзь жа наогул і блізка не дапускалася да царквы, нават у двор нельга было заходзіць. У дзень Пасхі Хрыстовай у мясцовых клубах арганізоўваліся танцы і канцэрты, а ля царквы дзяжурылі міліцыя й актывісты. Камсамольскія і партыйныя работнікі пільна сачылі за цвёрдасцю сацыялістычнай ідыялогіі – пагражалі вялікімі штрафамі і выключэннем са школы тым, хто заходзіў у царкву.

Абыякавымі былі адносіны да святароў з боку моладзі і атэістаў: знявага, крыўда, фізічныя здзекі, "абыякавыя" прыкметы. Напрыклад, калі ўбачыў "папа", трэба за гузік ухапіцца і круціць яго, інакш, не пашанцуе.

Пасля развала СССР рэлігійная палітыка памянялася, змянілася і сістэма каштоўнасцей пасля крушэння марксісцка–ленінскай ідыялогіі. Для нас, беларусаў, адпраўдным момантам стала Чарнобыльская аварыя. Людзі тысячамі пацягнуліся да Бога, звязваючы з ім апошнюю надзею на выратаванне сябе і блізкіх.

Складанае становішча, у якім аказаліся многія людзі, садзейнічала павялічванню большасці вернікаў, масаваму хрышчэнню не толькі дзяцей, але і дарослых. Пачаўся працэс



**На фота: выява крыжа на ліштвах адной з хат в.Грыцкавічы, 2009г.**

пераасэнсавання месца і ролі рэлігіі ў жыцці грамадства.

Паўсюдна сталі аднаўляцца старыя і будавацца новыя храмы. Змяніла свае адносіны да рэлігіі і дзяржава. Але гэта не вырашыла праблемы храмаў і цэркваў, якія знаходзяцца ў вёсках. Масавая міграцыя сельскага насельніцтва ў горад прывяла да фактычнага знікнення многіх вёсак. Нашы Грыцкавічы і суседнія вёскі не сталі выключэннем.

З кожным годам тут становіцца ўсё меньш і меньш жыхароў, а лагічна і наведвальнікаў царквы. Пасля таго, як закончыў службу ў Грыцкавіцкай царкве іерэй Паісій Гінко, на працягу года ў ёй служыў святар Аляксандр Зямніцкі. Аднак пасля яго ад'езду пастаяннага святара ў царкве на працягу многіх гадоў не было.

Царкву ж даглядалі былы староста Васіль Максімавіч Кланюк, які праслужыў у царкве каля 30 год і пеўчая Надзея Васільеўна Казак. Са слоў В.М.Кланюка мы пачулі, што Спаса-Праабражэнская царква вельмі старажытны помнік драўлянага дойліцтва. Яна пабудавана без адзінага крапяжу. Калі, напрыклад, перакрывалі дах, то на струпянелых перакрыццях былі знойдзены дзе-нідзе яшчэ медныя цвікі, што з'яўляецца сведчаннем архаічнасці будынка. Таксама Васіль Максімавіч паведаміў, што яшчэ яго дзядуля ў дзяцінстве памятаў, што царква ўжо існавала (у 2008-м Васілію Максімавічу было каля 90 год).

У канцы 80-х – 90-е гг. мінулага стагодзя, царква тройчы падвяргалася рабунку. Так, у сярэдзіне 90-х гг. былі вынесены самыя каштоўныя рэчы: падсвечнікі, іконы, кнігі, якія рабаўнікі, каб пагрэцца, спалілі прама на тэрыторыі царквы.

З сярэдзіны 90-х гг. царква не працавала на працягу 6-ці год. Знаходзіліся ілжэсвятары, якія перыяд крызісу выкарысталі ў сваіх інтарэсах. "Айцец" Аляксандр Галушка звёз



**На фота: царква ў Грыцкавічах, студзень 2010г.**

старажытную пячатку ад царквы і шматлікае царкоўнае начынне, якое да цяперашняга часу не знойдзена.

Невядома, дзе падзеўся лес, які быў выдадзены на рамонт царквы. Са словамі сардэчнай падзякі ўспамінала Надзея Васільеўна Казак святара Паісія Гінко, які навучыў яе закону Божаму, зрабіў многа для забяспячэння царквы іконамі і неабходнымі рэчамі. Напоўжартам, яна сказала, што каб можна было жанчыне быць святаром, то служыла б не горш, чым малады святар. На развітанне Надзея Васільеўна праспявала нам некалькі царкоўных песень. Спявала ад душы, са слязьмі на вачах, верачы ў бясконцасць чалавечай душы. Яшчэ яна паказала нам царкоўную кнігу, якую сваімі рукамі ў 1958 годзе пераплёў аднавясковец Сямён Мазанік.

Зараз, на працягу апошніх двух гадоў, царкву ўзначальвае святар Іаан Белацаркоўскі. За гэты час у царкве паставілі новыя вокны, згароду. Але ж па-ранейшаму ўнутры царквы абшарпаная столь, неякасна зробленая печка. Сама ж царква стала нахіляцца на адзін бок і патрабуе абавязковага рамонту, на які, зноў-такі, не хапае сродкаў. Якім будзе далейшы лёс Грыцкавіцкай царквы – невядома.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

Кожная маленькая вёсачка, кожны помнік драўлянага і мураванага дойлідства мае сваю непаўторнасць і таямнічасць. У мінулых стагоддзях засталося шмат невядомага. Нельга пералічыць, колькі каштоўнасцяў, духоўных і матэрыяльных, было згублена.

За намі, сучасным пакаленнем, застаецца апошняе слова для захавання таго, што яшчэ засталося на сённяшні момант. Мы лічым, што трэба прыкласці ўсе намаганні, каб не згубіць таго, што захоўвалі нашы продкі стагоддзямі, скарыстаць усе магчымасці, каб больш падрабязна вывучыць гісторыю свай-



**На фота: 2008г – В.М.Кланюк і Н.В.Казак ля роднай царквы**

го краю, пакуль яшчэ жывуць тыя людзі, якія свята помняць традыцыі сваіх продкаў, якім ёсць што расказаць нашчадкам.

На прыкладзе Спаса-Праабражэнскай царквы нам удалося вызначыць, як пад уплывам палітычных падзей адбываліся змены ў духоўным жыцці нашых продкаў, як гвалтам рушылася сістэма агульначалавечых каштоўнасцяў, як, дзякуючы здаровай кансэрватыўнасці нашага народа, яшчэ жыве традыцыя...

На працягу свайго доўгага жыцця невялікая Спаса-Праабражэнская царква ў Грыцкавічах ніколі не існавала як самастойны прыход. Яна ёсць помнікам драўлянага "народнага" дойлідства, так як ва ўсе часы галоўным наведвальнікам яе з'яўляўся просты люд. І толькі дзякуючы яго намаганням удалося захаваць гэтую святыню.

Мы ўсцешаны, што ўдалося сабраць шмат доказаў таго, што Спаса-Праабражэнская царква – адзін з самых старажытных помнікаў драўлянага дойлідства Беларусі і духовай спадчыны нашых продкаў.

НА СЁННЯ ГЭТА САМЫ СТАРЫ ДРАЎЛЯНЫ ХРАМ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ, ЯКІ Ў 2012 ГОДЗЕ АДЗНАЧЫЦЬ СВАЁ 390-ГОДДЗЕ!

ЛІТАРАТУРА І КРЫНІЦЫ:

1. "Памяць" Крупскі раён. Мн. 1999, с .575-576.
2. Т.Габрусь. Помнікі манументальнага дойлідства Міншчыны. Мн.1991. с 24.
3. "Памяць" Крупскі раён. Мн. 1999, с.53.
4. Теплова В. Зуева З. Уния в документах. Мн. 1997, с.414-415.
5. Там жа, с.415.
6. АХСМП, захавальнік А.Аляхновіч.
7. Описание приходов и церквей Минской епархии. ч.2 Мн. 1879, с.243-245.
8. Метрические книги православных церквей Борисовского уезда Минской области. Национальный исторический архив Беларуси г.Минск, копия (АХСМП).
9. Л.Маракоў. Рэпрэсаваныя праваслаўныя свяшчэнна– і царкоўнаслужачыя. Энцыклапедычны даведнік.ч.2. Мн. 2007, с.86.
10. Минские епархиальные ведомости. 1878, №1-9, с.554.
11. Описание приходов... с.244.
12. Минские епархиальные ведомости. 1880, №1-23, с.103.
13. Там жа, 1882, №13-23, с.193.
14. Там жа, с. 206.
15. Там жа, 1879. №5-23, с.501.
16. Там жа, 1880, №1-23, с.221.
17. Там жа, 1880, №1-23, с.220.
18. Там жа, с. 20.
19. Там жа, с.224.
20. А. Багдановіч. Мае Халопенічы с.128. Часопіс "Нёман". 1994.
21. Там жа, с.129.
22. Памятная книжка Минской епархии. 1901. с.77.
23. Газета "Наша ніва". №22, 31 мая 1913, с.4.
24. Памятная книжка Минской губернии на 1915г. с.150-151.
25. Всемирная история Новейшего времени. Уч. пособие для 9 класса. Мн., 1998, с.96-97.
26. Партийно-государственные структуры, религия и церковь (1917-1928гг.) Гісторыя: праблемы выкладання. 2000, №2.
27. Л. Маракоў. Рэпрэсаваныя... с.226-227.
28. Там жа, с.86-87.
29. Православная церковь и Великая Отечественная война. Сборник церковных документов. Московская патриархия 1943, с.4.
30. Там жа, с.11.
31. Там жа, с.41.
32. Клировая ведомость Грицковичской церкви Холопеничского района Минской области за 1944г.
33. "Минская область в документах и материалах. Вып.2. Возрождение, 1946-1953гг." Мн., 2009 (укладальнікі: Белезяк Н.П., Жыгалаў Д.М., Кавалеўская Л.Э і інш.).
34. Постановление Священного Синода от 1.4.1952г., за №3.
35. Распоряжение Архиепископа Питирима от 12.6.1952.



# Мікратапаніміка вёскі Кіявец



**ПЕРШАЯ ПУБЛІКАЦЫЯ** / Уладзімір СЯРГЕЕЎ-САПЕЖЫНСКІ

***Памяці многіх пакаленняў маіх аднавяскоўцаў, якія акультурвалі гэтую зямлю і былі яе ўпрыгожаннем, якія ўсё далей і далей аддаляюцца ад нас, застаючыся ў нашай памяці толькі камянямі на кладзішчы…***

Мяркую, што значная частка сабраных назваў урочышч і мясцін маёй вёскі Кіявец узнікла недзе паміж двумя прыгонамі, – 1861 і 1930 гадамі. За гэты перыяд пасяўная плошча і плошча сенакосаў вырасла болей чым у два разы. У наш час неабходнасці ў гэтых назвах няма. Каму трэба ведаць пра Янкаў сенакос, плошча якога меней за гектар і з якога сена можна звезці толькі зімой, па мёрзламу балоту, – гэта цяпер, – калі каля хаты “касі - не хачу”. Хто будзе думаць дзе Грышкава ляда, а дзе Піскаватка, калі трактар вясной за адзін дзень узарэ і засее ўсё поле, а камбайн восенню сажне і змалоціць.

І мала хто з маладых застаецца ў вёсцы, бо для сельскагаспадарчай вытворчасці ня трэба шмат людзей, а “адходніцкія працы” перайшлі ў горад. І усё менш і менш застаецца жыхароў у вёсцы, знікаюць з памяці людской назвы, і знікаюць самі вёскі. Амаль не засталося тых, каму блізкія і знаёмыя гэтыя назвы.

Дзіўнае адчуванне не пакідае мяне, калі пішу гэтыя радкі – здаецца, што я ў пачатку 20 стагоддзя – мой дзед і яго таварышы маладыя й дужыя, а жыццё ў нашых мясцінах віруе й квітнее…

У гаспадарчым плане вёска Кіявец размяшчаецца вельмі нявыгадна, яна стаіць на самым паўднёвым ускрайку сваёй зямлі. З захаду, на адлегласці 600-700 метраў, знаходзіцца балота, З усходу – праз тых жа 600-700 метраў – панскі лес. Недзе за 50 гадоў (з 1865 па 1915) мяжа распрацаваных зямель пасунулася на поўнач амаль на 2км. І кожны лапік новай ворнай зямлі ці пожні ўжо меў назву.




**Вёска Кіявец. Фрагмент карты БССР 1978г.**

## ТЭРЫТОРЫЯ НА ПОЎДЗЕНЬ АД ВЁСКІ КІЯВЕЦ НАЗЫВАЕЦЦА:

**Той бок** – мясцовасць за Малой рэчкай, першапачаткова адносілася да пасёлка Шарнява потым (пасля распаду абшчыны недзе ў канцы 19 пачатку 20 стагоддзя), частка зямель была выкуплена жыхарамі Кіяўца.

**Малая рэчка**, калі і проста рэчка – ручэй, які выцякае з балота, працякае ўздоўж Кіяўца на адлегласці каля 100м. з паўднёвага боку, у напрамку з захаду на ўсход, каля сучаснага кладзішча рэзка паварочвае на поўдзень і цераз 1км. упадае ў раку Бабёр. Рэчка неаднаразова паглыблялася і спрамлялася маімі землякамі (у канцы 19 стагоддзя; у канцы трыдцатых пяцідзясятых і шасцідзесятых гадоў 20 стагоддзя). Раздзяляе землі Кіяўца і Шарнява.

**Гарадзішча** – узвышша, гара на Тым баку памерамі 600 на 200 метраў.

**Капказ** – рэшткі старажытнага ўмацавання на Гарадзішчы.

**Прыкапказнік** – роў вакол Капказа.

**Цыганскі вугал і Цыганская горка** – невялікі лужок і горка на Тым баку на ўскрай лесу з захаду, дзе заўсёды застанаўліваліся табарам цыгане.

**Аніськава пушча** – невялічкая пушча на Тым баку, мусіць па прозвішчу жыхара Кіяўца.

**КАЗАЛІ:**

*-Дзе быў?*
*-На тым баку.*
*-Дзе суніцы назбіраў?*
*-На гарадзішчы.*
*-Пойдзем на Капказ.*



**На фота: гарадзішча "Капказ", 2010г.**

**Масейкаў барок** – невялічкі бор на Тым баку, мусіць па прозвішчу жыхара Кіяўца.

ЗАЎВАГІ:

1. У памяці кіяўцоў засталіся ўспаміны аб Гарадзішчы менавіта як аб гарадзішчы, а не як у другіх вёсках – Шведскіх ці Французскіх могілках. У дзятвы лічылася, што на "Вялічка трэба хадзіць гуляць на Гарадзішча".

2. Не было такой назвы як Шарняўскае – у той час як было Лютавецкае, Хратанскае, Астроўскае, Абчугскае. Мабыць таму, што Кіявец устык падыходзіць да паўднёвай мяжы свайго землеўладання і адпаведна да шарняўскай мяжы, і лясныя ўгоддзі Шарнява ўспрымаліся як свае.

3. У дзяцінстве чуў, што Капказ скарочанае ад "капалі казакі". У 1954-55 гадах у Абчугскай школе быў настаўнік гісторыі Яфім Піліпавіч Шапавалаў, родам з Тулы, ён лічыў, што Капказ гэта гарадзішча на якім у час руска-шведскай вайны быў пабудаваны абаронны рэдут.

## НЕПАСРЭДНА ВЁСКА КІЯВЕЦ

( на карце Расійскай імперыі 1866г. абазначана як Кіевцы):

**Казаноўка** – заходні канец вёскі. Мабыць была некалі воскабойня і там пчалярамі быў пастаўлены казан.

**Абчугская вуліца** – усходняя частка Кіяўца за шляхам на Чарэю, была забу-



**МІКРАТАПАНІМІКА ВЁСКІ КІЯВЕЦ**

**На фота: усходні канец в.Кіявец, 2010г.**

давана ў перыяд 1930-2000.
**Чарэйская вуліца** – частка вёскі ўздоўж былога шляху Бобр-Чарэя ў кірунку на Чарэю, моладзь у 30-х гадах XX ст. называла яе паміж сабой Блындаўка.
**Дзянісаў прагон** – прагон насупраць Дзянісавай хаты.
**Несцераў прагон** – прагон насупраць Несцеравай хаты. У Кіяўцы было два прагоны імі карысталіся жыхары сярэдзіны вёскі дзеля выезду на сельскагаспадарчыя працы (паўночны напрамак). Жыхарам "канцоў" неабходнасці ў прагонах не было, яны выязджалі ў канец вёскі і ехалі на поўнач.
**Піліпава гара** – узгорак каля Піліпавай хаты. Некалі, (гадоў 200 таму) тут было старое кладзішча.
**Праварышча** – пляцоўка над Малой рэчкай на ўсходняй ўскраіне вёскі. Мабыць на гэтым месцы была вінакурня (бровар).
**Гай** – невялічкі лужок, паросшы кустамі, непасрэдна прымыкаючы да сядзібаў з паўночнага боку Казаноўкі.

ЗАЎВАГІ:
1. Некаторыя старыя людзі лічылі, што Кіявец заснаваны і названы багамольцамі, якія вярталіся з багамолля ў Кіеў, некаторыя звязвалі назву з нейкімі кійкамі, але найбольш паважаныя і граматныя адказвалі, што ня ведаюць. На картах удалося адшукаць яшчэ пяць паселішч з такой назвай: вёска на захад ад Мінска, на Дунаі, у Польшы пад Беластокам і памерлая вёска каля г.Сянно на Віцебшчыне.



**На фота: урочышча "Казаноўка", 2010г.**

2. Кіявец у пачатку 20-га стагоддзя меў у плане выгляд літары Т. Цяпер вуліцам далі новыя афіцыйныя назвы: Центральная, Вясенняя і новаадбудаваным Маладзёжная і Лясная (не запытаўшы жыхароў Кіяўца).
3. Складаныя назвы, дзе прысутнічала асабістае імя (Несцераў прагон, Піліпава гара), мянялі назву як бы ў спадчыну: мой дзед часцей называў Піліпаву гару – Махтодавай (Махтод-бацька Піліпа).
4. Слова Гай чуў ад кіяўцоў толькі ў дачыненні да свайго (кіявецкага) Гаю.

## УРОЧЫШЧЫ І МЯСЦІНЫ ПАСЛЯДОЎНА ПА ГАДЗІННІКАВАЙ СТРЭЛЦЫ (ПА СОНЦУ):

**Выган** –невялікі лужок з боку Казаноўкі (захад ад Кіяўца). Тут паслі коз, авечак, свіней, гусей. Кароў куды толькі ні ганялі, – і ў Навасельскае і пад Лагі і на Абчугскае поле.
**Вугал** – месца на захад ад вёскі 300 метраў, дзе Малая рэчка выцякае з балота.
**Цялегаўка** –левы (паўночны) бераг Малой рэчкі на адлегласці 30-50 метраў ад Кіяўца на захад. На карце Расійскай імперыі 1866 года паказана, што тут праходзіла дарога з Чарэі на Бобр. Хутчэй за ўсё тут быў дужа дрэнны праезд. Слова "цялега" я ад вяскоўцаў ня чуў, гаварылі "калёсы", але ўжывалі – "зцялежыцца" (па сучаснаму – адваліўся пярэдні мост).
**Плянтоўка** – палоска пожні (аблогі) уздоўж балота. Нада меркаваць тут былі

праведзены работы па планіроўцы і карчаванню. (Толковый словарь Ушакова: “плинтовать – выравнивать очищать поверхность чего-л. Плинтовать торфяник”).

**Гарэлае балота** – невялікае балота на адлегласці 1км на паўднёвы захад ад вёскі. Назва ад таго, што некалі яно прагарэла. Падцверділа сваю назву, згарэўшы ў пачатку 90-х гадоў ХХст.

**Падгараўка** – даволі круты схіл над балотам на адлегласці 800м на паўночны захад ад вёскі.

**Роў** – роў на поўнач ад Падгараўкі, яшчэ ў пяцідзясятых гадах ХХст. там была крыніца.

**Сераборак, Падвязок, Падліпкі** – пожні ў даліне, якая праходзіць з захаду на ўсход на адлегласці 1км на паўночны захад ад вёскі. У дзяцінстве чуў, што Сераборак гэта шэры барок. Мабыць у даліне былі нейкія ўмовы, што раслі рэдкія для нашага рэгіёну пароды дрэў – блакітная елка; можа ліственніца, можа піхта; вяз і ліпа. З прыгорку бруілась крыніца.

**Піскаватка** – ворная зямля на адлегласці каля 2км на паўночны захад ад Кіяўца. Назву тлумачылі тым, што гэта пясчаная зямля пасярод балота (дарэчы шмат такіх назваў сустракаў у Валгаградскай, Белгародскай і Курскай абласцях Расіі).

**Янкаў сенакос** – пожня сярод балота плошчай каля гектара на адлегласці 2,5км на паўночны захад ад вёскі. Хто такі Янка ніхто не памятае.

**Шырокія наддачы** – ворная зямля на адлегласці каля 3км на паўночны захад ад вёскі.

**Вузенькія разкі** – ворная зямля на адлегласці 300м на ўсход ад Шырокіх наддач.

**Сырны мех** – пожня ў вельмі мокрым месцы на адлегласці каля 2,5км на паўночны захад ад вёскі.

**Грышкава ляда** – ворыва на адлегласці каля 3км на поўнач ад вёскі. Пра Грышку ніхто не памятае.

**Ласіная галава** – ворыва на пагорку – каля 3км на поўночны ўсход ад вёскі. Некалі ваўкі там загрызлі лася.

**Крывое балота** – невялікае балота на адлегласці 2,5км на поўнач ад вёскі.

**Сцяпанаў хутар** – ворная зямля на адлегласці каля 2км на паўночны ўсход ад вёскі.

**Паддуб’ё, Карчы, Асіннік** – мясціны каля Сцяпанава хутара.

**Каменная дарога** – кавалак дарогі, праз вільготную нізіну, забутаваны камянямі, паміж Сцяпанавым хутарам і Паддуб’ём, даўжынёй 150-200метраў.

**Гародчыкі** – мясцовасць каля Сцяпанава хутара, падзеленая на вельмі малыя долі (каля 1-2 сотак); таму й атрымала такую назву.

**Навасельскае** – даволі вялікі лес на адлегласці 2-3 км на поўнач ад Кіяўца, з захаду на ўсход ён мяжуе з усімі землямі вёскі. Назва па засценку Навасельскае.



**На фота: клямка ў выглядзе змяі, в.Кіявец, 2010г.**

**Новасёлкі** – месца, дзе жылі перасяленцы з Нясвіжу; купілі зямлю. У трыдцатых гадах было 12 хат: 10 каталікі і 2 праваслаўныя. Па сведчанні жыхара Кіяўца Крашэўскага Міхаіла Пятровіча (1930 г.н.) у 1939 годзе выйшаў указ па перасяленню малых вёсак, і іх перасялілі ў вв. Кіявец, Астроўкі, Абчуга. На карце Расійскай імперыі 1866г. Навасёлкі пазначаны як засценак.
**Паддрабінка** – мясціна 800 метраў на поўнач ад усходняга канца Кіяўца, на ўсход ад злучэння шляхоў Талочын-Чарэя і Бобр-Чарэя (пад Крыжам).
**Будная печ** – узгорак на адлегласці 500м на поўнач ад усходняга канца Кіяўца. Некалі там была печ па апальванню цэглы (распавядала мая цётка Бароўская (ў дзявоцтве Балотнікава) Аўдоцця Захараўна (1900-1969)).
**Пад крыжам** – стаяў крыж і каплічка на злучэнні шляхоў Талачын-Чарэя і Бобр-Чарэя (распавядала Бароўская Аўдоцця Захараўна (1900-1969)). Зараз гэта месца пад ворывам; з Талачына на Абчугу дарога не захавалася, а з Бабра на Чарэю зараз ідзе дарога Бабруйск-Чашнікі.
**Вілы** – на адлегласці 300 м на поўнач ад Крыжа шлях разыходзіўся на дзве часткі, а потым хутка сыходзіўся (распавядала Бароўская Аўдоцця Захараўна (1900-1969)).
**Вільчынскі лужок** – пожня каля былых хутароў у Калінках: лясніка Вільчынскага і Фёдара Крупадзёра (у 1939 годзе Вільчынскага перасялілі ў Абчугу, Кру-

падзёра – у Кіявец (іх зямлю забралі, а саміх – у калгас).
**Антымонаў хутар** – паляна ў Калінках дзе знаходзіўся хутар, гаспадаром якога быў Антымон Цюхлоў на адлегласці 1км на паўночны ўсход ад усходняга канца вёскі. У час высялення з хутароў (1939 год) яго хату пабурылі калгаснікі, і ў гэты ж час ён разыйшоўся з жонкай (усім, хто не згаджаўся перасяляцца – бурылі сядзібу). Яна з дзецьмі стала жыць у Кіяўце. Антымон жа з новай абранніцай застаўся на хутары, жывучы ў перабудаванай ёўні. Так пражыў да пачатку вайны. Немцы, па даносу, адправілі яго ў канцлагер пад Барысавам, быццам за сувязь з партызанамі. Там ён і загінуў.
**Калінкі** (націск на першы склад) – лес паміж вв. Абчугай, Кіяўцом і Астроўкамі.
**Калінкі** – ворнае поле з паўночнага боку леса Калінкі. Пан Нітаслаўскі даў на пяць гадоў у распрацоўку сялянам частку леса без усялякай платы. Тыя раскарчавалі лес і знялі некалькі ўраджаяў. Потым зямля адышла назад да пана, ён правёў дрэнаж гэтага участка. Такім чынам назва Калінкі ўжывалась да лесу і да поля.

**КАЗАЛІ:**
*-Дзе набраў маліны?*
*-У Калінках.*
*-Што пасеяў у Калінках?*
*-Грэчку.*

**Макарыхіна ляда** – кавалак лесу на поўднёвым ўскрайку дрэнажаванага поля плошчай 2-3 гектары, на адлегласці 1,5км на поўнач ад вёскі. Належыла Макарыхе, якая не здолела давесці работы да ворыва і яе ўчастак не дрэнажавалі. Так ляда й засталася. “У хаце як у лядзе” казала мая цётка Бароўская Аўдоцця Захараўна, калі ў хаце было непрыбрана.
**Папова** – дзелянка лесу на поўдзень ад Макарыхінай ляды, належала настаяцелю Абчугскай царквы Акуніну.
**Клін** – лес паміж двумя дарогамі Кіявец-Абчуга і Шарнева-Абчуга, якія сходзяцца пад вуглом.
**Жыдоўскае кладзішча** – габрэйскія могілкі, дзе хавалі да 1942 года; на адлегласці 500м на паўднёвы ўсход ад вёскі Кіявец, на ўскрайку леса.
**Сцулеў вір** – месца дзе ў раку Бабёр з левага берага са звонам упадала крыніца, на адлегласці 800м на поўднёвы ўсход ад Кіяўца.
**Крыніца** – крыніца на адлегласці 800м на поўднёвы ўсход ад Кіяўца, на ўскрайку леса насупраць Сцулява віра на правым беразе Бабра. Пасля таго, як Акунін (настаяцель Абчугскай царквы) быццам бы палепшыў (аздаравіўся), памыўшыся ў крыніцы, яна стала лічыцца аздараўляльнай, там зрубілі агарожу паставілі крыж, праводзілі набажэнствы.
**Грэбля** – дарога на поўдзень ад Сцулевага віра цераз балоцвіну да купленых кіяўцамі земляў – (была набыта частка леса Міхалін). Грэблю насцялілі недзе напрыканцы 19 пачатку 20 ст.
**Міхалін** – лес, гаспадаром якога некалі быў Міхалін, на адлегласці 800м на поўднёвы ўсход ад Кіяўца, па леваму берагу ракі Бабёр.
**Буёмінаў участак** – лес паміж Міхалінам і Пушчай, гападаром лесу быў Буёмін. Па сутнасці Міхалін, Буёмінаў участак, Пушча гэта адзін лясны масіў, які

цягнецца на поўдзень недзе кіламетраў дзесяць. Але лічылася, што Міхалін і Буёмінаў участак гэта лес, бо яны некалі вырубаліся, а Пушча гэта пушча.

**Лугі** – заліўныя лугі каля ракі Бабёр якія належылі вёсцы, на паўднёвы ўсход ад Кіяўца. Акрамя таго назва Лугі прымянялась як сінонім вялікай рэчкі (р.Бабёр).

**Другі луг** – частка Лугоў па праваму берагу ракі Бабёр з боку в.Абчуга.

**Першы луг** – частка Лугоў з боку в.Кіявец, уніз па цячэнню адносна Другога Луга.

**КАЗАЛІ:**
*- Ці скасілі Другі Луг?*
*- Пойдзем купацца на Бабскія Лугі.*

**Бутокі** – луг паміж вялікай (р.Бабёр) і Малой рэкамі, перад упадзеннем малой.

**Бабскія лугі** – месца для купання дзяўчат на рацэ Бабёр. Знаходзіліся ў раёне Другога Луга. Менавіта месца купання, як цяпер бы сказалі пляж. Такім чынам, Бабскія лугі знаходзіліся на Другім лугу.

**Каліннік** – частка Міхаліна непасрэдна прымыкаючая да ракі Бабёр, насупраць Другога Луга, раней тут багата расла каліна.

**Лужкі** – небальшэнькія лужкі ў даліне Малой рэчкі ніжэй в.Кіявец.

ЗАЎВАГА:

У кіяўцоў луг, лужок – гэта заліўны луг. Не заліўны луг гэта – сенакос, аблога, пожня. Назва Лугі прымянялася як сінонім ракі Бобр, вялікай ракі.

- Пойдзем купацца на Лугі.

**Грэбля на балоце** – грэбля ў напрамку вёсак Язбы і Лютыя.

**Мост на балоце** – мост цераз канаву ў напрамку в.Язбы. Гэтым кірункам з Абчугі ў Язбы, ў аб'езд в.Лютыя, цераз балота да сваёй сястры ездзіў гасцяваць пан Нітаслаўскі (запісана ад жыхара в.Кіявец Чайкіна-Чаплінскага Пётры Дзянісавіча 1925 г.н.).

ЗАЎВАГА:

На карце Расійскай імперыі 1866г. паказана іншая дарога ад Кіяўца на Лютыя. Мабыць пан ездзіў на гаспадарства Язбы "на цянькі", мінуючы в.Лютыя ("цянькі" – прама, напрасткі, прамейшай, але не заўсёды карацейшай дарогай; казалі: "Цянькі на тры дзянькі"). Бацька Пятра Чайкіна-Чаплінскага распавядаў, як некалі ўзімку пан ехаў і коні, недзе адразу на захад ад Кіяўца, завязлі ў снезе. Кіявецкія мальцы, сярод якіх быў і Дзяніс, адкапалі коней, за што пан даў ім па 20 капеек.

**Лютавецкае** – землеўладанні жыхароў вёскі Лютыя, прымыкаючыя да балота з паўднёвага захаду.

**Астроўскае** – землеўладанні жыхароў вёскі Астроўкі, прымыкаючыя да Кіявецкага поля ў Калінках.

**Хратанскае** – балоцісты лес у землеўладаннях жыхароў в.Харытанцы найбольш блізкі да в.Кіявец з заходняга боку. Дарэчы, у нас казалі Хратанцы, а не Харытанцы.

**Цюпаў мост** – у час вайны з немцамі на гэтым мастку ўзарваўся дзед Цюпа (імя ці мянушка – невядома), які вёз на валах з Астровак ў Абчугу малако здаваць. Напярэдадні партызаны ставілі там міну, убачыўшы мальцаў, якія ішлі ў Абчугу, уцяклі ў лес. Мальцы паспрабавалі падарваць міну, але ня здолелі і кінулі як ёсць (па сведчанні жыхара Кіяўца Крашэўскага Міхаіла Пятровіча (1930 г.н.)).

**Пад азярком (Азярышча)** – нізінка ў Калінках на адлегласці 1,5км на паўночны захад ад Кіяўца. Казалі, што там была царква і правалілася, а на тым месцы стала возера, якое потым ушло пад зямлю. На гэтым месцы ў пачатку 60-ых гадоў XXст. пры пракладцы высакавольтнай лініі затануў трактар, хаця знешне да таго часу і зараз там суха.

**Табар** – балоцвіна ў лесе Калінкі на адлегласці 2 км на паўночны ўсход ад Кіяўца.

**Хіноў рышт** – канава, прарытая ад Табара да ракі Бабёр, спрамляе прыродны сток вады, праходзіла па мяжы Абчугскіх і Кіявецкіх зямель. Атрымала назву ад габрэя Хінкі, які ўзяў падрад на работу.

**Сомова дарога** – дарога ад в.Абчуга да Кіявецкіх гумнаў. Карчмар Сом (Самуіл) восенню насіў па гэтай дарозе торбы са збожжам – спагнаныя даўгі за выпіўку ў доўг (распавядаў мой дзед, жыхар вёскі Кіявец, Захар Фёдаравіч Балотнікаў-Сапежынскі (1873-1969). Да кастрычніку 1917-га скончыў школу ў Абчузе, дзе нейкі час працаваў потым настаўнікам. Пасля вайны з немцамі быў старшынёй калгаса у Кіяўце.).

**Глінянішча** – ірвы ў лесе Клін. Тут быў некалі завод па вырабу цэглы (Захар Фёдаравіч Балотнікаў-Сапежынскі (1873-1969)).

**Чорны вір** – глыбокае месца вышэй упадзення Малой рэчкі ў раку Бабёр.

**Галынка** – поле на поўдзень ад Кіяўца ў адлегласці 400 м, прымыкае да Малой рэчкі. Тлумачыцца нізкай урадлівасцю глебы, цяпер там лес.

**Пясчанка** – кавалак ракі Бабёр з пясчаным дном ад Вадапою да Бутокаў.

**Вадапой ці пераезд** – месца вадапою і адпачынку кароў у час іх выпасу на лугах; брод на шляху ў в.Шарпілаўка. Знаходзіцца ў 500м на поўдзень ад ўсходняга канца Кіяўца.

**Бор** – лес паміж ракой Бабёр і дарогай Абчуга-Шарнява (на ўзбярэжжы ракі).

**Міхайлаў роў** – роў у Бару насупраць Бабскіх Лугоў, выкапаны ў першыя дні вайны да прыходу немцаў, як супрацьтанкавы. Міхайлаў у той час быў дырэктарам ільнозавода і сакратаром партыйнай арганізацыі в.Абчуга.

**Рум** – круты бераг ніжэй Вадапою. пры сплаве лесу там вязалі плыты, нават яшчэ у 50-х гадах XX стагоддзя.

*2008-2010 гг.*

**КАЗАЛІ:**
*"Пойдзем у чарніцы ў Хратанскае".*

# Спіс дэпутатаў барысаўскай павятовай Думы ў 1906 г.



**Д А К У М Э Н Т** / Андрэй АЛЯХНОВІЧ

*Яшчэ чакае свайго даследніка гісторыя стварэньня й дзейнасьці Барысаўскай павятовай Думы ў 1906-1914гг. У архівах захавалася шмат матэрыялаў на гэтую тэму. Нажаль выдадзеныя кнігі "ПАМЯЦЬ" Крупскага й Барысаўскага раёнаў амаль абмінулі гэтую цікавую старонку гісторыі нашага рэгіёну. Пададзены ніжэй спіс утрымлівае 82 прозьвішча нашых землякоў, якія, хочацца спадзявацца, клапаціліся аб жыцьці грамадзкім не меней, чым сучасныя народныя абраньнікі.*

У нашым спісе пададзеныя асобы, якія абіраліся ў Думу з тэрыторыі былога Халапеніцкага і сучаснага Крупскага раёнаў. Аб некаторых зь іх мы ведаем, але большасьць прозьвішчаў пакуль "маўчыць".

Напрыклад вядома, што дэпутат пад нумарам 9, Лапотка Дзям'ян Іванавіч больш 40 год адпрацаваў настаўнікам народнага вучылішча ў Халапенічах. Упершыню мы сустракаем яго імя ў Памятнай кніжцы Мінскай дырэкцыі народных вучылішчаў за 1891-92гг. на старонцы 9: "Холопеничское училище. Учащихся 53 мальч. 15 дев. Учитель Демьян Иванович Лопотко, окончил курс Несвижской учительской семинарии; в службе и далее, с 1 сентября 1879г; православного вероисповедания." Па успамінах маёй бабці (былой яго вучаніцы) Дзям'ян Іванавіч быў настаўнікам "…строгім, але справядлівым, і калі што нам было не зразумела – доўга вошкаўся з намі, пакуль не ўцямім. Не любіў гультаёў. А вучыў ён дзяцей і пасьля рэвалюцыі. Памёр недзе ў сярэдзіне 1920-х і пахаваны на нашых дваровых праваслаўных могілках, пад адным помнікам з жонкай".




**На фота: помнік на магіле Аляксандры Лапотка з надпісам ад мужа.**

Ці возьмем нумар 18, Хіневіч Васіль Яфімавіч, які быў абраны ад паселішча Крупка. Дарэчы, у ніжэйпададзеным спісе назва Крупкі азначае сучасны горад Крупкі, а Крупка – сучасны пасёлак Крупскі (чыгуначная станцыя). З успамінаў старажыла пасёлка Крупскі Міхальчука Васіля Васілевіча мы даведваемся, што:



Вікенцій Брадоўскі



Хіневіч В.Я. (справа), Хіневіч Ф.М. (у цэнтры) з сынам.

“Мой дзед, Хіневіч Васіль Яфімавіч, нарадзіўся ў 1861 годзе ў в.Вялікія Жухавічы Наваградскага павету. Па запрашэнні пана Карла Свяцкага ў 1887 пераехаў на сталае жыхарства на чыгуначную станцыю мястэчка Крупкі. Фактычна ён з’яўляецца адным з першых жыхароў гэтага паселішча. Працаваў там кіраўніком панскага маёнтка. Атрымаў ад Свяцкага 10 дзесяцін лесу і пабудаваў сядзібу каля чыгункі. Ажаніўся з маёй бабуляй, Дайнэка (Хіневіч) Фяўроніяй Мікалаеўнай, ураджэнкай в.Дакудава Крупскага р-на і нарадзілі шасцёра дзяцей. Трымалі на станцыі краму. Пасля рэвалюцыі паводле пастановы ўладаў наша сямья была выселена з уласнага дому (зараз там размешчаная дзяржаўная крама й аддзяленне сувязі). Жылі ў пас. Крупскі.

А вось нумар 38, - Шэйтэльман Юда Мойшавіч з Красналук. Аб ім мы нічога не ведаем, акрамя таго што ён меў нявіннарэпрэсаванага брата на імя: Шэйтэльман Берка Мойшавіч (Барыс Маісеевіч), які нарадзіўся ў 1883-м, магчыма, у вёсцы Загацец Халапеніцкага р-на. Жыў ён у г.Куйбышаў (Самара) у Расіі, і працаваў тавараведам Куйбышаўтрансгандльхарчу. Быў арыштаваны НКВД 18 снежня 1937-га. Асуджаны 16.2.1938 асобай нарадай пры НКВД СССР па артыкуле 58-6 да 10 год канцлагера. Далейшы лёс Беркі Мойшавіча невядомы.
Пад нумарам 61 у спісе выступае Брадоўскі Вікенцій Антонавіч - уладар маёнтка Хацюхова, які ўключаў у сабе: 2542 дзесяцін зямлі, 2 карчмы, вінакуранны завод, запалкавую фабрыку і млын на р.Начы. Ахайны гаспадар, мецэнат і бацька вялікай сямы, адзін з сыноў якога – Леон Брадоўскі зьяўляецца вядным дзеячом культуры сучаснай Польшчы. Працягваючы сямейныя традыцыі ягамосьць Леон фундаваў выданьне кнігі “Хацюхова гісторыя невялікага паселішча” (Мн. 2001), і прымаў чынны ўдзел у сьвяткаваньні 430-годдзя вёскі Хацюхова Крупскага раёна ў 2003 годзе.

Асоба пад нумарам 70, Эпштэйн Хаім з Красналук, зьяўляўся бацькам Эпштэйн Бэлы Хаімаўны, якая нарадзілася ў 1896-м таксама ў мястэчку Красналукі Халапеніцкага р-на. Была нявінна рэпрэсаваная – дата яе першага арышту невядома. Адбывала пакаранне ў Ухтпячлагу НКВД СССР. Другі раз была арыштавана 3 снежня 1937-га, і асуджаная 11 студзеня 1938-га тройкай пры НКВД Архангельскай вобласьці, па артыкулах 58-10-11 КК РСФСР, да страты на смерць. Расстраляна 30 сакавіка 1938. Вядома месца пахавання – руднік Варкута.
Хочацца спадзявацца, што гэтая публікацыя дапаможа "ажывіць" большасьць імёнаў ніжэйпададзенага спісу.

## СПІС ДЭПУТАТАЎ БАРЫСАЎСКАЙ ПАВЯТОВАЙ ДУМЫ Ў 1906 ГОДЕ, (ФРАГМЭНТ):

КЛЕБАНАЎ БЕРКА НІСАНАВІЧ — ГУМНЫ
КРЫВАШЭЙ АБРАМ РАФАІЛАВІЧ — ГІБАЙЛАВІЧЫ
ЯКАЎЛЕЎ ІВАН ДЗМІТРАВІЧ — ХАЛАПЕНІЧЫ
КАЦ МЕЙЕР — ХАЛАПЕНІЧЫ
КРУГЛІК АФАНАСІЙ — ХАЛАПЕНІЧЫ
ЛАПІДУС ХАІМ-ГІРША — ХАЛАПЕНІЧЫ
ЛЯЎДАНСКІ ПЕТР МІХАЙЛАВІЧ — ХАЛАПЕНІЧЫ
ЛІНОЎ МІША МНАХУНАВІЧ — ХАЛАПЕНІЧЫ
ЛАПОТКА ДЗЯМ'ЯН ІВАНАВІЧ — ХАЛАПЕНІЧЫ
ЛОСІН МОЙША ЗАЛМАНАВІЧ — ХАЛАПЕНІЧЫ
МАРКАЎ ЦІМАФЕЙ ІВАНАВІЧ — ХАЛАПЕНІЧЫ
МЕТРЫК МЕНДЭЛЬ ШМУЙЛАВІЧ — ХАЛАПЕНІЧЫ
МАДЭЛЬ НІСАН ДАНАВІЧ — ХАЛАПЕНІЧЫ
НЕЙШТЭЙН БЕРКА ГІРШАВІЧ — ХАЛАПЕНІЧЫ
АСІНОЎСКІ ІВАН АНТОНАВІЧ — ХАЛАПЕНІЧЫ
МАЗО ГІРША АЎСЕЕВІЧ — КЛЕН
ХІТРЫК ГІРША ЮДАВІЧ — КРАСНАЛУКІ
ХІНЕВІЧ ВАСІЛЬ ЯФІМАВІЧ — КРУПКА (чыгуначная станцыя. – рэд.)
КЛЕБАНАЎ ДАВІД ШМУЙЛАВІЧ — КРУПКА
КРАСНІК ЭЛІЯ ЕВЕЛЕВІЧ — КРУПКА
АЛІСАЎ АПІЛІНАРЫЙ ІВАНАВІЧ — КРУПКА
КОРСАК КАЗІМІР ЮЗЭФАВІЧ — КРУПКІ
МОЛАРАЎ ПЕТР ЯКАЎЛЕВІЧ — КРУПКІ
МІЛЕНЬКІ МІКАЛАЙ КАНСТАНЦІНАВІЧ — ЛАТЫГАЛІЧЫ
КРУПЕНІЧ ІВАН КСАВЕРАВІЧ — ЛАТЫГАЛІЧЫ
ПРАТАСЕВІЧ ВІКЕНЦІ ВІКЕНЦЬЕВІЧ — ЛАТЫГАЛІЧЫ
ПЯРЭЛЬМАН АЎСЕЙ ТАНХЕЛЕВІЧ — ШАМКІ
МАЛАШКЕВІЧ МАКСІМ МІНАВІЧ — УХВАЛА
ІСКРЫЦКІ ІВАН — ВЫДРЫЦА
МІКУЛЬСКІ РЫГОР ВІКЕНЦЬЕВІЧ — ВЫДРЫЦА
РАТНІЦКІ АРЬЯ ШЫМАВІЧ — БОБР
РАТНІЦКІ БЕНІЦЫЯН МОЙШАВІЧ — БОБР
ВАРОНА РЫГОР — ДАБРАМЫСЛІ
ШПУНТ ЯНКЕЛЬ АЙЗІКАВІЧ — ГАНКАЎКА
РАЙНЕР МОЙША МАРДУХАВІЧ — ХАЛАПЕНІЧЫ
ШМУКЛЕР ЛЕЙБА — ХАЛАПЕНІЧЫ
ТКАЧЭНКА АРЦЕМ ФЕДАРАВІЧ — ХАЛАПЕНІЧЫ
ШЭЙТЭЛЬМАН ЮДА МОЙШАВІЧ — КРАСНАЛУКІ
ШЫФРЫН МОЙША ЯХЕЛЕВІЧ — КРАСНАЛУКІ
ШЫФРЫН ШЛЁМА КАПЕЛЕВІЧ — КРАСНАЛУКІ
ШЫФРЫН МЕНДЭЛЬ ШЛЁМАВІЧ — КРАСНАЛУКІ
ШЫФРЫН ШЭНДЭР ШЛЁМАВІЧ — КРАСНАЛУКІ
ЗРУБОВІЧ МЕНДЭЛЬ ЭЛЬЕВІЧ — КРУПКА
ШПУНТ РУБІН ГІРШАВІЧ — КРУПКА
РАМЕНДАЛІНСКІ МІХАІЛ ФАМІЧ — КРУПКІ
САКАЛОЎСКІ ІВАН АНДРЭЕВІЧ — КРУПКІ
РАЙХЕЛЬ МЕНДЭЛЬ МАРДУХАВІЧ — ЛАТЫГАЛІЧЫ
ЦЭЙТЛІН БЕРКА АБЕЛЕВІЧ — НАЧА
ШКУРАТ ІВАН ЛЮДВІГАВІЧ — ВОСАВА
ШКАТУЛА СЦЯПАН ВАСІЛЬЕВІЧ — ПРЫКЛЕНАК
ЗЛАТКІН МІХЕЛЬ ГІРШАВІЧ — ШАМКІ
ГАРДОН ЗАЛМАН ІЦКАВІЧ — БОБР

БАРЭНБАУМ МОЙША ЛЕЙБАВІЧ — ВЯЛІКІЯ ЖАБЕРЫЧЫ
ЧАЛІ-СУРЫЕЎ ВЯЧАСЛАЎ ІВАНАВІЧ — ХАЛАПЕНІЧЫ
ДАЎГАПОЛАЎ ФЕДАР ВАСІЛЬЕВІЧ — ХАЛАПЕНІЧЫ
ДАРОЖКАЎ ІВАН ВАСІЛЬЕВІЧ — ХАЛАПЕНІЧЫ
ЭБЕР ЁСЕЛЬ — ХАЛАПЕНІЧЫ
ФОН-ЗЭНГЕР ГЭНРЫ ФРЫДРАХАВІЧ — ХАЛАПЕНІЧЫ
ФРАДКІН ЛЕЙБА ГІРШАВІЧ — ХАЛАПЕНІЧЫ
ГІЛЬМАН БЕНІЯМІН ЛЕЙЗЕРАВІЧ — ХАЛАПЕНІЧЫ
БРАДОЎСКІ ВІКЕНЦІ АНТОНАВІЧ — ХАЦЮХОВА
АБЕЗГАЎЗ ЗАЛМАН МЕЙЕРАВІЧ — КРАСНАЛУКІ
БЛАНК ШЛЁМА БЕРКАВІЧ — КРАСНАЛУКІ
БАГДАНОЎСКІ СЯРГЕЙ ФЕДАРАВІЧ — КРАСНАЛУКІ
ЭБЕР АРОН ЯНКЕЛЕВІЧ — КРАСНАЛУКІ
ЭБЕР АБРАМ ЯНКЕЛЬ АРОНАВІЧ — КРАСНАЛУКІ
ЭБЕР МОРДУХ АРОНАВІЧ — КРАСНАЛУКІ
ЭЙНГАР МЕНДЭЛЬ РАФАЛАВІЧ — КРАСНАЛУКІ
ЭЛЬКІНД ЛЕЙБА МЕЙЕРАВІЧ — КРАСНАЛУКІ
ЭПШТЭЙН ХАІМ — КРАСНАЛУКІ
ЭСІН ШЭФТЭЛЬ РУБІНАВІЧ — КРАНСНАЛУКІ
БРУК МОЙША ФАЙБІШАВІЧ — КРУПКА
ГЕДЭОНАЎ МІХАІЛ МІКАЛАЕВІЧ — КРУПКІ
ФРЫДМАН ВУЛЬФ ЛЕЙЗЕРАВІЧ — ЛАТЫГАЛІЧЫ
ДЗЕГІЛЕВІЧ МІХАІЛ АНТОНАВІЧ — МХЕРЫН
ДРАЗДОВІЧ ДАНІІЛ ВОСІПАВІЧ — СТАЙЧАЎКА
ГУРЭВІЧ ЭЛЬЯ ГІРШАВІЧ — УХВАЛА
ГУТМАН МЕНДЭЛЬ ЗАЛМАНАВІЧ — УХВАЛА
АЛЕЙНІК ЗЭЛІК ЯНКЕЛЕВІЧ — ЗАДНІ БОР
ГІНЗБУРГ МОРДХЕЛЬ МЕЙЕРАВІЧ — ЗАБОР'Е
ХЕЙФЕЦ СРОЛЬ ЛЕЙБАВІЧ — БЯРОЗКА
КЕЙЛІН ЯНКЕЛЬ АРОНАВІЧ - ЧЭРНЯЎКА

*Крыніца інфармацыі:
http://www.jewishgen.org/belarus/info*

**На фота: гэбрайскія могілкі мястэчка Халапенічы (сучасны выгляд).**



# Збор дакументаў на Быкава



**З ПРЫВАТНЫХ АРХІВАЎ** / Андрэй АЛЯХНОВІЧ

*У нашым архіве (АХСМП) захоўваецца некалькі дакумантаў на імя Быкава Сямёна Рыгоравіча, Халапеніцкага мешчаніна: першы – датуецца 6-м лістападам 1910г., і зьяўляецца пасьведчаньнем асобы; другі – ад 1-га ліпеня 1911г. – "купчая крепость" аб набыцьці зямлі; трэцьці – пазначаны 25 траўнем 1914г., зьяўляецца тэстамэнтам. Перад намі ажывае цікавая старонка гісторыі, усплываюць шмат імён і прозьвішчаў нашых продкаў, якія стагоддзе таму жылі, працавалі, багацелі на Крупскай зямлі. Прачытаеш уважліва гэтыя матэрыялы, й сэрца напаўняецца гонарам за продкаў: умелі, маглі! Адзінае, што засмучае – гэта, міжволі ўзьнікаючае пачуцьцё шкадаваньня, што ўжо праз некалькі год усё пайшло прахам.... Прыйшоў Кастрычнік 17-га.*

## ТРЫ ДАКУМАНТЫ 1910–1914гг.(на мове арыгінала)

**Дакумант №1:**

М.В.Д.
---------
ХОЛОПЕНИЧСКОЕ
ВОЛОСНОЕ ПРАВЛЕНИЕ
БОРИСОВСКОГО УЕЗДА
МИНСКОЙ ГУБ.
НОЯБРЯ 6 ДНЯ 1910 г.
№2306
Почт. Адрес:
ст. Холопеничи

**Удостоверение**

**Волостное Правление сим удостоверяет, что предъявитель сего Холопеничский мещанин Семен Григорьев Быков, старообрядческого вероисповедания, исключительно занимается земледелием, ведет крестьянский образ жизни, ни чем не отличается от крестьян земледельцев и проживает в дер. Михеевке сей волости.**

Печать (круглая, в центре герб Минской губернии в обрамлении двух ветвей дубовых? листьев. Круговая надпись: «Холопеничскаго вол. правления Мин.Губ.»). Цвет чернильный, фиолетовый.

Старшина подпись неразборчиво
Волостной писарь подпись неразборчиво



***Пячатка на дакумаце №1***

**Дакумант №2:**

Выпись из крепостной Минскаго Нотариального Архива книги по Борисовскому уезду
за 1911 год №4 ч.3
Стр. 308-316 №47

Тысяча девятьсот одиннадцатаго года марта десятаго дня, явились к Николаю Георгиевичу Петрунькину Новоборисовскому Нотариусу, в контору его в посаде Новоборисове по проспекту князя Трубецкого, в дом Колодеева, лично ему известные и имеющие законную правоспособность к совершению актов: мещане Евстафий Петров Ковалев, действующий в качестве повереннаго мещанина Ивана Ларионова Вавилова на основании доверенности его повереннаго мещанина Михаила Юпатова Кострюкова, явленной у Новоборисовскаго Нотариуса Наркевича семнадцатаго июня тысяча девятьсот восьмого года за № триста тринадцатым, Семен Григорьев Быков и Герасим Ларионов Дедзянок, живущие: первый и второй в деревне Михеевке и третий в урочище Михеевский бор, Холопеничской волости, борисовского уезда, в сопровождении лично ему известных свидетелей: мещан Гирши Аронова Полякова, Арона Герцава Ваинштэйна и Адалия Ицкова Плавника, живущих в Новоборисове: первый – в доме Зелькинда второй в доме Ремперта и третий в своем доме, с объявлением, что они совершают купчую крепость на следующих условиях: поверенный Вавилова – Ковалев на основании вышеупомянутой доверенности продал Быкову и Дедзянку в равных частях принадлежащее его, Ковалева, верителю Вавилову право собственности /жребий/ двадцать две и четыре десятых десятины земли в недвижимом имении, урочище под названием «Михеевский – бор», расположенном в борисовском уезде, Минской губернии, в границах: с северо-востока земля крестьян деревни Фроловки фольварка Михалово, Михеевки тоже , Московскаго Земельнаго банка, ныне разных владельцев, с юга-востока – земля казеннаго имения Мхерин, с юга и юга-запада земля крестьян деревни Фроловки, а мерою земли сто двенадцать десятин, согласно акта укрепления и объявления сторон и доставшемся ему, Вавилову, совместно с другими совладельцами от Московскаго Земельнаго банка по купчей крепости, утвержденной Старшим Нотариусом Минскаго Окружнаго Суда двенадцатаго февраля тысяча восемьсот девяносто второго года за № одиннадцать и отмеченной в реестре крепостных дел ; четвертый, часть вторая, страница сто сорок шостая, перенесено в двенадцатую часть под № тысяча двести сорок первым. Продажа эта учинена первое, со всеми строениями, водами, лесами, угодьями в части, упадающей на продаваемое право собственности, равно со всеми обязятельствами, договорами, законными исками, какие ныне состоят или впредь открыться могут, второе, . . . переводом на покупщиков Быкова и Дедзёнка совместно с остальными совладельцами лежащаго на урочище Михеевский бор долга Московскому Земельному банку в сумме на первое июля тысяча девятьсот одинадцатаго года двух тысяч трехсот четырнадцати рублей пяти копеек и льготного платежа на срок перваго Января памощника тысяча девятьсот одинадцатаго года в размере восьмидесяти пяти рублей шестидесяти трех копеек с . . . ссуд в сумме трех тысяч ста рублей, сроком с перваго Января тысяча восемьсот восемьдесят седьмого года на срок восемь лет и восемь месяцев со всеми по залогу обязательствами и платежами банку и всеми совладельцами и с круговою с совладельцами ответственностью в платеже процен-

тов банку, в чем сего числа взяты от покупщиков Быкова и Дедзёнка установленная подписка. А взял веритель Ковалева Вавилов от покупщиков Быкова и Дедзёнка за продаваемое право собственности в недвижимом имении денег одну тысячу сто восемьдесят рублей включительно с переводимшимся на них по расчету долгом Московскому Земельному банку. Расходы по сей купчей платят покупщики. А как до сей купчей ......... собственности никому не продано, не заложено, кроме Московскому земельному банку и не ...писано, в споре и кроме за долги тому банку под запрещением не состоит, ... кто в оное будет вступаться, продавец и наследники его обязаны покупщиков и их наследников очищать, как следует по законам. Ст. 254 т. V уст. о пошлинах объявлена. Для совершения сего акта были представлены упомянутыя доверенность и купчая и удостоверения Московскаго Земельнаго банка от восьмого февраля сего года за № две тысячи семьсот шестнадцатым и Холопеничскаго Волостного Правления от девятаго сего марта за №№ четыреста девяносто первым и четыреста девяносто вторым о составе семьи покупщиков, о неимении у них земли и о том, что они по быту своему не отличаются от крестьян. Акт сей, совершенный Новоборисовским Нотариусом Петрунькиным, утвержден Старшим Нотариусом Минскаго Окружнаго Суда Брауном двадцать третьяго июня тясяча девятьсот одинадцатаго года и определено главную выпись выдать на простом листе мещанам Семену Григорьеву Быкову и Герасиму Ларионову Дедзянку. В сем акте поправленному на триста девятой странице «триста» верить. И.д. помощника Старшаго Нотариуса Суша.

Выпись эта, слово в слово, сходная с актом, внесенным в крепостную книгу, записана в реестре 1911 года под №2750, отмечена в реестре №4 часть 12 стр 142 под № 1241 отд 2 № 3 и выдана мещанам Семену Григорьеву Быкову и Герасиму Ларионову Дедзёнку. Июля 1 дня 1911 года.
По сему акту запрещение внесено в сборник по Борисовскому уезду за 1911 год под № 179
В сей выписи поправленному «долг» «совместно» «шестая» «всеми» верить.

Печать (круглая, в центре герб Минской губернии в обрамлении листьев. Круговая надпись «Минскаго Нотариальнаго Архива»). Цвет красный.

И.д. Помощника Старшаго Нотариуса СУША


Семену Григорьеву Бы
нову Дедзёнку.
По сему акту запре
Борисовскому уезду
В сей выписи поправленн
шестая" „всеми"
И. д. Помощника
Старшаго Нотариуса

**Дакумант №3:**

**Духовное завещание**

*1914 года мая 25 дня. Я нижеподписавшийся Холопеничской мещанин борисовского уезда Симеон Григорьев Быков, проживающий в застенки Михеевский бор Холопеничскай волости, борисовскаго уезда, Минскай губ. Находясь в здравом уме и твердой памяти за благоразсудим на случай моей смерти сделать следующие распоряжение. Все принадлежащие мне имущество как движимое и недвижимое а именно одинадцать с четвертью десятин земли находящейся в заст. Михеевский бор Холопеничскай волости борисовскаго уезда приобретенной мною с содействием Московскаго земельнаго банка, собственными находящимися на этой земли постройками, а также и из ската: одна кобылица, четыри коровы, тры овцы, три свиньи, две телеги, один плуг, одна борана железная, два хомуты и все хозяйские принадлежности завещаю жене моей Марии Епифановне Быковой, в вечное и потомственное ея владение.*

*т.к. означенная моя жена при мне находится на этом хозяйстве и поддерживает его.*

*До завещания мною означенной жене моей Марии Быковой никто из родственников моих не имеет простирать никакова решительнаго права. Симион Григоревич Быков.*

*Настоящее завещание учинено мною с полнаго моего согласия в чем при нижеподписавшихся свидетелех своеручно расписоваюсь.*

*Сие завещание писано верно со слов завещателя мною Старообрядческим Настоятелем Михлевской Старообрядческой Общины Поморскаго брачного согласия Евстафием Петровым Ковалевым.*

*В чем и подписываюсь Евстафий Петров Ковалев.*

*При совершении настоящаго духовнаго завещаго свидетели были :*

*Лазарь Петров Ковалев*
*Осип Никитен Плеханов*



**На фота: тыпы сялян Малога Палесься. Здымак зроблены ў Барысаве ля Васкрасенскага сабора ў 1905г.**




# Успаміны местачковага хлапчука

**ШТАДЗЁННАЕ ЖЫЦЬЦЁ** / Пятро ЛЯХНОВІЧ

**Нарадзіўся я** ў мястэчку Халапенічы, вуліца Гаравая (цяпер – Алега Кашавога) дом 17.

**Бацька:** Ляхновіч Нікіпар Васільевіч 1903 г.н., у м.Халапенічы, беларус; памёр 5.8.1985 у г.Барысаве – пахаваны на Кальварыі.

**Маці:** Якубовіч Юстына Піліпаўна н. у лютым 1907 г. у м.Халапенічы, беларуска; памерла ў Барысаве 26.5.1983 – пахавана на Кальварыі.

**Дзед па бацьку:** Ляхновіч Васіль Антонавіч, год нараджэньня ня ведаю, памёр у 1925г.

**Бабуля па бацьку:** Сілівончык Акуліна Лук'янаўна, год нараджэньня прыблізна – 1879, памерла ў 1970г.

**Дзед па маці:** Якубовіч Піліп...

**Бабуля па маці:** Якубовіч (Чэканоўская) Філіна (Хвіліна – звалі) памерла ў 1939-м....

**У сямы нас было 6 дзяцей:**

1. Я, Ляхновіч Пётр 1930 г.нараджэньня
2. брат Сяргей Ляхновіч 1931г. нар.
3. сястра Валя 1935г. нар. У замужастве – Баркоўская
4. сястра Тамара 1938г. нар. У замужастве – Працукевіч
5. сястра Дзіна 1943г. нар. У замужастве – Ісаёнак
6. сястра Зоя 1948г. нар. У замужастве – Беразанская

# ДЗЯЦІНСТВА

*Успаміны дзяцінства застаюцца з чалавекам на ўсё жыцьцё. Пра гэта гавораць усе знакамітыя пісьменьнікі, вучоныя, палітыкі, якія ўжо ў сталым ўзросьце пішуць свае аўтабіяграфіі. Бадай што лепшай я лічу аўтабіяграфію сэрбскага пісьменьніка Браніслава Нушыча.*

Помню сябе ад 4-5 гадоў, яшчэ ў даваенны час. Жылі мы тады ў бабулі Ляхновіч Акуліны Лук'янаўны, на той самай вуліцы Гаравой. Мы займалі палову дома – трысьцень, а бабуля са сваімі сынамі Іванам, Міколам і Мішам займала другую палову. Яе дочкі Манька (Марыя) і Еўфрасіньня жылі асобна – былі замужнімі. Бацька мой, Нікіпар быў самы старэйшы ў гэтай сямы. Бацька, маці й мой дзядзька Йван працавалі ў мясцовым калгасе, які называўся "Новае жыццё" (Ужо пасля вайны тата неяк сказаў, што працавітыя сяляне не сьпяшаліся станавіцца калгасьнікамі. Наша сямья мела 2 коней, 3 кароў, статак авечак, курэй, вутак, казу і ўсе працавалі ад раньня да раньня. Таму, пакуль не пачалі абкладваць так званым "цьвёрдым падаткам" (1933г.), бацькі ў калгас не йшлі). Памятаю анекдот пра калгас "Новае жыцьцё", які стварылі крупскія габрэі на пачатку калектывізацыі побач з Крупкамі: "Пасылаюць яны ў Менск тэлеграму: Калгас арганізавалі. Высылайце калгасьнікаў".

Мой дзядзька Мікола вучыўся ў той час у школе ў сёмай клясе. Ён быў самым адукаваным у іх сямы. Запомніўся мне адзін выпадак. Дзядзька Мікола вучыў урывак з паэмы Янкі Купалы "Курган", а я сядзеў на падлозе і гуляў са сваімі цацкамі. Мне вельмі спадабаўся гэты верш і я стаў паціхоньку, сабе пад нос, паўтараць за ім. Дзядзька Мікола ўголас, з усімі прыпынкамі рытарычна гаварыў:

*"Паміж пустак балот беларускай зямлі*
*На ўзьбярэжжы ракі шумнацечнай,*
*Дрэмле памятка дзён, што ў нябытак уцяклі,*
*Узьдзервянелы курган векавечны..."*

І гэтак далей. Яго зьдзіўленьню не было канца, пачаў зьбіраць кнігі, каб пайсьці ў школу, – а я расказаў яму напамяць першых чатыры радочкі. Прайшоў час, гэтую паэму я вывучаў у школе, як і шмат іншых вершаў, што задавалі напамяць, – далёка не ўсе я магу зараз узгадаць, але тое, што завучыў у 5 год помню й зараз. Мой іншы дзядзька – Міша, таксама хадзіў у школу, але яго вучоба мяне не ўразіла.



Помню, што ў нас была каза зь вялікімі рагамі – і я яе вельмі баяўся. Здаралася так, што яна ўрывалася ў хату і тады я ўцякаў на печ, – адзінае месца, дзе можна было схавацца. Калі маці ў гэты момант у хаце не было, то каза ўскоквала на лаву, што стаяла ля сьцяны і

пачынала бегаць па лаве, потым станавілася на падаконьнік, высоўвалася ў вакно й пачынала блеяць: бе – бе – бе – бе.

Людзі, што ў гэты момант йшлі па вуліцы, паміралі са сьмеху й дзівіліся выбрыкам нашай казы. Была яна вельмі нахабная й хітрая. Ўвосень, калі ўжо бульба выкапаная, у канцы агарода стаяла наша капуста (да першых маразоў), а побач, праз мяжу, суседская, не агарожаная плотам. Дык наша каза рабіла набегі й згрызала заўсёды толькі суседскую капусту, а нашу не чапала. З-за гэтага здараліся сваркі. Маці расказвала такі выпадак,– неяк каза вырвалася з двара й пабегла, праз агарод, да суседавай капусты, а мама за ёй бегма. Каза пабегла яшчэ шпарчэй, паглядаючы назад й прыбаўляючы хуткасьці. І, пакуль маці падбегла, – каза пасьпела згрызьці й папсаваць некалькі качаноў. Ад злосьці, мама так амярыла казу палкай па баку, што тая бляяла, як рэзаная. Прышлося нам аддаваць суседу добрыя качаны ўзамен пагрызеных казой. Пасьля гэтага выпадку бацька запёр казу ў хляве, у загарадку і ейныя набегі скончыліся. Але цярпеньне маіх бацькоў лопнула пасьля наступнага выпадку са мной. Вясной, да пачатку пасеваў, казу выпускалі не толькі ў двор, але і на агарод. Атрымалася так, што я выйшаў у двор, не ведаючы, што яна ўжо там. Спачатку яна ўважліва на мяне глядзела й, убачыўшы, што я без палкі, пачала рухацца ў мой бок, адрэзаўшы мне кірунак да дзьвярэй хаты. Я кінуўся на агарод, але не пасьпеў зачыніць калітку за сабой і пуляй паляцеў у лазьню. Дзьвярэй у прылазьніку не было й, не пасьпеў я яшчэ перабегчы парог, - як каза з разгону баданула мяне рагамі ззаду. Я паваліўся, ускочыў і схапіў казу двума рукамі за рогі, – яна заматляла галавой з намерам бадануць мяне ў жывот. Я закрычаў, што было моцы й на мой крык прыбег дзядзька Міша. Ён перахапіў казу за рогі й пацягнуў яе ў хлеў, а мне загадаў ісьці ззаду і лупцаваць ёй па бакох палкай. Увечары дзядзька Міша, у яскравых фарбах, распавядаў усёй сямы мае прыгоды настолькі сьмешна, што я сьмяяўся разам зь імі. Пасьля гэтага выпадку бацькі прадалі казу аднаму халапеніцкаму габрэю. З тае пары я не люблю коз, – яны выклікаюць у мяне шмат негатыўных пачуцьцяў. Ніколі я не еў іх малака й мяса, – мне здаецца гэта брыдкім.

Некалькі слоў аб маіх родных дзядзьках. Дзядзька Міша быў самы малодшы. Ён вельмі любіў выдумляць і рабіць розныя самаробныя цацкі для мяне й брата Сяргея. Добра памятаю, як ён зрабіў веласіпед, падобны на сапраўдны, але... з дрэва. Рама, руль, сядзёлка – усё было драўлянае, нават колы былі зроблены з гарэхавых абручоў, якія звычайна наганялі на драўляную бочку. У той час жалезныя абручы не рабілі, а высякалі пруты лашчыны й круцілі зь іх. Веласіпед той не мог ехаць без дапамогі, таму што ў яго не было шасьцяронак, ланцуга й педаляў. Некалькі маіх сяброў, падтрымліваючы веласіпед з бакоў і штурхаючы ўперад, бегалі за мной па вуліцы, – потым мяняліся месцамі. Нашай радасьці не было межаў, – дамоў мы вярталіся зацемна запэцканыя й шчасьлівыя. Скончыўшы пятую клясу Халапеніцкай школы дзядзька Міша паехаў вучыцца ў Ленінград у ФЗО перад самай вайной. Усю вайну прайшоў на франтох, быў паранены й дэмабілізаваўся ў 1947 годзе.

Другі мой дзядзька, Мікола, скончыў сямігодку й потым курсы трактарыстаў і працаваў на Халапеніцкай МТС на трактары "ХТЗ." Летам я хадзіў у поле да яго, й дзядзька садзіў мяне на трактар побач з сабой і даваў паруліць. Далёка не кожны хлопчык у тыя часы мог пахваліцца

перад сябрамі, што кіраваў трактарам! Перад самай вайной дзядзьку Міколу забралі ў войска. Загінуў ён у першыя дні вайны ля горада Тарнопаля...

У трэцьцяга майго дзядзькі Йвана (*на фота з жонкай Зінай, 1980-я гг.*) я быў любімым пляменьнікам. Называў ён мяне нейкай незразумелай мянушкай "дратуха". Можа быць ад слова "братуха", – ня ведаю. Звычайна дзядзька прыходзіў з работы (працаваў у местачковым калгасе), вячэраў, потым лажыўся на печ адпачыць, а мяне садзіў сабе на жывот і пачынаў распавядаць усялякія казкі. Зрэдку, сярод іх, пападаліся казкі з мацюкамі пра лісу й зайца, - за што мая маці моцна лаялася на яго й забірала мяне з печы. Дзядзька Йван у маладосьці быў вельмі прыгожы й дужы хлапец. Шмат халапеніцкіх дзяўчат уздыхала па ім. Кахала яго і пляменьніца маёй маці – Ліда. А ён недалюбліваў яе за фанабэрыстасьць, – вельмі ўжо нос задзірала. Аднойчы яны нешта моцна пасварыліся й дзядзька, каб дасаліць Лідзе, назваў сваю сабачку "Лідай". Дзеўчына ад злосьці гатовая была разарваць на кавалкі дзядзьку. У 1938 годзе яго забралі ў войска. Служыў на Ўрале, у фінскай вайне не ўдзельнічаў. Затое вайну з немцамі прайшоў ад першых дзён і да Бэрліну. Служыў ён лейтэнантам і камандаваў узводам разьведчыкаў. Вясной 1944 года, у Румыніі, трапіў у штрафны батальён. Было гэта так. Яго ўзвод кватэраваў па хатах у адной румынскай вёсцы. Аднойчы ноччу, вярнуўшыся з разьведкі, дзядзька стомлены распрануўся, паклаў сваё адзеньне і амуніцыю на лаву й паваліўся спаць. Зранку дачка гаспадара пачала прыбірацца ў хаце й прыбіраючы адзеньне дакранулася да рэвальвера (ён быў на ўзводзе) і грымнуў стрэл. Гэта дзяўчынка была сьмяротна паранена. За такую халатнасьць дзядзьку Йвана адправілі ў штрафны батальён (ён павінен быў разрадзіць рэвальвер да ўвахода ў хату). Пад час фарсіраваньня ракі Днестр ёе атрымаў кантузію. Пасьля вяртаньня са штрафбату дзядзька апынуўся ў складзе І-га Беларускага фронту і геройскі змагаўся за Бэрлін. За яго выдатныя заслугі ў баях за Бэрлін яму павінны былі прысвоіць званьне Героя Савецкага Саюзу, але перашкодзіла гэтая судзімасьць. Дзядзька Йван быў узнагароджаны ордэнам Славы І-ай ступені і ордэнам Вялікай Айчыннай вайны, а раней – ордэнам Чырвонай Зоркі і шматлікімі медалямі. Вярнуўся да дому, у Халапенічы, ён у 1947 годзе ў званьні капітана ў адстаўцы. Працаваў у нашым калгасе "Новае жыццё" старшынёй, а потым дырэктарам цагельнага завода ў вёсцы Ясяноўка Халапеніцкага раёну (зараз Чашніцкі р-н Вітабскай вобласьці). У 1950 годе дзядзька Йван пераехаў жыць на Ўкраіну, – Данбас, адкуль родам яго жонка Зіна. У іх двое дзяцей: сын Яўген і дачка Ларыса. Зараз уся сямья жыве у горадзе Краматорску.



**Сябры дзяцінства...** Маім першым сябрам быў Міша Баркоўскі, бацька якога, Антон, быў у той даваенны час старшынёй калгаса “Новае жыццё”. Жылі яны ля маёй цёткі Надзі, на нашай вуліцы Гаравой. З ранку да вечара, калі быў вольны час, асабліва ўлетку, мы зь Мішам усюды былі разам: пасьвілі сьвіньней, хадзілі на балота шукаць птушыныя гнёзды (хто болей знойдзе! – але не чапалі іх), гулялі разам з іншымі дзецьмі ў “калгас”, у “вайну”: красныя – белыя, касілі на выгане гарчак. Насупраць нашага дому быў выган на якім было шмат невялічкіх сажалак, што ўвесну запаўняліся талай вадой. Высыхалі гэныя сажалкі толькі ў чэрвені і зарасталі потым травой, якую ўсе называлі “гарчак”. Калісьці на гэтым выгане выраблялі цэглу. Зараз засталося толькі месца ад цагельні, а кар’еры зь якіх бралі гліну пераўтварыліся ў сажалкі.



**На фота: Пятро Ляхновіч і Лявон Баркоўскі (“цар”) з балалайкай, сядзяць на выгане. Здымак зроблены маім сябрам Міхаілам Баркоўскім, самаробным фотаапаратам у 1937-м.**

“Калгас” наш дзіцячы арганізоўваўся дабраахвотна – выбіралі старшыню, брыгадзіра, рахункавода, ключніка (заўхоза). Усё было як у сапраўдным калгасе, нават пісалі працаўнікам працадні – толькі на іх ніколі нічога не атрымлівалі... Галоўнай работай “калгасьнікаў” была нарыхтоўка сіласу – касілі гарчак і рабілі сілас, трамбуючы траву ў яму. Таму касіць я навучыўся вельмі рана. У майго бацькі была такая звычка – адпрацаваныя, нягодныя косы хаваць пад страху. Вось такую касу я прывязваў да кася дротам. Вучыўся я, у адсутнасьць бацькі, кляпаць касу на яго “бабцы”, бо ён не дазваляў мне гэтага рабіць (баяўся, што сапсую яе). Таму я хаваўся за пограбам, што быў на агародзе і там кляпаў, крый Божа колькі разоў. Бацька,

прыйшоўшы да дому і пачуўшы маю “працу” бег мяне правучыць. Тады мне прыходзілася ўцякаць на балота, кінуўшы касу, “бабку” і малаток. Бацька вельмі лаяўся – абяцаў паламаць маю касу, альбо аддаць яе ў кузьню кавалю. Але за мяне заступалася маці: “Гэта ж добра, што сын з маленства любіць сялянскую працу. Глядзі, падрасьце і нам будзе падмога. А ты папрасі каваля, хай сыну зробіць другую “бабку”, дай яму другі малаток – тады ён і ня будзе чапляць твае прылады”. Бацька “здаваўся”... Гэты невялічкі прыклад сведчыць аб тым, як я любіў з маленства сялянскую працу. Напэўна таму, што другой я не бачыў. . . .




**На фота: схематычная карта калгасаў вакол Халапеніч (выканана настаўнікам Пятром Андрэевічам Самцэвічам у 1930г).**

*“Памятаю анекдот пра калгас “Новае жыцьцё”, які стварылі крупскія габрэі на пачатку калектывізацыі побач з Крупкамі: “Пасылаюць яны ў Менск тэлеграму: Калгас арганізавалі. Высылайце калгасьнікаў”.*

Памятаю, як мы з сябрам Мішам хадзілі ў калгасную кузьню глядзець, як наш каваль (габрэй Шмуйла) награваў у горне кавалак жалеза да белага колеру, клаў яго на кавадлу, трымаючы абцугамі і пастукваў малатком, а малаткар, дужы хлапец, вялікай кувалдай біў што моцы па гэтаму кавалку, - аж іскры ляцелі на ўсю кузьню! Для нас гэта было сапраўднае відовішча, за якім мы назіралі аслупянеўшы і разявіўшы ірты. Мы, удвох, спрабавалі падняць гэтую ку-

валду, але нам удавалася толькі крыху адарваць яе ад зямлі.. (было нам тады недзе па 6 год). Каваль Шмуйла дазваляў нам падзьмуць у горн мяхамі – мы, як зачараваныя глядзелі, як яскравым полымем у горне гарэў вугаль, награваючы кавалак жалеза.

У чэрвені пачыналася ў калгасе касьба. Наш калгас "Новае жыцьцё" быў самым буйным у раёне. У ім было тры палявых брыгады і адна па вырошчваньню гародніны, якая месьцілася ў былым панскім маёнтку. Брыгадзірам яе быў бацька маёй будучай жонкі Астахей Кандратавіч Баркоўскі. Там жа, у былым панскім садзе, была і пчалярня, дзе пчаляром працаваў Сілівончык Васіль Нікіпаравіч – стрыечны брат майго бацькі.

**У тыя часы (1936/39гг.) амаль уся праца ў калгасе праводзілася ўручную.** Асноўныя работы ў полі выконваліся на конях. Трактароў, малацілак, сеялак, камбайнаў калгас сваіх не меў. Гэтыя машыны былі ўласнасьцю МТС, якія за працу сваёй тэхнікі на калгасных палетках зьдзіралі з калгасаў вялікія падаткі. Таму калгасы карысталіся іх тэхнікай толькі ў крайніх выпадках. Напрыклад, наймаліся малацілкі для абмалоту збожжавых культур, папярэдне зьвезеных на калгасны ток. А трактары наймаліся толькі для ўзворваньня цяжкіх глінiстых глебаў. У калгасе ж былі свае жняяркі, у якія ўпрагалася пара коней і яны цягнулі гэту машыну. Шкада было, што жняярка не вязала снапоў, і гэта прыходзілася рабіць жанчынам ўручную. Былі і свае параконныя касілкі, якімі можна было касіць траву толькі на роўных лугах, альбо палетках, дзе былі пасеяны канюшына, серадэла ці іншыя травы. Яшчэ былі ручныя ветракі, якія прыводзіліся ў рух спецыяльнымі поручнямі. Звычайна на іх працавала тры жанчыны: дзьве прыводзілі ў рух гэты агрэгат, а трэцьцяя засыпала ў барабан зерне. Як правіла тут ачышчалася тое зерне, якое абмалачвалася ўручную – гэта лён, каноплі, буракі.

Памятаю, што яшчэ ў калгасе было дзьве грабілкі, якімі можна было сграбаць сухое сена ў валы на роўным сенакосе. Грабілку цягаў адзін конь, якім кіраваў працаўнік, седзячы на адмысловай сядзёлцы. У гэтай машыны быў рычаг, якім граблі апускаліся і падымаліся. За працоўны дзень адной грабілкай можна было сабраць у валы столькі сена, колькі маглі гэта зрабіць 10-15 жанчын.

У тых месцах, дзе тэхніку прымяніць не было магчымасьці – уся праца выконвалася ўручную. Напрыклад, на балоце каля ракі Эса, што ў трох кіламетрах ад мястэчка. Сенажаці там было прыкладна 150–170 га. Калі ехаць з Халапеніч да Эсы, то з правага боку ад маста праз раку ўрочышча называецца "Старыя пожні" – гэта быў сенакос нашай, першай брыгады. Зьлева было ўрочышча "Рум" і гэта быў сенакос трэцьцяй брыгады. А далей, за ракой, з правага боку былі пожні другой брыгады. Ад кожнай брыгады на касьбу выходзіла 40-45 касцоў і значна больш жанчын на падборку сена. Таму праўленьне калгаса вырашыла: пад час нарыхтоўкі сена на балоце арганізаваць грамадскае харчаваньне. На калгасным двары была зроблена кухня, на якой 5 жанчын старэйшага ўзросту гатавалі для работнікаў абеды. Сярод іх была і мая бабуля Акуліна Лук'янаўна. Галоўны ключнік калгаса (заўгас) запрагаў апоўдні калгаснага жарабка ў спецыяльна прыстасаваныя для подвозу ежы калёсы – фурманку. Жарабок быў вельмі вялізны і сыты, шэрай масьці. Калі ён іржаў – трасьліся шыбы ў вокнах. Жанчыны клалі на фурманку прыгатаваную ежу: суп, кашу, кавалкі мяса, малако, хлеб і нават мёду поўны бак з-пад малака, а таксама міскі. Лыжкі, кубачкі калгасьнікі бралі з сабою.

У пэўны час мы з сябрам Мішам былі каля кухні, але ключнік, Язэп Літвін(?), не дазваляў нам ехаць на балота, бо бацька Мішы быў старшынёй калгаса і катэгарычна забараніў сыну бываць на балоце ў час абеда. Аднойчы мы з Мішам ішлі ўслед за фурманкай ключніка амаль два кіламетры, а ён седзячы на возе гразіўся адсьцябаць нас пугай. Потым зьмягчыўся і пусціў сесьці на фурманку ззаду. Для раздачы абеда кожны раз ехалі тры жанчыны. Добра мне было, калі ў гэту тройку пападала мая бабуля. Прыпынак быў каля маста праз раку Эссу, з правага боку. Калгасны жарабок на сваім пастаянным месцы рабіў прыпынак пасля трохкіламетровай шпацыроўкі, біў капытом па зямлі, потым падымаў галаву і так іржаў, што хоць вушы затыкай. Гэта падаваў знак, што абед прыехаў. Праз некалькі хвілін з усіх напрамкаў сенажаці пачыналі зьяўляцца жанкі з граблямі і дзецюкі з косамі ў накірунку да маста, дзе будуць раздаваць, як нам дзецям казалася, вельмі смачную ежу. У гэты час я хаваўся ў кусты, бо мае маці і бацька маглі мяне пакараць за тое, што бяз іх дазволу я прыехаў сюды. Хаця я мог апраўдацца тым, што мяне ўзяла з сабой мая бабуля Акуліна. Але варта было лепш пачакаць пакуль бацькі не наядуцца – тады яны будуць ласкавейшымі. Раздавалі абед усе тры бабулі і ключнік Язэп, які прывозіў з сабой вагі і кожнаму наліваў у шклянку, альбо кубачак 50-80 грамаў мёду. Бабулі раздавалі суп, малако, мяса. Стаяў гоман, сьмех і жарты. Пасля абеду быў невялікі адпачынак. Старэйшыя жанчыны хаваліся ў цянёк, лажыліся адпачыць, маладыя жанчыны зьбіраліся ў гурты і сьпявалі песні. Маладзейшыя мужчыны ішлі на рэчку купацца. Тры бабулі зьбіралі посуд, мылі яго ў рэчцы. Усё, што засталося – даядалі мы з Мішам. Нам налівалі па місцы стравы, давалі па кавалку хлеба, мы выпівалі ўсё малако, што заставалася, а потым посуд у якім быў мёд, вымазвалі і вымоквалі хлебам. Пасля гэтага я бег да рэчкі, дзе купаўся мой дзядзька Йван. Ён вельмі добра ныраў і мог доўга быць пад вадой. І калі я гэта бачыў, то пачынаў плакаць, бо мне здавалася, што дзядзька ўтапіўся і болей не зьявіцца на паверхні вады. Дзядзька зьяўляўся, і я пляцкаў у далоні ад радасьці. Ён выходзіў на бераг, браў мяне, сьцягваў штаны, нёс да вады, садзіў на сьпіну і плыў, а я трымаўся за ягоныя валасы, якія былі ў яго вельмі даўгія. Дзядзька разграбляючы рукамі ў бакі ваду, пачынаў паглыбляцца, а я баяўся ўтапіцца і пачынаў крычаць і плакаць. Тады ён зноў вынырваў на паверхню і гаварыў мне: "Чаго "Дратуха" баішся, топяцца тыя, што баяца вады, а ты не бойся і ніколі не ўтопішся." Дзядзька Йван не баяўся вады. І гэта падцьвердзілася ў час вайны, калі войскі чырвонай арміі вясной 1944-га фарсіравалі раку Днестр у Румыніі. Пантон, на якім пераплывалі вайскоўцы, дзе быў і дзядзька Йван, прабіла кулямі нямецкага кулямёта, – пантон патануў разам з салдатамі, якія не ўмелі плаваць. Дзядзька пасьпеў ськінуць шынэль, боты, зброю і ў сьцюдзёнай вадзе Днястра, у якой плылі лёдавыя крыгі, дабраўся да берага і выратаваў жаццё свайго ротнага камандзіра, які не ўмеў плаваць. Пра гэты выпадак ён расказваў нам, калі пасля дэмабілізацыі ў 1947 годзе прыехаў у Халапенічы. Потым ён запытаўся: "Ты помніш, як я цябе вучыў плаваць на нашай рэчцы тады, як ты быў зусім маленькі, ці навучыўся ты?" Я адказаў, што магу толькі трымацца на вадзе, але у будучым пастараюся выправіць гэта. І выправіў – у перыяд з 1951 па 1955 год, пад час вучобы ў Мінскім інстытуце фізычнай культуры, на экзамене па плаваньню выкладчык паставіў мне "выдатна".

**У школу я пайшоў у 1937 годзе, у нулявы кляс.** Гэта быў апошні год, калі такія клясы былі ў школах. Праз год, мой малодшы брат Сяргей 1931 года нараджэньня, пайшоў адразу ў першы кляс. І атрымалася так, што мы зь ім зраўняліся. Да пачатку вайны з немцамі мы зь ім скончылі па тры клясы пачатковай школы, але вучыліся ў паралельных, і ў іншых настаўнікаў. Вельмі цьмяна помню, што мы рабілі ў нулявым клясе. Памятаю, што пісалі нейкія палачкі і кручкі, пелі, малявалі. Асабліва запомнілася мне "чыстапісаньне" – гэта быў прадмет, які я вельмі не любіў. Уявіце сабе – пяро ў асадцы павінна быць №86, чарнілы ў спецыяльных чарніліьніцах прынясе ў кляс дзяжурны вучань і паставіць на кожную парту. На дошцы настаўніца намалюе гэтую палачку і кручок, якія мы павінны будзем павольна, не сьпяшаючыся выводзіць увесь урок. Галоўнае было – своечасова ў адпаведным месцы зрабіць націск пяра, зрабіць прыгожае закругленьне, каб уся старонка сшытка была ў аднолькавых па таўшчыні і даўжыні палачках і кручках. У мяне хапала вытрымкі для такой "працы" ўсяго на 10-15 хвілін, а пасля ўсё йшло як па "маслу". І болей, як адзнакі "пасрэдна", я ніколі за чыстапісаньне не атрымліваў. У нас былі наступныя адзнакі ў школе – "выдатна" – 5, "добра" – 4, "пасрэдна" – 3, "дрэнна" – 2, "вельмі дрэнна" – 1. Першай настаўніцай была ў нас вельмі добрая жанчына – Любоў Мікалаеўна Белавусава. З намі ў клясе вучылася і яе дачка Лена. Яна была вельмі здольная на вучобу – у яе былі адзнакі толькі "выдатна".

**Першае, што прачытаў сам, памятаю ўсё жыцьцё.** Не ведаю якім ветрам, але ў нас у хаце быў нумар газэты "Звезда" за 1923 год, якая тады выходзіла на рускай мове. У галаву ўрэзалася "Частушка курсанта" і подпіс аўтара "Вася Красный":

*"Брошу серп и брошу плуг,*
*А пойду учиться вдруг.*
*Командиром хочу быть,*
*Десять кубиков носить."*

Потым нас вучыла ўжо ў другім і трэцім клясе настаўніца, якую звалі Ніна Іванаўна ( прозьвішча не памятаю). А Белавусавы кудысьці пераехалі. Добра памятаю настаўніка беларускай мовы й літаратуры Пятра Андреевіча Самцевіча па мянушцы "Бегемот". Ён быў добры й крыху паўнаваты, мабыць адсюль і мянушка. Запісваў песьні і паданьні ад бабуляк, зьбіраў усякія экспанаты – хацеў зрабіць музей. Заўсёды гаварыў, як казала мая маці "па-нашаму", па-беларуску.

А ягоная жонка, Берта Самуілаўна, здаецца вяла замежную мову. Жылі яны недалёка ад будынку сучаснай аўтастанцыі разам з яе бацькамі.

У іх было трое дзяцей: старэйшы Жэня, быў старэй за мяне гады на два, з Лёнікам мы хадзілі ў адзін кляс, а малодшая сястра Іна была недзе 1934-35 года нараджэньня.

**Калі восеньню 41-га немцы пачалі зганяць нашых габрэяў у клюб** (былы касцёл), то Пятра Андрэевіча не было ў мястэчку – езьдзіў да родных ў сваё Дакудава (Крупскі раён - рэд.). А перад гэтым фашысты сагналі ўсіх мужыкоў-беларусаў у "Каменны Лог" і загадалі капаць яму. Наш тата таксама быў там. Потым некалькі дзён маўчаў і толькі піў ваду… . Дык вось, пры-




**На фота: настаўнік беларускай мовы Пётра Андрэевіч Самцэвіч. Берта Самуілаўна Самцевіч у юнацтве.**




**Лявон (злева) і Яўген Самцэвічы** (усе фотаздымкі Самцэвічаў захоўваюцца ў барысаўскага краязнаўцы Аляксандра Разэнблюма: http://rpp.nm.ru)

ехаў Пётра Андрэевіч, а ў хаце нікога няма. Суседзі сказалі, што ўсіх ягоных пагналі ў клюб. Ён туды, а вакол стаіць ахова й нікога не пускае. Ён пачаў тлумачыць, што ён беларус, і дзеці, і жонка ягоныя, беларусы. Афіцэр нямецкі прапусьціў яго, але сказаў, што назад не выпусьціць. У клюбе ён знайшоў толькі бацькоў жонкі, а яе і дзяцей не было. Берта Самуілаўна ноччу, забраўшы дзяцей, праз балота зьбегла (нехта з нашых паліцэйскіх, яе былых вучняў, шапнуў ёй, што немцы хочуць рабіць). Вось так загінуў наш настаўнік Пётра Андрэевіч. Наш тата, ужо пасьля вайны, расказваў, што яго немцы не застралілі, а зьбілі гумовымі палкамі й кінулі ў яму. . . . А Берта Самуілаўна дабралася да вёскі свайго мужа і часова пакінула дзяцей у сваякоў. А сама ў Барысаве старалася неяк уладкавацца, каб потым забраць малых туды. Але нехта з вяскоўцаў шапнуў немцам, чые гэта дзеці. І, казалі людзі, што іх усіх – Жэню, Лёніка і Іну расстралялі ў барысаўскай турме. А Берту Самуілаўну, разам з іншымі габрэямі, усю вайну хаваў у барысаўскім саборы праваслаўны бацюшка. Яна, пасьля вайны, працавала настаўніцай недзе на Барысаўшчыне.

**Пра рэпрэсіі памятаю наступнае.** Побач з намі жыў Бандарэнка Пётр, наш важак ва ўсіх дзіцячых гульнях, які ўжо хадзіў у чацверты кляс. Памятаю, як мы прыходзілі да яго гуляць, а ён вучыў урок па гісторыі і паказваў нам падручнік, дзе былі заклееныя паперай здымкі герояў грамадзянскай вайны і тэксты пад імі. Добра памятаю, што гэта былі военнаначальнікі Ягораў, Тухачэўскі, Якір, Блюхер. Пётр нам сказаў: “Так сказала зрабіць настаўніца, таму што яны “ворагі народа”.

**Была ў нас і такая гульня-спаборніцтва** – хто болей знойдзе птушыных гнёздаў. Вясной, пасьля школы, ішлі на балота шукаць гнёзды жаўрукоў, кнігавак, малінавак і іншых, - але мы іх не бурылі і яйкі не забіралі. Галоўнае было знайсьці як мага болей. Мы ведалі ўсе паводкі гэтых птушак, назіралі за імі і імкнуліся аберагчы.

Памятаю якая была "грэбля" (дарога на Дубраўку) да вайны – гразкая, крывая, яміны, канавы, карчы. Кожную вясну з навакольных вёсак прыяжджалі падводы на "Паняткін Барок" й вазілі адтуль пясок – засыпалі гэтыя ямы.

**У 1939-м, калі пачалася вайна і Германія напала на Польшчу, бацьку забралі ў армію.** Яму было на тэй час 36 год і ў нашай сям'і было чацьвера дзяцей. Малодшай з усіх была Тамара, ёй было ўсяго адзін год.

Позьняй восеньню 39-га, напэна ў кастрычніку памерла наша бабуля Філіна, якая жыла з намі і даглядала нас. І мне яе было вельмі шкада, яшчэ й таму што пры адсутнасці бацькі галоўным і першым памочнікам нашай маці станавіўся я, паколькі быў старэйшы. Трэба ўзгадаць тут роднага брата маёй бабулі Філіны – Івана Чэканоўскага, майго стрыечнага дзеда. Ён па-маладосьці быў на царскай катарзе ў Сібіры. Памятаю, як зімовымі вечарамі ён часта бываў у нашай хаце і з пачуцьцем сьпяваў песьню катаржніка. Тыя словы памятаю й да сёньня:

*Там в степях, в степях Иркутска*
*Между двух огромных скал*
*Обнесен большим забором*
*Александровский "Централ".*

*Вот и я попал сюда случайно*
*За изменщицу – жену*
*Я убил её нечайно*
*Так и быть уж мне в греху.*

*Сонце ўсходзіць і заходзіць*
*А в моей тюрме темно*
*Днём и ночью часовые*
*Стерегут моё окно.*

*Стерегите как хотите*
*Я отсюда не уйду*
*Как мне хочется на волю*
*Но порвать цепь не магу.*

*Ох, вы цепи, мои цепи*
*Из железа сторожа*
*Не порвать вас и не збросить*
*Доля горькая моя.*

**Бацька чамусьці не ўдзельнічаў у "вызваленьні Заходняй Беларусі",** а папаў у Бесарабію (цяпер Малдова). А ўжо восеньню, калі кампанія ў Заходняй Беларусі скончылася і мы чакалі яго дадому, атрымалі ліст з Ленінграду, у якім ён нічога не пісаў, чаму папаў туды… . А 1-га снежня 1939 года пачалася "фінская вайна", якую цяпер чамусьці называюць "невядомай".

Наш тата ўдзельнічаў у гэтай вайне ад першага да апошняга дня ў складзе злучэньня артылерыстаў гаўбічных гарматаў – не быў паранены і не абмарозіўся, хаця маразы ў тэй год даходзілі да -45 па Цэльсію. Памятаю ягоныя аповяды пра гэту вайну. Іх батарэя гаўбічных гарматаў знаходзілася на адлегласьці 3-4 км ад лініі фронту.

**Усе намаганьні савецкага войска прарваць абарону лініі Манэргейма былі беспасьпяховымі.** Гэта лінія была пабудавана наступным чынам: уперадзе быў выкапаны вялікі роў, глыбокі й шырокі, які танк не мог пераадолець, затым, у шахматным парадку былі пастаўлены




**Схема лініі Манэргейма, намаляваная Нікіпарам Ляхновічам**

вялікія каменныя надалбы, вострым канцом накіраваныя ў бок мяжы СССР. Потым йшлі жалезабетонныя ДОТы, у якіх былі ўстаноўлены кулямёты ці мелкакаліберныя гарматы. Усе спробы Чырвонай арміі ўзяць с ходу гэтую лінію і зьнішчыць абарону Фінскай арміі не далі ніякіх вынікаў. Шмат было забітых і параненых жаўнераў Чырвонай арміі, а лінія Манэргейма стаяла непераадоленай. Вось як тата намаляваў нам гэтую лінію *(малюнак уверсе).*

Паколькі мясцовасьць Карэльскага перашэйка была вельмі лясістая, дык кожнае дрэва "страляла" ў бок чырвонаармейцаў. На густых ялінах былі "гнёзды" фінскіх снайпераў, якіх называлі "зязюлі", і якія мелі шмат патронаў, ежы і былі цёпла апрануты. Калі чырвонаармейцы падымаліся ў атаку – снайперы зьнішчалі спачатку камандзіраў падраздзяленьняў, а потым, як сярод вайскоўцаў пачынала-



**На фота: 1939г. – артылерыст Нікіпар Ляхновіч, удзельнік савецка-фінскай вайны.**

ся паніка й суматоха, стралялі разгубленных жаўнераў. Справа даходзіла да абсурду – адзін снайпер амаль знішчаў цэлы ўзвод салдат (каля 30 чалавек). Тым больш, што камандзір падраздзяленьня выдзяляўся сваім белым кажушком (паўшубкам), меў зімовую шапку, а цераз плячо вісела камандзірская сумка, і на папрузе быў прышчэплены пісталет. У атацы ён йшоў збоку ці паперадзу свайго падраздзяленьня. Шэраговы вайсковец быў апрануты ў шынэль, шапку "будзёнаўку" і валенкі. Паколькі "будзёнаўка" была халодная, то жаўнерам выдалі яшчэ вязаныя "шлёмы", якія закрывалі шыю, твар і вушы. Цяпер такія "шлёмы" носяць рэкіціры і амапаўцы. Праз пэўны час пасупіў загад камандзірам апранацца гэтак жа, як і простым шэраговым і рухацца разам з усімі шыхтом, але фінскія снайперы хутка распазналі гэтую "хітрасьць" і па-ранейшаму зьнішчалі іх першымі. З адлегласьці 3-4 км ад лініі Манэргейма артылерыя Чырвонай арміі цэлы тыдзень абстрэльвала фінаў. Загад быў такі: зруйнаваць равы і каменныя надалбы, каб танкі змаглі падыйсьці да ДОТаў і біць па ім прамой наводкай зблізі. Таму што ні цяжкія, ні гаўбічныя гарматы нічога не змаглі зрабіць, нават пашкодзіць фінскія ДОТы. Тады прынялі рашэньне ўзарваць іх пры дапамозе сапёраў такім чынам: зьбівалі 3-4 пары лыжаў і атрымлівалася нешта накшталт санак. Ноччу 3-4 сапёры, паклаўшы на гэтыя "санкі" дынаміт і аманал, асьцярожна дапаўзалі ў белых масхалатах да самога ДОТу і абкладвалі яго ўзрыўчаткай, адпаўзалі і падпальвалі бікфордаў шнур. Гэтак, за ноч узрывалі некалькі агнявых кропак. Пасля такога выбуху ДОТ станавіўся не баяздольны і фінскія вайскоўцы калі не гінулі ў час выбуху, дык па падземных хадах уцякалі ў акопы. Дарэчы, усе ДОТы былі злучаны паміж сабой падземнымі хадамі. Гэтак наступіў пералом ў вайне. Лінія Манэргейма была знішчана і Чырвоная армія заняла горад Выбарг. А 14 сакавіка 1940 года вайна скончылася пагадненьнем паміж Фінляндыяй і СССР. Бацька распавядаў як яны пераносілі 40-градусныя маразы. Паколькі іх батарэя стаяла ад лініі фронту ў 3-4 км, дык салдаты кожнага гарматнага разліку пабудавалі сабе шалашы-буданы, абклаўшы іх галлём і замаскіраваўшы, каб не было бачна. У гэтай "кватэры" была печка-буржуйка, якая тапілася суткамі й можна было сагрэцца. Ежу прывозілі два разы на суткі: зранку і пад вечар, калі не было страляніны. Кухню цягалі на санях пара коней. На дзень давалі гарачую пахлёбку, мяса, чай і 100 гр сьпірту. Боханы хлеба былі замёрзлыя, таму іх дзьвуручнай пілой распілоўвалі на 6 частак, амаль як дровы. Далей кідалі гэтыя кавалкі хлеба ў гарачую страву і потым – елі.

**А як жылі мы ў Халапенічах у часе гэтай вайны** – я добра памятаю. Яшчэ пры бацьку наша сямья ўжо аддзялілася ад бабулі Акуліны Лук'янаўны і жылі мы таксама на Гаравой вуліцы, праз чатыры хаты на поўдзень ад бабінай хаты, у вельмі малой хацінцы якая ледзь трымалася каб не разваліцца. На зіму тата абкладваў падмурак хаты завалінай амаль да самых вокнаў і засыпаў кастрой. У самой хаце, пад адной з бэляк стаяла падпора, каб не абвалілася столь, бо была яна вельмі гнілая. Бацькі купілі гэтую хаціну ў Малаха Абрамавіча Юхама, які пасяліўся побач з месцам сучаснага завода імя Кірава. А купілі мы гэтую сядзібу таму, што там быў вялікі прысядзібны агарод – амаль 60 сотак. Потым сабралі грошай і ў 1938 годзе купілі хату ў вёсцы Вялікі Каменец. Зімой яе перавезьлі ў Халапенічы. Добра памятаю тую талаку: было каля 40-ка фурманак, якія за раз разабралі хату, пагрузілі на сані і пад вечар прывезьлі ў мястэчка. Увечар гэтага ж дня ў нашай хатцы была гулянка. Прышло каля

40 чалавек, некаторыя мужчыны папрыходзілі са сваімі пляшкамі гарэлкі – была поўна хата людзей. На сталах стаялі літровыя, паўлітровыя й, нават чвэртакі бутэляк гарэлкі. Прыйшлі ўсе мае дзядзькі, быў мамін пляменьнік якога звалі Іван Хвядосавіч, былі Васіль Скалубовіч, Іван Цімафеевіч Баркоўскі, Аўдзей Баркоўскі – усіх ужо не памятаю. Гулянка была на славу. Мы з братам Сяргеем і сястрой Валяй сядзелі на печы і нам было вельмі радасна за тое, што гэтыя людзі перавезьлі нам хату і цяпер у нас будзе добрае жыльлё, і што гэтыя людзі такія вясёлыя й добрыя. Калі мужчыны падпілі, то пусьціліся ў скокі. Музыкі не было, дык яны пелі сабе "пад язык", і скокамі прытопвалі, таньчылі ў "прысядку". Асабліва нам запомніўся Скалубовіч Васіль Піліпавіч, які быў вялікага росту і калі падскокваў угару – яму перашкажала нізкая столь. Ён біў па бэльцы кулаком і крычаў, што заўтра зьнясём гэту хаціну і пачнем будаваць новую. А на двары была зіма і ляжаў снег. . . .

Усё лета 1938-га мы будавалі нашу новую хату. Прымалі ўдзел у гэтай працы й мы з братам: памагалі драць на балоце мох, зьбіралі ўвосень у калгасным садзе лісьце, якім заслалі ў хаце столь, а зьверху прысыпалі кастрой. Вельмі спадабалася мясіць нагамі гліну для печы. Да "Дзядоў" мы ўжо пераехалі ў новую хату!

**Яшчэ памятаю землямера, які кватэраваў у нашай бабулі Акуліны.** Ён быў высокага росту, вельмі прыгожы, выглядаў на 25-26 гадоў. Калі я прыходзіў да бабулі, ён заўсёды ўсьміхаўся, жартаваў са мной і даваў якога-небудзь гасьцінца (цукерку, печыва, альбо якую-небудзь цацку). Ніколі, ніхто не бачыў яго пьяным, альбо злосным ці ў сварцы зь кім. Не бычылі каб да яго прыходзілі сябры, акрамя тых, што працавалі зь ім – насілі ягоныя землямерныя прылады і вялікую металічную ленту-рулетку. Памятаю, калі бацька выкупіў плян нашай сядзібы і прысядзібнага ўчастка, то быў вельмі зьдзіўлены, наколькі той плян быў дакладны. На ім былі нанесены такія маленькія дэталі, на якія тата нават увагі не зьвяртаў. Потым, калі пачалася вайна з немцамі, людзі казалі, які гэта быў "землямер". Ніхто з нямецкіх салдат і афіцэраў у час акупацыі не спытаў у мясцовых жыхароў ні дарогі, ні ўрочышча, ні назву вуліцы, альбо вёскі. Немцы ведалі ўсё. Памятаю выпадак, які распявядалі халапенінцы, што працавалі на дарозе Халапенічы – Крупкі. Яны вазілі пясок, засыпалі яміны і ўтрамбоўвалі іх. У кіламетры ад мястэчка ў бок Крупак знаходзіўся мост, які некаторыя памылкова называлі "Лубовы". І вось нехта з работнікаў гаворыць свайму таварышу: "Во, сёньня ўжо дойдзем да "Лубовага маста". А нямецкі жаўнер, што кіраваў працай, паправіў яго: "Не "Лубовы" а "Дубовы" мост. Але не хачу сьцвярджаць, што гэта напрамую зьвязана з даваеннай "дзейнасьцю" вышэйзгаданага землямера, тым больш, што нічога не ведаю аб яго далейшым лёсе.[1]

**Цяпер зноў пра фінскую вайну.** Мы жылі без бацькі 1939–1940 гады. Нас было чацьвёра дзяцей – я, брат Сяргей, сястра Валянціна і сястра Тамара, якой у той час было паўтары гады. І калі для сябе асабіста мы назапасілі харчаваньня, то карове сена не накасілі дастаткова. Трыйшла зіма – сена скончылася. На праўленьні калгаса было вырашана перавесьці ўсіх кароў "салдатак" (жанок, чыя мужчыны былі на вайне) у калгасны хлеў і там іх карміць, а пойла ўжо каб жанчыны прыносілі сваё. Адбывалася гэта кожную раніцу да 9-ці гадзін: маці налівала ў два вядры гарачую ваду з бульбянымі шарлупкамі і на карамысьле несла на калгасны двор. Я

ж заставаўся галоўным у хаце: варыў бульбу, адцэжваў яе, пёк бліны, карміў малодшую сятру, падкідваў дроў у печ. Акрамя гэтага, у сваіх восем год, я ўжо ўмеў выцягваць з печы хлеб. У той час мы не купілялі хлеб у краме, а пякла яго наша матуля. Была ў нас спецыяльная дзяжа (бочка) ў якой маці зачыняла на ноч расчыну, раніцой дадавала мукі і мясіла цеста. Калі ж печ была ўжо вытапленая, маці качаргой выграбала вугольле й попел. Потым брала памяло (мятлу, зробленую з сасновых зялёных галінак) і вымятала з печы рэшткі попелу. Па ўсёй хаце йшоў водар хвоі. Цеста ў дзяжы ўжо "падыходзіла" – маці дзяліла яго на шэсьць кавалкаў-боханаў і спецыяльнай лапатай засоўвала ў печ. Але рабілася гэта наступным чынам: спачатку на лапату клаўся ліст капусты (летам), ці высушанае дубовае лісьце (ўзімку), потым рабіла далонямі з цеста форму бохана (усе боханы былі круглыя). Мая задача была ў тым, каб ў адпаведны час выцягнуць гатовы сьпечаны хлеб. Я браў рушнік, клаў яго ўздоўж на передок (скамейку), браў качаргу і выцягваў па адным з печы ўсе боханы. Потым лажыў іх на передок, браў кварту халоднай вады, паліваў на кожны бохан і размазваў рукой па верхняй скарынцы. Йшоў пар з гарачага хлеба і скарынка станавілася вельмі мяккая. Потым накрываў зверху рушніком усе боханы і чакаў прыходу маці. Гарачы хлеб матуля нам не дазваляла есьці, таму што мог быць заварот кішкаў у жываце. Калі ж мы пачыналі сьнедаць – тэй хлеб здаваўся нам САМЫМ СМАЧНЫМ У СЬВЕЦЕ. Хлеб пахнуў збожжам, дубам, хвояй, капустай – карацей, ХЛЕБАМ! Цяпер такога хлеба не пачастуеш. Як мне зараз хочацца зьесьці хоць маленькую лустачку таго хлеба. . . .

Пасьля сьнеданку мы з братам йшлі ў школу, маці - на працу ў калгас, а сёстры заставаліся дома. Як пачаліся вялікія маразы – мы ў школу не хадзілі амаль два тыдні. Сядзелі дома і амаль цэлымі суткамі тапілі печку "буржуйку", каб сагрэцца, бо ў хаце было вельмі халодна. Памятаю, што ў часе фінскай вайны былі перабоі з некаторымі прадуктамі харчаваньня й іншымі таварамі. З крамы зьніклі: цукар, соль, гарэлка, тытунь. Калі ж гэтыя тавары прывозілі ў мястэчка (везьлі іх да Халапеніч на конях), то былі вялікія чэргі і без міліцыі парадку ў гэтых чэргах не было. Гарэлку прывозілі ў трохлітровых слоіках (шкляных банках), і гэта гарэлка была вельмі сьмярдзючая. Маці з суседкай купіла для якога там разьліку з цесьлярамі, што рамантавалі нам дзьверы. Не хапала газы (керасіну), бо электрычнасьці ў мястэчку не было.

Маразы былі вялікія, і ніхто з калгасьнікаў не хацеў ехаць за 28 км у Крупкі, на чыгуначную станцыю, у падводы – бо ўлады вырашылі, каб калгасы самі адпраўлялі падводы за газай для сваіх патрэбаў. Так рабіў і наш калгас. За газай у калгас маці заўсёды адпраўляла мяне, бо дзецям давалі газу без чаргі.

**Яшчэ памятаю, як у часе фінскай вайны працавала наша местачковая пошта.** Паштару ня трэба было разносіць лісты па хатах, дзе мужчыны былі на вайне. Кожны вечар, а чацьвертай гадзіне, іх родныя й блізкія зьбіраліся на пошце й чаклі лісты з Ленінграду. Пошту прывозілі з Крупак, хутка сарціравалі і прама ў зале раздавалі - тым, каму былі лісты. Здаралася, што замест ліста, родныя атрымоўвалі пахаронную.

**Як толькі аб'явілі аб сканчэньні вайны, мы кожны дзень чакалі нашага тату дадому.** Аднак лістоў ад яго не было. Толькі праз два месяцы атрымалі капэрту з адваротнай адрэсай: Северо-Осетинская АССР, г.Орджоникидзе, в/ч. . . . Бацька пісаў, што не ведае, калі вернецца

да хаты – ім пра гэта не кажуць. Хадзілі чуткі, што насьпяваў нейкі канфлікт з Турцыяй. Але, на шчасьце, усё абыйшлося і тата напрыканцы ліпеня вярнуўся.

**Добра памятаю пачатак вайны з немцамі.** Мне было ўжо амаль адзінадцаць гадоў. Быў вельмі цёплы і сонечны чэрвеньскі дзень. Калі раніцай я выйшаў на вуліцу, людзі зьбіраліся ў невялікія групы і гаварылі пра пра страшную навіну. Бацька наш быў вельмі зьбянтэжаны. Яшчэ году не прайшло, як ён вярнуўся з фінскай – і зноў вайна. . . . Праз два дні замоўкла радыё. Ніякіх навін людзі не ведалі. Мабілізацыі яшчэ не было абьяўлена. Немцы бамбілі чыгуначныя станцыі і масты. Праз некалькі дзён ў мястэчку пачалі паяўляцца чырвонаармейцы. Яны ішлі пехатою, па аднаму, па два, ці тры. Некаторыя мелі вінтоўкі, але не было патронаў. Звычайна, сустрэўшы дарослага чалавека на вуліцы, салдат пытаў дарогу на ўсход і прасіў хлеба. Завязвалася гутарка, падыходзілі яшчэ людзі і мы, дзеці – звычайна салдаты распявядалі пра свае сутычкі з немцамі. Памятаю адзін такі аповяд салдата: “Нас было больш за 100 чалавек. Камандзір загадаў заняць абарону, мы занялі, але нам выдалі ўсяго па тры патроны. Праз некалькі гадзін паявіліся нямецкія танкі, каманда нашага камандзіра “агонь” не была нават чутна. Хтосьці пачаў страляць, стрэлілі нямногія, у тым ліку і я два разы, а апошні патрон пакінуў сабе, бо ў палон не хацеў здавацца. Першы танк калоны прыпыніўся, з яго выйшлі немцы й пачалі сьмяяцца, рукамі тыкаючы ў свае грудзі, маўляў, страляйце, страляйце. . . . Потым яны падыйшлі да нас, забралі вінтоўкі, ударам аб зямлю, ці камень абламалі прыклады і сказалі: “Ідзі салдат да сваёй маткі, для цябе вайна скончылася”. Астатнія нямецкія танкі і баявыя машыны, якія ехалі каля нас, не прыпыніліся і паехалі далей на ўсход. Наш камандзір сабраў нас у гурт і сказаў прабірацца на ўсход невялікімі групамі. Немцы паасобку нас у палон не бралі”.

**Урэзаўся мне ў памяць такі выпадак.** Было ўжо недзе каля пяці гадзін вечара. Было цёпла й сонечна. З усходу на захад паявілася ў небе армада самалётаў-бамбардзіроўшчыкаў, недзе каля 24 штук (дарослыя казалі, што назад не вярнуўся ні адзін). Яны ляцелі на фронт без суправаджэньня самалётаў-знішчальнікаў. Самалёты ляцелі зьвеньямі па тры штукі, на іх крылах мы бачылі чырвоныя зоркі. Праляцеўшы над Халапенічамі яны не пасьпелі зьнікнуць з поля нашага зроку, як на іх напалі нямецкія знішчальнікі “Месершмідты”, амаль у два разы болей па колькасьці, чым нашых. Завязаўся страшэнны няроўны бой. Нямецкія машыны пераўзыходзілі нашы ў хуткасьці. Трэба заўважыць, што за дзень да гэтага выпадку, наш бацька тэрмінова, на агародзе за свіранам, зрабіў акоп-зямлянку на ўсялякі выпадак, бо ведаў вайсковыя парадкі. Ён загадаў усёй сямы пакінуць хату і схавацца ў акопе, паколькі ўжо некалькі нашых самалётаў было падбіта, яны загараліся і пачыналі падаць на зямлю. На паверхні бацька дазволіў застацца нам з братам. Мы стаялі побач з татам і ўпершыню назіралі паветраны бой. А ён глядзеў у неба і абураўся: “І хто мог так зрабіць – пасылаць людзей на верную пагібель?!”. А мы стаялі, і нічога не разумелі, і ня ведалі – хто тут вінаваты. У вечаровым небе было добра бачна, як змагаліся самалёты. У радыюсе 7-9 км ад Халапеніч было зьбіта тры савецкіх самалёты. Адзін упаў паміж вёскамі Пярэсіка і Ляды, другі заваліўся ў Стаўпецкі лес за Грыцкавічамі, а трэці упаў каля вёскі Прудзец на беразе рэчкі Нача, непадалёку ад

маста. Аднаго пілота знайшлі праз некалькі дзён у гэтай рэчцы, пад кустом, пасьля таго як труп пачаў разлагацца і ў навакольлі зьявіўся смурод. Магчыма пры сутыкненьні самалёта з зямлёй лётчыка выкінула з кабіны. Усе дакуманты ягоныя былі поўнасьцю сапсаваныя вадой. Жыхары Прудца пахавалі яго як невядомага Героя. Дарэчы, ні з аднаго самалёта ніхто не скокнуў з парашутам (напэўна ў лётчыкаў іх не было) усе яны загінулі. Парэшткі гэтых самалётаў жыхары навакольных вёсак расьцягнулі, і з алюміневых частак людзі выплаўлялі посуд (каструлі, чыгункі, патэльні, лыжкі), а мы, дзеці выплаўлялі хрэсьцікі і кожны насіў іх на шыі, бо людзі сталі верыць у Бога.

У мястэчку – крамы і іншыя гандлёвыя кропкі яшчэ працавалі, а службовыя ўстановы ўжо спынялі сваю працу. За дзень-два да прыходу немцаў у Халапенічы раённае начальства пачало ўцякаць на ўсход. З самай раніцы па грэблі ў бок Дубраўкі і Дакучына пацягнуліся фурманкі, пешыя ўцекачы з клункамі. Халапенінцы зазначылі – “напэўна немец ужо блізка”. На досьвітку я прачнуўся ад страшэннага гула танкаў і бронемашын, якія набліжаліся да мястэчка з боку Крупак. Было гэта 28 ці 29 чэрвеня 1941 года. Усе сядзелі па хатах і чакалі, што будуць рабіць немцы, калі ўедуць у Халапенічы. А яны даехалі да цэнтра (“рагаткі”) і прыпыніліся. Заўважылі на ўсходзе, на балоце некалькі нашых уцякаючых вайскоўцаў. Танк, які йшоў у галаве калоны павярнуў гармату ў бок балота й стрэліў два ці тры разы. Потым афіцэр, ламаным рускім языком, аб’явсьціў нешматлікім смельчакам-местачкоўцам, што: “У вас цяпер новая ўлада”, і танк накіраваўся ў бок Бабарыкі, Слабады, Лісічына па дарозе на Чарэю. Праўда гэты першы танк на хаду, з аднэй кулямётнай чаргі зьнішчыў двох нашых салдат, якія з кулямёта “Максім” хацелі аказаць супраціўленьне наступу фашыстаў. Іх кулямёт стаяў у цэнтральным скверы і адкрыў стралянiну. Салдаты загінулі, а камандзір уцёк. Потым Васіль Баркоўскі (Баранок) пахаваў жаўнераў пад вялікай грушай-дзічкай, што расла побач з нашай школай. Калона нямецкіх машын рухалася праз мястэчка ў напрамку Чарэі без перапынку амаль да поўдня. Людзі сталі выходзіць на вуліцы. Калі на вуліцы Ленінскай, па якой рухалася калона, сабралася шмат народу – з баявых машын немцы пачалі кідаць цукеркі й печыва. Некаторыя зь іх крычэлі нам : ”Свабода! Камуністаў больш няма!”. Здавалася, што з’явіліся нашыя абаронцы і вызваліцелі, а не заваёўнікі. Шмат халапенінцаў, якія пацярпелі ад НКВД й “наеліся” калгасаў пляцкалі ад радасьці ў далоні. І ўсе зьдзіўляліся, што многія немцы імкнуцца размаўляць паруску, каверкаючы словы.

Пасьля абеду калона разарвалася і быў нейкі час, калі ў мястэчку нікога з немцаў не было. Людзі асьмялелі і пачалі рабаваць крамы. У нашага суседа быў кватэрант. Ён працаваў бухгалтарам у якойсьці ўстанове. Узяўшы мех, ён пайшоў на “рагатку” у краму і прынёс поўны мех гарэлкі: зуброўкі, пшанічнай, пярцоўкі, маскоўскай і нейкага віна. Тут жа на лавачцы, каля іх хаты, мужыкі пачалі яе піць, закусваючы печывам і цукеркамі, якія ён таксама прынёс. Нас, дзяцей таксама частавалі цукеркамі.

Другі наш сусед, Гласоўскі Іван Сідаравіч працаваў загадчыкам кравецкай майстэрні прамкамбіната. Ён прынёс усе тавары дадому: скураныя падэшвы, хромавыя кавалкі скуры, цьвікі, капылы (калодкі) і ўсе неабходныя інструманты й прылады. Потым усю вайну шыў людзям боты, рамантаваў абутак – нядрэнна зарабляў і перажыў з сям’ёй гэтае ліхалецьце.

Яго ж жонка Сьцепаніда, запрагла калгаснага каня і прывезла з хлебапекарні тры вазы мукі (у кожным разе было па 15-17 мяхоў мукі).

Толькі мае бацькі нікуды не хадзілі і забаранілі нам з братам йсьці на цэнтр. Але я ўсёж вырваўся пасьля абеду. Магазін культтавараў знаходзіўся побач з прадуктовымі, у якіх было ўжо пуста. Дарэчы, гэты магазін мы называлі "Кнігарня", бо ў ім было больш кніг, чым цацак, музычных інструмантаў і мелкакаліберных вінтовак. Нічога там ўжо не было, акрамя вялікай груды кніг і падручнікаў, патаптаных нагамі і парваных. Я пачаў шукаць сабе якую-небудзь дзіцячую кнігу і знайшоў смык ад скрыпкі. Узяўшы смык і дзьве, ці тры нейкіх кніжкі, пайшоў дадому. Убачыўшы мяне маці адрэагавала: "Ты хочаш каб заўтра мяне і бацьку застрэлілі за тваё рабаўніцтва?", і напалам пераламала смык. Я стаў супярэчыць, што вунь людзі вазамі возяць муку, цягаюць тавары і гарэлку – і не баяцца. Маці адказала: "Мы за іх адказваць не будзем!".

**Колькі я жыў з бацькамі (да 1951 году) – столькі маці прывучала мяне не браць чужога.** Але ўзімку 1945-га адбылося наступнае: у нас скончылася сена для ўласнай каровы. І маці, разам з двума жанчынамі-суседкамі, у месячную ноч хадзіла красьці калгаснае сена. Я ў яе запытаўся: "Вось ты, маці, забараняеш мне і кажаш, што красьці нельга, што злодзей самы апошні чалавек сярод людзей?". Яна мне адказвае: "Я краду не ў асобнага грамадзяніна, такога ж беднага як і я, а бяру ў калгасе, дзе ўсё наша, – калгас і палову таго нам не аддае, што мы робім. Сталін вярнуў прыгоннае права, якое было ў Расіі, а нас зрабіў прыгоннымі сялянамі. Гэты грузін канапаты ўсіх нас рабамі ягіпецкімі парабіў! Таму мы не крадзём у калгасе, а бярэм сваё, што нам прызначана". Памаўчаўшы, яна дадала ў сэрцах: "Зноў гэтыя камуністы прыйшлі. Немцы свабоду далі, а гэтыя – калгас…!

У тэй час я мала разумеў яшчэ ў матчынай філасофіі. Мой дзіцячы розум не мог асэнсаваць складанасьці тагачаснага жыцьця. Але ў душы я пачынаў адчуваць несправядліваць дзяржавы да простых людзей, якія ад ранку да позьняга вечара працавалі, і не маглі дастаткова забяспечыць сябе ежай і адзеньнем. Мо таму, калі я яшчэ вучыўся ў пачатковай школе да вайны – не ўступаў ні ў "акцябраты", ні ў "піянеры". Ужо было нейкае адчуваньне, што гэтыя групоўкі "ліпавыя".

**З пачаткам вайны скончылася і маё дзяцінства.** Я адразу пачаў выконваць абавязкі першага памочніка бацькоў і працаваць ад ранку да зьмярканьня. Цяпер, калі заходзіць гутарка пра ваенныя гады – я адразу ўспамінаю маё заўсёднае, запаведнае жаданьне – выспацца. Усю вайну мне здавалася, што калі б я паспаў столькі, колькі хацеў, то й жыцьцё казалася б лепшым.

**Немцы ў Халапенічах не адразу арганізавалі гарнізон,** а толькі прызначылі кіраўніцтва – магістрат. Кіраўніком магістрату паставілі былога галоўнага ўрача нашай больніцы – Масюкевіча. Калгас пакінулі такім, як быў, толькі звольнілі старшыню (таму што ён быў камуністам), а выбралі на гэту пасаду безпартыйнага. Усё ў калгасе працягвала працаваць гэтак, як і да вайны. Нямецкія вайсковыя часткі доўга не затрымліваліся ў мястэчку. Прыедуць, пажывуць тыдзень-другі, і паехалі – на іх месца прыязджаюць іншыя.

Па Халапенічах папаўзлі чуткі, што ў лесе ўжо зьявіліся партызаны. Нашы жанчыны, зьбіраючы ў лесе ягады, сустрэлі людзей у цывільнай вопратцы са стрэльбамі і аўтаматамі. Тыя ці-

кавіліся жыцьцём у Халапенічах, распытвалі, ці ёсьць гарнізон, і калі ёсьць, колькі прыблізна салдат? Што робяць немцы, ці грабяць людзей, ці сажаюць у турму, які ў людзей настрой? Хто з мясцовага насельніцтва абраны немцамі ў мясцовае кіраўніцтва? Вярнуўшысь, жанчыны шэптам распавядалі знаёмым аб гэтай сустрэчы.

Было гэта, мабыць, у жніўні – нямецкія салдаты ў гэты дзень ў Халапенічах адсутнічалі. У другой палове дня партызаны праз балота, па агародах падышлі да вуліцы Рэвалюцыйнай. Тут, насупраць заезду на двор больніцы, стаяла студня. Партызаны паставілі за ёй кулямёт, а жыхарам бліжэйшых хат паведамілі, што яны хочуць зрабіць абстрэл магістрата, які знаходзіўся ў будынку больніцы. Таму жыхарам трэба схавацца. Партызаны думалі, што з магістрату будуць таксама страляць. Прагучалі кулямётныя чэргі, але з будунку магістрата ніхто не страляў у адказ – і партызаны хуценька зьніклі праз балота ў лес. Усе ў больніцы напужаліся, у тым ліку і галоўны ўрач Масюкевіч. Быў паранены ў плячо наш сусед, гаспадарнік больніцы Баркоўскі Пiліп. Але рана была невялікая і хутка загаілася.

Пасьля гэтага выпадку немцы арганізавалі ў мястэчку камендатуру і гарнізон, якія пратрымаліся да лета 1944-га. Адразу пасьля зьяўленьня камендатуры пачалося ўвядзеньне нямецкага парадку. Усім габрэям загадалі прышыць на вопратцы “кляймо” з жоўтага матэрыялу круглай формы, дыяметрам 10 см. Габрэй, які выйдзе на вуліцу ў адзеньні без кляйма, будзе расстраляны. З наступам ночы вокны павінны быць зачынены, каб не было бачна сьвятла. З нашых мужчын немцы пачалі арганізоўваць паліцэйскія атрады. Была таксама арганізавана Халапеніцкая валасьць і валасны аддзел паліцыі. Перайменавалі ўсе назвы вуліц і завулкаў мястэчка. На вуглах дамоў былі прыбітыя шыльды з нямецкімі назвамі. Наша Гаравая вуліца пачала называцца Гегельвегштрасэ. Пачалі працу крамы, хлебапякарня, прамкамбінат. Але купіць там не было чаго спачатку. У абароце былі савецкія і нямецкія грошы – за 10 рублёў давалі адну дойчмарку.

Добра запомнілася, што салдаты нямецкія раз на 10 дзён атрымоўвалі харчовы паёк. І для нас гэта было сьвята – яны частавалі цукеркамі, чакалядай й іншымі прысмакамі. Да гэтага моманту ніводзін дзіцёнак ў Халапенічах не бачыў цукерку ў абёртцы – для нас гэта было дзіва. А за маркі салдаты і афіцэры куплялі ў нашых бацькоў гусей, курэй, сала й яйкі.

**Неяк хутка новыя ўлады адчынілі нашу царкву, дзе раней быў нейкі склад.** Не заўсёды, але маці імкнулася хадзіць на службу і брала мяне з сабой. Людзей заўсёды было шмат. Прыходзілі таксама й немцы (больш жаўнеры), стаялі недалёка ад уваходу і ціхонька маліліся. Але да прычасьця не хадзілі.

Многіх немцаў, як жаўнераў так і афіцэраў, расьсялілі па хатах па ўсяму мястэчку. На нашай вуліцы Гаравой яны жылі ў Бандарэнкавых, Гласоўскіх, Лябікаў і іншых. Вечарамі моладзь зьбіралася на пасядзелкі й немцы таксама прыходзілі, таньчылі з нашымі дзеўкамі. І так было ўсю вайну. На гулянках, ад халапеніцкіх баб можна было пачуць: “Ай, глянь, во гэты немец нагі ня ўмеў перастаўляць. А зараз як навучыўся – рэжа польку, як усё жыцьцё танцаваў...”; “Калі немцы яшчэ гады два пабудуць, то дзеўкі ўжо замуж за іх пачнуць выходзіць...”. А адзін немец ламаным языком навучыўся казаць: “Гапулька, пайдзем танцаваць!”. Аднойчы быў такі выпадак. Афіцэр, што стаяў на кватэры ў Бандарэнкавых, прыйшоў на пасядзелкі, сядзеў, слухаў,

як стары Бандарэнка на сваёй скрыпачцы йграе, а потым папрасіў у дзеда інструмант ды зайграў... "Інтэрнацыянал". Убачыўшы зьдзіўленыя твары халапенінцаў, ён перастаў йграць, засьмяяўся і памахаў пальцам, маўляў, "нікс!", не кажыце нікому пра гэта. А далей пачаў граць вальсы Штраўса. Памятаю яго вочы – разумныя такія, з хітрынкай. За ўсю вайну гэты афіцэр ніколі не крыкнуў на людзей. А стары Бандарэнка казаў пра яго, што вельмі сьціпленька жыў, без раскошы.

**Паліцэйская ўправа разьмяшчалася на рагатцы зправа, як ехаць на Дубраўку.** Пад час акупацыі на ўсіх вуліцах мястэчка былі разьмешчаны пасты аховы. На кожным пасту стаяў адзін паліцэйскі і адзін цывільны з жыхароў мястэчка. Па канцох кожнай вуліцы былі гэткія пасты. Акрамя гэтага, яшчэ іншыя паліцэйскія кожную гадзіну рабілі абход. Калі партызаны з боку балота (зн. з боку в.Дубраўка) паяўляліся – адразу яны давалі сігнал, стралялі ўверх і падымалася трывога. Дзяжурствы гэтыя былі толькі ноччу, па графіку, які складаў стараста й падстараста кожнай вуліцы. На нашай, Гаравой вуліцы старастам людзі абралі такога Марціна, гультаяватага мужыка (і так на кожнай вуліцы – не немцы прызначалі, а людзі абіралі на агульным сходзе вуліцы). Да вайны над ім нярэдка кпілі местачкоўцы за яго ляноту, – неяк раз, увесну, сабралася Марцініха (яго жонка) садзіць капусту, а градка не ускапаная – кліча Марціна, каб ускапаў, а ён узяў кол і давай ім набіваць у зямлі дзіркі, маўляў, садзі так – вырасьце. Дык вось, па гэтаму графіку, што Марцін склаў, атрымоўвалася, што кожны мужчына нашай вуліцы дзяжурыў адзін раз на месяц (каля 40 мужчын было на нашай вуліцы – не лічачы тых, хто служыў у паліцыі). Мой бацька, памятаю, ноч адбудзе там, а потым дзень сьпіць. І, пакуль бацька не ўладкаваўся на працу грузчыкам, ён хадзіў на гэтыя дзяжурства. Як толькі пайшоў працаваць – немцы адразу вызвалялі ад гэтых вахт.


Мікалай Баркоўскі, 1940г.

Стараста вуліцы адказваў таксама за арганізацыю й выкананьне розных гаспадарчых спраў. Напрыклад, трэба вазіць сена – стараста йшоў па вуліцы й прызначаў, хто сёньня запрагае свайго каня для гэтай працы.

**Спачатку немцы паставілі бургамістрам (начальнікам паліцыі) Халапеніч Баркоўскага Мікалая** (быў паранены ў фінскую вайну, вярнуўся, працаваў у ДАСААФе). Ён пабыў пару месяцаў і яго перавялі ў Крупку, на пасаду начальніка Крупскага раёну. А ў нас прызначылі Аўдзюшкіна новым бургамістрам. Памятаю выпадак, што адбыўся ўжо пасьля вайны, недзе ў 46-47гг. Ад халапеніцкага калгаса мы паехалі атрымоўваць нейкія запчасткі на чыгуначную станцыю Крупкі. І загадчык складу, непрыкметны, ціхі габрэй (прозьвішча ужо не ўзгадаю), калі даведаўся, што мы з Халапеніч, сказаў нам, што ведае аднаго халапенінца, які ў вайну быў галоўным у раёне – звалі яго Мікалай Баркоўскі. А потым дабавіў: "Добры быў чалавек, парадачны, многім дапамог у вайну".

Ведаю, што ў 44-м ён з сямьёй выехаў разам зь немцамі, каля году жылі ў Нямеччыне.




Потым жонка зь дзецьмі вярнулася ў Халапенічы, а ён застаўся. Быццам бы, потым асеў у Аўстраліі, дзе і памёр. Праўда ў 70-х прыходзілі ад яго лісты ў Халапенічы да родных. І ўжо мая сястра Валя (яго нявестка), расчуліўшыся, збіралася напісаць яму туды. Але "прыляцеў" з Адзесы Бандарэнка Косьця і моцна лаяўся, забараніўшы ёй пісаць ліст. Было такое ўражанне, што яго прыслалі гэбэшнікі. Вось яна і не напісала. Ён, нават канверт той забраў у яе, каб адрэсу не ведала. Так на самоце і памёр яе свёкр.

**На фота: такі плякат вісеў ў Халапенічах пад час нямецкай акупацыі.**

**З кастрычніка 1941-га немцы адчынілі школу й нашы настаўнікі вучылі нас на роднай мове.** Памятаю настаўніка сьпеваў (мы называлі яго "Сьпевак"), маладога хлапца Паўла Кандратовіча з Траянаўкі. Ён развучыў з намі песьню: "Мы выйдзем шчыльнымі радамі..." На урок сьпеваў злучаў усе пачатковыя клясы і мы сьпявалі разам. І перад любой урачыстасьцю, – Каляды, Вялікдзень, мы спачатку сьпявалі, як казаў Паўла, наш беларускі гімн: "Мы выйдзем шчыльнымі радамі...", які нам вельмі падабаўся. Шмат розных песень мы зь ім вывучылі. У асноўным гэта былі беларускія народныя песьні ("Я на гэтай, на далінцы...", "Хадзіла маладзёжынка па барочку...", "Звоніць поле воляй, доляй..."). Ён жа раздаў нам значыкі прыгожыя, бел-чырвона-белага колеру, на іх было напісана сБм (Саюз Беларускай Моладзі) і на крыж рыдлёўка і меч. Маці мая, як убачыла ў мяне гэты значок, дык адразу пачала лаяцца і казаць каб я яго выкінуў. І пазней забараніла мне хадзіць у школу. А сам Паўла вельмі добра йграў на мандаліне. Ён зьнік з Халапеніч разам зь немцамі. А пасьля вайны, памятаю, ён прыехаў неяк у мястэчка, у школу прыходзіў. Потым кудысьці зьнік і мы яго больш не бачылі.

**Увесну 1942-га немцы разагналі калгас, раздалі людзям зямлю.**

Таксама падзялілі коней, кароў. З гэтай дзялёжкай зьвязана самая шчымлівая хвіліна ўспамінаў майго дзяцінства. У 1933-м, калі бацьку вымусілі йсьці ў калгас, ён здаў туды і нашага малога жарабя, якога мы звалі "Буланы". І потым, тайком, усе гэтыя гады падкармліваў яго аўсом з кішэні на калгаснай стайні. Так многія мужыкі рабілі... Калі ж немцы пачалі дзяліць калгасную жывёлу, яны сказалі: "Хто памятае сваю жывёлу – забірайце!". І тата прывёў дамоў

нашага Буланага! Мы з братам сьпявалі ад радасьці, а маці плакала.. . Усю вайну Буланы адпрацаваў на нашай зямлі. Як я любіў на ім катацца пасьля працы, ці ў начным. У ліпені 1944-га нашага косю забраў чырвоармеец, які “загуляў” у Халапенічах і адстаў ад сваіх. Пакінуў бацьку расьпіску з нумарам сваёй вайсковай часткі і цьвёрда абяцаў вярнуць каня: “Верну отец, не сомневайтесь – вы что не верите слову красноармейца?”. . . . Яшчэ ў 50-х гадах я бачыў гэтую запіску сярод важных папер і дакумантаў нашага бацькі.

Пасьля разгону калгаса немцы стварылі сельгасуправу й прывезьлі зь Нямеччыны быка й жарабца для паляпшэньня мясцовай пароды. Даглядаў іх Альхімёнак Сяргей. А мы пачалі працаваць на сваёй зямлі – нам далі 4 гектары ва ўрочышчах “Мугілёўка”, “Зазер’е” і “Лубовы мост”. Пра голад наша сямья пачала забываць.

Усіх местачкоўцаў уразіла, што на 1-га Мая 1942-га немцы па ўсіх вялікіх вуліцах павесілі свае чырвоныя сьцягі са свастыкай, і віншавалі нас і сябе са сьвятам міжнароднай салідарнасьці працоўных.

Летам 1942г. мы кожную ноч ганялі коней у начное. Зьбіралася на гэтую справу нас, падлеткаў, чалавек 15-18. Вогнішча распальваць немцы забаранялі. Але, неяк раз, быў вялікі туман і мы рызыкнулі, – палічылі, што вартавыя не ўбачаць з Халапеніч (гэта ж каля 6 кіломэтраў ад мястэчка). Сядзім, грэемся, байкі баем, – коні сабе мірна скубуць траву... Тут, зьнянацку, налятае на нас цэлы атрад паліцэйскіх (каля 30 чалавек) і тры нямецкіх афіцэры начале. Старэйшы немец як падняў гвалт, маўляў, партызанам знак падавалі. Загадаў самых высокіх (значыць старэйшых з нас) падлеткаў растраляць. Як пачалі тут нашыя паліцэйскія прасіць немцаў не рабіць гэтага (з нас амаль усе былі ім ці сынамі, ці братамі, ці пляменьнікамі) і заступацца за нас. Памятаю паліцэйскіх, якія за нас вельмі прасілі: Дземьяновіча, Скалубовіча, Мікалая Іванавіча Баркоўскага і Івана Антонавіча Баркоўскага. Тады немцы зжаліліся й загадалі старэйшаму зь іх, Баркоўскаму Івану Антонавічу зьявіцца назаўтра ў камэндатуру а 12-й гадзіне. Казалі, што ўсыпалі яму, за нас, 15 плётак.




**На фота: такі плякат вісеў у Халапенічах у 1943 годзе на “рагатцы”.**

**У акупацыю па Халапенічах віселі плакаты.** На адным з іх было напісана: “Что такое,

что это значит, пыль какая вдалеке – то кагал жидовский скачет на кавказском ишаке", і такі ж малюнак. А яшчэ была улётка, якая распавядала пра тое, як Сталін купаўся і бачыць – чалавек тоне, ён яго выцягнуў з вады, а той пытаецца, як зваць такога добрага чалавека, што яго выратаваў. Як даведаўся, што Сталін – то й адразу наўцёкі і назад, у ваду.

**Недзе ў 43-м годзе ў Халапенічах стаялі ўласаўцы** (у іх былі нашытыя на рукаве шэўроны з надпісам РОА (Русская Освободительная Армия). Памятаю, як кожную нядзелю пасьля наведваньня царквы яны шыхтам хадзілі па цэнтру мястэчка й сьпявалі. Мы, падлеткі, заўсёды імкнуліся пабачыць іх – нам спадабалася як гэтыя прыгожыя маладыя жаўнеры пяюць. Узгадваю некалькі словаў з адной песьні:

*Крикнем ура за новую Россию,*
*За Гитлера Адольфа, и его дела…*

**Доўгімі зімовымі вечарамі маці і іншыя мае родныя распавядалі розныя гісторыі, і пра розных людзей.** Асабліва запомніўся аповяд, што быў у Халапенічах такі атаман Семеньнік, бальшавікі яго называлі "банда" і запугівалі ім жыхароў. Але ён простых людзей не чапаў, а толькі гэтых бальшавікоў разганяў. Нападалі на іх, хаты палілі, дзе яны засядалі, – змагаўся зь імі. Было гэта яшчэ ў рэвалюцыю, пакуль яшчэ не ўсталявалася савецкая ўлада.

Немцамі быў такі парадак уведзены, што пасьля 16.00 вокны ў хатах павінны быць зачынены, каб сьвятла не было бачна і на вуліцу выходзіць забаранялася. Да гэтай гадзіны мы з бацькам павінны былі скончыць усю працу па гаспадарцы, – карову, каня і ўсю іншую скацінку накарміць, напаіць, як казалі: завідна ўсю работу парабіць. І тады ўся сямья зьбіралася ў хаце. Маці прадзець кудзелю, бацька вяроўкі ўець, а потым сядзем у карты гуляць – маці з братам, а я з бацькам. Спаць жа ня будзеш так рана класьціся. І тады яны пачыналі ўспамінаць, як было раней. І не толькі маці з бацькам, але й бабуля Акуліна ўзгадвала пра гэтую банду Семеньніка. Казала, добры быў чалавек, справядлівы, але вельмі не любіў бальшавікоў.

У 1943 годзе начальнікам халапеніцкай паліцыі, бургамістрам быў той жа Аўдзюшкін, не мясцовы, невысокага расточку. Зімой гэтага году нарадзілася мая сястра Дзіна, й бацька ноччу пачаў гнаць самагонку, каб адзначыць хрэсьбіны. А немцы забаранілі варыць самагон, бо потым вясной у сялян будуць праблемы з пасяўной кампаніяй (гарэлку ж гналі зь ячменю ці жыта). Таму кожную ноч па вуліцах хадзілі паліцэйскія. Убачылі з нашай трубы дым і давай грукаць у дзьверы. Бацька не адкрыў. Яны пайшлі й прывялі з сабой гэтага Аўдзюшкіна. Бацька адчыніў ім дзьверы й ён адразу унюхаў пах брагі, напісаў нейкі пратакол ці акт і сказаў бацьку прыйсьці назаўтра, а 12-й гадзіне, ў камэндатуру. Бацька пайшоў, думаў плётак дадуць – у камэндатуры быў свой палач, з немцаў, які сёк без жалю за любую правіннасьць. Паліцэйскім не давяралі гэтую "працу", бо лічылі, што сваіх жалець будуць. Вось, вызываюць ужо бацьку да камэнданта Халапеніч, – ён заходзіць, каленкі трасуцца, а немец (камэндант) праз перакладчыка[2] гаворыць, прачытаўшы паперы на бацьку: "Вы займаецеся самагонаварэньнем. Вы знаеце, што ў вас 5 дзяцей? Вы ўнічтажаеце хлеб, каторы нада нямецкаму гасударству, нямецкаму камандаваньню і лічна вам, вашым дзецям і вашай сямье. Паэтаму я

пасылаю камісію ва главе з прэдсядацелям воласьці. Яны ўсё ў вас апішуць і лішкі хлеба забяром на склад. А потым, вясной мы вазврацім вам, штобы вы пасеялі. Усё – вы свабодны.” Бацька прыйшоў да хаты й распавёў маці, як сказаў камэндант. Маці узрадавалася й вечарам, на саначках пачалі з бацькам развозіць па сваяках збожжа. Пакінулі толькі каля 300кг. Аўса й ячменю трохі, на крупы. Праз пару дзён прышоў старшыня халапеніцкай воласьці Судзук з двума панятымі (як зараз дэпутаты – у вайну іх панятымі называлі), паглядзеў, колькі ў нас чаго і кажа бацьку: “Ну, я, Нікіпар, узвешаваць ня буду – бязьменам гэтым доўга вошкацца. Давай мы ўсё па-людзку з табой зробім.” Бацька хоп ім бутэльку самагонкі на стол – яны выпілі, закусілі й старшыня ўжо напісаў, так, як трэба і падаў у камэндатуру. Вызывае бацьку зноў камэндант і кажа: “Так, камісія нам далажыла, як мы і ажыдалі, у вас асталася очэнь мала хлеба. Паэтаму ва далжны будзеце 100кг аўса здаць на склад і квітанцыю сахраніць”. Мы з бацькам насыпалі два мяхі самага дрэннага аўсу, недзе другі сорт, і завязьлі на склад, а квітанцыю захавалі. Прыйшла вясна, мы ўжо ўсё засеялі, толькі каля “Дубінавага лесу” (гэта як на Баркі ехаць) засталося 54 соткі й няма чым сеяць. Маці адпраўляе бацьку да камэнданта з той квітанцыяй, а ён кажа: “Ты што, Юстына, хто табе пад час вайны вяртаць што будзе – яны ўжо забыліся даўно”. Тады маці сама зьбірацца пачала, прыгаворваючы: “Ня можа быць. Калі немец сказаў – вернуць, значыць, – вернуць!” Ну, ужо тады, бацька сам пайшоў. Доўга таптаўся ля ганку, але ўсё ж такі зайшоў, і квітанцыю камэнданту падае. Той паглядзеў... і на ёй жа напісаў дазвол на атрыманьне 100кг аўсу. Як атрымалі – буйны, добры й сухі! Мы паехалі з бацькам, засеялі – я забаранаваў потым. Авёс урадзіў той, аж шумела! Людзі ня верылі, што такі авёс можа быць.

Запомнілася, як у жніўні 43-га немцы прыцягнулі і паставілі на нашым выгане нямецкую малацілку. Кожны селянін прывёз сваё на абмалот, – толькі пасьпявалі падстаўляць мяхі. Тут жа кожны аддаў немцам падатак збожжам (маці казала: “немцы не дзяруць тры скуры – пабожаску”). Усе на вуліцы казалі, што так хутка і якасна ніколі не малацілі.

Калі ж мы сабралі ўвесь ураджай 43-га году бацька сказаў: “Калі немцы яшчэ гадоў пяць пабудуць – мы міліянерамі станем”.

**У 1943 годзе, зімой, быў такі выпадак, як партызаны напалі на гарадзіцкіх кароў** (з вёскі Гарадзішча). Кожны дзень, каля 15 гадзін жыхары суседняй вёскі Гарадзішча запрагалі коней, прывязвалі сваіх кароў і гналі іх ў Халапенічы да сваіх сваякоў, ці знаёмых на начоўку. Баяліся, каб ноччу партызаны не забралі. А з раніцы, пераначаваўшы, ехалі назад, – і так усю зіму, пакуль балота не растане. І вось, у той дзень зранку, адзін з паліцэйскіх прыйшоў да сваіх бацькоў у Гарадзішча. У яго была вінтоўка 10-ці зарадная, напаўаўтаматычная. А ўвечары, разам з гэтым абозам вяртаўся назад у мястэчка, на службу. А партызаны зрабілі засаду там, дзе на выязьдзе з Гарадзішча, па праваму боку, знаходзіцца “Цюхаёў лог”, - лагчына такая, і побач хмызьняк шчыльна рос. І, як толькі першыя падводы паказаліся, партызаны, у прысядку, пачалі паўзьці ўверх па лагчыне – на перарэз. Было іх шмат – недзе чалавек 50-80, аж чорна ўсё па лагчыне было, усе узброеныя. Гэты паліцэйскі не разгубіўся, загадаў мужыку на першай падводзе хутка ляцець да Халапеніч (на ускрайку мястэчка стаяла караулка на 12 паліцэйскіх) і падымаць трывогу, а сам прыпыніў абоз і у сьнег бац.., залёг і з вінтоўкі пару стрэлаў у

бок партызанаў. Тыя заляглі і не паўзуць. Ён перастаў страляць, – яны падымаюцца – ён зноў адкрывае агонь. А людзям закрычаў, каб, што ёсьць моцы скакалі у мястэчка. І ўвесь абоз імкліва панёсься да нас. Мы з бацькам бачылі гэтую карціну навачавідкі – здавалася, што пачалася нейкая бітва! Страляніна, тупат коней, ашалеўшыя каровы нясуцца па засьнежаным полі, людзі крычаць...

Атрымалася так, што гэны паліцэйскі залёг на высаце, а партызаны ў нізіне, – ён зьверху бачыць, куды страляць, а яны ўнізе ў сьляпую лупяць з аўтаматаў і вінтовак. І тут хоп, – у небе зьяўляецца чырвоная ракета, з цэнтра Халапеніч ляціць машына з немцамі, чалавек 40 у масхалатах. Рассыпаліся па полю і ў бок Гарадзішча пайшлі. За гэты час усе людзі ўжо прыскакалі з каровамі да нас. Партызаны бачаць, што ім непераліўкі тут і наўцёкі. Толькі сьляды ад палозьяў засталіся ў хмызьняку.

Пасьля гэтага выпадку халапенцы доўга распавядалі адзін адному гэту гісторыю й казалі пры гэтым: “Якія гэта партызаны? Гэта нада – адзін паліцэйскі усю рацьадбіў іх. Якія гэта к чорту ваякі, - грабіцелі нейкія.” І яшчэ казалі: “Гэта яны ўжо ўсё аб’елі вакруг, і Дакучын, і Дубраўку, і ў іншых дзярэўнях ні курчонка, ні парасёнка ўжо не знойдзеш. Рашылі на нашых кароў ад галадухі кінуцца”.

Самым гадкім паліцаем у Халапенічах быў Баркавец, з Пярэсікі. Казалі, што яго забілі ў дзень адступленьня немцаў з Халапеніч. Адбылося гэта ў яго роднай вёсцы Пярэсіка. Але не ведаю хто – партызаны ці вяскоўцы.

А яшчэ быў паліцай Мокры, які ўдзельнічаў у расстрэлах – дык людзі ціхоньнка казалі пра яго – “зьвер”.

**Асноўную масу халапеніцкіх мужчын, што служылі ў паліцыі й засталіся дома, а не пайшлі з немцамі, пабралі на фронт у 44-м.** На нашай вуліцы жыў такі Быкаў (мянушка ў яго была – “бычок”) й сусед ягоны, не помню прозьвішча, былі ў паліцыі. Як толькі вызвалілі Халапенічы ад немцаў, да яго прыйшлі партызаны й хацелі яго растраляць прама ў двары. А міма, абсалютна выпадкова, праходзілі чырвонаармейцы (шукалі коней) і убачыўшы гэта пытаюць у іх: “А хто вы такія?”.Тыя кажуць, што партызаны. Вайскоўцы пытаюць у іх дакуманты. Партызаны паказалі свае пасьведчаньні. Тады чырвонаармейцы пытаюць Быкава, хто ён такі? А той кажа: “Во яны мяне хацелі забіць”. І паказвае на партызан. Вайскоўцы пытаюць: “Якія ў цябе дакуманты ёсць?” Той паказаў сваё пасьведчаньне паліцэйскага. Яны яму кажуць: “Зьбірайся, пойдзеш ў войска служыць”, і забралі з сабой. Той дайшоў да Бэрліну, быў паранены, вярнуўся ў Халапенічы і пражыў усё жыцьцё тут.

Усе, хто зь іх вярнуўся з фронта і быў паранены, - потым жылі і працавалі ў Халапенічах. Быццам лічылася, што калі быў паранены, - то віну сваю “іскупіў кроўю”, - як казалі тады. І Берыя такіх не чапаў. А забіралі тых, хто не быў паранены. Напрыклад, забралі ў нас Трыпутня Йвана і іншых такіх. Далі ім па 6 год лягероў. Яны там не сядзелі, а працавалі. Памятаю, што як Трыпуцень адбыў свой тэрмін і вярнуўся – ён трохі пабыў і паехаў назад. Маўляў, там лепей – праца, й багацей людзі жывуць. І шмат хто застаўся з халапеніцкіх паліцаяў там, дзе адбывалі свой тэрмін, пабраліся шлюбам і жылі.

Пазьней я даведаўся, што з тых мужчын-халапенінцаў, якіх забраў ў ліпені 44-га палявы

ваенкамат, ніхто(!) не вярнуўся дамоў. Усе загінулі пры ўзяцьці Кенігсьбергу і ў Прусіі. Нашаму бацьку таксама прыйшла павестка, але маці ў крык: “Не пушчу!”. Пабегла на луг, нейкай травы атрутнай прынесла й нацёрла бацьку правую нагу. Тая як апухла, што ў бот не ўлезла. Ён з такой нагой прыкавыляў на камісыю ў ваенкамат. Там сказалі: “Ідзі, лячыся, потым прыходзь”. Так ён да верасьня і хадзіў, з такой нагой. А ўжо ў верасьні, Халапеніцкі ваенкамат забраў яго ў армію. І тата не папаў у Прусію, а праз Польшчу дайшоў да Бэрліну.

Недзе праз тыдзень пасьля вызваленьня Халапеніч ва ўрочышчы “Маладзішча” пачалі будаваць аэрадром – якраз там, дзе была наша палоска зямлі. Па вуліцах прайшоў такі Мазанік й абвясьціў, што ад кожнага двара па аднаму чалавеку на будаўніцтва, з заўтрашняга дня. Сабралі людзей з Халапеніч, Версанкі, Якімаўкі, Прудца і Узнацка й загадалі рыдлёўкамі раўняць баразны, узгоркі – мора людзей працавала. А на ўскрайку копанай канавы ляжаў вялікі камень – усе яго называлі “Божыя сьлядкі”. І яго трэба было прыбраць, бо замінаў гэтаму аэрадрому. І мужыкі выкапалі вялікую глыбокую яму й сьпіхнулі яго туды, а потым закапалі. Быў ён шэрага колеру, нагадваў выцягнуты ў даўжыню стол, і на ім быў дзіцячы сьлядок Хрыста, і сьляды амаль што ўсіх зьвяроў – зайца, мядзьведзя, ваўка, куніцы, дзіка і іншых. Шмат людзей хадзіла лячыцца да гэтага каменя – папьеш вады з сьлядка і аздаровішся. Памеры яго былі прыблізна такія: вышыня – каля 1 м., даўжыня – недзе 1,80 см., шырыня – каля 1,20 см.

А аэрадром будавалі тыдзень, а потым, на яшчэ недабудаваную паласу, ўжо пачалі садзіцца самалёты. Недзе тыдні два яны былі у нас, і пайшлі далей на захад – аэрадром апусьцеў.

Помню яшчэ, што ля “Паповай гары” была крынічка. Яна ўжо была заросшая, ледзь жыла. У 1944 годзе мы з братам яшчэ абкашвалі яе. Казалі, што раней тут была зямля халапеніцкага папа – таму і гару так назвалі. Маці расказвала, што даўней тут над крынічкай на чатырох слупах стаяла каплічка і на Вадохрышча, 19-га студзеня, прыходзіў поп, асьвячаў крынічку і усе бралі ваду. Казала, што які б мароз ня быў, хоць 30 градусаў – крынічка не замярзала, а вада была смачная-смачная.

Пасьля таго, як ўлетку 44-га, усіх мужчын узростам да 55-ці гадоў забралі на вайну – у Халапенічах засталіся толькі дзяды, жанчыны й дзеці. Зноў зрабілі калгасы. Быў вельмі добры ўраджай збожжа і бульбы, але не было каму ўбіраць яго. Мы, падлеткі, працавалі як дарослыя. Збожжавыя культуры прама на палетках складывалі ў ськірды. Не было тэхнікі для абмалоту. Абмалацілі толькі жыта ўручную, і іншага рознага збожжа, каб хапіла разьлічыцца зь дзяржавай. Вельмі мала было нарыхтавана корму для жывёлы. Таму за зіму 1944-45гг. палова калгасных коней і кароў падохла. Увесну 45-га ўжо не хапала коней, каб правесьці сяўбу. Бульбу садзілі пад плуг, у які ўпрагалася 10-12 жанчын. Такім жа чынам засаджвалі й асабістыя агароды. А тое збожжа, што пакінулі ў ськірдах летам 44-га, мы малацілі ўзімку 45-га: палова ўраджаю зьелі мышы. А снапы ячменю, пшаніцы, аўса нагадвалі сабой звычайную мякіну. Таму жанчыны падавалі гэтую лухту ў малацілку кошыкамі.

Маці напісала бацьку на фронт, як цяжка стала зноў жыць: “Усіх апяць загналі ў калгас…”. Ён жа даслаў ліст, дзе пісаў, што не верыць гэтаму: “Перад намі выступаў сам Жукаў і сказаў, што як пераможам немцаў і вернемся дамоў – калгасаў не будзе. Яму сам Сталін гэта казаў.” І



**На фота: 1951г. Пятро Ляхновіч, вучань 10 класа, трымае кніжку У.Маякоўскага "Моё открытие Америки".**

яшчэ, у іншым лісце распавёў: "...калі тут падымаюць у атаку – камандзір крычыць: "Мужыкі, Сталін сказаў – калгасаў ня будзе! Тады хлопцы ўстаюць...". Маці яму адказала: "Нікіпар, аксьціся, перастань пісаць гэткае, а то пападзеш туды, куды Макар цяля не ганяў... Нас тут ужо аблажылі з усіх бакоў".

Па радыё кожны дзень распавядалі пра перамогі Чырвонай арміі і цяжкае жыцьцё пад нямецкай акупацыяй на Беларусі. Маці неяк не вытрымала, й прашаптала сабе пад нос: "Сышлі нямецкія – прыйшлі нашы акупанты".

**У 1946 годе ў калгасе пачалі замест коней (якія падохлі) трэніраваць быкоў.** Мы, падлеткі, пачалі вучыцца езьдзіць верхам на быках. Першыя спробы былі няўдалыя: калі бык пераходзіў з хадзьбы на бег, то вершніка пачынала моцна трэсьці і, паступова ён зьяжджаў быку на карак, а потым – на рогі. Бык злаваўся й падкідваў ездака ўгару, – і мы ляцелі ўперад, галавой уніз. Са мной такое было двойчы. Называлася гэтая трэніроўка – калгасная карыда. Але паступова мы прызвычаіліся, й навучыліся добра трымацца.

Пачынаючы з лета 1944-га я кожнае лета, як толькі канікулы пачыналіся, працаваў у калгасе. І так было да 1951 году, калі, скончыўшы школу, я паступіў вучыцца ў Мінскі фізкультурны інстытут.

У мяне была нават кніжка калгасьніка, у якую працадні ("палачкі") налічваў наш галоўны бухгалтар Тамаш Гласоўскі, ці як мы яго звалі – дзядзька Тамаш.

Тата вярнуўся ў 46-м, і прывёз ад Сталіна некалькі грамат. Паглядзеўшы, як мы жывем, напіўся і пачаў лаяцца расейскім матам, а праз некалькі дзён, сьціснушы зубы, – пайшоў у калгас…



Красноармейцу
Лехнович Никифор Васильевичу.
Приказом Верховного Главнокомандующего
Маршала Советского Союза товарища Сталина
от 2 Мая 1945г. № 359
за овладение столицей Германии г. Берлин
всему личному составу нашего соединения, в
том числе и Вам, принимавшему участие в
боях, ОБ'ЯВЛЕНА БЛАГОДАРНОСТЬ.
КОМАНДИР ЧАСТИ

**На фота: грамата майму бацьку за авалоданьне Берлінам ад 2 мая 1945г.**

ЗНОСКІ:

[1]Эйсымонт (Эйсмант) Сяргей Міхайлавіч, н. 24.8.1905 ў г.Варшава, Польшча. Шляхецкіх каранёў. З сям'і вайскоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Жыў у м.Халапенічы. Працаваў землямерам Халапеніцкага РайЗА. Арыштаваны 22.8.1940. Асуджаны 1.2.1941 па арт.72а КК БССР за "антысавецкую агітацыю" да 8 гадоў канцлагера. Пакаранне адбываў у Іўдэльлагу. Праходзіў па адной справе з Гадлеўскім Г.Ю. (гл. вышэй – аўт.). Вызваліўся 29.8.1941. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 31.7.1989. Асабовая справа захоўваецца ў КДБ РБ (№26707-с). Гадлеўскі Георгій Юльянавіч, н. ў 1904 у м.Целеханы на Піншчыне. Шляхецкіх каранёў. З сям'і святара. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Жыў у м.Халапенічы на вул.К.Маркса д.23. Працаваў землямерам Халапеніцкага РайЗА. Арыштаваны 22.8.1940. Асуджаны 1.2.1941 па арт.72а КК БССР за "антысавецкую агітацыю" да 8 гадоў канцлагера. Пакаранне адбываў у Іўдэльлагу. Вызваліўся 31.8.1941. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 31.7.1989. Асабовая справа захоўваецца ў КДБ РБ (№26707-с). Крыніца: А.Аляхновіч, М.Баравуля, С.Дубавец, В.Лапацін "Хроніка палітычнага тэрору 1918–2008 гадоў, Крупскі рэгіён, Малое Палессе, Друцка-Бярэзінскі край", эл. варыянт, Крупкі 2010.

[2] Владимир Крупинский (Михаил Чентел. Вайнер) (р.1925, м.Барановка Житомирской губ.), еврей. Окончил ремесленное учи лище №7 г.Ржев. Переводчик Ржевской комендатуры. 27.07.1941г. через Ржевский ГВК призван в разведотдел штаба 31-й армии РККА. Взят в плен под Смоленском. Переводчик Ржевской комендатуры. Эвакуировал в м.Холопеничи Минской обл., там женился и остался. Брат-Владимир. Сестра – Раиса, фотограф (р.1919). Сестры – Маня и Ида, школьницы. Крыніца: Федоров Е.С. Правда о военном Ржеве. Ржев, 1995.

# Ахова здароў'я ў 1938-1941 гг.

*(На мове арыгінала)*



**Ц Ы Т А Т А** / Станіслаў АКАЛАТОВІЧ галоўны дзяржсанурач Мінскай вобласьці

*Л-ра: Газета Міністэрства аховы здароў'я Рэспублікі Беларусь "Медицинский вестник", №40 (874) ад 2 кастрычніка 2008 г. Артыкул "Санитарная граница: от Пилсудского до Жуковой".*

**"...Перед Великой Отечественной войной система здравоохранения Беларуси находилась в стадии становления. Инфекционная обстановка столичной области была не из простых. В I половине 1938 года в Крупском районе зарегистрировано 57 случаев сыпного тифа, в Борисовском — 37, Пуховичском — 34, Холопеничском — 18, Смолевичском — 16. Не в каждом населенном пункте работала баня, при обследовании больниц даже в хирургических отделениях находили вшей.**

Сохранилась докладная записка зав. облздравотделом И.В. Рожновского: «По свидетельству врачей, низкий показатель рождаемости в пограничных районах явился следствием «несоответствия наличия взрослых мужчин с наличием женского населения, способного к воспроизводству (причины — отходничество и очистка от враждебных элементов)». (Минская область граничила с Польшей. — Прим. авт.)

В 1938 г. из 3636 случаев искусственного прерывания беременности 3205 происходило на дому.

На 1 район области приходился всего 1 детский врач. Педиатр осматривал детей не чаще 1 раза в 2–3 месяца. Больного ребенка от здоровых не изолировали. На селе свирепствовали корь и другие детские болезни. Матери считали, что корью должен переболеть каждый, и чем раньше, тем легче она переносится. Зимой–весной 1939 года по Минской области прокатилась эпидемия гриппа. Резко возросла смертность. Немногочисленные




**На фота: настаўнікі й вучні школы ў в.Дакудава Крупскага р-на – 1936г.**

медучреждения не принимали противоэпидемических мер, а население вообще ничего не знало о таком заболевании."

В первую неделю войны в восточных областях республики было развернуто 20 эвакогоспиталей. Большинство лечебных учреждений эвакуировать не успели. Оккупанты были вынуждены разрешить работу лечебно-профилактических учреждений, чтобы не допустить распространения инфекционных заболеваний.

17 октября 1941 г. принято распоряжение рейхскомиссариата «Остланд» «Об учреждении Палаты здоровья» и «О новом оформлении службы здоровья». Возглавляли Палату здоровья врачи-нацисты. При рейхскомиссариате был создан окружной, а при городских (районных) управах — городские (районные) отделы здравоохранения. Штат состоял из заведующего-врача, 2 дезинфекторов, секретаря-статистика.

Практически во всех лечебных учреждениях Беларуси в годы оккупации действовали подпольные группы..."

Добра бачна, што большасьць дзетак мясцовы цырульнік пагаліў пад "нуль" – *(фота й заўвага рэдакцыі).*

# Аэрадром Дакудава




З ГІСТОРЫІ АВІАЦЫІ / Васіль ЛАПАЦІН

*...ў маладой Савецкай Расіі ён увогуле стаў яе першым асам і адзіным падчас Грамадзянскай вайны!*
*...Атрымаўшы фотаздымкі жалобнай цырымоніі пахавання двух лётчыкаў са збітага чырвонымі бамбавіка, палякі былі прыемна здзіўлены: яны не чакалі такога рыцарства ад сваіх праціўнікаў.*

**Чырвоная Армія рыхтавалася да рашаючага наступу на савецка-польскім фронце, які праходзіў па р.Бярэзіна. У тэзісах ЦК РКП(б) ад 23.05.1920 так прама і гаварылася пра “необходимость оцени**вать войну с Польшей не как частную задачу Западного фронта, а как центральную задачу

Прывязны змейкавы аэрастат рускай арміі ў гады 1-й Сусветнай вайны



всей рабоче-крестьянской России” (1).
А ў нумары “Праўды” ад 9 мая 1920 года было напісана (2):
*На Запад, рабочие и крестьяне!*
*Против буржуазии и помещиков, за международную революцию, за свободу всех народов!*
*Бойцы рабочей революции! Устремите свои взоры на Запад.*
*На Западе решаются судьбы мировой революции.*
*Через труп белой Польши лежит путь к мировому пожару.*
*На штыках понесем счастье и мир трудящемуся человечеству.*
*На Запад! К решительным битвам, к громозвучным победам!*

**ШЫРЫНКІН**
**Аляксей Дзмітрыевіч .**
**Адзін з асаў рускай авіяцыі**

## /1920/ ПЕРАДГІСТОРЫЯ. АЭРАДРОМ ПРЫЯМІНА



У 18 км ад г.Барысаў і ў 6 км ад вёскі Дакудава – каля станцыі Прыяміна – знаходзіўся палявы аэрадром Чырвонай авіяцыі. Месцазнаходжанне аэрадрома было вельмі ўдалым: побач чыгуначная станцыя і шаша Мінск-Масква – вельмі зручна дастаўляць боепрыпасы, паліва, запчасткі. Па чыгунцы дастаўляліся таксама і аэрастаты для вядзення паветранай разведкі, назірання і карэктавання артылерыйскага агню.

**/04.04.1920/** На прыфрантавую станцыю Слаўнае у складзе 10-га, 11-га, 12 і 13-га авіяатрадаў прыбыў 4-ы знішчальны авіядывізіён, якім камандаваў ШЫРЫНКІН Аляксей Дзмітры-

**Аляксей Дзмітрыевіч Шырынкін (у цэнтры)**
**сярод лётчыкаў «Славенскай Эскадрыллі», красавік 1920 года.**



евіч (рус. Ширинкин Алексей Дмитриевич,1896-1938) – адзін з асаў рускай авіяцыі.
Лётаючы на знішчальніку, ён збіў 11 самалётаў праціўніка, з якіх 6 – падчас Першай сусветнай вайны. У спісе найлепшых рускіх асаў Аляксей Шырынкін займае 14-ае (па іншых дадзеных нават 9-ае) месца. А ў маладой Савецкай Расіі ён увогуле стаў яе першым асам і адзіным падчас Грамадзянскай вайны (асам прынята лічыць лётчыка, які мае не менш за 5 паветраных перамог; у той час на рахунак лётчыка запісвалісь толькі тыя збітыя самалёты праціўніка, якія падалі ў распалажэнні сваіх (у дазеным выпадку – савецкіх) войскаў, г.зн. тыя, збіццё якіх магло быць на 100% пацверджана) (3))
Свой баявы шлях ён пачаў у 1916 годзе на Паўднёва-Заходнім фронце старшым унтарафіцэрам 1-га знішчальнага атрада. (4)
Сваю самую першую перамогу А.Шырынкін атрымаў не ў якасці пілота, а у якасці лётчыка-назіральніка, збіўшы германскі аэраплан з турэльного кулямёта. (5)
У маі 1916 года А.Шырынкін атакаваў пад Мінскам адразу 6 нямецкіх самалётаў і ўступіў з імі ў бой. У дасканаласці валодаючы вышэйшым пілатажам, ён збіў адзін самалёт, другі прымусіў да пасадкі на нашай тэрыторыі, а астатнія прымусіў уцякаць. (6)
У верасні 1917 года пара рускіх знішчальнікаў атакавала чацвёрку нямецкіх аэрапланаў. Гэты бой знамянальны тым, што ў ім плячом да пляча ваявалі падпалкоўнік А.А.Казакоў – адзін з будучых лідараў белай авіяцыі і самы рэзультатыўны ас рускай авіяцыі (15 збітых самалётаў і 17 аэрастатаў) – і старэйшы ўнтар-афіцэр А.Д.Шырынкін, у будучыні лепшы лётчык-знішчальнік Чырвонага Паветранага Флота. Шырынкін падбіў германскі самалёт, але і сам патрапіў пад агонь паветранага стралка з іншай варожай машыны. Казакоў спас Шырынкіна, прыкрыўшы вымушаную пасадку таварыша. (5)
Падчас Першай сусветнай вайны А.Шырынкін быў узнагароджаны чатырма Георгіеўскімі крыжамі (стаў поўным георгіеўскім кавалерам) і ордэнам Святога Уладзіміра з мячамі.
Паручнік А.Шырынкін адным з першых рускіх лётчыкаў перайшоў на бок Савецкай улады. У газеце "Пралетарскі сцяг" (№2, лістапад 1917 года) быў змешчаны партрэт Шырынкіна з надпісам:


Ордэн Чырвонага Сцяга (Р.С.Ф.С.Р.)

"Красваенлёт А.Шырынкін першым з савецкіх лётчыкаў падняўся ў паветра з чырвоным сцягам на борце самалёта".
Ён быў прызначаны камандзірам 7-га знішчальнага атрада, а ў 1919 годзе ўзначаліў 1-ю авіяцыйную эскадрыллю РСЧА (рус. РККА). Па загадзе Рэўваенсавета Рэспублікі эскадрыллі было прысвоена ганаровае імя яе камандзіра А.Д.Шырынкіна.
У верасні 1919 года камандзір перасоўнага знішчальнага авіязвяна А.Д.Шырынкін над Двінскам на "Ньюпары-XXIII" уступіў у бой з трыма польскімі самалётамі, сарваў бамбёжку аэрадрома і работу аэрастата назірання. За гэты бой Шырынкін загадам рэўваенсавета Рэспублікі №370 быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. (6)

**/11.04.1920/** Авіядывізіён быў аб'яднаны з 38-ым і 44-ым авіяцыйнымі разведатрадамі. На ўзбраенні авіязлучэння, якое атрымала назву "Эскадрылля Шырынкіна" (яе яшчэ называлі "Славенская (Славненская) эскад-

рылля" ці "Славенская авіягрупа"), стаялі ў асноўным самалёты маркі "Ньюпар".

Самалёт маркі "Ньюпар" меў запас палёту 100 хвілін, дасягаў хуткасці 168 км/гадз. і максімальнай вышыні ў 5500 метраў.

На працягу мая ў Слаўнае (Талачынскі р-н) прыбылі баявыя аддзяленні 8-га, 17-га, 30-га, 32-га і 42-га разведатрадаў, а таксама – 4-га знішчальнага. У выніку Слаўненская эскадрылля Шырынкіна стала найбуйным савецкім авіяцыйным злучэннем за ўсю Грамадзянскую вайну.

Цікава, што ў эскадрыллі Шырынкіна служылі адразу шэсць былых калчакаўскіх пілотаў, якія перайшлі на бок чырвоных: Баранаў, Валкавойнаў (рус. Волковойнов), Затыкін, Пацяраеў (рус. Потеряев), Снягіроў (рус. Снегирев) і Шмоцін (рус. Шмотин). (5)

Па стане на 19.05.1920 група мела 12 разведвальных і 31 знішчальны самалёт.

На групу ўскладаліся адказныя задачы па:

1) разбурэнні ўмацаваных пазіцый праціўніка;

2) дэмаралізацыі гарнізона г.Барысава;



Самалёт маркі "Ньюпар"

3) знішчэнню батарэй і чыгуначных збудаванняў і шляхоў ад Барысава да Смалявічаў і далей на Мінск;

4) барацьбе з непрыяцельскімі паветранымі сіламі і ахове аэрастата;

5) падтрымцы пяхоты пры фарсіраванні ёю Бярэзіны.

Вось як выглядалі некаторыя з атрыманых групай заданняў:

«Предлагаю к 18 часам подготовить 2 разведывательных и 2 истребительных самолета, коим вылетать для обследования железной дороги от Крупок до Борисова, Екатерининского тракта и проселочных дорог в районе 10—15 км вдоль



Дыслакацыя авіячастак Заходняга фронту, май 1920 года

железной дороги...»

«Предлагаю послать один самолет по маршруту: Славное, Борисов, Б.Стахов, Кричин. Цель полета: фотографирование замеченных и вновь обнаруженных батарей, окопов и переправ...»

«Предлагаю завтра утром выслать на бомбометание 4 разведывательных и 4 истребительных самолета в целях подавления неприятельской авиации, находящейся в Жодино».

«Предлагаю выслать сегодня вечером один самолет на ст.Борисов. Цель полета: осветить движение на станции и в городе... Одновременно с этим произвести бомбометание по станции (по железнодорожным составам), отнюдь не разрушая железнодорожного моста...»

«Для сопровождения 2 разведывательных самолетов выслать сегодня вечером 6 истребителей. Обстрелять окопы противника вдоль берега Березины...»

«Ввиду наступления на Борисов одной из наших бригад приказываю выслать в 20 час. 30 мин. сегодня 5 разведчиков с бомбами и 6 истребителей с бомбами и пулеметами для бомбометания и обстрела окопов, батарей, а также скопления противника в Б.Ухолоды и М.Ухолоды».

«Ввиду необходимости выяснить оперативную обстановку и задачи эскадрильи на борисовском направлении вылететь на одном из самолетов в штаб 16-й армии в Могилев и сегодня же вернуться обратно. Доложить начальнику штаба армии, что при таком положении связи все задания теряют значение и работа авиации не имеет смысла...»

«...выпустить 2 самолета для охраны мостов через Березину у устья р.Уша. Выслать обычное дежурство в Приямино...» (7)

**/17.04.1920/** Чыгуначная станцыя, дзе стаяў пад разгрузкай савецкі эшалон з авіятэхнікай, падверглася нападу з паветра. Адразу чатыры польскіх самалёта-бамбавіка з вышыні 400-500 метраў скінулі некалькі бомбаў, якія падарваліся ўбаку, не прычыніўшы эшалону шкоды. Да таго часу механікі паспелі сабраць толькі два знішчальніка. Нягледзячы на колькасную перавагу праціўніка, на гэтых самалётах неадкладна ўзляцелі камандзір эскадрыллі Шырынкін і лётчык Пятроў. Камэск дагнаў аднаго з палякаў і з адлегласці 30 метраў даў трапную чаргу. Але калі ён заклаў віраж для паўторнага нападу, на знішчальніку трэснуў напалам галоўны ланжэрон левай ніжняй плоскасці. Шырынкін нейкім цудам здолеў пасадзіць апарат з напалову адарваным крылом. Палякі вырашалі выйсці з бою і накіраваліся назад на свой аэрадром у Жодзіна. Але на самалёце падпаручніка Зембинского па вяртанні налічылі нямала прабоін. (5;6)

У сваю чаргу, польскі лётчык падпаручнік Казімеж Зембінскі (польск. Kazimierz Ziembiński) і назіральнік ст.сяржант Міхал Дзяржгоўскі (польск. Michał Dzierzgowski) заявілі аб збіцці самалёта Шырынкіна ў гэтым баявым сутыкненні. (8)

Пасля паразы ў першым баі непрыяцель больш не падыходзіў да аэрадрома, лётаючы а ад сваіх пазіцый не далей, чым на 12-15 км. Перахапляць яго самалёты з аэрадрома Слаўнае стала немагчыма, таму ў 3-5 кіламетрах ад перадавых частак Чырвонай Арміі абсталявалі пляцоўку-прыскоку, на якую ўпотай пераляталі дзяжурныя знішчальнікі (6).

Таму, нягледзячы на тое, што асноўным месцам базавання групы з'яўлялася Слаўнае, «большинство боевых вылетов эта эскадрилья совершила не из Славного, а с полевого аэродрома у села Приямино», каб быць бліжэй да перадавой і мець магчымасць перахопліваць самалёты праціўніка. (5)

Па стане на 12.06.1920 на аэрадроме Пры-

яміна знаходзіўся таксама і 25-ы паветраплавальны атрад чырвонай авіяцыі, які абслугоўваў прывязны аэрастат. (7) У Чырвонай Арміі яны ўжываліся з нерухомых і рухомых (бронецягнікі) стартавых усталёвак (13)

**/20.04.1920/** Над пазіцыямі савецкіх войскаў з'явіліся тры варожых аэрапланы. Шырынкін, Кузін і Пятроў, якія дзяжурылі у той час у засадзе, узляцелі на перахоп. Так паўстаў новы спосаб баявых дзеянняў знішчальнікаў – дзеянні з засад. У выніку тактычнай раптоўнасці праціўнік пасля імклівых нападаў чырвоных пілотаў недалічыўся двух самалётаў (адзін лётчык быў узяты ў палон). (6)

**/01.05.1920/** Да польскай 14-й разведвальнай эскадры, якая размяшчалася ў раёне станцыі Жодзіна і мела ўсяго 8 самалётаў, далучылася 19-я знішчальная эскадра.
Шырынкін з трыма іншымі пілотамі сваёй эскадрыллі – Буравым, Кузіным і Собалевым – атакаваў двухмесны польскі самалёт-разведчык. Той спрабаваў сысці ў піке, крута зніжаючыся з 1100 да 50 метраў, але знішчальнікі чэпка трымаліся ў яго на хвасце і вялі агонь з блізкай дыстанцыі. Пазней камандзір эскадрыллі напісаў у справаздачы, што кожны выпусціў па некалькі чэргаў з адлегласці 15-20 метраў. Пры гэтым, па словах савецкіх пілотаў, летчык-назіральнік варожай машыны быў, відавочна, забіты ці цяжка паранены, бо яго кулямёт стаяў нерухома, а ў праёме кабіны нікога не было відаць. Урэшце польскі аэраплан усё ж перацягнуў праз лінію фронта, але тут верхняе крыло ў яго "склалася", адарваўшыся ад перабітых стоек, і апарат паваліўся плазам на ўзаранае поле. Так выглядала развязка бою ў аповядах чырвонаармейцаў і мясцовых жыхароў. Усе яны былі ўпэўнены, што варожы самалёт збіты. Лётчык А.Шырынкін заявіў аб збіцці польскага самалёта. За гэты поспех лётчыкі Бураў, Кузін і Собалеў атрымалі па ордэну Чырвонага сцяга, а Шырынкіну, у якога ордэн ужо быў, галаўкам Троцкі асабіста ўручыў 50000 рублёў і ганаровую зброю! (5)

**АЭРАДРОМ ДАКУДАВА**

Насамрэч палякі – лётчык, сяржант Чэслаў Лагода (польск. Czesław Łagoda) і падхарунжы Гелда (польск. Giełda) здолелі дабрацца да свайго аэрадрома ў Жодзіна. У самалёце было налічана 30 дзірак ад стрэлаў, і ён быў накіраваны на рамонт. (8)
У той жа дзень здарыўся іншы, вельмі непрыемны для чырвоных авіятараў эпізод: чатыры "Ньюпары" выляцелі для раскідання ўлётак над горадам Барысаў, а вярнуліся тры – пілот Абакановіч згінуў без весткі. Пазней высвятлілася, што Абакановіч, паляк па нацыянальнасці, пераляцеў да сваіх. Дарэчы, гэта быў адзіны выпадак ў чырвонай авіяцыі за ўвесь 1920 год. (5)
Пазней савецкія лётчыкі скінулі над польскім аэрадромам ліст, у якім было напісана (пераклад з польскай – аўт.): "Польскай экадрыллі. Калегі лётчыкі! …Памятайце, што непрыяцельскіх лётчыкаў у нас не расстрэльваюць і Савецкая Рэспубліка гарантуе Вам жыццё, а лаяльным і месца сярод нас. Хто з Вас пяройдзе да нас, будзе ў полнай бяспецы… Паведаміце аб лёсе лётчыка П.П.Абакановіча, які лётаў 1-га мая. Начальнік групы, кавалер ордена Чырвонага Сцяга, чырвоны пілот Шырынкін, Ваенны камісар Кузняцоў" (9)

**/03.05.1920/** Чырвоная Армія рыхтавалася да наступу: "17 дивизию не позднее 13 мая сосредоточьте в районе г.Борисова. К тому же сроку должны быть закончены все подготови-

тельные меры по форсированию р.Березины в минском направлении, каковое и является главным для 16 армии… Прибывающую 21 дивизию также направляю на Борисов." (дырэктыва камандуючага Заходнім фронтам М.Тухачэўскага камандаванню 16 арміі аб падрыхтоўцы да асноўнай аперацыі фронта, г.Смаленск) (1)

**/06.05.1920/** М.Тухачэўскі даў загад 16-й арміі аб спыненні Мозырскай аперацыі: "Приказываю на участке к югу от р.Березины ограничиться оставлением необходимого заслона, а главные силы армии ко времени операции подтянуть на борисовское направление". (1)

**/07.05.1920/** савецкі самалёт "Брэге-14", нядаўна захоплены ў палякаў, пад аховай ажно чатырох знішчальнікаў скінуў 160кг бомбаў і ўлёткі на станцыю Барысаў. Такі самавіты знішчальны эскорт суправаджаў яго не выпадкова: лётчыкам-назіральнікам на гэтай машыне быў сам А.Сяргееў, галоўнакамандуючы ўсімі савецкімі паветранымі сіламі. (5)

**/08.05.1920/** Чырвоныя лётчыкі скінулі над аэрадромам Жодзіна ліст, за подпісамі камандзіра эскадрыллі А.Шырынкіна і ваеннага камісара А.Кузняцова, у якім гаварылася: "Польская група англа-французскіх паслугачоў адхіліла нашы мірныя прапановы, кінула нам выклік. Мы, чырвоныя лётчыкі, адважна прымаем выклік і гатовыя парыраваць усякі ўдар". (6)

Таксама ў гэты дзень М.Тухачэўскі даў наступны загад 16-й арміі аб падрыхтоўцы наступу на барысаўскім накірунку: "Сосредоточение частей 8 и 17 дивизий, предназначенных для удара на борисовском и игуменском направлениях, должно быть закончено к 16 мая, с тем чтобы не позже утра 17 мая можно было начать наступление". (1)

**/10.05.1920/** У размове па прамым провадзе з галаўкамам Каменевым камандуючы Заходнім фронтам М.Тухачэўскі адзначыў: "Вообще, если считать не бойцами, а штыками, то у противника 65 тысяч, а у нас тысяч на десять меньше, кроме того, много плохих пополнений. Ввиду этого для создания сильного удара приходится несколько рисковать на других участках, иначе трудно надеяться на успех. Необходимо ускорить прибытие 21 дивизии, о которой ни слуху, ни духу, никак не можем узнать, где она и что делает. Если мы усилим ею борисовское направление, то я лично буду мало беспокоиться за Гомель, но пока что наша слабость у Борисова мне гораздо неприятнее".

У той жа размове М.Тухачэўскі праінфармаваў галаўкама: "Противник тремя полками вел наступление на фронте с. Янчин (18 верст северо-восточнее Борисова) — Приямино — Вилятичи, что 25 верст юго-восточнее Борисова". (1)

Але дзяжурства чырвоных знішчальнікаў настойліва працягвалася з раніцы і да позняга вечара, нягледзячы нават на тое, што станцыя Прыяміна некалькі разоў пераходзіла з рук у рукі і падвяргалася артылерыйскаму абстрэлу праціўніка. (7)

Што жа тычыцца польскага наступу, то ён не быў працяглым і не меў поспеху, як гэта адзначаў начальнік штабу Заходняга фронту Шварц у сваім дакладзе ў рэўваенсавет 16.05.1920: «На фронте 8 дивизии противник за последнее время пассивен, так как начатое было им 10 мая наступление на борисовском направлении прекращено и противник ограничивается стычками с нашими частями

сторожевого охранения, носящими разведывательный характер» (1)

**/12.05.1920/** М.Тухачэўскі накіроўвае ў арміі фронту дырэктыву аб пачатку наступу: “На борисовском направлении противник потеснил несколько наши части… Армиям фронта приказываю перейти в решительное наступление, разбить и отбросить польскую армию .., для чего: …. 16-й армии, отбросив противника, форсировать главными силами р.Березину в районе Борисов-Березино не позже 17 мая для дальнейшего наступления на минском направлении.” (1)

**/14.05.1920/** Раніцай тры савецкія самалёты, якія пілатавалі лётчыкі Граб, Мікалай Пятроў і былы калчакавец Шмоцін, вылецелі бамбаваць варожы аэрадром у мястэчку Жодзіна.
На перахоп узляцеў “Спад” падпаручніка Стэфана Паўлікоўскага (польск. Stefan Pawlikowski). Завязаўся паветраны бой, у якім больш вопытнаму паляку адразу атрымалася зайсці ў хвост самалёту Пятрова.
Пятроў кідаў машыну з боку ў бок, закладваў стромкія віражы, рабіў нават мёртвыя завесы (рус. петли), але вораг трымаўся ззаду, паўтараючы ўсе яго манеўры. Вакол красназзорнага знішчальніка раз-пораз мільгалі дымлівыя “вяроўкі” трасавальных куль. Але Паўлікоўскі, хоць і быў класным пілотам, апынуўся пры гэтым няважным стралком. Усе “трасы” праходзілі міма. Урэшце адна з чэрг усё ж закранула машыну. Пятроў, адчуваючы, што наступная порцыя свінцу можа стаць для яго апошняй, рэзка кінуў знішчальнік у піке. Ён выраўнаваў самалёт толькі на вышыні ледзь больш дваццаці метраў. Ад перагрузкі ў самалёце Пятрова сарвала выхлапную трубу. Азірнуўшыся, савецкі лётчык убачыў, што паляк усё яшчэ маячыць ззаду, рыхтуючыся зноў адкрыць агонь. Пятроў вільнуў у бок і стаў віхляць уздоўж вуліц Барысава на ўзроўні дахаў двухпавярховых дамоў. Вылецеўшы з горада, ён заўважыў, што ў некалькіх метрах пад ім бліснула рака Бярэзіна.

**АЭРАДРОМ ДАКУДАВА**

Лётчык знізіўся яшчэ больш і панёсся над самай вадой, спадзяючыся, што вораг, нарэшце, адстане. Але калі Пятроў ізноў абярнуўся, ён з жахам убачыў, што паляк па-ранейшаму “вісіць” у яго на хвасце. Некалькі хвілін працягвалася гэта шалёная гонка на вышыні паўтара метры. Пятроў вёў машыну з максімальнай хуткасцю, ледзь не кранаючы коламі ваду і секучы шрубай чароты. Наймалы няверны рух азначаў імгненную пагібель. Паўлікоўскі спакойна ляцеў ззаду, не набліжаючыся і не адстаючы, але чамусьці не страляў. Магчыма, у яго адмовіў кулямёт ці проста скончыліся патроны. Затым польскі лётчык дадаў газ, лёгка дагнаў Пятрова і, памахаўшы яму рукой, адвярнуў у бок...
Па вяртанні ў пятроўскім самалёце налічылі дзевяць прабоін.
У другой палове таго ж дня з польскага аэрадрома ў г.Жодзіна падняўся бамбавік “Хальберштадт” CL-II і пад аховай двух знішчальнікаў “Спад” узяў курс на пазіцыі савецкай авіягрупы ў Прыяміна. Насустрач палякам выляцела дзяжурнае звяно знішчальнікаў у складзе Шырынкіна (камандзіра авіягрупы), Кузіна і Аляксандра Пятрова. Кузін з Пятровым звязалі боем знішчальнікі суправаджэння, а Шырынкін атакаваў бамбавік. Польскі пілот, сяржант Уладзіслаў Бартковяк (польск. Władysław Bartkowiak), быў забіты. Запальныя кулі прашылі кабіну пілота бамбавіка і паліўны бак, бензін успыхнуў, машына загарэлася. У экіпажа не было парашутаў, але

лётчык-назіральнік падхарунжы Юзэф Кліч (польск. Józef Klicze), ратуючыся ад агню, выкінуўся з самалёта і загінуў. Агорнуты полымем польскі самалёт перавярнуўся ў паветры коламі ўгару (цела пілота пры гэтым вылянцела з кабіны), даляцеў да ўскрайку леса і ўпаў на зямлю.

А тым часам Пятроў і Кузін біліся са "Спадамі". Цікава, што праціўнікам Аляксандра Пятрова апынуўся той самы падпаручнік Паўлікоўскі, які ўсяго пару гадзін таму рызыкоўна ганяўся за яго цёзкай над Бярэзінай. Але тут падпаручніка нібы падмянілі. Узрушаны жудаснай карцінай згубы "Хальберштадта", ён выйшаў з бою і на поўным газу памчаўся за лінію фронта. А ўслед за ім падаўся і другі польскі лётчык.

Праз паўгадзіну на месца гібелі польскага экіпажа прыбылі чырвоныя авіятары. Яны адшукалі целы загінулых польскіх лётчыкаў, з якіх мясцовыя жыхары ўжо паспелі зняць абутак.

Увечары таго ж дня на аэрадром Прыяміна даставілі тэрміновую тэлеграму: "Приветствую славного героя Ширинкина, предлагаю выдать ему 15000 рублей, золотые часы высылаю. Мужественных летчиков Петрова Александра, Петрова Николая и Кузина наградить золотыми часами. Предреввоенсовета Троцкий". (5)

Вось як гэты баявы эпізод апісаны ў Журнале баявых палётаў лётнага дывізіёна:

"14 мая 1920 г. Ширинкин. "Ньюпор-24" №4283

Задание: преследование 2 самолетов противника, напавших на дежурный аэростат 25 воздухоотряда.

Приямино. Высота 1900 м.

Результаты: 1 самолет противника, обладая большей скоростью, ушел в свое расположение. 1 самолет противника сбит и упал в нашем расположении. Летчик и наблюдатель погибли.

Комдив ШИРИНКИН в районе Приямино атаковал польский самолет и после выпущения 3 очередей пулеметного огня самолет противника загорелся в воздухе. Наблюдатель выскочил из горящего самолета на высоте 1100 метров и весь объятый пламенем упал у дер.Лошница. Самолет и летчик упали в версте от наблюдателя. Сгоревшие трупы летчика и наблюдателя были привезены в Славное. За этот подвиг тов. ШИРИНКИН награжден 15000 рублей и памятными золотыми часами". (10 )

**/15.05.1920/** Адбылася самая запамінальная падзея, звязаная з імем Аляксея Шырынкіна: польскіх авіятараў Ё.Кліча і В.Бартковяка пахавалі годна – з аркестрам і вайсковымі ўшанаваннямі. Фотаздымкі жалобнай цырымоніі ў пачатку чэрвеня камандзір авіягрупы А.Шырынкін скінуў над польскім аэрадромам. Атрымаўшы гэта пасланне, польскія лётчыкі былі прыемна здзіўлены: яны не чакалі такога рыцарства ад сваіх праціўнікаў. (5)

Аднак ў розных крыніцах прыводзіцца розная інфармацыя аб месцы пахавання польскіх лётчыкаў.

У польскай кнізе аб стратах Польшчы падчас вайны з Савецкай Расіяй ("Lista strat Wojska Polskiego. Polegli i zmarli w wojnach 1918-1920") месцам пагібелі Ё.Кліча і В.Бартковяка названы Крупкі. Але месца пагібелі – гэта не абавязкова месца пахавання.

У прыведзеным вышэй дакуменце месцам пахавання названа станцыя Слаўнае. Як месца пахавання польскіх лётчыкаў Слаўнае названа і ў лісце, скінутым не раней за 6 чэрвеня над аэрадромам Сляпянка пад Мінскам, куды да таго часу перабазавалася польская авіяцыя (пераклад з польскай – аўт.): "19-й знішчальнай эскадрыллі. Горад Мінск. Перадаём гэту фатаграфію вашых лётчыкаў,

збітых 14 мая бягучага года ў раёне станцыі Прыяміна. Пахаваны яны былі з вайсковымі ўшанаваннямі ў наваколлі станцыі Слаўнае. Начальнік паветранай эскадрыллі – Чырвоны Ваенны Лётчык – Шырынкін” (9)
У некаторых іншых крыніцах (напрыклад, http://al-komnin.livejournal.com/240540.html) месцам пахавання названы могілкі вёсак Прыяміна або Баяры, якія знаходзілася побач са станцыей Прыяміна і аэрадромам, дзе найбольш лагічна было б пахаваць варожых лётчыкаў – каля месца іх пагібелі. Аляксандр Разэнблюм (г.Барысаў) сцвярджае: “Вражеские летчики были погребены в Приямино (а не в Славном, которое упоминалось в Журнале боевых полетов)” (10)
Нажаль, ні ў Прыяміне, ні ў Баярах не атрымалася знайсці нікога са старажылаў, хто змог бы падцвердзіць, або аспрэчыць факт пахавання на мясцовых могілках польскіх лётчыкаў. Ды і на саміх могілках шмат закінутых пахаванняў, па якіх прозвішчы пахаваных вызначыць немагчыма…

**/17(або 18).05.1920/** Польскі пілот падпаручнік Стэфан Паўлікоўскі шэсць разоў абстрэльваў аэрастат 25-го паветраплавальнага атрада, падняты для карэктыроўкі артагню непадалёк ад Прыяміна. Пасля шостага заходу вадарод у абалонцы ўспыхнуў.
У гандоле аэрастата знаходзіліся паветраплавальнік Арвід Банкер і артылерыст-назіральнік Гаўрылаў. Для Гаўрылава гэта быў першы палёт у жыцці. Калі балон загарэўся і стаў валіцца, Банкер зашпіліў на сваім разгубленым напарніку шлейкі парашута і літаральна сілай выпіхнуў яго з гандолы аэрастата. Парашут расчыніўся аўтаматычна, і Гаўрылаў паспяхова спусціўся на зямлю. Банкер выскачыў следам, але вышыні для расчынення купала ўжо не хапіла. Самаадданы паветраплавальнік загінуў.
Наступнай раніцай над Прыяміна падняўся ў паветра рэзервовы балон.

**АЭРАДРОМ ДАКУДАВА**

**/19(або 20).05.1920/** Яго расстраляў запальнымі кулямі той жа Паўлікоўскі.
Пасля знішчэння другога аэрастата 25-й паветраплавальны атрад спыніў сваю дзейнасць, бо запасных абалонак больш не было.
У канцы мая яго змяніў на фронце 26-й атрад. Калі ён прыступіў да работы, чырвоныя, навучаныя горкім досведам, сталі паднімаць для абароны аэрастатаў знішчальнікі.

**/19.05.1920/** У 5 гадзін раніцы 16-я армія чырвоных пачала наступленне на палякаў на ўчастку фронта Барысаў-Беразіно.
У гэты дзень самалёты эскадрыллі Шырынкіна здзейснілі больш за 40 баявых вылетаў. Тры самалёты вярнуліся з-за непаладак з рухавікамі, лётчык Рожын па невядомай прычыне разбіўся на ўзлёце, але астатнія паспяхова выканалі заданне, скінуўшы на праціўніка 107 бомбаў розных калібраў. Бамбаванню падвергся барысаўскі чыгуначны вузел, аэрадром у Жодзіна і польскія артбатарэі.

**/29.05.1920/** Зноў сышліся ў паветраным двубоі чырвоны лётчык Аляксандр Пятроў і польскі пілот Стэфан Паўлікоўскі. Пятроў здолеў намёртва “ўчапіцца ў хвост” непрыяцелю і ўвагнаць у яго кулямётную чаргу. На варожым “Спадзе” быў прабіты радыятар, і паляку толькі за кошт хуткасці атрымалася адарвацца ад праследу. Неўзабаве вада з сістэмы ахаладжання выцякла, рухавік даў кліну, і Паўлікоўскі, ледзь перацягнуўшы праз лінію фронта, здзейсніў змушаную пасадку. (5)
Да гэтага ж дня часткі Чырвонай Арміі у выні-

ку контрнаступу польскіх войскаў вымушаны былі зноў адыйсці назад за раку Бярэзіну, але неадкладна сталі рыхтавацца да новага удару. Усяго ў маі Слаўненская эскадрылля здзейсніла 311 баявых вылетаў, скінуўшы на праціўніка 234 авіябомбы і больш за 100кг агітацыйнай літаратуры. За гэты ж час лётчыкамі эскадрыллі збіта ў паветраных баях два і сур'ёзна пашкоджана не менш за тры варожых самалёты. Уласных баявых страт не было. Па розных прычынах (галоўным чынам, з-за адмовы тэхнікі) адбылося 12 аварый і адна катастрофа. Да канца месяца ў эскадрыллі лічылася 18 баяздольных знішчальнікаў і 7 разведвальных самалётаў.

У чэрвені інтэнсіўнасць баявой работы авіяцыі зменшылася. За месяц эскадрылля Шырынкіна здзейсніла толькі 91 баявы вылет. Паветраныя баі фактычна спыніліся. Адзначана толькі некалькі ўзаемных нападаў на аэрастаты, у адным з якіх палякі збілі чарговы, ужо трэці балон. (5)

**/02.06.1920/** М.Тухачэўскі выдаў загад аб спыненні адступлення і пераходзе да новага наступу: "Командарму 16 главными силами армии форсировать р.Березину севернее г.Борисова с рассветом 3 июня для стремительного удара в направлении Жодино – Смолевичи". (1)

**/03.06.1920/** чырвоныя захапілі даволі рэдкі знішчальнік "Фокер" D-VIII. Малады польскі лётчык Ясінскі, які толькі што скончыў авіяцыйную вучэльню, выляцеў на ім на баявое заданне, але неўзабаве страціў арыентоўку і прызямліўся на савецкай тэрыторыі. Цікавы трафей дастаўся Слаўненской авіягрупе, але, наколькі вядома, у баях яго не выкарыстоўвалі.

Вось як аб гэтым здарэнні гаварылася ў вышэйзгаданым лісце Шырынкіна, які быў скінуты над аэрадромам Сляпянка (разам з фотаздымкамі цырымоніі пахавання польскіх лётчыкаў, якія загінулі 14 мая) (пераклад з польскай – аўт.): "3-га чэрвеня бягучага года ў наваколлях Барысава сеў ваш лётчык Ясінскі – прычына – страта арыентацыі. Калі ён зніжаўся, каб даведацца чые войскі тут знаходзяцца, г.зн. польскія ці савецкія, самалёт быў пашкоджаны нашым агнём з зямлі, з прычыны чаго ён вымушаны быў прызямліцца, і пры пасадцы скапатаваў (рус. скапотировал, перевернулся). Ясінскі гасцяваў у эскадрыллі два дні, потым быў адасланы ў вышэйшую інстанцыю. Начальнік паветранай эскадрыллі – Чырвоны Ваенны Лётчык – Шырынкін" (9)

**/04.06.1920/** 16-я армія дзвюма дывізіямі перайшла ў чарговы наступ на ўчастку вусце р.Гайна - г.Барысаў. Але ён зноў не меў поспеху.

**/02.07.1920/** камандаванне Заходняга фронту рыхтуе чарговы наступ на праціўніка і выдае дырэктыву, у якой 16-й арміі загадваецца "форсировав р.Березину в ночь с 5-го на 6 июля, развивать стремительное наступление на Смолевичи-Минск" (1)

**/07.07.1920/** 16-я армія пачала наступ на палякаў.

З размовы Тухачэўскага з галаўкамам па прамым провадзе: "От 16 армии ожидаю большого успеха, Соллогуб имеет большее превосходство в силах. В пункте главного удара он будет иметь не менее 22 тысяч чистых штыков, тогда как поляки в первый день удара в этом районе имеют около 3 тысяч штыков, а в общем могут подтянуть не более 8-9 тысяч". (1)




**Ліпеньскі наступ Чырвонай Арміі**

У выніку ўдару Чырвонай Арміі фронт імкліва пакаціўся на захад.

**/08.07.1920/** усе чырвоныя эскадрыллі перакінулі свае перадавыя адзінкі праз Бярэзіну ўслед за наступаючымі войскамі. Але базы забеспячэння засталіся за ракой, масты праз якую былі падарваны. Запраўляць самалёты стала няма чым, а фронт тым часам рушыў ўсё далей на захад.

**/11.07.1920/** Чырвоная армія ўвайшла ў Мінск.

**/14.07.1920/** Польская армія пакінула Вільню. Падчас гэтага зыходу шматлікія польскія авіячасткі былі фактычна знішчаны. Палякі ламалі, палілі, кідалі на аэрадромах і чыгуначных платформах свае самалёты пры адных толькі чутках пра набліжэнне “чырвонай чумы”. Досыць сказаць, што ў чатырох эскадрах (1-й, 8-й, 11-й і 18-й) да канца ліпеня застаўся ўсяго АДЗІН аэраплан! Тое, што яшчэ можна было выратаваць, тэрмінова адцягвалася да Варшавы. Там, уздоўж Віслы, з шалёнай хуткасцю ўзводзілася апошняя мяжа абароны.

Кіраўніцтва Заходняга фронта, відавочна, вырашыла, што польскай авіяцыі больш няма, і таму ўжо ў ліпені найболей баяздольныя знішчальныя авіяатрады, у тым ліку і эскадрылля Шырынкіна, былі адпраўлены на Паўднёвы фронт супраць Урангеля.

**/15.08.1920/** Чырвоная Армія знаходзілася ўжо пад Варшавай.

**/16.08.1920/** Галоўнакамандуючы польскага войска генерал Пілсудскі нанёс раптоўны флангавы ўдар. Гэта стала для чырвоных абсалютнай нечаканасцю. Грэбаванне паветранай разведкай прывяло да таго, што палякі здолелі таемна стварыць 50-тысячную ўдарную групоўку з танкамі, авіяцыяй і бронецягнікамі. За нейкіх тры дні войска Тухачэўскага было разбіта і прыціснута да прускай мяжы. Дзясяткі тысяч салдатаў патрапілі ў палон. Толькі пераход на тэрыторыю Германіі выратаваў рэшткі ўдарнай групоўкі чырвоных ад поўнай пагібелі.

Контрудар актыўна падтрымалі самалёты дванаццаці польскіх авіаэскадр, якія налічвалі ў сваім складзе больш за 70 самалётаў. Незадоўга да таго палякі атрымалі новыя англійскія двухмесныя знішчальнікі-бамбавікі “Брыстоль-Файтэр”, большасць з якіх паспелі прыняць удзел у Варшаўскай бітве, астатнія 65 самалётаў паступілі ў канцы жніўня-верасні. З Францыі пачалі прыбываць знішчальнікі “Спад-13” з двума сінхроннымі кулямётамі.

Усяму гэтаму чырвоныя маглі супрацьпаставіць толькі тры зношаных “Ньюпары”, пакінутых ад 4-га знішчальнага дывізіёна.

Польскія лётчыкі, дзейнічаючы з пастаянных, добра абсталяваных аэрадромаў, бесперапынна бамбавалі чырвонаармейскія пазіцыі на падступах да Варшавы. А калі савецкія войскі пачалі адыход, польская авіяцыя пераключылася на штурм абозаў і вайсковых калон, уносячы паніку і дэзарганізацыю ў шэрагі адыходзячых частак Чырвонай арміі. (5)

**/15.10.1920/** Чырвоная армія пакінула Мінск, але праз дзень – 17.10.1920 – палякі зноў былі выбіты з гораду. Фронт стабілізаваўся. Была дасягнута дамова аб спыненні баявых дзеянняў.

**/18.10.1920/** Галаўкам выдаў Заходнему фронту дырэктыву канчаткова спыніць усякія ваенныя дзеянні з 24 гадзін 18 кастрычніка. У гэтым жа дакуменце, у прыватнасці, адзначалася: “В армрезерв вывести одну дивизию, сосредоточив ее в районе Крупки — Круча — Толочин. Сосредоточение закончить не позже 25 октября”. (1)

За паспяховыя баі на Заходнім (савецка-польскім) фронце камандзір эскадрыллі А.Д.Шырынкін атрымаў свой другі ордэн Чырвонага Сцяга (загад рэўваенсавета №46 ад 10.02.1921) і стаў 18-й асобай у Савецкай рэспубліцы, двойчы ўзнагароджанай ордэнам Чырвонага Сцяга. (11)



Але далейшы лёс славутага лётчыка аказаўся падобным на лёс многіх іншых герояў Чырвонай арміі.

Пасля Грамадзянскай вайны ён камандаваў 4-м авіяцыйным дывізіёнам, які складаўся з 8 знішчальных атрадаў, некаторы час – 7-й авіяцыйнай эскадрылляй ВПС Маскоўскай акругі. Затым па заданні Наркамата абароны СССР стварыў на Ўкраіне 2-ю паветраную эскадру і быў яе камандуючым.

У 1930-1931 гадах Шырынкін быў на ваеннадыпламатычнай рабоце. У 1932 годзе яму як найдасведчанаму лётчыку-знішчальніку даручылі выпрабоўваць новыя тыпы самалётаў.


СПИСОК

лиц, подлежащих суду Военной Коллегии Верховного Суда Союза ССР.

от "3" января 1938 года

Тытульны ліст растрэльнага спісу з подпісамі Сталіна, Варашылава, Молатава, Кагановіча

А далей, – лётчык-выпрабавальнік стаў персанальным пенсіянерам РСЧА.

Наступіў сумнавядомы 1937 год…

Да гэтага часу А.Шырынкін ўжо не з'яўляўся членам ВКП(б). Калі лётчык уступіў у шэрагі бальшавікоў і па якой прычыне ён іх пакінуў, высветліць пакуль не атрымалася.

**14.12.1937** Аляксей Шырынкін быў арыштаваны, абвінавачаны ў шпіянажы і падрыхтоўцы тэракту на тэрыторыі краіны і на наступны дзень пасля вынясення "прысуду" – 08.02.1938 – расстраляны... Пакаранне смерцю было падпісана ўласнаручнымі подпісамі Сталіна, Варашылава, Молатава, Кагановіча. (12)

Рэабілітаваны Аляксей Шырынкін быў 17.01.1963.

Імем Аляксея Шырынкіна названы вуліца і школа ў яго родным горадзе Нытва Пермскага краю. (10)

Што тычыцца аэрадрома Прыяміна, то ён так і застаўся на доўгі час толькі пасадачнай пляцоўкай, якая да пачатку Другой Сусветнай вайны выкарыстоўвалася эпізадычна.

КРЫНІЦЫ ІНФАРМАЦЫІ:

1. Директивы командования фронтов красной армии (1917-1922 гг.). Сборник документов в 4 томах. Том III (апрель 1920 г. — 1922 г.) /http://militera.lib.ru/docs/da/dir1/index.html;
2. Советско-польская война /http://ru.wikipedia.org/wiki;
3. Асы Российской Империи /http://www.wio.ru/ww1a/ace1rus.htm;
4. Красные соколы. Лучшие Асы России, 1914 - 1953 гг. /www.airaces.narod.ru/ww1/shirink.htm;
5. Марат Хайрулин, Вячеслав Кондратьев – «Военлеты погибшей империи. Авиация в Гражданской войне (Имперский стяг)» /www.e-reading.org.ua;
6. Ю.Кисляков и В.Бабич "История воздушного боя" /www.airaces.narod.ru/ww1/shirink1.htm;
7. П.Ф.Березин – "Красная авиация в борьбе с белополяками" /http://militera.lib.ru/h/berezin_pf$

8. форум: Wojna polsko-bolszewicka 1919-1920. Działania lotnicze /http://www.dws.org.pl/viewtopic.php?f=86&t=119669
9. форум гістарычнага таварыства "Год 1920" (Польшча) /http://www.1920.fora.pl/historia-fotografie-dokumenty,12/por-pil-j-jasinski-dezerterem,432.html
10. Сайт Александра Розенблюма (г.Борисов) /rpp.nm.ru/shirink/shirink.html;
11. Кавалеры ордена Красного Знамени РСФСР / http://handbook.rkka.ru/personal/okz.htm;
12. Сталинские расстрельные списки /http://stalin.memo.ru/spiski/pg06355p.htm;/http://stalin.memo.ru/spiski/pg06362.htm;
13. сайт «Парим в небе» /http://parim-v-nebe.ru/aerostat.html

## 1939/ БУДАЎНІЦТВА АЭРАДРОМА ДАКУДАВА

**…каля аэрадрома, у метрах 700-800 ад магістралі, быў часовы лагер для зняволенных, які быў абнесены калючым дротам і меў чатыры вышкі па вуглах.**
**Былі трактары з прычэпамі. У іх саджаліся зняволеныя (без аховы), ехалі за каменнем. Ніхто не рабіў спробы уцячы...**

**/03.1934/** Урадам СССР было прынятае рашэнне аб будаўніцтве шашы Мінск-Масква.
У 1934-1935 гадах праводзіліся пошукі і праектаванне будучай аўтамагістралі. Паралельна магістралі планавалася будаўніцтва трактарнага шляху. Для прагону на пашу скаціны прылеглых саўгасаў і калгасаў прадугледжвалася стварэнне праз кожныя 5 кіламетраў адмысловых "скотопрогонов". (14)

**/28.10.1935/** Пастановай ЦВК і СНК СССР Цэнтральная управа шасэйных і грунтавых дарог і аўтамабільнага транспарту (ЦУДАРТРАНС) была перададзена у НКУС СССР (рус. НКВД СССР).
Выкарыстанне зняволеных на аўтадарожным будаўніцтве пачалося адразу пасля перадачы ЦУДАРТРАНСа да НКВД (15)

**/05.02.1936/** На НКВД пастановай урада было ўскладзена будаўніцтва аўтамагістраляў, "якія маюць велізарнае народна-гаспадарчае і абароннае значэнне": Масква-Кіеў і Масква-Мінск. У структуры НКВД для ажыццяўлення гэтага грандыёзнага будаўніцтва была створана Управа будаўніцтва дарогі, якая размяшчалася ў Вязьме (рус. "Управление строительства автомагистрали Москва-Минск НКВД СССР"). Начальнік Управы адначасова з'яўляўся і начальнікам Вяземлага – Вяземскага папраўча-працоўнага лагера (ППЛ), які быў падпарадкаваны ГУЛАГу (рус. Главное Управление ЛАГерей). (15)
У падначаленні Управы знаходзіліся 9 лагерных аддзяленняў, якія размяшчаліся ўздоўж усёй трасы, у тым ліку – у населеных пунктах Бобр, Прыяміна, Барысаў.
Нароўні са зняволенымі на будаўніцтве працавалі і вольнанаёмныя працоўныя, але іх сярод усіх занятых на будаўніцтве было мала. Будаўнікі расчышчалі трасу, карчавалі пні, узводзілі земляное палатно. Работы, ў асноўным ажыццяўляліся ўручную, паколькі дарожна-будаўнічай тэхнікі не хапала. (14)
Расказвае (май 2009) Лясун Іван Рыгоравіч, 02.06.1918г.нар., ураджэнец в.Бутэлеўшчына

Крупскага р-на, удзельнік будаўніцтва шашы: "Частку шашы Брэст–Масква пачалі будаваць у 1936 годзе. Мабілізоўвалі сялян, каб вазілі пясок. Дарогу рабілі асфальтаваную. Я працаваў у Прыяміна. Жылі ў Галубах (вёска каля Прыяміна) у калгаснай пуні".

Новая дарога не супадала са старым трактам: падлічылі, што пабудаваць новую абыдзецца танней. (14)

Расказвае (красавік 2010) Дайнека Леанід Феафілавіч, 15.10.1929г.нар, ураджэнец в.Дакудава Крупскага р-на: "Раней, я памятаю, за лесам, перад Начай, уздоўж дарогі - здаравенныя бярозы. Гэта быў "екацярынінскі шлях". Дарога простая. Пасля яна выходзіла праз рэчку Начу (там млын быў) праз мост і выходзіла на дарогу ў Крупкі дзесьці перад нафтабазай. Калі да вайны пачалі будаваць шашу, гэты кавалак выкінулі, і павялі дарогу на Кладзі, а адтуль на Крупку. Я памятаю, што тую новую дарогу брукавалі, і была каменная дарога. Перад самай вайной, прыкладна, у 39-ым, яе пачалі асфальтаваць".

1939 год стаў, па словах мясцовых старажылаў, і годам пачатку будаўніцтва аэрадрома Дакудава: на полі каля вёскі пачалося будаўніцтва паўнавартаснага аэрадрома з усёй неабходнай інфраструктурай – складамі, баракамі, рамонтнымі майстэрнямі і інш. Фактычна ўзводзіўся вайсковы (аэрадромны) гарадок, у якім былі і неабходныя аб'екты сацыяльна-культурнай сферы і сферы абслугоўвання.

Па словах старажылаў (Барабанова Марыя Прохараўна), у краме гарадка некаторы час працавала Моніч Данута Пятроўна – жыхарка в. Дакудава.

**/24.03.1941/** Пастановай СНК СССР і ЦК УКП(б) тэрміны заканчэння найбуйных будаўніцтваў дарог (Масква-Мінск, Масква-Кіеў і інш.) былі перанесены на 1942 год.

**АЭРАДРОМ ДАКУДАВА**

Працоўную сілу, якая пры гэтым вызвалялася, загадана было пераключыць на будаўніцтва аэрадромаў для ваенна-паветраных сіл Чырвонай арміі. Задача па будаўніцтве аэрадромаў была ўскладзена на НКУС СССР. (15)

Вяземлаг НКУС быў пераарыентаваны на будаўніцтва 7 аэрадромаў у Беларусі і 2 аэрадромаў у Смаленскай вобласці на тэрыторыі Заходняй адмысловай ваеннай акругі.

**/27.03.1941/** У выкананне гэтай пастановы загадам НКУС была створана Галоўная Управа Аэрадромнага Будаўніцтва (ГУАБ (рус. ГУАС)) НКУС СССР. У складзе НКУС былі створаны управы аэрадромнага будаўніцтва (УАБ (рус. УАС)). Начальнікамі УАБаў сталі начальнікі НКУС. (15)

Паколькі шматлікія сведчанні гавораць аб тым, што некаторыя аэрадромы ўжо часткова былі пабудаваны да гэтага часу, то вышэй згаданая пастанова тычылася, верагодна, як будаўніцтва новых аэрадромаў, так і завяршэння ўжо распачатага будаўніцтва.

Па стане на 27.03.1941 у адным з дакументаў прыводзяцца шыфры ваенных і грамадзянскіх аэрадромаў і пасадачных пляцовак Заходняй адмысловай ваеннай акругі, якія знаходзіліся на тэрыторыі сучаснага Крупскага раёна і выкарыстоўваліся санітарнай авіяцыяй (па стане на 27.03.1941) (16):

Дакудава (28 км на паўночны ўсход ад Барысава) – 100

Прыяміна (18 км на ўсход ад Барысава) – 101

Бобр – 1507

Баравая (30 км на ўсход ад Барысава) – 28

Ламская (60 км на ўсход ад Барысава) – 27

Сморкі (25 км на паўднёвы ўсход ад Барысава) – 102

Ухвалы (40 км на паўднёвы ўсход ад Барысава) – 1509
Дадатковая інфармацыя: па стане на 22.06.1941 ВПС Заходняй адмысловай ваеннай акругі мелі 213 аэрадромаў, з якіх 3 – са штучнымі ўзлётна-пасадачнымі палосамі. На 1941 год планавалася усяго пабудаваць 94 аэрадромы. Фактычна было пабудавана значна больш: 178 аэрадромаў, з якіх 10 мелі штучныя ўзлётна-пасадачныя палосы. (17)
Бетанаваная ўзлётна-пасадачная паласа мела памеры 1200 на 80 м. (18)
Для будаўніцтва асобнага аэрадрома стваралі управу будаўніцтва дадзенага спецаб'екту, падпарадкаваную ГУАБу.
Работу вялі сіламі зняволеных, прысуджаных да папраўча-працоўных работ (без утрымання пад вартай), будаўнічых батальёнаў, ваеннапалонных і калгаснікаў, мабілізаваных мясцовымі органамі ўлады. На 15 чэрвеня 1941г. з 254 аэрадромаў па ўсёй краіне будаўніцтва 156 абслугоўвалі зняволеныя; на работах было занята амаль 200 тысяч зняволеных з ППЛ і амаль 45 тысяч з лагерных аддзяленняў.
Пры тых управах, на якіх выкарыстоўвалі працу зняволеных, арганізоўвалі лагпункты, падпарадкаваныя тэрытарыяльным аддзяленням ППЛ НКУС. (15)

01.04.1941 САВЕТ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БССР І ЦК КП(Б)Б ПРЫНЯЛІ СУМЕСНУЮ ПАСТАНОВУ "ПРА МЕРАПРЫЕМСТВЫ ПА ЗАБЕСПЯЧЭННІ БУДАЎНІЦТВА АЭРАДРОМАЎ ДЛЯ НАРКАМАТА АБАРОНЫ Ў 1941Г." (19):

*"Строго секретно*
*В соответствии с постановлением СНК СССР и ЦК ВКП(б) от 24.III-1941г., СНК БССР и ЦК КП(б)Б постановляют:*
*1. Обязать всех секретарей обкомов, горкомов и райкомов КП(б)Б и председателей соответствующих исполкомов районов строительства аэродромов, немедленно приступить к строительству аэродромов.*
*3. Секретарям обкомов и председателям облисполкомов: ...*
*б) предоставить право ... установить платную трудовую и гужевую повинность для выполнения работ по строительству аэродромов;*
*в) сохранить за колхозниками, направляемыми на работу на строительство аэродромов, право получения за наличный расчет продуктов и других видов услуг со своих колхозов в количествах, необходимых ему для личных потребностей;..*
*6. В соответствии с решением ЦК ВКП(б) и СНК СССР от 24.III-1941г.:*
*а) разрешить НКВД БССР на время работы по аэродромному строительству в 1941г. дополнительно 4 часа работы в день для всех рабочих, служащих и ИТР, занятых на площадках строительства;..*
*в) не привлекать рабочих, служащих и ИТР, занятых на строительстве аэродромов по настоящему постановлению, к явке на лагерные учебные сборы и на допризывную подготовку.*

**Расказвае (верасень 2010) Антонава (дзявочае – Шастак) Ева Аляксееўна, 15.02.1928г.нар., ураджэнка і жыхарка в.Баяры:** ” Да вайны нейкі “трудгуж” адраблялі: на конях ездзілі. Я яшчэ малая была, дык мяне не адпраўлялі. А каторыя большыя былі, старэшыя за мяне былі, дык тыя ездзілі: на конях вазілі пясок, ці што – ну, нешта робілі там у Дакудаве, ездзілі”.

Аэрадром Дакудава будавалі асуджаныя з Вяземлага: у архівах ГКАБ захаваліся датаваныя жніўнем і кастрычнікам 1941 года восем тлумачальных запісак начальнікаў лагаддзяленняў Вяземлага пра акалічнасці страты маёмасці і матэрыяльных рэсурсаў падчас эвакуацыі гэтых аддзяленняў з будаўніцтваў дзевяці палявых аэрадромаў для ВПС РСЧА у чэрвені-ліпені (Полацк, Каменск, Улла, Быхаў, Мачуліца, Прыяміна (маецца на ўвазе дакудаўскі аэрадром), Орша) і кастрычніку (Вязьма і Медынь) 1941 г. (19)

**Расказвае (май 2009) Лясун Іван Рыгоравіч**, 02.06.1918 г.нар., ураджэнец в.Бутэлеўшчына, баец ваенізаванай аховы лагера зняволеных, што будавалі аэрадром Дакудава:



*“Я быў прызваны ў армію восенню 1938 года. Служыў у Самаркандзе па снежань 1940. З канца сакавіка 1941 года быў узяты ў ваенізаваную ахову, каб ахоўваць зняволеных (з Вяземлага), якія працавалі на будаўніцтве аэрадрома каля в.Дакудава. Па-мойму, называўся аб’ект “будаўніцтва №62” (верагодна, памылка: “будаўніцтвам №62” былі названы работы па стварэнні Брэсцкага умацаванага раёна). Вымушаны быў пайсці: ваенкамат мабілізаваў на два месяцы, калі б не пайшоў сюды – адправілі б на захад – будаваць умацаванні каля новай дзяржаўнай мяжы. А так – застаўся непадалёк ад роднай хаты.*

*Склады, гаручае былі ў Прыяміне. А каля аэрадрома, у метрах 700-800 ад магістралі, быў часовы лагер для зняволенных, які быў абнесены калючым дротам і меў чатыры вышкі па вуглах. Баракі ў лагеры пры аэрадроме былі зроблены такім чынам: убітыя ў зямлю калы былі пераплецены лазой і абмазаны глінай; дах, здаецца, быў з рубероїду; але вокны і дзверы былі сапраўдныя.*

*Большасць зняволеных была з Сярэдняй Азіі. Асуджаны былі па 58-ым артыкуле, атрымалі па 10 гадоў. Усяго зняволеных было каля 500 чалавек.*

*Ахова лагера – узвод у колькасці каля 50 чалавек на чале з камандзірам узвода. Быў яшчэ памочнік камандзіра і палітрук па прозвішчы Дзерваед (па-руску – Дервоед). Аднаго салдата, памятаю,*



*12. Обязать Наркомторг БССР организовать и расширить на площадках строительства торговлю и общественное питание ...*
*13. Обязать Уполнаркомсвязи немедленно приступить к установке прямой телефонной связи с площадками строительства аэродромов...*
*14. Предупредить директоров заводов-поставщиков, начальников дорог и пароходств, что они несут персональную ответственность за своевременную отгрузку всех материалов, оборудования, горючего, продовольствия и промтоваров на строительство аэродромов НКВД.*
*15. Обязать Наркомат промышленности местных стройматериалов расширить производство керамических труб...*

*Пономаренко, Былинский”*

*было прозвішча Шпак.*

*Мяне дадому ў Бутэлеўшчыну (7 кіламетраў ад лагера) пару разоў адпускалі, каб дапамагчы бацькам нарыхтаваць сена.*

*У будаўніцтве прымалі ўдзел і мабілізаваныя дзеля гэтага мясцовыя сяляне, але яны былі занятыя на дапаможных работах. А зняволеныя бетанавалі ўзлётныя палосы. Былі трактары з прычэпамі. У іх саджаліся зняволеныя (без аховы), ехалі за каменнем. Ніхто не рабіў спробы уцячы: у некаторых тэрмін хутка павінен быў скончыцца. На будаўнічай пляцоўцы працавалі дызельныя камнедрабнілкі: яны работалі і днём, і ноччу (святло было – як сучаснае). Грукат стаяў моцны, зямля дрыжала. Але людзі звыкнуліся з ім і спалі, не звяртаючы на яго ўвагі.*

*Калі падушка з пяску і камянёў была падрыхтаваная (ушчыльненая каткамі), рабілі на зямлі шасцівугольныя (як пчаліныя соты) формы і залівалі ў іх бетон.*

*Аэрадром быў да пачатку вайны амаль цалкам дабудаваны. Меліся дзве ўзлётна-пасадачныя паласы: адна прамая каля 800 метраў даўжынёй, другая ў выглядзе літары "Г", яна была даўжынёй каля кіламетра.*

*Каля Прыяміна (паміж чыгункай і шашой і паміж Прыяміна і Мужанкай) таксама быў аэрадром, але стары, з грунтовым пакрыццём і ўжо закінуты".*

**Расказвае Антонава Ева Аляксееўна (верасень 2010):** *"Да вайны нашых самалётаў у Прыяміне не было – поле было чыстае. Падляціць калі-небудзь які адзін самалёт, ну вот, як у калхозе што абсяваюць што-небудзь, – кукурузнік які – сядзе, пасядзіць і паляціць.*

*Складоў там не было – на аэрадроме. Нічога не было. Мы, бывала, чэраз гэты аэрадром хадзілі ў Лошніцу. Дык там нічога не было: ніякіх зданіяў – толькі плашчадка была. Ніякіх мачт як радыё...*

*Перад вайной ўкапвалі нейкія трубачкі гліняныя, каб вада не стаяла – дрэнаж рабілі".*

Расійскі даследчык Вячаслаў Сачкоў выказвае здагадку, што ў якасці будаўнікоў аэрадрома маглі выкарыстоўвацца і ваеннапалонные палякі (20): "На момент начала войны пленные размещались и работали по местам их размещения … в трех следующих группах. Самая многочисленная, до около 4 тыс., - на только что начинавшемся строительстве аэродрома в районе Глубокое – Плиса… Следующая по численности группа - на строительстве аэродромов в Приямино недалеко к востоку от Борисова и в Новом Быхове (прямо на юг от Приямино по течению реки Березина, в Могилевской обл.). Предположительно, в каждом из этих двух лагерей могло находиться в пределах до тысячі пленных". Але гэта падаецца малаверагодным: лагер для ваеннапалонных павінен быў бы мець іншую арганізацыю і іншую ахову, ды і ніякіх пацверджанняў гэтай здагадкі з боку І.Р.Лесуна або старажылаў не маецца.

**Расказвае (май 2010) Хадасевіч Анатоль Уладзіміравіч,** 1931г.нар., ураджэнец і жыхар в.Нявераўшчына (1 км ад аэрадрома Дакудава): *"Аэрадром будаваць сагналі людзей з усёй акругі: з Абчугі, з Ухвалы, бабы і настаўнікі былі, і яўрэяў шмат было; будавалі і зняволеныя, і вольныя, сястра мая, напрыклад. Яшчэ лагер быў каля в.Кладзі, налева за мостам праз Начу, калі ехаць на Крупкі, і ў Галубах (2 км ад аэрадрома Дакудава). А начальнікам будаўніцтва быў немец па нацыянальнасці - стаяў у Самцевічавай хаце (в.Дакудава). Бятоннымі плітамі-шасціграннікамі была выкладзена узлётная паласа. Яна ішла ад кар'ера да магістралі. А лагер каля лесу быў. А каткі (вайна пачалася – засталіся), імі уезджвалі глебу".*

**Расказвае (красаквік 2010) Дайнека Леанід Феафілавіч,** 15.10.1929г.нар, ураджэнец

в.Дакудава: *“У 1939 годзе ўжо быў аэрадром. Самалёты не стаялі. Гэта быў запасны грунтавы аэрадром. Перад самай вайной пачалі будаваць бятонку. Перад самай вайной сюды нагналі ўкраінцаў, грабароў – выраўноўвалі плошчу аэрадрома: тут былі нізіны. Грабар – гэта ў яго конь, калёсы, лапата. Іх ці наймалі, ці прыгналі прымусова – не ведаю. Гэту бятонку трошкі не далілі да канца – пачалася вайна. Яна васьміграннымі (памылка: у сапраўднасці - шасціграннымі) плітамі была выкладзена”.*

Уяўленне аб тым, што у сапраўднасці ўваходзіла ў паняцце “будаўніцтва аэрадрома” даюць вытрымкі з кнігі “Военные аэродромы: изыскания и проектирование” (М.: Военное издательство НКО СССР, 1944) (21):

**АЭРАДРОМ ДАКУДАВА**

*В целях сокращения протяжённости подъездных автодорог к авиагородку желательно размещать участок вблизи существующей дорожной магистрали.*

*Участки для строительства аэродромов следует выбирать вблизи существующих автогужевых магистральных дорог, ведущих в районные и промышленные центры и к железнодорожюым станциям.*

*Для обеспечения строительства искусственных покрытий в районе строительства должны иметься естественные местные строительные материалы (камень, гравий, песок, лес и т.п.)*

*Покрытия из бетонных плит на ВПП (взлётно-посадочной полосе) строятся толщиной 12 см, а на РД (рулевой дорожке) - 10 см на песчаном*

**Фрагмент карты Генеральнага штаба Чырвонай Арміі, 1934 год**





(рис. 2) Бетонная плита шестигранной формы



(рис. 1) Покрытие из бетонных плит

**Схема пакрыцця ўзлётна-пасадачная паласы**

*подстилающем слое, укладываемом на уплотнённое естественное основание (рис. 1).*

*Как привило, рекомендуется применять плиты, имеющие форму правильных шестиугольников с длиной стороны 1,15-1,20 м (рис. 2). Шестигранная форма плит имеет преимущество перед прямоугольной вследствие большей сопротивляемости её изгибающим и скалывающим усилиям от внешних нагрузок.*

*С каждого конца ВПП должны быть обеспечены полосы подходов длиною 200-250 м. В пределах этих полос подходов не должно быть вертикальных препятствий, стесняющих работу самолётов.*

*При проектировании генеральных планов могут быть приняты полностью или частично следующие зоны и группы застройки:*

| Аэродромы мирного времени (капитальные или упрощенные здания) | Аэродромы военного времени (землянки) |
|---|---|

а) зона лётного поля с полосой подходов,

б) группа аэродромных сооружений,

| | |
|---|---|
| Пост управления | Командный пункт |
| Ангары | Стоянки-укрытия для самолётов |
| Стационарные оборудованные места стоянок для самолётов | Временные упрощённые места стоянок |
| Служебные здания | Землянки |
| Базовые бензинохранилнща | - |
| Бензинохранилища расходные механизированные | Бензинохранилища упрощённые (цистерны-ёмкости) |
| Склады свинцовой жидкости | - |
| Тир для пристрелки самолётов | - |
| Метеорологическая площадка | Метеорологическая площадка (упрощённая) |
| Караульное помещение с контрольно-пропускным пунктом | Караульное помещение без контрольно-пропускного пункта |

*в) командно-строевая группа,*

| | |
|---|---|
| Штаб авиационного гарнизона | - |
| Казармы | Жилые землянки (строятся частично) |
| Кухия-столовая с расходным овощехранилищем и ледником | Пищеблоки |
| Пункт медицинской помощи | - |

| | |
|---|---|
| Пожарное депо | - |
| Здание классов | - |

*г) группа хозяйственных построек (хозяйственная группа),*

| | |
|---|---|
| Хозяйственныемастерские | - |
| Хлебопекарня | - |
| Склады продуктово-вещевого довольствия | - |
| Баня | - |
| Прачечная | - |
| Электростанция | - |
| Головные сооружения для водоснабжения | - |

**д) гаражная группа,**

| | |
|---|---|
| Безгаражные стоянки | - |
| Холодные гаражи | - |
| Тёплый гараж | - |
| Хранилища горючего | - |

*е) группа хранилищ технического имущества и оборудования,*

| | |
|---|---|
| Склады технического авиационного имущества (тёплые и холодные) | Склады-землянки для технического имущества |
| Склады бензомаслотары | - |
| Склады москатели | - |
| Склады сжатых газов | - |
| Навес для цементных бомб | - |
| Площадка для самолётных ящиков | - |

*ж) группа авиаремонтных мастерских (производственная группа),*

| | |
|---|---|
| Авиационные мастерские с цехами: самолётосборочным, моторным, механическим, деревообделочным, сварочным и кузнечным | - |

| | |
|---|---|
| Испытательная станция для моторов | - |
| Компрессорная | - |
| Котельная с сушилкой леса | - |
| Расходные склады леса, ремонтного фонда и горючего | - |

*з) группа хранилищ боеприпасов,*

| | |
|---|---|
| Хранилища авиационных бомб | Строятся упрощённого типа |
| Хранилища патронов | Строятся упрощённого типа |
| Хранилища пиротехнических средств | Строятся упрощённого типа |

*и) культурно-просветительная группа,*

| | |
|---|---|
| Дом Красной Армии или клуб со стадионом и парком | - |

*к) группа жилых зданий для офицерского состава,*

| | |
|---|---|
| Дома офицерского состава и общежития холостяков | - |
| Столовая офицерского состава | - |

**л) подъездные пути и внутрен***ние коммуникации, связывающие отдельные группы застройки в единый общий комплекс авиационного городка.*

*В целях маскировки стоянки самолётов, землянки и сооружения по возможности должны располагаться в местности, укрытой от наземного и воздушного наблюдения, например в лесу, кустарнике...*

**Вытрымкі з кнігі: Швабедиссен В. "Сталинские соколы:** *Анализ действий советской авиации в 1941-1945 гг." (22): "Для обеспечения высокой боевой готовности и осуществления маневра авиации предусматривалось на каждый авиационный полк иметь три аэродрома (основной, запасной и полевой)".*

**Пакуль не хапае інфармацыі, каб упэўнена сцвярджаць, аэрадром якога тыпу будаваўся**

перад вайной у Дакудаве: мірнага ці ваеннага часу; асноўны, запасны ці палявы.
Наяўнасць бятоннай паласы сведчыць аб тым, што гэта павінен быў быць, як мінімум, запасны аэрадром.

**/_05.1941/** Пры ваенным аэрадроме Прыяміна існавала школа па падрыхтоўцы лётчыкаў. Многія з курсантаў жылі па хатах у вёсцы (23). Таксама пры аэрадроме Прыяміна дзейнічаў летні лагер для вучняў 8-9 класаў мінскай спецшколы Ваенна-Паветраных Сіл.
З успамінаў вучня мінскай спецшколы Ізраіля Томчына: «Весной 1941 года ученики, закончившие 10-й класс, уехали в лётные училища. Насколько мне известно, никто из них лётчиком так и не стал, так как началась война, и их отправили на передовую — в бой. Мало кто из них остался жив, во всяком случае, я никого позже не встречал. Ученики же, окончившие 8-ой и 9-ый классы были отправлены в школьный лагерь, который располагался при военном аэродроме, в 100 км от Минска, в районе станции Приямино, что на железнодорожной магистрали Минск-Москва. Однако я в этот лагерь не попал, так как с группой из 100 учеников был оставлен в Минске для подготовки к участию в физкультурном параде, который был назначен на 30-ое июня». (24)

**/30.05.1941/** Па дадзеных аб дыслакацыі тылавых частак і устаноў Ваенна-Паветраных Сіл Чырвонай арміі на аэрадроме Прыяміна знаходзіўся 234-ы батальён аэрадромнага аб-

**/07.06.1941/** САКРАТАР КЦ КП(Б)Б П.К. ПАНАМАРЭНКА АДАСЛАЎ НАМЕСНІКУ СТАРШЫНІ СНК СССР Л.П. БЕРЫІ ДАКЛАДНУЮ ЗАПІСКУ “АБ СТАНЕ БУДАЎНІЦТВА АЭРАДРОМАЎ У БЕЛАРУСКАЙ ССР” (19):

*“Совершенно секретно*
*Строительство аэродромов в Белоруссии развернулось повсеместно. Всюду закончено строительство подсобных сооружений, идут земляные работы и заготовка местных стройматериалов…*
*В строительстве заняты 87 тысяч рабочих и до 75 тысяч подвод. Заготовлено и вывезено на площадки 707 тыс. кубометров камня и гравия. Камень собирается колхозниками и единоличниками на полях…*
*Заготовлено и вывезено на площадки 388 тыс. кубометров песка. Набито 84 тыс. кубометров щебня. Бой камня производится почти целиком вручную в связи с отсутствием камнедробилок. (на аэрадроме Дакудава каменедрабнілка была і працавала – аўт.)*
*18 объектов, закончив планировочные работы по первой полосе, приступили к производству бетонных работ. До последнего времени производство бетонных работ осуществлялось ручными замесами.*
*В ходе строительства есть серьезнейшие недостатки:*
*Значительное количество строймеханизмов, выделенное Главным управлением аэродромного строительства ... на объекты не поступает.*
*Как выяснилось, во многих случаях оборудование выделено за счет организаций, в дей-*

**слугоўвання №15/110-В (там жа ўказана, што Крупкі з'яўляліся месцам знаходжання 235-га батальёна аэрадромнага абслугоўвання)**

КРЫНІЦЫ ІНФАРМАЦЫІ:


1. Александр Панич (подготовил по материалам Росавтодора и Белавтодора) Строительство автомагистрали Мінск-Москва /http://www.nestor.minsk.by ;
2. Система исправительно-трудовых лагерей в СССР /http://www.memo.ru/history/nkvd/gulag;
3. Кніга памяти Калининградской области /http://may1945-pobeda.narod.ru/razved/san_avia41.htm;
4. Биографический справочник «Герои Советского Союза» /http:// ilpilot.narod.ru/ vvs_tsifra/ vvs_2/tabb10.html;
5. Виктор Суворов "Разгром"– http://93.174.93.226/b/206273/read;
6. Из сборника "Накануне: Западный особый военный округ (конец 1939 г. – 1941 г.)"/vif2ne.ru/nvk/forum/archive/1424/1424846.htm;
7. форум аб Катыні /http://katyn.editboard.com/forum-f4/tema-t687-90.htm;
8. "Военные аэродромы: изыскания и проектирование" /http://www.amyat.narod.ru/index.html;
9. Швабедиссен В. "Сталинские соколы: Анализ действий советской авиации в 1941-1945 гг." /http://militera.lib.ru/h/schwabedissen/app.html;
10. Міхась Мацельскі "Мужанка: вёска, у якой «замянілі» наваколльі" – газета "Гоман Барысаўшчыны", №11(80) за 2005 год /http://goman.borisov-e.info/index.php?id=329;
11. Успаміны Ізраіля Томчына /http://www.russianwashingtonbaltimore.com;




*ствительности не имеющих этого оборудования. Так, например, за счет Вязьмлага выделено 49 моторных катков и 17 камнедробилок. До сих пор Вязьмлаг ничего не поставил, и по заявлению начальника Вязьмлага поставить это количество они не могут...*

*Из выделенных по фондам и мобресурсам 388 тракторов на объекты поступило 159. (на аэрадроме Дакудава трактар быў – аўт.) Выделено 288 бетономешалок, на объекты поступило только 55...*

*Неудовлетворительно идет отгрузка по фондам. Херсонский завод должен был поставить 52 электростанции, поставил всего 8. Тамбовский завод должен был поставить 21 электростанцию, поставил 6... (на аэрадроме Дакудава электрастанцыя мелася – аўт.)*

*Наркомобщмаш должен был поставить по решению правительства 47 многоступенчатых центробежных насосов, не поставил еще ни одного...*

*До сих пор совершенно не решен вопрос о выделении механизмов для асфальто-бетонных работ. Не выделены ни по фондам, ни по мобилизационным ресурсам автогудронаторы, асфальто-бетонные смесители, битумные котлы...*

*Стройки ощущают сейчас в связи с развернувшимися работами по бетону недостаток в цементе. Наркомстрой из плана на апрель и май в 68 тыс. тонн цемента, поставил на объекты 26 590 тонн, причем вместо положенной марки 300, заводы Наркомстроя отгрузили объектам 18 тыс. тонн марки 250 и ниже. Этот цемент по техническим условиям в производство пущен не может быть или может быть допущен в смеси с портландским цементом… Но цемента высокой марки на объектах не имеется...*

*...строительство аэродромов испытывает большую нужду в камне, так как сбор камня на полях проходит с большими трудностями и связан с дальними гужевыми перевозками..."*

# 1941/ААЭРАДРОМЫ ДАКУДАВА І ПРЫЯМІНА Ў ПАЧАТКУ ВАЙНЫ



*…У дзяцінстве быў дэлегатам 1-го Ўсесаюзнага злёту піянераў. Сакратар райкома камсамола. Рэдактар абласной газеты. З чэрвеня 1938 – Дэпутат Вярхоўнага Савета РСФСР.*

*Але ў палку, калі ён пераляцеў у Дакудава, здаецца, ужо не засталося нікога з тых лётчыкаў, хто тры гады таму пачынаў сваю франтавую біяграфію на аэрадроме Прыяміна…*



**Самалёт-зьнішчальнік I-153**

**/22.06.1941/** Пачалася Вялікая Вайна. Будаўніцтва многіх аэрадромаў так і не было завершана. На схеме размяшчэння савецкай авіацыі па стане на 22 чэрвеня аэрадромы Дакудава і Прыяміна адсутнічаюць (чорныя кружкі – занятыя авіацыяй аэрадромы; белыя – незанятыя) (25)

Абазначэнні:
12 бад – 12-я бамбавальная авіядывізія
43 иад – 43-я знішчальная авіядывізія




Схема размяшчэння савецкай авіацыі па стане на 22.06.1941

**/23.06.1941/** 169-ы знішчальны авіяцыйны полк 23-й авіяцыйнай дывізіі у складзе 4-х эскадрылляў з агульнай колькасцю 50 самалётаў I-153 (а таксама штаб і тэхнічны склад

палка) пераляцеў у раён баявых дзеянняў на, як гэта сказана ў гісторыі палка, «аэрадром Прыяміна (40 км заходней г.Барысаў (памылка і па напрамку, і па кіламетражы))». (26)
У гэты жа дзень распачаліся і першыя баявыя дзеянні на Крупшчыне: бамбаванне і абстрелы ваенных аб'ектаў.

**Расказвае Лясун Іван Рыгоравіч:** «23 чэрвеня немцы бамбілі нафтабазу каля Крупак. Моцна бамбілі: шкло ў вокнах у Бутэлеўшчыне павылятала. А аэрадром не бамбілі ніводнага разу: верагодна, разлічвалі самі ім ў хуткасці скарыстацца. А ноччу быў абстрэл лагера. Паранілі аднаго з нашых у руку. Стралялі з лесу па лагеры (па вышках) з аўтаматаў, але ў бой не ўступалі. Мы занялі абарону і пачалі наўздагад страляць у адказ па лесе. Калі раніцай праверылі месцы, адкуль стралялі па нас, - іх знайшлі па гільзах на зямлі - вырашылі, што дыверсантаў было чалавек пяць. Ад нашай казармы да леса было метраў дваццаць. Вырылі ячэйкі для байцоў. Спаць кладліся – боты, вінтоўка побач – каб хутка апрануцца, заняць ячэйкі і быць гатовымі да бою. На ўзбраенні ў узводзе быў ручны кулямёт Дзегцярова (яго прывезлі да нас якраз у другі дзень вайны). Камандзір, яго памочнік, палітрук мелі пісталеты ТТ».

**/24.06.1941/** На Крупшчыне з'явіліся першыя ахвяры вайны – забітыя варожымі дыверсантамі чырвонаармейцы.

**Расказвае ЛЯСУН Іван Рыгоравіч:** "На ўскрайку леса перад Галубамі, адкуль добра была бачна шаша, зрабілі "сакрэт". У ім знаходзілася два байцы з аховы, якія мелі тэлефонную сувязь з камандзірам узвода, а той, у сваю чаргу, меў сувязь з Крупкамі. Задача была – назіраць за тым, што адбываецца на шашы за кіламетр ад аэрадрома і нашага лагера. Толькі назіраць і дакладваць, ні ў ва што не ўмешвацца. Праз кожныя тры гадзіны байцы ў "сакрэце" змяняліся.

**АЭРАДРОМ ДАКУДАВА**

І вось 24 чэрвеня я знаходзіўся з напарнікам у "сакрэце". Праз тры гадзіны нас змянілі іншыя байцы. І вось, што яны ўбачылі. Ідзе з боку Барысава "палутарка", а ў кузаве – узброеныя людзі ў навюсенькай ваеннай форме. Гэта было дзіўна, бо мы ніколі не бачылі, каб звычайным салдатам у звычайных умовах давалі новае абмундзіраванне. Раптам машына спынілася. Нехта (трэба разумець – іхні камандзір) сказаў па-руску: "Привал! Слезай!". Злезлі з машыны, дасталі пляшкі – не круглыя, як у нас, а плоскія. Перакусілі. І тут з боку Крупак з'явіўся на шашы матацыкл з двума чырвонаармейцамі – мабыць, сувязнымі. Гэтыя з палутаркі іх абстралялі (стрэлы былі такія ж, якія мы чулі, калі быў начны абстрэл лагера дыверсантамі – аўтаматныя). Матацыклісты былі забітыя. Іх абшнарылі, забралі планшэты, трупы скінулі з дарогі ў кювет, потым хутка селі ў палутарку і паехалі далей у бок Крупак. "Сакрэт" патэлефанаваў аб гэтым камандзіру, а той – у Крупкі. Перахапілі гэтых дыверсантаў у нашай форме, здаецца, ў Бабры".

У раёне Мінска былі збіты савецкімі знішчальнікамі адразу шэсць самалётаў Ju87R са складу 2-га і 3-га авіяпалкоў дывізіі пікіруючых бамбавікоў StG1, якая пазней будзе базавацца на аэрадроме Дакудава.

**/25.06.1941/** Знішчальнікі 169 ЗАП выконвалі паветраную разведку каля Мінску, а таксама прыкрывалі савецкія бамбавікі.

**З успамінаў лётчыка 169 зап Радзівонава Леаніда Міхайлавіча:** *"25 июня нашей эскадрилье, которой командовал капитан Цагойко, было приказано вылететь в разведку над Мин-*

*ском. Город горел. Выполнив задачу, мы вернулись на свой аэродром. А потом — новые вылеты с задачей прикрытия бомбардировщиков. Боевой опыт приобретался кровью, наши самолеты значительно уступали немецким в скорости и вооружении". (27)*

Да летняга лагера вучняў мінскай спецшколы Ваенна-Паветраных Сіл дабралася група вучняў, якая выйшла з Мінска 24 чэрвеня 41-га. Па словах Ізраіля Томчына, вучня спецшколы, з аэрадрома, што знаходзіўся ў наваколлі ст.Прыяміна, на баявыя заданні вылятали савецкія самалёты: *«В конце концов, мы добрались до нашего лагеря в Приямино. Жили наши ученики там в палатках. Мы поели и отдохнули. Ситуация в лагере оказалась достаточно сложной: почти всё наше начальство куда-то пропало. Остался один политрук. Военным было не до нас. Самолёты вылетали на боевые задания, и далеко не все возвращались на свой аэродром (заўвага: самалёты 169-га ЗАП, якія базаваліся на аэрадроме Прыяміна, як раз з 25.06.1941 пачалі пералятаць на новае месца базавання ў раёне Оршы – аэрадром Зубава; некаторыя самалёты пры гэтым атрымлівалі спачатку заданне на баявой вылет на захад, пасля выканання якога яны павінны былі вяртацца ўжо на новае месца базавання). В конце концов, нас собрали и предложили расходиться по домам».*


Томчын Ізраіль

**/26.06.1941/** 169-ы знішчальны авіяполк панёс першыя страты: прапалі без вестак тры лётчыкі.

Прапаў без вестак падчас пералёту з Прыяміна на аэрадром Зубава малодшы лейтэнант Самойлаў Канстанцін Якаўлевіч (нарадзіўся ў 1916г. в.Смышляеўка Молатаўскага раёна Куйбышэўскай вобласці, пражываў у г.Ржэў, авіягарадок), намеснік камандзіра эскадрыллі па палітчастцы 169-га зап. Па двух дакументах аб стратах 169 зап гэта здарылася 26.06.1941, па адным – 25.06.1941.

Прапаў без вестак падчас пералёту з Прыяміна на аэрадром Зубава малодшы лейтэнант Кулічкоў Васіль Пятровіч (нарадзіўся ў 1918г. г.Барысаглебск Варашылаўградскай вобласці), камандзір звяна 169-га зап.

Прапаў без вестак малодшы лейтэнант Майсееў Віктар Рыгоравіч (нарадзіўся ў 1918г. г.Казань), камандзір звяна 169-га зап, які вылецеў з аэрадрома Прыяміна ў раён г.Смалявічы, пасля якой павінен быў вярнуцца на аэрадром Зубава (28).

Не толькі 169-ы авіяполк адыходзіў на усход – аэрадром Зубава (аршанскага аэравузла). Атрымала загад на эвакуацыю і кіраўніцтва лагера зняволеных – будаўнікоў дакудаўскага аэрадрома.

**Расказвае ЛЯСУН Іван Рыгоравіч:** *"26 чэрвеня мы атрымалі загад адступаць. На транспарце вывезлі абсталяванне. А на адзіную нашу машыну пагрузілі кухоннае абсталяванне. І повар наш на той машыне з'ехаў. А нам загадалі разам са зняволеннымі рухацца пешшу.*

*Пад Оршай давялося пачуць і ўбачыць першы залп "Кацюш" батарэі капітана Флёрава. Але мы падумалі, што гэта немцы страляюць, бо не чулі нічога дагэтуль пра такую зброю.*

*А аднойчы ў дарозе тры нямецкія юнкерсы праляцелі над дарогай і, развярнуўшыся, зайшлі з боку сонца і сталі абстрэльваць дарогу, а па ёй і мы рухаліся, і бежанцы. Кулі былі запальныя і разрыўныя: апошнія пападалі ў галінку і ўзрываліся. Уся плашч-палатка была ў дзірках ад асколкаў"*

А вось эвакуацыя зняволеных з часовай тур-

| Фамилия, имя и отчество | Военное звание. | Должность и специальность | Место и год рождения | Каким РВК и какой обл.призван. | Когда и по какой причине выбыл. | Где похоронен | Имя отчество и фамилия, адрес жены или родителей. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| САМОЙЛОВ Константин Яковлевич | Мл. л-нт | Зам.ком. эскадр. по ПИЧ. | 1916г.Куйбышевская обл.Молотовского р-на,село Смышляевка. | Кадр. | 25.6.41г.При перелете Приямино-Зубово не прилетел на указанный аэродром. | - - | Калининская обл. гор.Ржев,авиагородок дом 7 кв 24 жена САМОЙЛОВА |
| КУЛИЧКОВ Василий Петрович | Мл. л-нт | Ком.звена | 1918г.Ворошиловская обл.город Борисоглебск. | Кадр | 26.6.41г.При перелете на площадку Зубово,по пути отстал и не прилетел на аэродром. | — | Ворошиловская обл. Гор.Борисоглебск родители КУЛИЧКОВЫ |
| МОИСЕЕВ Виктор Григорьевич | Мл. л-нт | Ком.звена | 1918г.Татарская АССР,гор.Казань | Кадр | 26.6.41 г.При штурмовке в р-не Смолевич(вылет с площадки ПРИЯШИНО) и перелет на аэродром Зубово не вернулся после выполнения задачи | — | Татарская АССР гор.Казань,родители МОИСЕЕВЫ. |
| ЕРЕМИН Григорий Тихонович | Мл. л-нт | Ком.звена | 1918г.Крымская АССР,гор.Алушта | Кадр | 27.6.41г.При патрулировании в р-не Орша и Борисов не вернулся на свой аэродром | — | Крымская АССР,гор Алушта,родители ЕРЕМИНЫ |

НАЧАЛЬНИК ШТАБА 169 ИАП-
Капитан (ЧЕРЕПОВ)

*Фрагмент данясення аб стратах 169-га знішчальнага авіяцыйнага палка ў першыя дні вайны*

мы ў Прыяміне не адбылася: начальнік турмы Мась "при обстреле тюрьмы из пулеметов всех заключенных закрыл в бараках (инвалиды-бытовики) и вместе с надзорсоставом эвакуировался в г.Могилев" (29). Прыямінская турма была, дарэчы разлічана на 900 зняволеных (30).

АНТОНАВА Ева Аляксееўна удакладняе, што турма знаходзілася не ў Прыяміне, а ў Мужанцы – вёсцы, што знаходзіцца непадалёк.

Аб тым, што сталася з лагерам пасля пачатку эвакуацыі, **расказвае ХАДАСЕВІЧ Анатоль Уладзіміравіч:** *"Калі нашы адыходзілі, пагналі зэкаў канваіры. На тых не абутак, а такія буты былі. Яны тут адразу і кідалі чамаданы: цяжка было. Спачатку пабралі, а потым кідалі. Мальцы пайшлі ў пакінуты лагер. Знайшлі мяшок морквы. Два крэсла забралі. На адным было напісана галоўбух, Кляймёнаў (рус. Клейменов) прозвішча. А дзеўкі знайшлі кінутую машыну з прадуктамі. Скінулі дзве скрыні з кансервамі. Тады ўсе астатнія з вёскі кінуліся. А тым часам ляцеў на ўсход наш самалёт, за якім гналіся нямецкія самалёты, і скідаў бомбы, каб палегчыцца і уцекчы ад немцаў, і як раз над намі скінуў. І ўсё разбягацца сталі, губляючы кансервы. Міша Грамянкаў прыгнаў трактар са "шпорамі" з лагера".*

**/27.06.1941/** Прапаў без вестак малодшы лейтэнант Яромін Рыгор Ціханавіч (нарадзіўся ў 1918г. ў г.Алушта), камандзір звяна 169-га зап, які не вярнуўся з баявога задання – патрулявання ў раёне Орша – Барысаў. (28)

У гэты дзень 169-ы знішчальны авіяцыйны полк завяршыў пералёт з аэрадрома Прыяміна на аэрадромы Аршанскага вузла. Прабыўшы на Заходнім фронце на працягу 50 дзён, 12.08.1941 полк быў накіраваны на перафармаванне.

За перыяд з 23.06 па 12.08.1941 палком было

зроблена 1446 баявых вылетаў, з іх:

- прыкрыццё патруляваннем чыгуначных вузлоў, гарадоў, аэрадромаў і іншых ваенных аб'ектаў - 724 баявых вылету;
- перахоп самалётаў праціўніка - 434 баявых вылету;
- суправаджэнне бамбавікоў - 98 баявых вылетаў;
- разведка - 94 баявых вылету;
- штурмоўка войскаў і тэхнікі праціўніка - 96 баявых вылетаў.

Праз месяц полк зноў на фронце.

Асабісты састаў палка (няпоўны) на момант знаходжання на аэрадроме Прыяміна (27; 28):

- Уграватаў Пётр Васільевіч (Угроватов Пётр Васильевич) – капітан (старшы палітрук), камандзір палка з 17.06.1941 па 04.12.1941;
- Чэрапаў Іван Рыгоравіч (Черепов Иван Григорьевич) – капітан, начальнік штаба палка па 28.05.1944;
- Грэкаў Леанід Ігнацьевіч (Греков Леонид Игнатьевич) – капітан, намеснік камандзіра палка па палітчастцы;
- Осіпаў Аляксандр Сцяпанавіч (Осипов Александр Степанович) – капітан, намеснік камандзіра эскадрыллі (загінуў 05.07.1941);
- Самойлаў Канстанцін Якаўлевіч (Самойлов Константин Яковлевич) – малодшы лейтэнант, намеснік камандзіра эскадрыллі па палітчастцы (прапаў без вестак 25/26.06.1941);
- Кулічкоў Васіль Пятровіч (Куличков Василий Петрович) – малодшы лейтэнант, камандзір звяна (прапаў без вестак 26.06.1941);
- Майсееў Віктар Рыгоравіч (Моисеев Виктор Григорьевич) – малодшы лейтэнант, камандзір звяна / пілот (прапаў без вестак 26.06.1941);
- Яромін Рыгор Ціханавіч (Ерёмин Григорий Тихонович) – малодшы лейтэнант, камандзір звяна / малодшы лётчык (прапаў без вестак 27.06.1941);
- Андрэеў Сяргей Васільевіч (Андреев Сергей Васильевич) – лейтэнант, ад'ютант эскадрыллі (загінуў 30.06.1941);
- Вінаградаў Валянцін Іванавіч (Виноградов Валентин Иванович) – малодшы ваентэхнік, авіямеханік (паранены 26.06.1941);
- Сахно Іван Іванавіч (Сахно Иван Иванович) – малодшы ваентэхнік, механік па прыборах (паранены 29.06.1941);
- Фадзееў Аляксандр Ігнацьевіч (Фадеев Александр Игнатьевич) – малодшы лейтэнант, малодшы лётчык (прапаў без вестак 02.07.1941);
- Бачарнікаў Мікіта Рыгоравіч (Бачарников Никита Григорьевич) – малодшы лейтэнант, малодшы лётчык (прапаў без вестак 02.07.1941);
- Аносаў Васіль Сяргеевіч (Аносов Василий Сергеевич) – малодшы лейтэнант, малодшы лётчык (прапаў без вестак 04.07.1941);
- Базанаў Павел Андрэевіч (Базанов Павел Андреевич) – старшы лейтэнант, намеснік камандзіра эскадрыллі (загінуў 06.07.1941);
- Бабухадзія Вахтанг Георгіевіч (Бабухадиа Вахтанг Георгиевич) – малодшы лейтэнант, малодшы лётчык (прапаў без вестак 04.07.1941);
- Дудкін Васіль Данілавіч (Дудкин Василий Данилович) – малодшы лейтэнант, малодшы лётчык (загінуў 09.07.1941);
- Чабанаў Іван Іванавіч (Чабанов Иван Иванович) – малодшы лейтэнант, малодшы лётчык (загінуў 09.07.1941);
- Валогін Іван Міхайлавіч (Вологин Иван Михайлович) – малодшы лейтэнант, малодшы лётчык (прапаў без вестак 09.07.1941);

- Марозаў Аляксандр Іванавіч (Морозов Александр Иванович) – малодшы лейтэнант, малодшы лётчык (прапаў без вестак 09.07.1941);
- Радзівонаў Леанід Міхайлавіч ( Родионов Леонид Михайлович) – лётчык (паранены 07.1941);
- Цагойка (Цагойко) – капітан, камандзір эскадрыллі;
- Ізбінскі – лейтэнант, камандзір звяна;
- Назараў Васіль;
- Белікаў Мікалай – малодшы лейтэнант;
- Юргін – лейтэнант.

Шмат савецкіх лётчыкаў і ваентэхнікаў з 169-га авіяпалка загінулі, прапалі без вестак або былі паранены ў першыя дні вайны.

Але былі не толькі страты – былі і перамогі. Сярод тых лётчыкаў, што пачалі свой баявы шлях на аэрадроме Прыяміна ў складзе 169-га знішчальнага авіяпалка, быў і лётчык, які стаў першым у палку Героем Савецкага Саюза. Ім стаў (пасмяротна) намеснік камандзіра палка па палітчастцы, капітан Леанід Ігнацьевіч Грэкаў.

БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА:



**ГРЭКАЎ Леанід Ігнацьевіч** (27.12.1913-29.10.1941). Герой Савецкага Саюза (27.12.1941 – пасмяротна), намеснік камандзіра 169 знішчальнага авіяпалка па палітчастцы, капітан.

Нарадзіўся ў Арлоўскай вобласці. Рускі. Камуніст з 1932 года. У дзяцінстве быў дэлегатам 1-го Ўсесаюзнага злёту піянераў. Сакратар райкома камсамола. Рэдактар абласной газеты. З чэрвеня 1938 - Дэпутат Вярхоўнага Савета РСФСР. На фронце з самага пачатку вайны. Здзейсніў 65 баявых вылетаў, у паветраных баях збіў асабіста – 4, ў групе –10 самалётаў праціўніка. Загінуў у паветраным баі над Ленінградам. Узнагароджаны таксама ордэнам Чырвонага Сцяга. (31)

## АЭРАДРОМ ДАКУДАВА

Загадам НКА СССР ад 18.03.1943 і Дырэктывай Штаба ВПС Чырвонай Арміі ад 21.03.1943 ператвораны у 63 гвардзейскі знішчальны авіяполк. Гвардзейскі сцяг палку ўручаны 26.04.1943. З сярэдзіны чэрвеня 1944 года полк дзейнічаў на 3-м Беларускім фронце на аршанскім накірунку. Полк зноў аказаўся ў тых мясцінах, адкуль пачынаў свой баявы шлях – 01.07.1944 месцам яго базавання на некалькі дзён стаў аэрадром Дакудава!

Але ў палку, калі ён пераляцеў у Дакудава, здаецца, ужо не засталося нікога з тых лётчыкаў, хто тры гады таму пачынаў сваю франтавую біяграфію на аэрадроме Прыяміна... Акрамя, быць можа, былога начальніка штаба палка Чэрапава, які напрыканцы мая 1944 стаў начальнікам штаба дывізіі, у якую уваходзіў 63 гзап.

**/29.06.1941/** Адбылася падзея, якая апісана ў дакуменце «Разведывательная сводка штаба Западного фронта №11 к 10 часам 30 июня 1941 г. о боевых действиях войск противника»: *«По данным Отдела противовоздушной обороны Западного фронта, утром 29.6.41 г. в районе Приямино, Докудово садились и взлетали две девятки самолетов неопознанного типа, в этом же районе садилось и взлетало три скоростных бомбардировщика и два У-2. Эти самолеты, скоростные бомбардировщики, летали в направлении Орша, стреляли и бомбили по нашим войскам и возвратились в район Приямино. (Сведения требуют проверки.)» (32)*

Да прыходу немцаў у раён Прыяміна-Дакудава заставалася яшчэ пяць дзён. Але пакінутыя савецкімі часткамі аэрадромы Прыяміна і Дакудава (ці адзін з іх), магчыма, выкарыстоўваліся немцамі як аэрадромы "падскоку".

**/_.07.1941/** Савецкія бамбавікі здзейснілі налёт на нямецкую танкавую калону ў раёне г. Крупкі. Прыкрыццё ажыццяўлялі знішчальнікі I-153 са 169 зап. Лётчык 169 зап малодшы лейтэнант Л.М.Радзівонаў збіў падчас налёту «месершміт». **З успамінаў лётчыка 169 зап Радзівонава Леаніда Міхайлавіча:** *"В первых числах июля поднялись мы в воздух с задачей прикрыть бомбардировщики, которые должны были уничтожить танковую колонну в районе станции Крупки. Над целью нас атаковали «Мессершмитты». Я был ведомым у комэска. Вижу, как из-под облаков вынырнул вражеский истребитель и ринулся в хвост машины моего командира. Но я опередил немца, успел раньше его нажать на гашетку пулемета. «Мессер» загорелся и пошел к земле. Когда мы вернулись из боя, командир эскадрильи объявил мне благодарность и расцеловал прямо перед строем. А на другой день адъютант комэска, лейтенант Юргин по секрету порадовал меня: показал представление к награждению орденом Красного Знамени" (27)*

БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА:

РАДЗІВОНАЎ Леанід Міхайлавіч (рус. Родионов Леонид Михайлович) нарадзіўся 21.04.1920. Скончыў Чкалаўскае лётнае вучылішча.



11.07.41 г. падчас штурмоўкі пераправы нямецкіх войскаў праз Днепр пад самалётам Радзівонава разарваўся зенітны снарад, лётчыка параніла ў правую ступню. Перасільваючы боль, Радзівонаў дацягнуў да аэрадрома ў Горках. Самалёт з-за пашкоджанага шасі пры пасадцы перавярнула. Пабітым шклом кабіны пілоту парэзала твар, пашкодзіла пазванкі шыі. Яго адвезлі ў эвакашпіталь, які быў разгорнуты ў адным з карпусоў Горацкай сельгасакадэміі. Праз два дні немцы занялі райцэнтр. Лётчык трапіў у палон. У сярэдзіне жніўня Радзівонаў разам з лётчыкам сваёй эскадрыллі М.Белікавым здзейснілі ўцёкі. Праз некалькі дзён дабраліся да раёна Вязьмы, дзе сустрэліся з атрадам Чырвонай арміі, які дзейнічаў у акружэнні. З гэтым атрадам напачатку кастрычніка 1941г. выйшлі з акружэння.
Пасля шэрагу праверак у асобым аддзеле накіраваны на зборны пункт ВПС у Маскве. Тут медыцынская камісія неадкладна накіравала Радзівонава ў шпіталь.
Пасля лячэння Радзівонаў працягнуў службу, але яго, як пабываўшага на акупаванай тэрыторыі, не дапушчалі на фронт. Спачатку быў накіраваны ў 786 зап ППА (рус. ПВО), які дзейнічаў у тылавым раёне.
Пасля неаднаразовых рапартаў з просьбай накіраваць на фронт, у студзені 1943г. быў адпраўлены на Ленінградскі фронт. Але і тут Радзівонава да баявых палётаў не дапусцілі. Падчас баёў на Курскай дузе Радзівонаў накіраваны зноў у склад ППА. Вайну скончыў у званні ст.лейтэнанта. Толькі пасля вайны быў рэабілітаваны канчаткова. Рыхтаваў лётныя кадры, камандаваў эскадрылляй, палком. У адстаўку выйшаў у званні палкоўніка. Жыве ў Мінску.

**/04.07.1941/** У вёсцы Дакудава з'я-

віліся нямецкія войскі. Пачалася трохгадовая акупацыя і… новыя старонкі гісторыі аэрадрома Дакудава.

## КРЫНІЦЫ ІНФАРМАЦЫІ:


1. http://warmech.narod.ru/1941war/w-front/hazmap22.jpg;
2. 470-й Гвардейский Виленский ордена Кутузова ИАП ПВО /gv470iap.narod.ru;
3. Александр Суслов «Крутая спираль в небе» – «Советская Белоруссия» /http://www.sb.by;
4. Объединённая база данных «Мемориал» /www.obd-memorial.ru;
5. Василий Матох "Без права на помилование" /http://www.belgazeta.by/20070423.16/53-0244991;
6. История, которую мы не знали. Кузнецов Игорь. Возвращение памяти-«Эвакуация» /http://sovserv.ru/vbb/archive/index.php/t-47918.html;
7. Герои Страны /http://www.warheroes.ru;
8. http://ru.wikisource.org/wiki;




# Рэгіён Малога Палесься

## *ў дакумантах і матэрыялах 1946-1953гг.*



**КНІГА** / В.Д. СТАРЫЧОНАК




**На фота:** жыхары Крупшчыны на Краснай плошчы ў 1955г. (на маўзалеі добра чытаецца: ЛЕНИН СТАЛИН).

*У 2009 годзе, тыражом 300 экземпляраў, пабачыла сьвет кніга "Минская область в документах и материалах. Вып.2. Возрождение, 1946-1953гг." (укладальнікі: Белезяк Н.П., Жыгалаў Д.М., Кавалеўская Л.Э і інш.). Выданьне падрыхтавалі навукоўцы Дзяржаўнага архіву Мінскай вобласьці і Нацыянальнага архіву Беларусі (НАРБ). Упершыню мы можам даведадацца з першакрыніц пра рэальны стан рэчаў у тыя цяжкія гады. Здаецца, няма вялікай патрэбы каментаваць ніжэй пададзеныя дакуманты й матэрыялы. Спадзяемся, что ўважлівы чытач сам зробіць аналіз і адпаведныя высновы. Дакуманты (скарочаны варыянт) пададзены на мове арыгінала й адпаведна нумарацыі ў кнізе. Напрыканцы мы змясцілі выбарку персаналіяў з дадатку №2 "Список руководящих работников Минской области и Минска" і з дадатку "Биографические справки" падаўшы гэтую інфармацыю на беларускай мове.*

*Андрэй Аляхновіч*

## №1

**Справка об экономическом состоянии колхозов Минской области**
**Не ранее 1 января 1946г.**

| Наименование районов | Кол-во колхозов в районе | Всего колхозных дворов | Количество колхозов, расчит. С госуд. По хлебу | Кол-во колхозов, не расчит с госуд. по по хлебу | Кол-во колхозов, расчит. С госуд. По картофелю | Кол-во колхозов, не расчит. с госуд. По картофелю | Кол-во колхозов остронуждающихся или особо пострадавших колхозов |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Березинский | 150 | 11 053 | 109 | 41 | 104 | 46 | 67 |
| Борисовский | 120 | 13 137 | 70 | 50 | 93 | 27 | 42 |
| Крупский | 113 | 6863 | 30 | 83 | 51 | 62 | 37 |
| Холопеничский | 135 | 7551 | 115 | 20 | 86 | 49 | 52 |

## №4

**Докладная записка секретаря Минского обкома КП(б)Б В.И.Козлова и председателя Минского облисполкома Р.Н.Мачульского Председателю Совета Министров БССР, секретарю ЦК КП(б)Б П.К.Пономаренко о работе колхозов Минской области.**
**22 января 1946г.**

… По Холопеничскому району – особо пострадало 52 колхоза, зернопоставки колхозы района выполнили полностью. Засыпали семян зерновых для весеннего сева 1946 года только 58% плана, для распределения же на трудодни колхозникам хлеба не имеют, за исключением выдачи колхозникам незначительного количества хлеба в порядке авансирования в период уборки урожая.

… Такое же крайне тяжелое положение с обеспечением продовольственным хлебом и картофелем семейств колхозников особо пострадавших колхозов в районах: … Крупском – 37 колхозов.

## №5

**Из протокола №105 заседания бюро Минского обкома КП(б)Б об итогах выборов в Верховный Совет СССР по области и об улучшении снабжения населения товарами первой необходимости**
**18 февраля 1946г.**
**Строго секретно**

Выборы в Верховный Совет по Минской области прошли в обстановке величайшего подъема и явились яркой демонстрацией морально-политического единства белорусского народа и его безграничного доверия большевистской партии, советскому правительству и великому вождю народов товарищу Сталину.

… За кандидитов блока коммунистов и беспартийных голосовало 99,32% от общего числа избирателей, участвовавших в голосовании.

… Слушали: Об улучшении снабжения населения товарами первой необходимости.

… Облторготдел (тов.Миронов) и облпотресоюз (тов.Криков) неудовлетворительно осуществляют руководство торговыми организациями и систематически не следят за состоянием обслуживания населения, особенно товарами первой необходимости – хлебом, солью, спичками, керосином, мылом.

… в городе Борисове имели место перебои в снабжении населения хлебом в декабре меся-

це 1945 года из-за несвоевременного подвоза муки в город. В отдельных раёнах области имеются случаи выдачи населению вместо хлеба и муки – зерна (…Березино, Холопеничи).

… Рабочие и служащие, проживающие в сельской местности, особенно учителя, врачи, специалисты сельского хозяйства, в ряде районов, как Холопеничский, Крупский… недополучали установленных норм хлеба.

Облместпром (тов.Кохоновер) не принял мер к улучшению работы мельниц. В ряде районов области (… Холопеничском… ) мельницы работают с большими перебоями из-за несвоевременного подвоза топлива и технических неполадок.

Облторготдел и райторготделы недостаточно контролитуют работу магазинов, в результате чего имеют место расхищения централизованных фондов товаров и продуктов.

**№7**

**Из стенограмы заседания Бюро ЦК КП(б)Б о подготовке живого тягла к весеннему севу в колхозах Минской области**

**26 марта 1946г.**

…КИСЕЛЕВ. Состояние конского поголовья в Минской области очень тяжелое. В ряде районов, надо прямо сказать, катострофическое. За год пало 8000 лошадей… . Цифра падежа угрожающая.

Этот большой падеж есть характеристика состояния колхозов Минской области, общего состояния колхозов. …Колхозы Минской области у нас не укреплены хозяйственно, организационно и политически. У руководства колхозами слабые люди. Значит в колхозах Минской области нет большевистского порядка, коль лошади падают тысячами. Ведь в Борисовском районе более 1000 лошадей пало. …Если и дальше будем так руководить колхозами, тогда надо зубы на полку класть. Этот большой падеж лошадей – показатели низкого уровня партийного руководства колхозами. Много слушали отчетов, но надо не только слушать, но и по-настоящему надо руководить, надо хозяйски подходить к делу.

…Допустили невероятно вредную обезличку лошади, не подобрали конюхов хороших, а вряде колхозов допустили бесконечную сменяемость конюхов. Корма не только не заготовили, но даже то, что было заготовлено, воруют.

Надо больше привлекать людей к ответственности и строже наказывать, а раз наказали – надо привести в исполнение наказание, а вы штрафуете, а штраф не берете.

…Виноваты руководители, виноваты секретари райкомов и секретари обкома. Не так руководите, по-иному, значит, надо. Надо организовать работу, надо лучших людей ставить к руководству колхозами. Дело в том, что люди

**№9**

**Справка на особо пострадавшие колхозы, нуждающиеся в продссуде по Минской области**
**20 апреля 1946г.**

| № | Название районов | Количество колхозов | Колич. дворов в колхозе | Населения душ | Потребность на душу населения | Требуется продссуды тонн |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | Березинский | 44 | 2668 | 9823 | 10 кг. | 98 |
| 3 | Борисовский | 42 | 3148 | 10 450 | - | 104 |
| 6 | Крупский | 32 | 1643 | 3377 | - | 34 |
| 9 | Холопеничский | 60 | 3346 | 11 459 | - | 114 |

другую старану і будзім малаціць.
ПАТРУ'ХА ж. Пацяруха. Пацёртоё сена ў нас завецца патрухай. Патрухай красілі яйцы.
ПАТЧАПУ'РЫЦЦА зак. Падхарашыцца, прыбрацца. Вой, вой! Глянь ты, куды ета так патчапурылася?
ПІРАМО'ТА ж. Памылка пры сняванні красён. Забыласі і палажыла пірамоту пры снъваньні.
ПІСКЛЁНАК м. Куранё. Пазаўчора вывіліся піскляткі.
ПЛАСЬЦІ'ЦЬ незак. Пластаваць. Я буду пласьціць сена, а ты кладзі на вос.
ПНІ мн. Зародкавае пер'е на целе птушак. Апскубла курыцу, а пні асталіся.
ПО'ІС м. Спавівач. Рабёначка спавівалі поісам.
ПРАСЬЦІ'ЛКА ж. Прасціна. Выткала нечысі тры гупкі і пашыла дзьве прасьцілкі, а к прасьцілкам прышыла падзорнікі.
ПРУТ м. Паз. У ліпавачцы зьдзелаў прут і ўпусьціў дно.
ПРУТО'К м. Кіёк. Дзе тэй пруток, што нада ніты надзіваць.
ПРЫЛЁПКА ж. Прыпрадзеная нітка. Първалася нітка, я прыпрала прылёпку, а калі ў нітцы многа прылёпак, тады дужа ірвуцца ніткі асновы і плоха ткаць.
ПУПЛЫ' мн. Адходы пры праденні кудзелі. Плъхая кудзеля, многа пуплоў, і ў воўні быввіць многа пуплоў.
ПУПО'К м. Ручка на касе. Зьдзелаў пупок і прывізаў к касьсю.
ПУПУ'ШКА ж. Кончык пальца. Апстрыгла нохці дъ самых пупушак.
ПУ'СЦЫ мн. Лыткі. У ее некрасівыя ногі, дужа тоўстыя пусцы.
ПЪДМА'ТАШ м. Невялікі прадмет, на які навіваюць ніткі, пачынаючы клубок. Чаго п тут найці на пъдматаш пат клубок.
ПЪЛА'НАЧКІ мн. Апалушкі. Ідзі вазьмі пъланачкі і спълай кмін.
ПЪТКА'ЛАЎКА ж. Падколка. У куракі уторкнула дзьве спіцы і бяру пъткалаўку і патплітаю ў два люкі лапаць.
ПЪТХЛЯ'ПІНА ж. Бакавая ўпадзіна між рэбрамі і клубам (у жывёлы). Мъя карова сягоньня ідзець с поля галодная, бакі пътхляпіна.
ПЯКО'ЛАК м. Пячурка. На загнеце ёсь пяколак, куды згарнуім жар.
РУКЪВЯ'ТКА ж. Ручайка. Нъпрала тры рукъвяткі нечысі і зъметала на пачынак.
РУМУШО'К м. Прывязка, якой прымацоўваюць біч да цапільна. Вазьмі румушок і прывяжы біцук у цапілну.
РУ'ХНУЦЬ зак. Прапасці (пра зімовую дарогу). Ръстаў сьнех, рухнула дарога, няможна ехаць, конь пръваліваіцца.
РЭ'ЗЬВІНЫ мн. Вяровачная сетка з драўлянымі дужкамі для нашэння сена, саломы. Вазьму рэзьвіны і прынясу сена с пуні.
РЭ'ПКА ж. Драўляны блок, кольца, які прыводзіць у рух шпульку ў калаўроце. На бъран надзяецца шпуля, а патом рэпкаю закручваіцца.
САДЗІ'ЦЬ незак. Ставіць снапы на жэрдкі для сушкі ў ёўні. Пайду на ёўню садзіць авёс і сушыць.
СРАМАЛО'ТНЫ прым. Сыры (пра збожжа, жыта). Пайду абіваць сарамалотноё жыта на насеньня.
СКАЦІ'ЦЬ зак. Скруціць. Нечысныя ўрэскі скаціла ў трупку.
СМО'РГАЦЬ незак. Часаць лён. Лён сморгаюць на грэбінь.
СПО'ТКІ мн. Вязаныя рукавіцы. Нада зьвізаць споткі, а то марос будзіць.
СПЪПАЛА'ЦЬ зак. Апалоць. Узіла пъланачкі і спъпалала ячмень.
СТАВЫ' мн. Ткацкі станок. Пойдзім унасіць ставы, будзім навіваць кросны.
СТРЪХА' ж. Закрыты нос лапця. Спліла лапаць, пъставіла стрэхі і зъклала пяту.
СУКАЛЕ'НКІ 1 мн. Калены сцябла. У саломінцы бываць два ці тры сукаленкі.
СУКАЛЕ'НКІ 2 мн. Нарасці на ніжняй частцы нагі ў пеўня. Пятух дліnanогі, бальшыя сукаленкі къля лап.
СУ'ПРАТКІ мн. Попрадкі. Хадзіла сягоньня на супра-

ткі і нъпрала поўную шпулю пражы.
СУРО'ВЫ прым. Нябелены (пра палатно). Суровоё палатно ў трупкі не круцім.
СЮСЁЛКА ж. Соска. Даўней дъвалі маленькаму рабёначку сюсёлку ссаць.
СЯДЗЕ'ЛЬНІК м. Церассядзёлак. Падвяжы тужэй сядзельнік, кап лехчый было каню.
СЯДЛО' н. Частка прасніцы, на якой сядзіць папрадуха. У прасьніцы ёсь сядло, дзе мы сядзім, як прадзем.
ТРЪПАШКА ж. Мянташка. Касец бярэць бішчанку, тръпашку, малаток і бапку накліпаць касу.
ТРЫСЬЦІЦІ незак. Злучаць дзве ніткі разам. Вазьмі вірок і трысьці ніткі на клубок, будзім сучыць на спотки.
ТУ-ГА', ТУ-ГА' выкл. Вокрык, якім адганяюць ваўка.
УРЭ'ЗАК м. Адрэз. Выткала тры гупкі нечысі і адрэзала урэзак, буду бяліць.
ЦАГІ'ЛКА ж. Трыножка, на якую вешаюць калыску ў полі. Выразала тры кійкі і зьдзелала цагілкі, а на цагілкі павесіла люльку.
ЦАПО'К м. Жэрдка ў ёўні, на якую ставяць снапы для сушкі. Цапок насадзіў і прыціснуў курчынай, кап стыялі снапы.
ЧЫ'СЬЛІНА ж. Тры ніткі з пасма. Дзесяць чысьлін будзіць пасма.
ША'ПКА ж. Верхняя частка асадкі акна. Асадзіў акно, пъставіў вушакі і налажыў шапку.
ШКУ'ТНІК м. Коўдра, вытканая з рыззя. Нъдрала палоскамі старых трапак і выткала шкутнік, цёпла будзіць нъкрывацца.
ШМЯЦЬЦЁ н. зборн. Адыходы кмену. Ай, які плахі кмін, адно зялёноё шмяцьцё.
ШПУ'НЬЦІК м. Шруба. Паткруці шпуньцікам карыцца, кап было вышэй і тужэй былі шнуры.
ШЧО'ТКА ж. Стрыхоўка. Страху пакрыў пат шчотку.
ШЫ'ШКА ж. 1.Корч (цыбулі і да т.п.). Вырвала цыбулі цэлую шышку. 2.Гронка. Арэхі вісяць бальшымі шышкамі.

*Л-РА: зборнік "Народнае слова" АН БССР пад рэд. А.Я.Баханькова, Мн., 1976, ст.175-185*

*Адшукаўшы гэты артыкул ў архіве газэты “Крупскі веснік” (у тыя часы “Ленінскім курсам”) мы вырашылі даць яго без скарачэньняў. Прайшло больш за 40 год з дня публікацыі. Можна назваць гэты артыкул спробай беларускага савецкага краязнаўства (сапраўднае беларускае краязнаўства ў тыя часы таксама ўжо існавала, але без надзеі быць надрукаваным). Таму любыя звесткі краязнаўчага характару ў адкрытай прэсе былі на вес золата. І сёньня мы ўдзячныя аўтару, найперш, за важныя й цікавыя звесткі па гісторыі самай старой й галоўнай вуліцы нашага мястэчка. Адзінае пытаньне, якое ўзьнікае, чытаючы штампы савецкіх часоў пра “правадыра”, “першую сацыялістычную дзяржаву” й г.д. – чаго тут болей: сапраўдных перакананьняў ці даніны тагачаснаму афіцыёзу. Але не гэта для нас важнае – час ўсё растаўляе на свае месцы. А ўвесь артыкул ёсць на сяньня яскравым прыкладам рэгіянальнай, мясцовай савецкай перыёдыкі, у якой любому сумленнаму аўтару сістэма “выкручвала рукі” й затыкала рот. Адсюль знакамітая “эзопава мова”, якой карысталіся не толькі журналісты; і самацэнзура, якая – смерць для творцы. Толькі цяпер пачынаеш разумець, чаму так пакланяліся Бахусу творчыя асобы: ад раённага журналіста да сталічнага акцёра й навукоўца. Але ці далёка ад тых 1960-х гадоў адышлі мы з вамі? Пачытайце сучасную прэсу, паглядзіце БТ. . .*

*Андрэй Аляхновіч*

Вуліца, на якой ты жывеш, носіць імя вялікага правадыра працоўных, заснавальніка першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы – У.І.Леніна. А ці ўсё ты ведаеш пра яе? Давайце ўспомнім яе гісторыю, прыгледземся да тых змен, што адбыліся тут за гады Савецкай улады.

Да рэвалюцыі гэта вуліца, самая доўгая і самая шырокая, называлася Зарэччам. Бачна, дзяды і прадзеды далі ёй такую назву таму, што асноўная большасць пабудоў размяшчалася за рачулкай, якую па мясцоваму называюць Курнееўкай (сапраўдная назва – “Крупка”, “Крупеніца” - рэд.). Зарачанцы былі

**Фота на суседняй старонцы:** праваслаўная царква ў м.Крупкі падчас нямецкай акупацыіі 1918г. (здымак зроблены невядомым нямецкім афіцэрам). Добра бачныя нямецкія фурманкі (зправа) і група афіцэраў Кайзераўскай Германіі (злева). Царква стаяла на месцы сучаснай крамы “Алвейс”, далей (злева-уверсе) бачны папоўскі дом – зараз Рана, а зправа-уверсе відаць дамы па сучаснай вуліцы Савецкай – зараз Пошта. Хутчэй за ўсё здымак зроблены ў вясновы выходны дзень – у небе мноства птушак, у папоўскім садзе (перад домам) яшчэ ляжыць сьнег, а ля царквы шмат вернікаў. Пры павелічэнні можна разгледзіць твары і саміх крупчан – нашых продкаў.

*Усе фотаздымкі і подпісы да іх устаўлены рэдакцыяй.*

На фота: лета 1968г. *– грузавая машына маркі "Калхіда" аўтабазы №16(?) на ўчастку дарогі Крупкі-Мінск (здымак зроблены францускім фатографам турыстам, гл. сайт: http://iconotheque-russe.ehess.fr/).*

беднымі і малаадукаванымі. Успамінаюць, што самым багацейшым чалавекам быў Рыгор Барысаў, а самым пісьменным чалавекам – Рыгор Лабанаў. Апошні меў адукацыю за курс царкоўна-прыхадской школы і служыў дзячком у царкве.

Жыхары Зарэчча мелі 27 надзелаў зямлі, займаліся земляробствам. Верылі ў бога і хадзілі маліцца ў царкву, якая стаяла там, дзе цяпер трохпавярховы будынак камбіната бытавога абслугоўвання. Царква згарэла ў час пажару ў 1920 годзе. Каля месца знаходжання цяперашняй канторы гарпо стаяў тракцір.

Пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі гэтай вуліцы далі назву – Ленінская. З таго часу імя Леніна жыве ў сэрцах кожнага жыхара гэтай вуліцы. Яны першымі ў раёне здзяйснялі мары Ільіча аб каапераванні сельскай гаспадаркі, праводзілі калектывізацыю. Гэта было ў 1929 годзе. Асноўная большасць беднякоў-зарачанцаў адразу ўступіла ў арганізаваны калгас "Чырвоны араты". Арганізатарам калектыўнай гаспадаркі і першым старшынёй быў П.А.Куляй, а "Чырвоны араты" налічваў усяго паўтары сотні гектараў зямлі. Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны гэта гаспадарка была ўжо эканамічна моцнай.

Вайна чорнай навалай прыйшла і на родную Крупшчыну. Нямецкія галаварэзы апаганілі назву гэтай вуліцы сваімі злачыннымі дзеяннямі. Ёй вярнулі былую



назву. Тут размясцілі гестапа, турму. Яўрэйскае насельніцтва было знішчана. Былых камуністаў, якія засталіся на акупіраванай тэрыторыі, таксама расстралялі. Сярод расстраляных былі і актывісты мясцовага калгаса.

Пасля вызвалення роднай Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў жыхары Ленінскай вуліцы сталі аднаўляць разбураную вайной калектыўную гаспадарку.

Цяпер на Ленінскай вуліцы жывуць рабочыя і служачыя прадпрыемстваў і ўстаноў, калгаснікі, інтэлігенцыя. Тут размешчана кантора мясцовага калгаса "Перамога". Гэта – перадавая гаспадарка раёна. Летась хлебаробы атрымалі небывалы ўраджай – па 22,1 цэнтнера зернавых з гектара. Валавая вытворчасць зерня склала 11,789 цэнтнераў. Гэта амаль удвая больш, чым у 1968 годзе. Чысты грашовы даход склаў звыш 124 тысяч рублёў.

Ленінская вуліца – адна з самых вялікіх вуліц райцэнтра. Акрамя службовых памяшканняў, тут 135 жылых дамоў. Кожны чацвёрты жыхар скончыў сярэднюю школу. Самым старэйшым жыхаром з'яўляецца Э.І.Рэут.

На Ленінскай вуліцы жыве больш 30 камуністаў. Гэта кіраўнікі прадпрыемстваў і ўстаноў райцэнтра, партыйныя і савецкія работнікі, пенсіянеры. Сярод апошніх – ветэраны працы, удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны. На Ленінскай вуліцы жыве ветэран партыі, цяпер пенсіянерка А.Д.Кручок, а таксама заслужаная

На фота: лета 1968г. *– калгаснікі зьбіраюць рассыпанае збожжа на ўчастку дарогі Крупкі-Мінск (здымак зроблены французкім фатографам-турыстам, гл. сайт: http://iconotheque-russe.ehess.fr/).*



калгасніца сельгасарцелі "Перамога" С.Б.Буднік, былы партызан Р.А.Буевіч і іншыя.

Жыхарам вуліцы з'яўляецца кавалер ордэна Леніна інструктар райкома партыі І.Р.Наумовіч. Гордасцю былых зарачанцаў з'яўляецца Герой Савецкага Саюза М.Я.Зайцаў. У доме №119 жыве яго маці сямідзесяцісямігадовая Вера Васільеўна. Асюль яе сын Мікалай пайшоў у армію. У гады вайны ён бязлітасна граміў ненавіснага ворага. Цяпер былы лётчык жыве ў Мінску.

Ленінская вуліца стала вуліцай культурна-асветных і гандлёвых устаноў. Яна пачынаецца будынкамі друкарні і рэдакцыі раённай газеты і заканчваецца жылымі дамамі, якія ўжо ўшчыльную падыйшлі да аўтамагістралі Масква – Мінск. Прайдзіцеся па ёй – і замест былой дарэвалюцыйнай царквы, шынкоў і пахіленых хацін вы ўбачыце раённы Дом культуры і раённую бібліятэку, прасторны двухпавярховы цагляны будынак сталовай і рэстарана, будынкі мэблевага, прадуктовага, цэнтральнага кніжнага і хлебнага магазінаў, будынкі канторы райспажыўсаюза і гарпо, пажарнай каманды і ашчаднай касы, вытворчыя памяшканні камбіната бытавога абслугоўвання і будынак майстэрні па рамонту тэлевізараў, канторы аўтабазы №16, прасторныя жылыя дамы.



Сёння па Ленінскай вуліцы жыве 7 урачоў і медыцынскіх работнікаў, каля 10 настаўнікаў. Многія жыхары Ленінскай закончылі вышэйшыя навучальныя ўстановы і працуюць у розных кутках нашай краіны. Выраслі і культурныя запатрабаванні. Цяпер кожная трэцяя сям'я мае тэлевізар, сюды дастаўляецца каля 700 экзэмпляраў газет і часопісаў. Большасць жыхароў з'яўляецца чытачамі раённай бібліятэкі. Неабходнымі рэчамі хатняга ўжытку стала пральная машына, многія ўстанавілі газавыя пліткі, а распаўсюджаннымі прафесіямі сталі прафесіі будаўніка, вадзіцеля. Тая ж аўтабаза №16 мае ў наяўнасці 78 грузавых машын, 25 аўтобусаў, тры легкавыя таксі. Парк аўтабазы райспажыўсаюза налічвае 53 грузавыя і легкавыя машыны, сем трактараў.

## ВУЛІЦА ІМЯ ЛЕНІНА

Ленінская вуліца – адна з 34-х вуліц і завулкаў райцэнтра. Са сказанага аб ёй можна пераканацца, наколькі змянілася аблічча былога мястэчка Крупкі. Цяпер Крупкі з'яўляюцца добраўпарадкаваным гарадскім пасёлкам – цэнтрам раёна з такой жа назвай.

Гэта ява нашай савецкай рэчаіснасці, ператварэнне ў жыццё неўміручых ідэй стваральніка нашай Савецкай дзяржавы У.І. Леніна.

Крvыніца: газэта "Ленінскім Курсам", восень 1969г.

*P.S. Так і карціць запытацца ў сучасных апалагетаў камунізму: "А калі б не было Кастрычніка 17-га году? – няўжо зямля перастала б радзіць, а мы й па сяньня ў лапцях хадзілі й "крыжыкам" распісваліcь?" (рэд.).*

**На фота: так выглядала аўтастанцыя м.Крупкі ў 1967 годзе (зараз тут мінімаркет "Квартал" ля старой шашы Мінск-Масква).**



# “Всю обстановку этого года понимаем – но …”



БЛІЗКАЯ ГІСТОРЫЯ

Адна з заляў універмага г.Крупкі ўзору 1992-93гг. (фота Віктара Апалінскага)

***Ніжэй мы падаем ліст-скаргу да тагачаснага старшыні гарсавета г.Крупкі, накіраваны жыхарамі вуліцы Леніна ў 1993 годзе. Кідаецца ў вочы назва ліста. Можна назваць яго маленькім дакумантам свайго часу. Сучаснай моладзі ўжо, напрыклад, незразумела чаму смятану наліваюць з бака. Падаеца, што ўвогуле пытаньні, ўзьнятыя ў гэтым лісце – дробязі. Але ў гэткіх дробязях і праходзіла жыцьцё нашых матуль. . . .***

***Андрэй Аляхновіч***




## *БЯДА

**1. К Вам обращаемся жители ул.Ленина, №5, 3, 6, 8, 10.**
29 сентября 1993г. около 16 час. – завозили топливо в РДК – трактарист сбил столб – обрыв около дома №5 – Бабицкой – лежит электрический кабил, разорван радио, ответ энергасбыта – узнаем обстановку, все устраним. Утром 30/9-93г. отключили свет – ответ несправна машина, нет бензина, будите долго ждать – на нашей улице проживают – инвалид 1 гр., жен. – 85 лет, жен. – 72. и жен. 70 л. – Двое молодых врача в доме Шуба. Всю обстановку этого года понимаем – но в центре города. Приходили пешком работники энергетики – устраняли. . . .

**2.Что случилось с баней Крупской** в субботу перевели женщин в грязную, немытую – мужской отдел.
Детки маленькие не хотели идти с мамой – там моются дяди. Обслуживающий персонал – одна молодая девица и билет не дает и должна убирать – берет только деньги.

**3. Молочный магазин.** Работали 30 сентября 4 молодых красивых женщин. Стояли около четырех часов – привезли сметану, молоко потом стали давать. Собралось три очереди.
Наливают каждая продавец по 3-4 банки – ставят на пролавок, один бак – стоят все троя. Я задала вопрос, почему не поставить 2 бака или 3 – каждой продавщице – у нас одна «мешалка».
Надо спросить в горпо – сколько стоит «мешалка» - может мы-бы покупатели собрались и купили. . . .
С связи всяким подорожаннем люди берут по 5-3-4 литра – продажа один час – утром - нет, после обеда – нет?... .

******Падаецца на мове арыгіналу*

# Агляд культурнага жыцьця ў 2004 годзе

*Суб'ектыўныя зацемкі зь дзёньніка мастака з Бабра Алеся Пушкіна*






**ДЫЯРЫУШ** / Алесь ПУШКІН



**Сяргей Скаруліс**

ЗАКАНЧЭНЬНЕ

**2004ГОД/31 ЖНІЎНЯ**

**Выстава ў Празе была арганізавана па запрашэньню Сяргея Скаруліса і з дапамогай "Бацькаўшчыны" (фота1).**

Прайшла яна ў галерэі "У Дамініканаў." Ля Дамініканскага кляштара, у самым цэнтры Прагі. Гэта цудоўны касьцёл Сьв. Ільлі – слаўны сваім арганам і канцэртамі Франьцішка Пэтэра – найлепшага цяпер арганісты Прагі, я меў шчасьце праслухаць яго канцэрт, дзякуючы Валодзю Паўлаву, палітэмігранту зь Беларусі, што цяпер распаўсюджвае білеты на канцэрты ля гэтага касьцёла..

На выставу прыйшлі ўсе, хто прыехаў на той час ў Прагу з бела-

PRAHA
KARLŮV MOST

рускіх эмігрантаў. Далі канцэрт там і "Стары Ольса". На адкрыцьці выставы (пачалася ў 17-30, 28 жніўня) выступілі: Вячка Целеш, мастак з Рыгі і Маргарыта Астраўмава, з Тарту, Эстонія – яна таксама малюе і зьяўляецца Старшынёй суполкі БЭЗ (Беларуска-эстонскае заадзіночаньне), дэпутат Тартусскага гарсавета. Падчас выставы я пазнаёміўся з Івонкай Сурвілай, дзейным Прэзідэнтам Рады БНР, якая мне здалася якойсьці вясёлай вясельнай лялькай, якой ўмела маніпулююць і яна з усім згаджаецца, усё вітае радасна, зь вечнай амэрыканскай ўсьмешкай. Я прэзентаваў ёй дыск з працамі і перфомансамі – яна прыняла з падробным зацікаўленьнем і завярэньнямі,што сур'ёзна разгледзіць іх потым і напіша мне сваё меркаваньне.... Самымі шчырымі і зацікаўленымі гледачамі на выставе былі Пятро Краўчанка і Алена Глагоўска (прафесар Беластоцкага Ўнівэрсітэту, жыве ў Гданьску).

А ўвечары, у гатэлі ля стадыёна" Спарта", дзе мы жылі – зладзілі сяброўскую вечарыну, дзе я больш пазнаёміўся з Аленай Макоўскай, Сяргеем Скарулісам, Паўлам Мажэйкам і Віктарам Сазонавым.

Дзякуючы Сяргею Скарулісу, я застаўся ў Празе да 1 кастрычніка, памаляваў, наведаў Пардубіцу, Чэшскі Крумлаў, хадзіў на канцэрты, у прыватнасьці Радузы – цудоўнай бардаўскай сьпявачкі, быў на канцэртах ў Сметона-Хол, ў Абэцным Думе (уперакладзе з чэшскай – Грамадскі Дом, найвялікшая канцэртная заля, вельмі прыгожая, з росьпісамі і вітражамі 1903-1905гг.). Музэй Сэцэсііі-Альфонса Мухі, выставы ў шматлікіх галерэях мастакоў іншых краін – за ўсё дзякуй Сяргею Скарулісу! Таксама Яўген Сідорык зрабіў сустрэчу зь дапаможным біскупам Прагі, Яго Эксцэленцыяй Вацлавам Малым, які цудоўна абазнаны ў сітуацыі на Беларусі (нават быў там у 1996 годзе ў Гомлі, Курапатах і Івянцы) і паказаў мне, пры дапамозе пані Марціны, Пражскую Нацыянальную Галерэю – ўсё старое клясічнае мастацтва. Я меў асалоду назіраць вельмі цудоўныя творы Рубенса, Эль –Грэка, малых галяндцаў... Гэта адбылося ў аўторак, 21 верасьня.

Але й зьвесткі пра сучасную Чэхію мяне ўразілі! Горад Прага паўстаў і жыве з турыстыкі, пабудаванай на культуры хрысьціянскай, а зараз 59 адсоткаў чэхаў – атэісты, 70% дзяцей выхоўваюцца ў няпоўных семьях, зь іх бацькі іхнія – 50%, таксама ня ведаюць мам ці тат!! Вось гэта ўразіла моцна! Яшчэ – Прага сталіца порна-кінафэстываляў, тут безьліч порнашопаў – гэта таксама кідаецца ў вочы. Плюс цыганы-злодзеі,ў трамваях часта кішэнныя крадзяжы, рабуюць у асноўным: балканцы і цыганы...

Беларуская эміграцыя разрозьненая – частка ля "Свабодаўцаў", частка – ля суполкі "Скарына", частка – ля "Зьвяза беларусаў Чэхіі". І тыя, і тыя, і гэтыя нават 25 сакавіка сьвяткуюць па-асобку, ходзяць на Альшанскія могілкі ускладаць кветкі дзеячам БНР паасобку....

А 9 верасьня зладзіў я перфоманс "Беларуская прысутнасьць" на Карлавым мосьце ў Празе – каб дзеці тых беларусаў, што там нарадзіліся – не забыліся сваіх каранёў, пачувалі сябе беларусамі... Янка Сідорык – сын Яўгена Сідорыка – быў маім памочнікам у гэтым. Яшчэ напісаў карціну "Летні гром над Прагай". Задума прыйшла падчас таго, як стаяў у размаітым натоўпе людзей з розных краін, турыстаў, што зьехаліся ў Прагу са ўсяго сьвету – засьпетыя нечаканай летняй навальніцай, стаялі ў арцы адной зь веж Карлавага моста. Я адчуў, што цёплы летны дождж паяднаў нас – і беларуса, і японца, і мы радуемся гэтай нагодзе, мы ўзбуджана-шчасьлівыя тым, што мы разам, тым, што мокрыя,

як дзеці.. І над намі – грозная Навальніца-Інквізітар, гэтыя хмары, якія паказваюць, што будзе, будзе і Суд, і Дараваньне, і Ласка над намі ўсімі, бесклапотнымі дзецьмі-турыстамі на гэтым сьвеце, якія так хочуць быць у ім шчасьлівыя, амытыя дажджом цёплым і пяшчотным, памаладзеўшыя ад яго, забыўшыя пра Дух, а любячыя цывілізацыю, ўтульнасьць, камфорт і плоць Старой Прагі…

*«Гэты твор купіў у сакавіку 2009-га Аляксандрас Башкіс, віцеблянін, для якойсьці калекцыі аднаго невядомага замоўцы – таксама зь Віцебску…»*

**"Дождж над Прагай"**
*(палатно, алей, 200x80, 2004)*





З Юркам Станкевічам

28 верасьня 2004 года, а 18-й гадзіне ў пражскай ART-MAP-Gallery па вул. Длуга 24, была арганізавана Сяргеем Скарулісам мая другая выстава ў Празе. На адкрыцьцё сабраліся ўсе беларусы Прагі, паказаў ім фільм Ірыны Волах, відэозапісы сваіх перфомансаў, ну і, вядома, тое што напісаў тут за месяц перабываньня й жыцьця!

Маленькі штрых – перад выставай, наведаў амбасаду Беларусі ў Чэхіі і, праз работніцу пасольства Юлію Самусеву, якая выйшла да мяне (не запрасіўшы ў будынак), перадаў часоваму паверанаму Рэспублікі Беларусь у Чэшскай Рэспубліцы Мікалаю Барысевічу запрашэньне наведаць выставу, выставу беларускага мастака, што папрацаваў творча месяц ў Празе.. Вядома, гэта запрашэньне было праігнараванае й ніхто з амбасады на выставу не прыйшоў.. Няўжо так яны занятыя, ці так шмат было ў той час імпрэз беларускіх ў Празе?!



**На фота: 2-я выстава**

## 2004 ГОД, ВОСЕНЬ

У кастрычніку прыязджаў Юрка Каліна – беларускі рэжысёр, журналіст, здымаў нешта для свайго фільма.

13 кастрычніка заязджаў (калі ехаў з Масквы ў Мінск) Павал Шарамет, падарыў мне сваю кніжку "Случайный Президент", якую сканфіскуюць міліцыянты падчас ператруса ў верасьні 2008 года... Падаўся ён мне цынічным палітычным бізнэсмэнам, якому тая Беларусь – як разьменная манета, сродак якойсьці асабістай крыўды да Лукашэнкі, поле нейкай барацьбы, невядомых нам кланаў, за Беларусь.

Прыязджалі з Латышскага тэлебачаньня журналісты – Одзіта Крынберга і Айгіс Клімавічс, здымалі рэпартаж пра жыцьцё глыбінкі ў мястэчку Бобр.

А 14 кастрычніка прыехаў Анджэй Фідык, слынны польскі рэжысёр – дакументаліст, каб паглядзець Бобр, бо трэба яму здымаць фільм пра Беларусь. Прыехаў на таксоўцы з аэрапарта Мінск-2, зайшоў у наш банк памяняць сто даляраў, каб разьлічыцца з таксоўшчыкам – а там чарга людзей – бачаць – інасранец, ага, шпіён! – ну і адразу ж, па даносу стукачоў, зьявілася цэлая кампанія зь міліцыі: начальнік аддзела Крупскага Раўс па грамадзянству і іміграцыі маёр Валасовіч Ніна Ільінічна (тая самая, якая па загаду Гарнака прыпісала у былым хлебным магазіне па вул.Талачынскай 28 "лиц кавказской национальности"!), зь ёй быў ст.лейтэнант Андрэйка Андрэй Ўладзіміравіч з крымінальнага росшуку РАЎС. Пан Анджэй Фідык спужаўся, але яны папрасілі яго зарэгістравацца назаўтра, папярэдне перапісаўшы яго дадзеныя і запытаўшы, зь якой мэтай ён прыехаў на Беларусь. Пазьней ён казаў, што гэты візіт міліцыянэраў падказаў, што ён на верным шляху і інтуіцыя рэжысёра-дакументаліста яго не падвяла – ён ўмацаваўся ў сваім рашэньні здымаць фільм пра Беларусь тут, у Бабры, пра вясковага мастака Пушкіна...

Пайшлі зь ім па мястэчку, на свае вочы ён



**“Анёл над Пражскім Градам” (папера, акварэль, 40х60, 2005), фрагмэнт.**

бачыў страх, які пануе ў людзях, якія баяцца чалавека з камерай, зайшлі ў школу – там адбыўся канфлікт з дырэктрысай Шэкун Яўгеніяй Аляксееўнай, рускай, пастаўленай РАНА, каб праводзіць русіфікацыю дзяцей (я ёй так прама і сказаў – з-за гэтага й ўзьнікла канфліктная сітуацыя). Назаўтра, 15 кастрычніка, яна з мужам Анатолем Міхайлавічам, прыехалі да майго дома на машыне фольксваген (дзяржнумар 3814 ОР) і пачалі пагражаць, зьневажаць мой род, мяне асабіста – думалі спужаюся, але гэта стала іх ракавой памылкай.. Іх жыцьцё з гэтага моманту пачало мяняцца ў горшы бок… Нельга так рабіць прыезджым на нашу зямлю людзям! Гэта – тыповыя ворагі ўсяго беларускага, самабытнага. І з гэтага моманту, я лічу, ў мяне зьявіліся сапраўдныя, не абстрактныя (як дыктатар, ”лукашызм”, расейскі іперыялізм і г. д.) ворагі тут на радзіме. Гэта вылілася ў вельмі важныя падзеі ў далейшым – і маё зьбіцьцё ў лістападзе 2008-га, і іх ад’езд зь Беларусі на Расею….

**СЬМЕРЦЬ МАМЫ**

21 кастрычніка 2004 года ў 19 гадзін пайшла з жыцьця мая мамачка – анёл-ахоўнік, мая малітоўніца, якая ўсе сілы жыцьця ахвяравала, каб я стаў мастаком, каб даць мне адукацыю, каб я стаў шчасьлівым…. Ёй было 77 год…

**Вочы сына…**



## ІТОГІ 2004 ГОДА

САМАЯ ЗНАЧНАЯ ПАДЗЕЯ ГОДА – АСАБІСТАЕ, СЯМЕЙНАЕ… Як дзіўна, як непрадказальна маё жыцьцё! Нараджэньне Міколкі ў сакавіку і сьмерць мамы ў красавіку… Нічога, ніякія іншыя падзеі года не прыходзяць ў галаву пасьля гэтых перажытых момантаў! Як гэта незаўважаць – знакавасьць сыходу старога і нараджэньня новага жыцьця. Відавочна – гэта найважнейшае, а творчасьць, карціны, падарожжы, фільмы – гэта другаснае, цяпер, пасьля ўсяго перажытага, не так істотнае, як гэтыя падзеі ў жыцьці чалавека – калі ён ўжо у сталым ўзросьце ўсьведамляе гэтыя зьявы – НАРАДЖЭНЬНЕ і СЬМЕРЦЬ…

*Працяг будзе.*

## СЬНЕЖАНЬ 2004Г.

Пішу партрэт Васіля Быкава … Пленэр, што быў ў жніўні гэтага года на яго радзіме, ў Бычках, на Ушаччыне натхніў мяне на партрэт … Я купаўся ў возеры, дзе ён купаўся, сядзеў на ганку яго хаты і думаў, што яго сьмерць была ад таго, што ён зьехаў зь Беларусі і захварэў ад перажываньняў на рак … Жыў бы ён ў Бычках – больш бы пажыў і … .



**4 сьнежня 2004 года** я выйшаў з партыі БНФ "Адраджэньне" ў якой быў з 1989-га. Напісаў грунтоўную заяву на 4 аркушы, падаў ў пярвічную, крупскую арганізацыю, потым – і сваю, і Яніны заявы (у Янчкі было на 4 радкі – "Акі нітка за голкай – так і аз за мужам!") 8 сьнежня аддаў Вінцуку Вячорку.



*Сто твораў ХХ стагодзьзя.*

# Алесь Пушкін. Эпітафія дзеду



**КРЫТЫКА** / Сяргей ХАРЭЎСКІ

**Гэта адно зь першых палотнаў Пушкіна. Не зважаючы на ягоны ўзрост і яшчэ сьціплы даробак учорашняга выпускніка мастацкага інстытуту, гэты твор быў адразу пастаўлены ў шэраг славутых і клясычных. Яго шматкроць рэпрадукавалі, выстаўлялі, ды, нарэшце, прыдбалі ў Нацыянальны мастацкі музэй.**



Сярод таго, што стваралася на пачатку 90-х гадоў, творы Алеся Пушкіна, ды й сама ягоная постаць, прыцягнулі ўвагу гледача сваёй сюжэтнасьцю й натуралістычнасьцю выяваў. Папярэдні савецкі пэрыяд аддаліў гледача ад мастака, найперш з-за адсутнасьці мастацкае асьветы, а па-другое, з-за адсутнасьці рынку і, адпаведна, мастацкай крытыкі. А таму мастакі ня надта і дбалі пра сваю папулярнасьць. А беларускі глядач ня бачыў розьніцы паміж Далі й Ісачовым, паміж Савіцкім і Ароска. Мастакам не падабалася публіка. Публіцы былі недаспадобы мастакі. А вось жа карціна Пушкіна спадабалася ўсім. Чым?

Найперш тым, што ў яе можна ўзірацца доўга і ўважліва, складаючы сабе розныя аповеды, цешачы свае ўспаміны ці гледзячы ў люстэрка свайго ж побыту. Нанізаныя, нібы пацеркі на нітку, розныя сюжэты складаюцца ў адзіны ружанец, перабіраючы які, мы перабіраем і фрагмэнты свайго жыцьця...

Кампазыцыя складаецца са звычайных, нават банальных для нашага мастацтва элемэнтаў. Нацюрморт: ссохлыя зёлкі, цыбуля, часнык, бабы... Пэйзаж: местачковы краявід, бязь нейкіх адрасных прыкметаў... Людзі: нясуць труну на капцы, а ваду дахаты, колюць дровы й кабана... Птушка: нейкая расьцярушаная паўгалка-паўварона, рыхтык як у Брэйгеля, ляціць скрозь чорныя каруны гальля... Усё як паўсюль, але на тым і палягае абаяльная прыцягальнасьць «Эпітафіі» — на яе ўнівэрсальнасьці.

Белая драпіроўка абруса, элеганцкі скамечаная, сыходзіць зь першага пляну ў далягляд, распускаючыся ў сьнягох. Холад абрусу на шэрым коле стала падкрэслены звонкімі барвамі залатых цыбулінаў ды лісьцікаў-пісяжкоў леташняе травы. Гэтак проста — хата астывае. Хата, дзе быў дзед. А там, там, у сінеючай імжы блізкае

*Алесь Пушкін. Эпітафія дзеду*



адлігі, туды, куды яго зьнесьлі, па-ранейшаму варушацца, жывуць людзі... Рэзкае спалучэньне розных плянаў, занадта блізкіх ды бясконца далёкіх, утварае ілюзію неверагоднае манумэнтальнасьці невялікага станкавага палатна.

Сьціплая каляровая гама (тры-чатыры колеры) пры бліжэйшым разглядзе аказваецца цэлым калейдаскопам паўтаноў ды адценьняў. Сама жывапісная тэхніка Пушкіна ў гэтым палатне цікавая: нешта працёрта, як у лаках, недзе прадрапана, нібы на гравюры, а недзе, нібы акварэльлю, пакладзены празрысты блік. Пазьней Пушкін зьвяртаецца да розных, прасьцейшых тэхнікаў: алей, тэмпэра, уласная кроў... Зрэшты, гэты, ужо іншы Пушкін, ставіць сабе іншыя задачы....

Ён запамінаецца ўсім па-рознаму. Для адных ён — рэстаўратар унікальных росьпісаў 18 ст. Станіславаўскага касьцёлу ў Магілёве і аўтар росьпісаў царквы ў сваім родным Бабры. Для іншых — мастак-авангардыст, які стварыў у Віцебску галерэю ўласнага імя й здолеў-такі зьдзівіць места Шагала ды Малевіча сваімі бязьлітаснымі пэрфомансамі. Для кагосьці ён — антысэміт, бабнік і нацыяналіст. А для кагосьці... Запомніўся, карацей. Найперш, элегічнай і нягучнай «Эпітафіяй».




**АЛЕСЬ ПУШКІН** (1965, мястэчка Бобр, Меншчына), *жывапісец, манумэнталіст і станкавіст. Да 1983 вучыўся ў школе-інтэрнаце імя Ахрэмчыка. У 1990 скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, дзе вучыўся ў Гаўрылы Вашчанкі. Аўтар росьпісаў у Ліцэі мастацтваў, што ў Менску, у санаторыі «Беларусь», што ў Друскеніках (Літва), у касьцёле Сьв. Станіслава ў Магілёве. Жывапісныя палотны захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музэі і Полацкім гістарычна-культурным запаведніку. Выстаўляў свае творы ў Амэрыцы, Літве, Польшчы, Нямеччыне, Расеі.*



# Алесь Пушкін – аўтапартрэт праз творчасць

**К Р Ы Т Ы К А** / Аляксей ХАДЫКА



Выразнае мастацкае слова нярэдка нараджаецца на мяжы, дзе кантактуюць разнастайныя нацыянальныя культуры і розныя віды і жанры мастацтва, адрозныя шляхі выказвання. Няхай дазволіць мне чытач гэты артыкул пра вядомага мастака і пэрфомера Алеся Пушкіна пачаць з кароткага ўспаміну пра мой асабісты візіт у Новы Арлеан, сталіцу амерыканскага блюзу і джазу. Менавіта там, у гэтым незвычайным горадзе, дзе спалучаюцца белая і чорная Амерыка, крэольская культура і культура старых французскіх імігрантаў, якія ў некаторых вёсках вакольнага штата Луізіана дагэтуль гавораць на мове парыжскіх прыгарадў 18 стагоддзя, менавіта там нараджаецца непаўторны новаарлеанскі музычны стыль. Жыве тут і магічная афраамерыканская культура вуду, і шмат што іншае – таксама ў стылістыцы мясцовага выяўленчага мастацтва, старога і сучаснага. Якраз у музеі Новага Арлеана, дзе ёсць вялікая калекцыя каталіцкага мастацтва 17-18 стагоддзяў школы Куска з Калумбіі, я ўбачыў творы, якія запамінаюцца беларусу назаўсёды, бо кранаюць таемны механізм уздзеяння культуры на чалавека, што быў выпрацаваны таксама і ў нас. Уявіце абраз св.Архангела Міхаіла – намаляванага ў шляхотным дарагім строі, падобным на яскравыя строі беларускіх магнатаў, са стрэльбай замест мяча! А ў іншага Архангела вогненны меч. . . Так, як нярэдка бывала і ў беларускіх абразах. Вось гэты культурны код блізкі нам, як і далёкім паўднёваамерыканскім прапаведнікам трохсотгадовай даўніны ў Паўднёвай Амерыцы, і віруючай супрацьлегласцямі культуры Новага Арлеану: сапраўдным можа быць толькі мастацтва ў меру дыдактычнае, якое гаворыць на зразумелай мове, пераконве, а часам дзеля выразнасці выходзіць за межы і законы жанру. Архангел Міхаіл стаіць са стрэльбай або вогненным мячом, каб слова Божае ясней разумелася неадукаваным туземцам. Як і лялькі вуду ў Луізіане – не проста дэкаратыўная пластыка, а частка магічнага тэатру, які валодае надзвычайнымі сродкамі ўздзеяння.

**Можа я памыляюся, але ў беларускім мастацтве мінулых стагоддзяў выкарыстанне падобных, асабліва да школы Куска, выразных прыёмаў тлумачыцца часам натуральнай, часам правакаванай звонку паліфанічнасцю, прысутнай нават у межах хрысціянскай культуры – праваслаўнай, каталіцкай, грэка-каталіцкай,**

пратэстанцкай. А як быць мастаку XX-XXI стагоддзя, які звяртаецца да свайго гледача ў Беларусі, здзічэлай ад двух з лішкам стагоддзяў культурнай каланізацыі і дэградацыі ў межах Расіі–СССР? Як звярнуцца да людзей, якія не падрыхтаваныя разумець нават уласнай мовы? Я не маю на ўвазе літаральна сродку камунікацыі, я кажу пра культурны код, які альбо моцна забыты, альбо цалкам знішчаны.

Падаецца, што прыкладна чвэрць стагоддзя назад малады беларускі мастак Алесь Пушкін, убачыўшы гэтую парадаксальную і гранічна трагічную сітуацыю ў зносінах “мастак-глядач” у Беларусі вачыма маладога максімаліста, вырашыў дзеля сябе: “Пушкін – гэта наша ўсё”. І пачаў распрацоўваць універсальную, часам дыдактычную і правакацыйную (часцей у інсталяцыях і пэрфомансах), часам рэнесансна-заспакоеную ў мастацкіх абагульненнях (у вялікіх карцінах ці роспісах) мову, якая збольшага адлюстроўвае … беларускі універсум, беларускі сусвет. І закранае асноўныя каштоўнасці нацыянальнай тоеснасці і культуры.

*Часам атрымліваюцца парадаксальныя рэчы – жывучы ў кантэксце беларускай культуры даводзіца тлумачыць суайчыннікам, у полі гэтай культуры маргіналізаваным, элементарныя рэчы метадам экстрапаляцыі. “Альгерд Бахарэвіч – гэта сучасны беларускі Кафка”, – неяк сказаў Пушкін беларускай журналістцы Ціне Клыкоўскай, бо ёй, меркаваў ён, так лягчэй зразумець. Ціна пакрыўдзілася і напісала артыкул “Пушкін і пустэча” – маўляў, беларус Пушкін – піяршчык кшталту расейца-літаратара Пелевіна. Надышоў час пакрыўдзіцца Пушкіну. Яскравы ўзор – беларусы патлумачыліся спасылкамі на іншыя культурныя кантэксты. Аднак збольшага мастак Алесь Пушкін спрабуе звяртацца да глыбінных філасофскіх, этычных і эстэтычных з’яў, не абапіраючыся на цытаты, а перажываючы іх непасрэдна. Падаецца істотным зразумець гэты ўжываны ім механізм “актуалізацыі культурнага коду”.*

**Прыкладам, падчас знаходжання ў Віцебску,** пасля размеркавання з Акадэміі мастацтваў і да вяртання ў роднае мястэчка Бобр, паміж 1991 і 1997 гадамі, адным з самых яскравых яго пэрформансаў была мастацкая акцыя ў гонар святога Язафата ( у 1995 годзе). Найвялікшага беларускага грэкакаталіцкага святога, які марыў пра рэлігійнае адзінства народу, і быў забіты збунтаваным віцебскім плебсам у 1623 годзе. А потым апаганенага стагоддзямі расійскай прапаганды і зараз амаль забытага. Хто з беларусаў памятае зараз, што гэты святы быў патронам паўстання Каліноўскага? Часцей сярэдні грамадзянін нашай краіны, калі ўвогуле прыгадае пра Язафата Кунцэвіча, назаве яго рэлігійным раскольнікам.

Пушкін перажыў і прайшоў у пэрформансе апошнія моманты жыцця святога – ад месца яго забойства (побач з віцебскай майстэрняй Пушнкіна, арандаванай у 1990-я), басанож па ранняму лістападаўскаму снегу ў белай кашулі, абліваны халоднай вадой – чорнага, чырвонага і белага

**Віцебск, 25 сакавіка 1991 г.**

колераў, як знак эмоцый і пачуццяў, якія віравалі калісьці ў Віцебску 1623 года. Пушкін ішоў басанож аж да лодкі, каб быць сплаўленым без вёслаў і прыплыць да берага Дзьвіны, як калісці прылыло цела Язафата. Містычнае і небяспечнае падарожжа змерзлага мастака пад палаючым крыжам, усталяваным на чаўне, праз халодны лістападаўскі туман скончылася, на шчасце, бясшкодна для мастака. Эфектам было па-мастакоўску прамоўленае Слова, выяўлены сэнс, які адкладаецца ў галовах, сэрцах, душах людзей і заклікае да роздуму і рэфлексіі. Днямі, 1 верасня 2008 года скончыўся чарговы фэст пэрформансу "Навінкі – 2008" у Мінску. У адным з артыкулаў з яго нагоды прагучала цікавая фраза пра тое, што Беларусь засталася адной з заўважных у гэтым мастацтве краінаў. Маўляў, у 1990-я гады пэрформанс удала развіваўся і ў суседняй Расіі, але паколькі яго акцыі былі пераважна сацыяльна значнымі і актуальнымі, то ... іх аўтары або з'ехалі, альбо трапілі ў псіхушкі, альбо пасаджаны ў турмы. Характэрны лёс аўтараў дыдактычна-значных выказванняў у таталітарных або аўтарытарных краінах. Ня будзем падманвацца, да якіх сістэм адносяцца сучасная Расія, як і ў меншай ступені – Беларусь. Сведчаннем таго тое, што на "Навінках – 2008" актуальных пэрформансаў амаль не было. Можа таму, што Пушкін, якому ў 1990-х пашчасціла не сесці ў вязніцу і не трапіць у псіхушку, большасць актуальных тэ-



**"Па першым сьнезе". Фрагмэнт.** *1998 г., палатно, алей.*



**Шляхам сьвятога Язафата Кунцэвіча, арцыбіскупа Віцебскага і Полацкага.** *Віцебск, 1995 г.*

маў у сваіх пэрформансах, пачынаючы з 1980-х, ужо прагаварыў? Зрабіў тое, што крытык Юрась Барысевіч назваў выявай "нацыяналістычнага зместу, паяднанага з постмадэрноваю формай".

***Кажуць,*** *ахова пры рэзідэнцыі Лукашэнкі не застрэліла Пушкіна толькі таму, што прыняла яго . . . за фларыста, а не за "бамбіста". А тым больш не за мастака.*

**Прыгадаем 25 сакавіка 1989г., хэпенінг-пэрформанс** "Дзень Беларускай Народнай Рэспублікі". Шэсце маладых людзей на чале з студэнтам-мастаком Алесем Пушкіным па цэнтральным праспекце сталіцы ад Беларускай акадэміі мастацтваў (тагачаснага тэатральна-мастацкага інстытута) з плакатамі. З перакрэсленым сцягам БССР і бел-чырвона белым беларускім штандарам. З надпісамі: "У гэты дзень 71 год назад была абвешчаная Беларуская Народная Рэспубліка!", "Свабоду Беларусі!", "Дзяржаўнасць беларускай мове!" (і выявамі Коласа, Купалы і Багдановіча з завязанымі ртамі). З тым, пра што стараліся не думаць, не памятаць, і не гаварыць услых амаль 100% падсавецкіх беларусаў. Пра што многія ўжо і не маглі думаць, бо выхоўваліся ў духоўнай пустэчы савецкай прапаганды. Самае дзіўнае – перад маніфестацыяй Алесь Пушкін паведаміў у Мінгарвыканкаме, што рыхтуе несанкцыянаваную антыўрадавую акцыю. Нязвыклая перакананасць чалавека ў праўдзівасці і непахіснасці сваёй пазіцыі! Іншыя кажуць: і незвычайнае для савецкай культурнай прасторы разуменне законаў піяру. Толькі прыгадайма – той піяр мог скончыцца для мастака доўгімі гадамі за кратамі. Але імперыя ўжо развальвалася, і Пушкін атрымаў "мінімум": два гады ўмоўна і пяць год паражэння ў правах. Ад мінскага суддзі Чамрукова – імёны непрыяцеляў Пушкін імкнецца не забываць. З інстытута маладога мастака не зволілі – занадта рэзананснай была акцыя, занадта ссумаваліся людзі таго часу па вяртанні да справядлівасці. Нават аўтар гэтых радкоў, далёкі ад сучаснага мастацтва тых часоў супрацоўнік Акадэміі навук ведаў і прысутнічаў на пэрформансе – чуткі вокамгненна абляцелі горад. Беларускія савецкія газеты дапамаглі Пушкіну зрабіць тое, да чаго ён імкнуўся – сотні тысяч асобнікаў газет выйшлі з артыкуламі, хай сабе паклёпніцкімі, пра святкаванне ім угодкаў БНР!



**Потым было згаданае размеркаванне ў Віцебск,** агульнабеларуская вядомасць, падтрыманая працай першай беларускай прыватнай мастацкай галерэі "У Пушкіна" з дзесяткам мастацкіх праектаў, якія курырвалі цягам 1993-1996 года Ларыса Міхневіч і Міхась Баразна. Першае ў Беларусі каранаванне помнікаў Марксу і Леніну (у Віцебску) цернямі з калючага дроту 17 год таму. І зноў – адносна беспакарана, калі не лічыць затрымання міліцыяй.

Яшчэ да адкрыцця галерэі ў 1991г. у Віцебску Пушкін наладзіў выставу экзатычнага для Беларусі соц-арту "Артэфакты Дэкляратыўнага мастацтва". Побач з цудоўнымі манументальнымі палотнамі як "Лёс майго бацькі", "Эпітафія дзеду", "Партрэт маці" экспанаваліся актуальныя інсталяцыі. "Беларусь народная" – постаць у вышываным нацыянальным касцюме. "Беларусь савецкая"

– нязграбны калгасьнік у ватоўцы. Калі выстава даехала да Мінску (пасля забароны у прамежкавым пункце маршрута, у Гродні), дадалася "Беларусь сучасная" – паўаголеная постаць, абклееная дробнымі грашыма і талонамі на муку, цукар, гарэлку. Актуальнае развітанне "з найлепшым у савецкай спадчыне", ад чаго дагэтуль не можа адмовіцца сучаснае кіраўніцтва Беларусі. За што яно ў асобе Лукашэнкі на 5-годдзе яго кіравання 21 ліпеня 1999 г. атрымала ад Пушкіна падарунак падчас чарговага пэрформансу. "За непасільныя кіраўнічыя намаганні і ў сувяззю з заканчэннем легітымных паўнамоцтваў" – вазок каровінага гною, на якім ляжалі ланцугі, наручнікі, новыя купюры часоў Лукашэнкі і партрэт прэзідэнта, прышпілены да гаўна віламі. Кажуць, ахова пры рэзідэнцыі Лукашэнкі не застрэліла Пушкіна толькі таму, што прыняла яго … за фларыста, а не за "бамбіста". А тым больш не за мастака. Ужо ў гарадскім судзе мінскі пэрфомэр Віктар Пятроў здолеў давесці, што Пушкін учыніў не палітычную, а мастацкую акцыю.

**А фестываль "Навінкі-99" з дэманстрацыяй "Ліпеньскай раніцы Джахара Дудаева"?** Пад аглушальную музыку кампазіцыі July Morning гурта Uriah Heep на фоне партрэта забітага расійцамі прэзідэнта Чачэніі Джахара Дудаева Пушкін крышыў на кавалкі напампаваныя крываваю фарбаю качаны капусты. Прыгадваючы, мабыць, і сваіх забітых саслужыўцаў у Афганістане – на вайне пад час

**Шэсьце ад пл.Перамогі да Дома Палітасьветы** *ў сувязі з вывадам савецкага войска з Аўганістану*

**Ліпеньская раніца Джахара Дудаева.** *І Міжнародны фэстываль пэрфомансу "Навінкі'99", Менск, Палац Мастацтваў, 9 верасьня 1999г.*







**"Партрэт маці", 1989г., ляўкас, тэмпера.**



**"Апостал", 1995г., палатно, алей.**

службы ў савецкім войску, ад якой мог, як студэнт-мастак, мог ухіліцца, застаўшыся ў тыле, але пагрэбаваў. Як пагрэбаваў і атрымаць савецкія ўзнагароды за тую вайну. Хто палічыў пэрформанс залішне крывавым і эпатажным – хай прыгадае дзеянні Расіі ў Грузіі ў гэтым жніўні.

**Нават звяртаючыся да выключна класічных мастацкіх форм Пушкін звычайна застаецца актуальным.** Чэрвень 2007 года, разам з сябрамі Алесь малюе старую Гародню. Малюе не для турыстаў, а таму, што сучасныя рэстаўратары, як і іх савецкія папярэднікі, руйнуюць стары беларускі горад. Зробім невялікую заўвагу – для чытача, які можа зацікавіцца, а як жыве мастак у нашай краіне з яе эрзац-савецкай афіцыйнай свядомасцю? Ён не атрымлівае прафесарскіх акладаў. Яму не прадставілі майстэрні ў Віцебску, якую ён меў атрымаць як член Саюза мастакоў, замест гэтага здымаючы памяшканне сваім коштам. Як ён жыве – у сябе на Радзіме, у Бабры, гадуючы двух дзетак і клапоцячыся пра жонку, з якой павянчаўся ў 1997 годзе ва ўласнаручна распісанай фрэскамі мясцовай царкве?

**Роспісы Магілёўскай катэдры**

**А жыве як мастак – з рамяства.** Так стагоддзямі жылі яго папярэднікі. Распісвае храмы – адзін з першых і самых значных яго фрэскавых цыклаў паўстаў у Магілёве пры рэстаўрацыі і частковым аднаўленні роспісу сабора Ўнебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі (1992-1996). Алесь Пушкін – мастак манументаліст паводле адукацыі, і яму найбольш “з рукі” рабіць роспісы. Бываюць замовы і свецкіх, і рэлігійных установаў і асобаў. Неўзабаве Алесь скончыць мазаіку на франтоне новага касцёла ў Серабранцы ў Мінску. А апрача таго – ён выконвае і афармленні спектакляў, і кніжную графіку. Ніколі не працягвае руку дзяржаўнаму дзядзьку, ні беларускаму, ні замежнаму.

Можа таму Пушкін дазваляе сабе ў станкавых карцінах, якія мне асабліва падабаюцца, глядзець на на-



**“Вячэра”,1989г., алей.**

вакольны свет як бы трошкі з вышыні. З пункту гледжання салдата воінства, ачоленага прыгаданым напачатку артыкула Архангелам Міхаілам. Гэта спецыфічны погляд, добра вядомы яшчэ па карцінах Піцера Брэйгеля, або па абразах – погляд зверху, калі краявід у кампазіцыі пачынае нагадваць панараму альбо дэталізаваную, павялічаную карту зямлі. І тады карціна набывае рысы абраза – як гэта добра відаць на ўжо прыгаданых партрэтах маці і бацькі мастака. Намаляваных, ці не наўмысна, у тэхніцы іконапісання – тэмперай.

Можа, у гэтым і ёсць загадка прыцягальнасці творчасці Алеся Пушкіна – у здольнасці сказаць пра надзённае і важнае асабістым, уласцівым толькі яму, але зразумелым для многіх голасам – падкрэсліўшы пры гэтым першынство адвечных чалавечых і нацыянальных каштоўнасцяў.



**"Залатая рыбка", 1999г., палатно, алей.**



# Нізка вершаў маладых паэтаў…



**ПАЭЗІЯ**



*У гэтым нумары мы знаёмім вас з двума новымі імёнамі:* ***ЛЯКС (Аляксей Сарока) і ГАННА АЎТАРКА.*** *Няўдзячная справа – пісаць аб вершах, і, крый Божа, тлумачыць іх. Таму два словы аб аўтарах.*

*Лякс жыве ў мястэчку Крупкі. За актыўную жыцьцёвую пазыцыю перасьледваўся ўладамі. Друкаваўся ў "Нашай Ніве" й "Дзеяслове". Любіць экспэрымэнт, адзінаборствы, містыку й цяжкі рок.*

*Ганна Аўтарка вучыцца ў Менску. Першыя спробы пяра знайшлі адлюстраванне ў паэтычным зборніку "Пад ветразем надзеі". Мае шмат сяброў на Крупшчыне. Любіць улетку адпачываць разам са скаўтамі Малога Палесься й удзельнічаць у археалягічных раскопках на Сяляве. Марыць аб кар'еры літаратара. Паслухаем іх вершы.*

## ЛЯКС



УЗНАГАРОДА
Не збярог
і наноў не зберажэш.
Толькі вось,
скрозь мурог,
васільком прарасцеш.

ХРЫСТОС
кроў забруіла супраць хвалі
паркан варон абрыдшых
строс
мы крыжыкі ў далоні клалі
на кожным крыжыку Хрыстос

крычэлі спуджана вароны
смерць закранула карані
здаваўся мне безабаронным
Хрыстос у цёплай далані

***
у падлёднай прасторы вачэй
праплывае самота
ў чорнай масцы ўначы цішыня прабіраецца ў хату
шчасце мусіць адбыцца сыйшоўшы з карцін і плакатаў
з кінастужак і кніжак але гэта
здарыцца потым
поўня ледзь выглядае нібы
баючыся параніць
спі і ўсё праміне гэта толькі
чарга на памежжы
у чаканні вясны у турботах
пра заўтрашні лепшы

парабілі ўсе справы але за-
сталося каханне

***

званітаваць з хмарачосу
збіцца ўначы з аўтастрады
пляжнікі бітыяградам
непрадказальнасці лёсу

як у падлеску суніцы
як у спецховах імёны
як у куточку іконы
можа таму і не спіцца

пераламіся дарожка
перакуліся сусвецік
помніць зімою аб леце
і хвалявацца патрошкі

АДЗІНОТА
марна грукацца ў ілюмінатар
і цягнік амаль ад парога
мне з ім разам роўна да
заўтра
адзінота гэта дарога
прыязджай не зьмяняў ад-
расату
я прыбіты расою ўранні
нападкаю аўтобус ля хаты
адзінота гэта спатканні
так я помню
квітнее флора
пяты азімут шпарым паркам
без цябе мне напэўна горай
адзінота але не скарга
я запэўню сябе мы потым
развітаемся і не стане
тых спатканняў але адзінота
адзінота амаль каханне

НЕДАРЭЧНАСЦЬ
Схаваемся ў пацалунку,
а калі ранішняе
сонца,
нарэшце, знойдзе нас,
то пачырванее ад сораму.

ВОЗЕРА
Мы штогод збіраемся ля
шкаліка
у якім патануў
наш таварыш.
І падаецца,
што шкалік той – возера,
і на дне яго – тапельцы
бясконца гуляюць на бяседзе
у нейкага
сівушнага вадзяніка.
А таму хоць бы хны.

СВЕДКІ ПЛАГІЯТУ
І прагрымяць з нябёсаў
галасы класікаў,
і здрыгануцца
і аслупянеюць,
азірнуўшыеся на даўно на-
пісаныя творы,
сведкі плагіяту.
А я ўсміхнуся
і зраблю ім ручкай.
Гэ-х, панове…

НЕПРЫСТОЙНАЕ
Цнатлівая муза сыходзіць
пасля пары кубачкаў гарбаты.
Разбэшчаная не дае спаць
усю ноч.

МЫТНІКІ
Калі ўсе яго сябры з'язджалі,
то ён застаўся,
негледзячы ні на што
тлумачачы гэта
страхам, што мытнікі на па-
межжы
адбяруць у яго душу
і тыя, хто з'язжалі смяяліся з
яго, пакуль былі
яшчэ па гэты бок мяжы.

ПАМЯЦЬ
Вучыся помніць.
Калі пачнуць паліць кнігі
ты можа і не ўзновіш іх
па памяці,
але, прынамсі, запомніш
тых, хто гэта будзе рабіць.

ПАРАДЫ
Калі вам падасца,
што ўсё навокал,
месцам сумны,
але ўсё такі глыбінна добры,
сон –
паспрабуйце ўзляцець.
У Хрыста кажуць атрымалася

Калі вам падасца,
што з вамі размаўляе ваш
цень,
не палохайцеся –
гэта вашае сумленне.
Паразмаўляйце з ім
пачастуйце моцнай кавай.
Няхай і яму не спіцца.

***

Прыўнесеная культура
і супраціў ворыва плугу.
Пусці карані.

Стань камянём.

СТАРОЕ
Я гляджу наперад,
але схаваўшыся яшчаркай
між камянёў
нябачны адсюль астатні прыпынак жыцця.
Я гляджу назад,
але з'едзеныя абаранкі
хвілін
пакідаюць нам, толькі, дзіркі
ўспамінаў.

КУПАЛЛЕ
Кінуўшы вянок у вогнішча,
ты зможаш адчуць цеплыню
сваіх спадзеваў,
прыгажуня,
бо і камянём кінутым у душу
можна зведаць яе глыбіню.

…ПЕРАКУЛІЎСЯ
Увайшла.
Асцярожна зачыніла
за сабою дзверы,
напэўна, баючыся,
каб не перакуліўся сусвет.
А ён усё адно…

ВАЙНА
Зранку за лесам палыхнула.
Гэта быў гарматны стрэл
і ядро сонца, пераляцеўшы
над нашым мірным краем,
выбухнула захадам на даляглядзе.
Толькі тады я здолеў паверыць, што пачалася
вайна.

## ГАННА АЎТАРКА

ПРАДСЛАВА
Галавы сабораў залатыя,
Песня даўніны на струнах
гусляў,
Думкі чалавечыя святыя
Сонцам узышлі над Белай
Руссю.

Горад над Палатай ціхаплыннай
Тварык умывае хваляй сіняй.
Сотні год у келлі галубінай
Дух святы пануе Ефрасінні.

Сівай даўніны жывыя гукі
Тое, што было, згадаюць
жвава:
Як калісь пісала "аз" і "букі"
Дзень і ноч пакутніца Прадслава.

З светлага шыкоўнага палаца
Збегла ў малы куток з акенцам.
Вольнае жыццё змяніла
праца –
Бога і спагады кліча сэрца.

Мужная асветніца, святая,
Лепшага сабе не зычыш
веку.
Кнігі, слёзы горкія глытая,
Несла як навуку чалавеку.

Шмат прайшло стагоддзяў
хуткай хваляй,
Хай, хто кажа: "Усё старое
глупства!"
Толькі й зараз сэрца замірае
Ад навукі светлай Златавуста.

Хай жыве сабораў белых
веліч,
Хай усё мацней іграюць гуслі!
Нам сказаў калісці Караткевіч:
"Бог жыве на слаўнай Беларусі".

МАЁ ШЧАСЦЕ
Шчасце – любоў і спагада ў
хаце,
Добрая, мілая, шчырая маці,
Бацька твой родны, лагодны,
руплівы.
Вось, што патрэбна, каб быў
ты шчаслівы.

Штосьці яшчэ? Так, напэўна.
Сяброўства!
Добрых учынкаў вялікае
мноства,
Родны куточак твой любы,
адзіны.
Май усё гэта і будзеш шчаслівы.

Мала асобе для шчасця патрэбна:
Мараў сваіх урадлівая глеба,
Крышку любві, даражэйшай
за скарбы,
Роднага поля яскравыя
фарбы.

Шчасце адчуеш ў тым, што
так блізка:

З матчынай песні, дзіцячай калыскі,
Нават у сцежцы зялёнай ля дома,
Дзе ўсё так добра з дзяцінства знаёма.

Ты пашукай, і расплюшчацца вочы:
Шчасце не дзесьці, а блізенька, побач.

АБ ВЫТОКАХ
Духмяны хлеб і звонкае "я ў хаце!" –
Глядзіць з кута ўсцешаны абраз.
…Мой родны кут, маё багацце,
Стагоддзяў спеў і прадзедаў наказ.

Чароўны край агней і абеліскаў.
Ты скарбніца паданняў, казак, сноў.
…Мой родны кут – мая калыска,
Дзівосны свет пад крыламі буслоў!

Жывіць цябе гаючая вадзіца,
Якою Нёман поіць сотні год.
…Мой родны кут – мая крыніца.
Дазволь глытнуць тваіх крыштальных вод!

…Мне шмат яшчэ, відаць, чаго знаходзіць,
І з прагаю глядзець за небакрай.
Ды й праўду кажуць: усе шляхі сыходзяць
Туды, дзе ў сэрцы надпіс – Родны Край.

***
Заклапочанае шчасце
Прагна ў сэрца не палезе.
Хтосьці брэша ад напасці,
Хтосьці марыць аб імпрэзе.

І не скажаш адмыслова,
Хто якое трэ паветра,
Бо, раскідваючы словы,
З самым блізкім у кіламетры.

Мы цікавыя стварэнні
І ў "за" шукаем "супраць".
Бы ў розных вымярэннях
Давялося сэрцы слухаць.

Нам не трэба дапамогі,
Нам не трэба перавагі.
Цалаваць не варта ногі –
Трошкі, трошачкі ўвагі.

Ты жывеш у хуткім рытме
І даўно прывык змагацца.
Не баішся, што абрыдне
Без пачуццяў усміхацца?

Спадзяюся, так не будзе.
І ты ў шчасці іскупнешся.
Толькі помні: усе мы людзі,
У пераможцах кожны першы!



# Ты з Усходняй я з Заходняй …



**ПОГЛЯД**

**Кувала зязюля ў зялёным садзе… Мая мама выйшла замуж за тры кіламетры, сьвякроўка – за трыццаць, а я - за трыста. Край незнаёмы , край далёкі, якія сюрпрызы прыгатаваў мне?**

*– Дзе будзеш рабіць **лешкі**? – пытае муж, аручы агарод (гэта , значыць , **грады** ).*
*– ?!*
*– Каля плоту.*

ДЗЯЎЧЫНКУ, ЯК НАРОДЗІЦЦА, трэба пакласьці на хвіліну на ***загнет,*** каб была гаспадынькай добрай. Куды? Гэта, значыць , на ***прыпяк*** па- нашаму.

РАСЬЦЕ ПРЫ ДАРОЗЕ СТАРОЕ ДРЭВА З ДУПЛОМ. Чароўнае. Як хочаш збавіцца ад хваробы, пралезь праз яго, а ***лайно*** сваё пакінь там. Толькі дзе табе паправіцца, калі ня ведаеш, што такое лайно. А лайно – гэта ***лахманы.***

**ЛАЦЬВЕЙ.** Шчыра кажучы, першы раз чую гэта слова. Сьмешна казаць, але і слова ***"высьпятка"*** першы раз пачула тут. А вось растлумач, што такое ***"мантуліць"***? Я дык не бяруся, бо не змагу.
У іх кажуць ***"робіла",*** у нас – ***"рабіла".*** У іх ***"халодна"*** , у нас – ***"холадна". Прынясець – прынясе.*** А вось паслухайце, яны кажуць **"Прыходжала нейк адна *маладзіца* да мяне". *Прыходжала… Маладзіца...*** А я ня чула, каб у нас зьвярталіся так: "Маладзіца".



**На фота: чароўнае дрэва**

Прыгожа! А аднойчы сьвякроўка назвала маладзіцай кабету, на мой погляд, ужо не маладую. А вось хлопцаў тут называюць ***мальцамі.***

Ну, але затое тут мала хто ведаў, што такое ***цырата, лескі, сахор***. Вось, напрыклад, адзін мой сябар доўга шукаў у хляве лескі (рыбацкую леску, думаў ён).

Трэба яшчэ прыпомніць, як мяне ўпершыню жаніх на агледзіны да бацькоў прывёз. Мяне дужа ўразілі іхнія брамы і плот – нібы бастыёны: паміж шчакетнікам і носу не падточыш, а пабудовы скрозь глухімі сьценамі на вуліцу выходзяць. І брамы (іх ***весьнічкамі,*** як у нас, не назавеш) пагрозьліва нівісаюць над няпрошаным госьцем. Ад каго яны там хаваюцца? Ад маскалёў, ці што? Во які дзікі народ. Не тое, што ў нас, - выйшаў раніцай на ганак і вітаешся голасна з суседам. Пазірала мая мама на ўсё гэта ды й заплакала: "А куды ж я, дачушка, цябе аддаю?"

А каб вы паназіралі за тутэйшымі мужчынамі, то й зусім адракліся б. Яны дома – сапраўдныя сатрапы, а на вуліцы – забіякі несусьветныя. Азіяты, што ні кажы. Не тое, што нашы мужчыны – лагодныя, дэмакратычныя!..

…Грозна-грозна падалося мне тут.

*Ох, Андрэй Пятровіч, вось жа каб ты не пасьпеў прычараваць мяне таямніцамі гэтага ціха-суровага краю, можа і захацелася б мне, як казала сьвякроўка, прычапіць крыльцы…*

***Маладзіца з Бабра***





Валожынскі строй

**Ваўкавыска-камянецкі строй. Адметны элемент убору - каптур.**



# Партрэт нашага земляка



**АСОБА**

*Жыве ў Барысаве цікавы чалавек – Алесь Шустоўскі – грамадзянін, краязнаўца, фотамайстр, радавод якога зьвязаны з Малым Палесьсем ўжо больш за 200 год. У 2011 годзе споўніцца 25 год ягонаму актыўнаму супрацоўніцтву-перапісцы з рознымі перыядычнымі выданьнямі і дзяржаўнымі ўстановамі Беларусі й замежжа. За гэты перыяд толькі ў перыядычным друку было апублікавана на розныя тэмы больш за сотню ягоных артыкулаў, лістоў і матэрыялаў.*

*Пра такіх, як Алесь, кажуць – ён не толькі мае пазыцыю, але й упарта адстойвае яе па жыцьці. Мы вырашылі ніжэйпададзенай падборкай яго артыкулаў і фотаздымкаў пазнаёміць нашага чытача з творчасьцю Алеся і выказаць яму сардэчнае дзякуй за няўрымслівасьць і грамадзянскую мужнасьць. Ніжэйпададзеныя матэрыялы йдуць на мове арыгіналу.*

**На фота: Алесь Шустоўскі ў 4-гадовым узросце паміж маці і татам (1957г.).**

ГАЗЭТА "РЭСПУБЛІКА" №19, КАСТРЫЧНІК 1991:

**Бойтесь янайцев, дары приносящих**

*"Что ты делал с 19 по 21 августа 1991 года?" – спрашивает суровый красноармеец, изображенный на рисунке в двенадцатом номере "Рэспублікі".*

Лично я, прослушав внимательно заявление ГКЧП, понял, что грядет фашизм в красном обличье, и сразу же подался в магазин "Сельхозпродукты" закупать мед, сало, консервы. А что я, простой гражданин, должен был делать вдали от российского Белого дома? Тем более, что руководители нашей республики призывали к спокойствию. Вот если бы они заявили о бойкоте янайцев, даже дары приносящих, то граждане Белоруссии (в том числе, наверное, и я) повели бы себя иначе. Возможно, даже бы появились полки добровольцев. Ведь лучше с демократами потерять, чем с коммунистами найти.

*Александр Шустовский, фотохудожник, г.Борисов.*

ГАЗЭТА "ВО СЛАВУ РОДИНЫ!", АД 30.12.1992:

**На душе - неспокойно**

*Шаноўная газета!*
*Паважаныя спадары рэдкалегіі "Во славу Родины!"*

По-моему, почти каждый человек разумный знает о том, что вся история человечества состоит из войн. История же Беларуси – это сплошные войны, это мученические испытания белорусского народа с вытекающими отсюда последствиями. Поэтому я сильно сожалею о том, что наше правительство отказалось от ядерного оружия, которое должно было принадлежать нам, точнее говоря, войску Беларуси. Не секрет, что Беларусь испокон веков являлась своеобразным военным полигоном. Так уж сложилось исторически и географически, что наша территория есть некий буфер между Востоком и Западом, а буферу, как известно, ударов всегда много достается, поскольку таково его предназначение… . Умиляться временным затишьем на европейском континенте – значит дальше своего носа ничего не видеть. Лично мне на душе неспокойно за свою Родину, за будущее Беларуси. Ведь недавние боевые действия в Ираке показали всему миру несостоятельность наземных войск в войне против авиации, против ракет. Нейтралитет, конечно неплох. Но в сложном, меняющемся мире нам не дадут преспокойно здравствовать. Такова уж диалектика жизни. Только современные вооруженные силы могут обеспечить тишину и покой белорусскому народу и дать ему те условия, при которых все мы можем процветать. Иначе – снова не избежать нам влияния на белорусскую культуру, политику, науку и т.д… .

*Александр Шустовский.*

**Алесь Шустоўскі ў пяцігадовым узросце з татам на матацыкле ІЖ-49 (1958г.).**



АФІЦЫЙНЫ ЛІСТ МІНІСТЭРСТВА ФІНАНСАЎ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 10.03.1993 ЗА №11-47/227:

**Паважаны спадар Шустоўскі А.Ц.!**

По даручэнню кіраўніцтва Упраўлення грашовага абарачэння, крэдыту і каштоўных папер разгледзела Ваш ліст па пытаннях друкавання беларускіх грошаў і паведамляе, што Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь не прымаў рашэнняў аб выхадзе Рэспублікі Беларусь з "рублёвай зоны" і ўвядзенні нацыянальнай грашовай адзінкі.
Ваша прапанова будзе разгледжана пры абмеркаванні пытання ўвядзення нацыянальнай грашовай адзінкі.
*Начальнік упраўлення: У.Я. Смільгін*

ГАЗЭТА "ВО СЛАВУ РОДИНЫ!", АД 05.02.1993:

**Шаноўная газета!**

Вы не логично поступаете, когда дважды в неделю печатаете программу телепередач. Один раз вы помещаете на всю неделю программу, затем "Во славу Родины!" каждый день дублирует программу телепередач. Зачем? Лучше сию площадь использовать под словарь белорусских слов, наиболее расхожих с русскими. Например, воцат – уксус, прынамсі – по крайней мере, мытня – таможня, драбіна – лестница (приставная) и т.д.
*С лучшими пожеланиями – Александр Шустовский.*

АФІЦЫЙНЫ ЛІСТ
DEUTSCHE WELLE RADIO & TV INTERNATIONAL (НЯМЕЧЧЫНА) АД 02.03.1994:

**Уважаемый господин Шустовский!**

Спасибо Вам за письмо. Прилагаем Вам копии ответного письма военно-исторического исследовательского института в Фрейбурге и выдержки из книги "Unternehmen Barbarossa" (Paul Carell), подтверждающие, что в 1941 году Гитлер неоднократно побывал в Борисове.

*С наилучшими пожеланиями Мартна Кемпер (подпись)*

ГАЗЭТА "БОРИСОВСКИЕ НОВОСТИ" АД 15.04.1994:

**Кандидитов будет много. Кого выберут?**

После долгих дебатов белорусский парламент, наконец, определился по вопросу о президенте. Впервые в истории нам надлежит выбрать главу государства.
Не открою большого секрета, если скажу, что в любой стране от первого лица зависит многое или почти все. Как уже можно судить по сообщением прессы, кандидатов на президентство будет немало.

По моим предположениям, подавляющее число голосов могут получить лишь двое из когорты жаждущих попасть в лидеры: мэр Молодечно Г.Карпенко, а также известный всем последователь национального возрождения З.Позняк. Потуги же других кандидатов будут тщетны, ибо люди давно перестали верить в тех, кто будучи у руля, так и не смог вывести суверенный белорусский корабль из водоворота нерадостных будней.

Да, теперь даже юнцу понятно, что нынешняя правительственная команда не модет двигатьсявперед без поводыря. Итак, ждать осталось недолго – до 23 июня. Лично я, и, наверное многие граждане республики отдадут голоса за лидера БНФ, который немало сделал в судьбоносные моменты для того, чтобы народ осознал себя белорусской нацыей. Жыве Беларусь!

*А. Шустовский.*

ГАЗЭТА "НАРОДНАЯ ГАЗЕТА" АД 03.06.1995:

**Народ еще одумается!**

Средства массовой информации не совсем объективно освещают факты относительно деятельности Белорусского народного фронта.

Лично я не состою ни в какой из партий и ни в каких общественно-политических движениях. Просто мне некогда заниматься политикой. Я работаю, работаю не покладая рук для того, чтобы более-менее жить по-людски, безбедно.

Однако меня возмущает футбольная игра на политической сцене Республики Беларусь, где имеются всего одни ворота, в которые летят удары мяча.

Наприме, в фильме "Ненависть" наш бело-красно-белый флаг и герб "Погоня" выставили как фашистские символы, рожденные в период немецкой оккупации 1941-1944 гг., под эгидой намесника Гитлера Кубэ. А напомнить о том, что бело-красно-белый стяг и герб "Погоня" были утверждены в качестве символики еще в начале 15-го века, данный кинорежиссер "Ненависти" почему-то не соизволил. Уже тогда существовала белорусская государственность со всеми атрибутами, однако автор умолчал про эти факты истории, что само собой непорядочно.

Значит кому-то нужна половинчатая правда. На мой взгляд, святыни народа не виноваты в том, что их использовали в своих темных делах те или иные авантюристы.

Во время Великой Отечественной войны власовцы (РОА) и бандэровцы (ОУН) также прибегали к исторической символике своих народов. Теперь, как известно, эти некогда дискредитированные флаги являются госсимволикой соответственно как Российской Федерации, так и Украины. А советский красный штандарт и серпасто-молоткастый герб народы России и Украины предали анафеме. У нас же, в Беларуси, реставрировали то, что всем почти миром ассоциируется как нечто сатанинское и злое.

Но это ненадолго! Придет время, настанет день, и все станет на круги своя. Оболваненный однобокой пропагандой белорусский народ прозреет и скажет утвердительно "да!" историческим символам белых русов! Да! – белорусскому языку на Беларуси!
*Александр Шустовский. г.Борисов.*

ГАЗЭТА "БОРИСОВСКИЕ НОВОСТИ" АД 27.09.1996:

**Суворов и его след на Беларуси**

Многие считают, что имя генералиссимуса Александра Суворова на белорусской земле незаслуженно возвеличено. С его именем разве что могут сравниться имена вождей советской эпохи – Ленина и Сталина. Если память о Сталине ныне предается анафеме, а о Ленине в большей степени запечатлена в изваяниях, то культ российского полководца на Беларуси по-прежнему остается достаточно зримым.
В его честь названы улицы в тридцати пяти городах и в двадцати четырех местечках нашей республики. В г.Кобрине функционирует музей. Сегодня принципы военного мастерства Суворова-героя прививаются молодому поколению в Минском суворовском училище. Именем Суворова пожелали назваться и двадцать три колхозных хозяйства. За какие же заслуги большевистское правительство белорусской республики отблагодарило "графа Римникского, князя итальянского, принца Сардинского, генералиссимуса всех российских войск"? Может быть, за то, что он безжалостно подавил восстание под предводительством Тадеуша Костюшки? А, может, за карательные операции, затеяные им против белорусских повстанцев, в которых пролил немало людской крови? История свидетельствует, что за бой под Крупчицами, где был разбит корпус повстанцев Сераковского, Екатерина Вторая "пожаловала в потомственное владение" Суворову Кобринскую волость с 13279 крестьянскими душами – трудоспособными мужиками. Всего из рук царицы великий полководец получил около пятидесяти тысяч белорусов. Военные действия во главе с Суворовым помогли русским царям свершить вековую мечту – закабалить белорусские земли. Так за что же нынешним белорусам чтить пам'ять поработителя своих предков?
*Александр Шустовский.*

ГАЗЭТА "БОРИСОВСКИЕ НОВОСТИ" АД 18.10.1996:

**Адольф в Борисове…**

Да, действительно, в начале войны, когда Борисов был оккупирован немецко-фашистскими захватчиками, на аэродромном поле у д.Демидовка со своей свитой приземлился Адольф Гитлер. О прилете германского канцлера знали только непосредственные участники встречи…
Кстати, сей факт многие исследователи трактовали по-разному. Некоторые воо-

бще высказывали сомнение о визите фюрэра в наш город. На руках у автора данного иатериала имеется копия ответа… , полученного из исследовательского военно-исторического института г.Фрейбурга (Германия), … о том, что в 1941 году Гитлер неоднократно посещал Борисов.

А 4 августа 1941 года в бывшем панском имении (ныне контора агрофитмы "Старо-Борисов), где находился штаб группы армий "Центр", которой командовал генерал-фельдмаршал фон Бок, Гитлер провел совещание. В нем приняли участие известные немецкие военноначальники – Кейтель, Иодль, Гудериан, Готт и другие.

Именно здесь, на Борисовщине, противник обсуждал план нанесения главного удара. Генералитет настаивал сконцентрировать основные силы рейха на московском направлении. Однако Гитлер напомнил им о трагической судьбе наполеоновской армии, заявив, что захват Мосвкы – не главная цель вермахта. Важнее всего для Германии, считал фюрер, – промышленные районы России… .

*А. Шустовский.*

**На фота: Кіраўнікі і актывісты БНФ і Маладога Фронту Малога Палесься, 19.01.1999г. (здымак Алеся Шустоўскага).**






**На фота: мітынг на плошчы Я. Коласа 23 сакавіка 1997г., прысвечаны 79-м угодкам БНР. У цэнтры з мікрафонам – Генадзь Карпенка, праваруч яго – Уладзімір Арлоў (здымак Алеся Шустоўскага).**

ГАЗЭТА "БОРИСОВСКИЙ КУРЬЕР" АД 28.02.1997:

**Барысаўская моладзь – супраць рэанімацыі Савецкай імперыі.**

14 лютага г.г. чацьвера барысаўчанаў – сяброў Беларускага Народнага Фронту – Андрусь К., Сяржук С., Зміцер А. і Руслан К. таксама ўдзельнічалі ў акцыі "Беларусь – у Еўропу". Мінскія праваахоўныя органы пасьля мітынгу-шэсьця беларускай моладзі да пасольстваў Францыі, Велікабрытаніі, нямеччыны, Італіі і г.д., шмат каго з удзельнікаў гэтай акцыі затрымалі, калі тыя ўжо разышліся, і ў пастарунку некаторых актывістаў Фронту жорстка зьбілі, потым склалі пратаколы, у выніку чаго шмат патрыётаў Бацькаўшчыны, у тым ліку і вышэйназваныя барысаўчане, былі аштрафаваныя па 200 тыс. руб. кожны і . . . адпушчаныя на волю.
Па словах хлопцаў можна зразумець, што яны ніколі не адмовяцца ад нацыянальнай ідэі, бо ў іх сэрцах на поўную моц гарыць генетычны агонь нашых продкаў і што Рэспубліку Беларусь яны ўспрымаюць не інакш, як у кантэксьце Еўропы.
Што ж, сапраўды шчасьлівы той, хто веруе і для каго змагарны шлях за будычыню Бацькаўшчыны не пусты гук, а практычныя крокі да жаданай мэты.
*Алесь Шустоўскі, гор.Барысаў, 24 лютага 1997 года.*

ГАЗЭТА "НАРОДНАЯ ВОЛЯ" АД 07.03.1998:

**Гитлер – мелкий тиран сталинской эпохи?**

В последнее время в период всяких там митингов, демонстраций, которые организовывают коммунистически настроенные граждане Республики Беларусь, все чаще в руках отдельных борцов можно узреть портреты их товарища – Сталина, да еще, кстати, в соседстве с портретами президента Республики Беларусь А. Лукашенко. После всего увиденного в центре нашей столицы создается такое впечатление, что приверженцы великого сатаны бывшей страны советов вовсе не ведают своей недавней истории, либо ведают, но сами причастны к кровавым злодеяниям большевистского геноцида, поэтому их покойный "вождь всех времен и народов" не дает им умиротворения и спокою в их явно порочных душах.
Обратимся по этому поводу к неопровержимым фактам. С 22 июня 1941 года по 9 мая 1945 года Советский Союз в войне с гитлеровской Германией понес 27-миллионные людские потери. В период же сталинского режима в СССР было уничтожено (физически) свыше 40 млн. советских граждан. И если бы сейчас кто-нибудь (хотя бы по пьяной горячке) появился бы вдруг на улице, проспекте или площади Минска с портретами Гитлера, то правоохранительные органы так накостыляли бы этому приверженцу нацизма, что дальнейшая судьба его выглядела бы навсегда зарешеченной...
А вот за беспардонное выпячивание портретов Сталина в местах городских даже никто реагировать не собирается, мол, отомрут эти заблудшие ортодоксы-люди, и – тихо будет.
Поэтому считаю, что нельзя допускать, чтобы впредь бредовая пропаганда идей сталинизма культивировалась на нашей белорусской земле. Ведь Сталин и Гитлер – это по сути своей были одного поля волчьи ягоды.
*Александр Шустовский, г.Борисов.*

ГАЗЭТА "НАРОДНАЯ ВОЛЯ" АД 02.06.1999:

**Рускія неафашысты ў Крупках, ці Жаданне асобных славянаў паўтарыць гісторыю ў стылі а-ля Шыкльгрубер.**

Паводле беларускай службы радыё "Свабода" ад 26 мая гэтага года, у перадачы а 18 гадзіне паведамлялася аб тым, што баркашоўцы (РНА) не на жарт укараняюцца на нашых абшарах. Мяркуйце самі – акрамя буйных гарадоў Беларусі іхняя суполка зафіксаваная ўжо ў невялікім мястэчку Крупкі (Мінская вобласць).
Відаць, паслядоўнікам беснаватага фюрэра вельмі дрэнна выкладалі ў школе ўрокі нядаўняй гісторыі, калі яны спрабуюць зноў зведаць лёс сумнавядомага арганізатара "Дранг нах оста" – Адольфа Гітлера (Шыкльгрубера).
*А.Шустоўскі, ураджэнец г.Крупкі.*

ГАЗЭТА "НОВАЯ БОРИСОВСКАЯ ГАЗЕТА" АД 26.07.2000:

**"Волат" – пераможца!**

На ўскрайку Барысава (у р-не Дымак) з 21 па 23 ліпеня 2000 г. праводзіўся рэспубліканскі футбольны турнір маладзёвых спартова-турыстычных каманд з Жодзіна, Барысава (2 каманды), Мінску (2 каманды), Маладэчна, Віцебску ды Брэста. У палатачным лагеры, на беразе р.Бярэзіна сабралося з вышэйузгаданых гарадоў Беларусі каля 80 удзельнікаў і прыхільнікаў нацыянальна-аматарскага футболу. Але ў напружаным спаборніцтве хрустальны кубак НЕЗАЛЕЖНАСЦІ выйграла футбольная каманда барысаўцаў "Волат" (трэнер Д.Бародка), ІІ-е месца дасталася мінчукам, ІІІ-е – маладэчанцам.

Малайцы, хлопцы! Вам і надвор'е нават спрыяла.

З гэтай нагоды ад імя ўсіх прысутных мушу выказаць падзяку арганізатарам і кіраўнікам дадзенага мерапрыемства Д.Бародку і А.Аскерку, якія шмат зрабілі дзеля таго, каб сустрэча спартоўцаў адбылася…

*Алесь Шустоўскі.*

**На фота: каманда "Волат" – пераможца турніру (здымак Алеся Шустоўскага).**





**На фота: пад час футбольнага рэспубліканскага турніру моладзевых спартова-турыстычных каманд за вогнішчам наглядае Алесь Цярэнцьевіч Шустоўскі,** *(21-23.07. 2000г.).*

АФІЦЫЙНЫ ЛІСТ НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 12.07.2001 ЗА №05-29/Ш-1124:

Шустовскому А.Т.

**О выпуске в обращение памятных монет**

Уважаемый Алесь Терентьевич!

Национальный банк Республики Беларусь рассмотрел Ваше обращение, поступившее в Национальный банк из Министерства финансов, и сообщает следующее.

С учетом предложений Национальной академи и наук Беларуси, Министерства культуры и других заинтересованных ведомств Национальным банком разрабатывается годовой тематический план выпуска памятных монет, который после утверждения Советом директоров Национального банка публикуется в средствах массовой информации.

В настоящее время разрабатывается план выпуска памятных монет на 2002 год. Ваше предложение о выпуске памятных монет, посвященных городам Борисову и Крупки, будет рассмотрено на заседании Рабочей группы по подготовке к выпуску в обращение памятных монет.

Благодарим за Ваши предложения.

*Директор Департамента по работе с ценностями В.Н. Сокол*

ГАЗЭТА "БОРИСОВСКАЯ ГАЗЕТА" АД 24.10.2001:



**"Варашылаўскі стралок" узору 1937 года**

На лацкане пінжака майго бацькі Цярэнція Антонавіча Шустоўскага (1915, в.Абёз Барысаўскага р-на – 1977, Барысаў) выразна бачны значок "Варашылаўскі стралок" (гл. фотаздымак, які быў зроблены ў верасні 1937 года падчас вучобы на 3-м курсе зубаўрачэбнага аддзялення менскага медрабфака).

У той перыяд СССР мусіў сур'ёзна рыхтаваць амаль усю дзеяздольную моладзь да службы ў Рабоча-сялянскай Чырвонай Арміі. Такім чынам, у краіне Саветаў было выпушчана 6 млн. падобных стралкоў і адпаведных значкоў.

Паводле энцыклапедычных крыніц "Варашылаўскі стралок" – гэта ганаровае званне і значок, якія быў заснаваны ОСААВИАХИМом (на пачатку 50-х г.г. рэарганізаваны ў ДОСААФ) у гонар К.Е.Варашылава для асобаў, выканаўшых устаноўленыя нарматывы ў стральбе з вінтоўкі.

*Алесь Шустоўскі.*

**На фота: пад час антывыбарчага мітынгу "Байкот – 2000", г.Барысаў 08.10.2000г. (здымак Алеся Шустоўскага).**



КОПІЯ ЛІСТА-ЗВАРОТА ДЫРЭКТАРУ ДЭПАРТАМЕНТА НАЦБАНКА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ СП. П. ПРАКАПОВІЧУ, Г.МІНСК, АД 16.08.2004 Г.:

**Даўно мусіў напісаць Вам, шаноўны Петр Пятровіч, заўвагу па сутнасці адносна манет, якія НБ РБ выпускае ў абарачэнне.**

Першы раз пабачыла свет беларуская грашовая манета з выяваю рысі … Зараз вось – папараць кветкай лашчыце нас, беларусаў.

Зразумейце ж вы, людзі НБ РБ, што вышэй за ўсё павіне быць чалавечы фактар, які вы і абавязаны адлюстроўваць на манетах, марках і г.д. А жывёлы, расліны – гэта апошні, другасны варыянт прысутнасці на грашах, знаках.

Таму ў далейшым патрабую на манетах і г.д., каб з’явіліся такія гістарычныя постаці беларускай мінуўшчыны як Альгерд, Вітаўт, К. Астрожскі, К. Каліноўскі ды выбітныя беларускія навукоўцы, спартоўцы і да таго падобныя асобы.

На гэты конт павучыцеся ў амерыканцаў (ЗША). Яны ж на сваіх манетах-грошах заўжды падаюць дастаткова інфармацыйную нагрузку пра герояў сваёй нацыі.

*З лепшымі пажаданнямі ў працы на карысць беларускай нацыі!*
*Алесь Шустоўскі, г.Барысаў.*

**На фота: лепшая моладзь Барысаўшчыны – удзельнікі “Ланцугу неабыякавых людзей” на праспекце Ф.Скарыны ў Менску 06.03.2001г. (здымак Алеся Шустоўскага).**



ГАЗЭТА "ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ", №2(71), 2005Г.:

**Трагічны лёс вязняў Навасадскага лагера (VI.1941г.)**

У маіх руках сканцэнтравана інфармацыя пра трагічны лёс навасадскага лагера (Барысаўскі раён) падчас другой сусветнай вайны. Пра гэта мне паведамілі некалькі чалавек, якія паміж сабой зусім незнаёмыя. Значыць, гэтыя чуткі трывала існуюць у грамадстве, бо, вобразна кажучы, дыму без агню не бывае.

Пасьля аналізу ўсяго, што на сённяшні дзень удалося назапасіць наконт тых змрочных падзеяў чэрвеня 1941 года, вымалёўваецца жахлівая карціна. Вынікае, што за тры дні да акупацыі Навасадаў нямецка-фашысцкімі захопнікамі начальнік Навасадскага лагера, у якім знаходзіліся тады амаль паўтысячы зняволеных (200 крымінальнікаў і 300 палітычных вязняў па 58-м артукуле: антысавецкая агітацыя і прапаганда), згодна фармуляру павінен быў гэтую катэгорыю асобаў эвакуіраваць альбо знішчыць. Вядома, што ў краіне Саветаў агрэсія Нямеччыны выклікала перапалох і разгубленасць. Савецкія ўлады нерваваліся, мітусіліся… Таму начальнік навасадскага лагера, згодна інструкцыі на выпадак вайны, прыняў рашэнне: дробных крымінальнікаў, у каго тэрмін вагаўся ад года да пяці, амнісціраваць, а астатніх зняволеных знішчыць… - патапіць у багне аднаго з крупскіх балотаў. Пра такую багну паведаміў ахоўнік лагера, які быў родам з тых мясцінаў і добра ведаў, дзе ёсць гэтая гіблая жорта, бездань.

Вечарам 28 чэрвеня 1941 года калона зняволеных (дзесьці 300 чалавек) рушыла па дарозе ў бок Крупскага раёна пад пільнай аховай узброеных канваіраў з некалькамі сабакамі-аўчаркамі. Ішлі ўсю ноч. За гэты час яны пераадолелі прыкладна 25 км – адлегласць дастатковая, каб дасягнуць таго крупскага балота. Ад нечаканых нагрузак вязні зусім знясілелі.

Да багны, глыбіня якой ураждвала (больш за 20 метраў), канваіры праклалі зрубленыя дрэўцы. Калона ж зняволеных была спынена непадалёк. Канваіры бралі з калоны па пяць-дзесяць вязняў і казалі ім: ідзіце па гэтых кладачках на той бок балота, там, за кустамі, вас чакаюць грузавыя машыны, на якіх павязуць далей на ўсход. Асуджаныя на гібель наіўна верылі і рабілі свае апошнія крокі ў багну. Хто ўпіраўся, лемантаваў, таго жэрдкамі штурхалі пад рэбры, хто хацеў ратавацца, адтуль вылязаючы, – таго стрэлам з нагана дабівалі ды запіхвалі жэрдкай у глей. Затым падводзілі другую пяцёрку асуджаных на гібель… . Ну а хто раптам і зразумеў, здагадаўся, што тут чаке не эвакуацыя – зваротнай дарогі ўжо не меў. Такім чынам, калона зняволеных колькасцю каля 300 чалавек знайшла свой апошні прытулак у багне… .

Заўвага. Год сем таму ў Навасадах жыў дзед, брат якога быў адным з ахоўнікаў Навасадскага лагера, які і канваіраваў вязняў да вышэйзгаданай багны. Ён і распавёў пра знішчэнне на дне глыбокага балота гэтых людзей.

У 1942 годзе немцы выпадкова даведаліся, што яго брат – былы ахоўнік Навасадскага лагера (падказалі жыхары навакольных вёсак) і расстралялі брата – НКУСаўца.
Але, як звычайна бывае ў жыцці, праз пэўны час, часцей перад сыходам на вечны спачын кожнаму чалавеку хочацца з кімсьці падзяліцца таямнічымі звесткамі, каб абавязкова пакінуць праўду для нашчадкаў. У выніку з'явіўся гэты сумны аповед без рэтушы.
Мушу заўважыць, што мне не карціць прэтэндаваць на ісціну ў апошняй інстанцыі. Мо, нешта насамрэч адбывалася крыху інакш са зніклымі зняволенымі з навасадскага лагера ў тым грозным чэрвені 1941 года.
*Алесь Шустоўскі, ураджэнец г.Крупкі.*

ГАЗЭТА "ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ", №11(80), 2005Г.:

**Свінарнік на былых лагерных могілках**

Не маю анікага асаблівага жадання агучваць праз сродкі масавай інфармацыі змрочныя факты мінуўшчыны. Але некаторыя грамадзяне незалежнай беларускай дзяржавы маюць патрэбу ведаць тое, што крывавым шлейфам цягнецца па бруку нашай гісторыі.
Напрыканцы мінулага стагоддзя ў прыватнай размове чуў аднаго былога афіцэра-будаўніка (ён жа непасрэдны сведка), як у пачатку 60-х гадоў падчас будаўнічых работ па ўзвядзенню лагернага свінарніка ў Навасадах (капалі траншэю пад падмурак), эскаватар зачапіў шырокі пласт чалавечых парэшткаў (сталінскага перыяду). Хутка выклікалі вайскоўцаў, якія на грузавых машынах-самазвалах павывозілі знойдзеныя чарапы, сківіцы, косткі кудысьці для далейшага паразахавання.
Па меркаванню дасведчаных старажылаў навасадаў, на месцы, дзе месцяцца свінарнікі, існуе нядобрая аўра, а людзі, якія спажываюць мяса свінняў, выгадаваных у іх, пакутуюць на розныя анамальныя працэсы. Бо так заўжды бывае ў жыцці, калі грэбуюць законамі хрысціянскай маралі.
Даведка. Навасадскі лагер (Барысаўскі раён) быў пабудаваны па загаду НКУС БССР у сярэдзіне 30-х гадоў, праіснаваў да 28 чэрвеня 1941 года (гл. "Гоман Барысаўшчыны №2(71), або "Народную Волю" ад 2 сакавіка 2005г. "Трагічны лёс вязняў Навасадскага лагера"). У час вайны невядома кім быў падпалены, знаходзіўся ў закінутым стане…
У другой палове 50-х гадоў XX стагоддзя пачалося аднаўленне – будоўля, па сутнасці, новай калоніі строгага рэжыму.
Наколькі мне вядома, у 2008 годзе кіраўніцтва выпраўленчай калоніі №14 рыхтуецца гучна адзначыць 50-гадовы юбілей дадзенай папраўча-працоўнай установы. Але чаму толькі 50? Нельга ж адсякаць папярэдні сумнавядомы 5-гадовы перыяд існавання той караючай сістэмы ГУЛАГа, у абойму якой уваходзіў калісьці

і Навасадскі лагер НКУС СССР.

*P.S. Пасьля з'яўлення гэтага артыкула ў "Гомане Барысаўшчыны" свінарнікі былі перанесеныя на 1 км ад былога месца. (А. Шустоўскі).*

АФІЦЫЙНЫ ЛІСТ КАМІТЭТА ПА КУЛЬТУРЫ АРХАНГЕЛЬСКАЙ ВОБЛАСЦІ, РАСІЯ – ГУК "АРХАНГЕЛЬСКІ АБЛАСНЫ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ" АД 04.02.2008 ЗА №71/1:

**Уважаемый, Алесь Шустовскій!**

Мы с интересом ознакомились с вашими историческими публикациями, хоть и не можем согласиться со всеми вашими положениями, например, о том что "Российская империя – генератор войн". Исторические факты не такая уж упрямая вещь, особенно если они вырваны из исторического контекста. Достаточно изучить историю "Восточного вопроса", чтобы понять, что половина войн 18-19 вв. Сгенерирована не Российской империей (как минимум не ей одной). Раскрывать вопрос подробнее не будем, т.к. он не входит в сферу научных интересов нашего музея.

Желаем вам творческих успехов в изучении и пропаганде истории.

*Заместитель директора по научной работе: Симакова Л.А.*

**На фота: мітынг, ля памятнага крыжа ахвярам камунізма на "Батарэях" Барысава 24 сакавіка 2002г., прысвечаны 84-м угодкам БНР (здымак Алеся Шустоўскага).**





**На фота (6.04.1943г.), зробленым у фотасалоне г.Барысава, муж і жонка Шустоўскія, зубныя ўрачы, якія лячылі мірнае насельніцтва (прыватная практыка ў той час не забаранялася).**

СТАРОЕ ФОТА ПРАЗ ПРЫЗМУ ЧАСУ

Вайна 1941-45г.г. прымусіла шмат каго з жыхароў акупаванай тэрыторыі Беларусі згуртавацца ў тых трывожных варунках ды працягваць жыццё, неяк змагацца супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. . . .

Сам Цярэнцій Шустоўскі асабіста падтрымліваў сувязі са сваім малодшым братам – партызанам Пятром, які наведваў яго зубны кабінет двойчы: у 1942 і 1943 г.г, каб узяць якіх-небудзь медыкаментаў для свайго атрада. Наколькі ведаю, мой бацька забяспечваў партызан жоўтым крышталічным парашком (ёдаформам) і іншымі лекамі.

Вось такія ўспаміны ўзнікаюць, калі ў чарговы раз праглядаеш сямейны фотаальбом.

*Алесь Шустоўскі*

ГАЗЭТА "БОРИСОВСКИЕ НОВОСТИ", №8, АД 24.02.2010:

**Афганскі супраціў**

Дзякуючы стоадсоткавай рэлігійнасці афганскіх плямёнаў, якія аддаюць перавагу святой кнізе мусульманаў – Карану, а не розным прышлым шарлатанам, гэта краіна гор, алмазаў ды вярблюжай калючкі з опій-макам трывала праходзіць праз усе выпрабаванні.

Наступнік Чынгісхана – хан Мункэ (1251-59 гг.) не змог належным чынам падпарадкаваць Афганістан: мангольская конніца не прыдатная ў гарах да хуткіх манеўраў.

Мінулі стагоддзі. . . І вось пачалася чарада англа-афганскіх войнаў.

1838-42 гг. У выніку яе зваротны шлях у Брытанскую Індыю скончыўся для 16-тысячнай англійскай арміі трагічна – ураталаваліся лічаныя адзінкі.

1878-81 гг. Пакрыўджаная калісьці Вялікабрытанія палезла зноў у Афганістан, узброеная да зубоў, але ў снежні 1879 года паўстанцы здолелі заваладаць Кабулам. Пасля доўгіх перамоваў акупанты пакінулі межы чужой краіны.

У траўні-чэрвені 1919 года Вялікабрытанія распачала чарговую вайну супраць Афганістана, але пры падтрымцы далёкаўсходняй арміі савецкай Расіі ўсё скончылася мірнай дамовай паміж бакамі.

Савецка-афганская вайна (снежань 1979 – люты 1989 гг.). Па меркаванню баявых афіцэраў, Савецкі саюз там абсалютна нічога не заваяваў, хіба што ўбіў

жалезны клін у цела шматпакутнага афганскага народа, які панёс велізарныя страты – загінула больш за 1 мільён жыхароў.
Паводле даклада галоўнага хірурга 40-й арміі І.Д. Касачова, толькі за 9 месяцаў 1983 года (такі час ён быў на пасадзе, а сыходзячы, мусіў зрабіць справаздачу) санітарныя страты савецкіх войск у афганістане склалі каля 20 тысяч чалавек, з іх забітымі і памерлымі ад ран – 11 тысяч (газета "КОД" №8 за 1993 год).
Англа-амерыкана-афганская вайна (2002-201? Гг.). Праз электронныя і друкаваныя СМІ вядома, што кааліцыйныя сілы маюць намер у хуткім часе пакінуць тэрыторыю Афганістана, бо ўпартыя змагары за веру талібы/маджахеды атрымліваюць гучныя перамогі над няпрошанымі гасцямі з-за акіяна.
Выснова: народ, які на 100% рэлігійны па сваёй сутнасці – немагчыма падпарадкаваць або перамагчы нават самым злосным заваёўнікам.
Суайчыннікі! Гуртуйцеся вакол беларускай нацыянальнай ідэі – гэтай нашай другой рэлігіі. Таксама імкніцеся і да эканамічных прыярытэтаў.
Алесь Шустоўскі, даследчык беларускай мінуўшчыны, фатограф.

**На фота: помнік заснавальніку горада – князю Барысу. Адкрыты пад час святкаванняў 900-годдзя горада Барысава 21 ліпеня 2002г. (здымак Алеся Шустоўскага).**



# МАЛОЕ ПАЛЕСЬСЕ/2010 *Patria Super Omnia Maloje*

**“Малое Палесьсе”, гісторыка-краязнаўчы літаратурна-мастацкі альманах Друцка-Бярэзінскага Краю.**
**Пад рэдакцыяй А.АЛЯХНОВІЧА, М.БАРАВУЛІ, Я.ДЭМУХ, В.ЛАПАЦІНА/ Крупкі. 2010. – 250 с./ Тыраж 299 экз.**

*У альманаху-штагодніку “Малое Палесьсе” прадстаўлены матэрыялы і дакументы па гісторыі і культуры аднаго з рэгіёнаў гістарычнай Усходняй Літвы (сучасная Усходняя Беларусь) – Друцка-Бярэзінскага краю. Працы, сабраныя пад вокладкай адлюстроўваюць розныя перыяды гісторыі гэтых земляў – ад часоў жалезнага веку да нашых дзён. Большасьць з іх публікуюцца ўпершыню. Кніга разлічана на шырокае кола чытачоў.*




**Фота на вокладках/** *1951г. Пятро Ляхновіч, вучань 10 класа, трымае кніжку У. Маякоўскага “Моё открытие Америки”. / Пятро Ляхновіч і Лявон Баркоўскі (“цар”) з балалайкай,сядзяць на выгане (гл. артыкул на с.90).*

# СКАЎТЫ І КРАЯЗНАЎЦЫ МАЛОГА ПАЛЕСЬСЯ







*Dy jak nie skladać pra
was zdrawicy-pieśni,
bary sancakosyja,
chwojnyja huszczy,
Moj kraju lubimy...
Maloje Paleśsie, maja
niepaŭtornaja
Krupszczyna*



## ДУМКІ Ў СЛЫХ/ Алег ЛАТЫШОНАК, гісторык.

*З кнігі "Жаўнеры БНР", Беласток, Вільня, 2009/*

ПАКОЛЬКІ камуністычную прапаганду нельга лічыць гісторыяй, дык і выпраўляць яе не буду - шкода часу і паперы./

ВІДАЦЬ, добры беларус можа служыць Сталіну або Гітлеру, ці нават абодвум, абы толькі не Пілсудзкаму./

І, МОЖА ЛЕПШ БЫЛО Б, каб Браніслаў Тарашкевіч займаўся літаратурнай дзейнасцю, замест таго каб прадаваць свой народ Сталіну. Балаховіч у той час пісаў паэму пра свайго сабаку Райта./

І ШТО Б НІ БЫЛО ПАЗЬНЕЙ Балаховіч стварыў адзіную ў гісторыі дзейную беларускую армію, калі спроба стварыць беларускія бальшавіцкія сілы скончылася тым, што добраахвотнікаў накіравалі ў Чэка, дзе яны служылі зь няменьшай адданасьцю, чым латыскія стралкі. Гэта служба абышлася Беларусі двума мільёнамі ахвяраў. /





*/Сябры дзяцінства... Маім першым сябрам быў Міша Баркоўскі, бацька якога, Антон, быў у той даваенны час старшынёй калгаса "Новае жыццё". Жылі яны ля маёй цёткі Надзі, на нашай вуліцы Гаравой. З ранку да вечара, калі быў вольны час, асабліва ўлетку, мы зь Мішам усюды былі разам: пасьвілі сьвіньней, хадзілі на балота шукаць птушыныя гнёзды (хто болей знойдзе! – але не чапалі іх), гулялі разам з іншымі дзецьмі ў "калгас", у "вайну": красныя – белыя, касілі на выгане гарчак. /* *Пра жыцьцё ў Халапенічах і ваколіцах да і пасьля вайны чытайце ва ўспамінах местачковага хлапчука на старонцы 90*